*Нічога ня страшна, пакуль мы разам.*

*Час за кратамі не пераканаў мяне ў тым, што страх лепшы за давер.*

*Думаю, калі ўсе мы страцім веру, вось тады і здарыцца апакаліпсіс.*

*Лёгкім бывае толькі шлях у рабства.*

*Той факт, што ты ня ведаеш, дзе парушаеш закон, прымушае баяцца.*

*Маўчаньне распускае злу рукі.*

*Прыгажосьць быцьця — жыць сёньняшнім днём, але кожны дзень як апошні.*

*Што з намі можа здарыцца? Мы ж у турме!*

*Малітва — значная рэч, але ня трэба за ёй хавацца.*

*Нішто так не калечыць, як неабгрунтаваная надзея.*

*Не бывае ніякіх „лепшых часоў“.*

*Рабіць эфэктыўнае, а ня „хоць нешта“.*

*Богу не задурыш галаву сваім пустаслоўем.*

*Каб спыніць гвалт, трэба спыніць хлусьню.*

*І памятай: калі лопнула цярпеньне — надзімай новае.*

**Галасы Беларусі — 2021.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2022. 386 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

У 2021-м героі папярэдняй кнігі „Галасы Беларусі — 2020“ за сваю грамадзянскую пазыцыю перажылі звальненьне з працы,ператрусы ў хаце, гвалт, прыніжэньне, допыты, прысуды, уцёкі за мяжу або патрапілі ў турму. У гэтай кнізе яны распавядаюць пра тое, што зь імі здарылася. Вялікія гісторыі тут суседзяць з кароткімі эпізодамі і „Цытатамі праз краты“. У кнізе выкарыстаныя матэрыялы Радыё Свабода і іншых СМІ, сацыяльных сетак.
Фота на вокладцы Андрэя Шаўлюгі.



ISBN 978-0-929849-93-5

# ЗЬМЕСТ

# КОЖНЫ АРКУШ БЕЛЫ, КОЖНЫ РАДОК ЧЫРВОНЫ

Першай гіне граматыка:
Усё адбываецца бяз косак, бяз кропак,
без двукосьсяў.
Скончыўся ўмоўны лад: ня можа быць,
а будзе ці не.
Назоўнікі агаліліся:
Ня ўлада, а акупацыя, ня суд, а расправа,
ня вязень, а палонны.
Зьніклі паўцені, зьявіліся колеры:
Кожны аркуш белы, кожны радок чырвоны.
Такая вайна.

*Аляксандар Лукашук,*
*Бібліятэкар Свабоды*

# НЕ СЯДЗЕЎ — НЕ БЕЛАРУС

*Віктар Фрыцлер, 31 год, былы дырэктар раённага Цэнтру фізкультурна-масавай і спартовай работы, Дрыбін:*

У навагоднюю ноч у цэнтры Дрыбіна на скульптуру пасярод фантана нехта накінуў бел-чырвона-белы сьцяг. Першыя фатаздымкі зь ім у мясцовым чаце (там удзельнічае большая частка насельніцтва пасёлка), зьявіліся а шостай раніцы. Мы з прыяцелем, адпачыўшы ад навагодняй ночы, вырашылі праверыць, ці не зьнялі той сьцяг. Прыкладна а 14-й гадзіне і я сфатаграфаваўся з фантанам ды неабачліва выклаў фота ў інтэрнэт.

Увечары 1 студзеня мяне і яшчэ двух хлопцаў, Яўгена ды Паўла, якія разьмясьцілі ў сетках здымкі з парку, схапілі. На нашыя пошукі кінулі ўсю тэхніку мясцовага РАУС. Яўгена і Паўла дапытвалі, а мне далі гатовы пратакол. Прачытаўшы толькі першы радок („Ня маючы дазволу райвыканкаму на масавае мерапрыемства...“), я сказаў міліцыянтам, што падпісваць трызьненьне ня буду.

Нас павезьлі за дваццаць кілямэтраў у ізалятар суседніх Горак. У Дрыбіне раней быў свой ІЧУ, але тыдні за два да Новага году яго закрылі.

Калі завялі ў камэру, у нос ударыла хваляю смуроду. Гэта быў кактэйль з паху прыбіральні, поту, перагару. Выварочвала вантробы. Той першы ўдых нявольніцкага паветра я адчуваю дагэтуль. У камэры кепска зачынялася вакно, і мы пэрыядычна яе праветрывалі, чым ратаваліся.

Нам пашанцавала, бо нас пасадзілі ў адну камэру, разьлічаную на чатырох чалавек. Амаль штодня нам падсаджвалі „сямейна-бытавога хулігана“. У такіх сядзельцаў былі алькагольныя „адхаднякі“, і зь імі было цяжкавата.

Досьведу жыцьця ў ізалятары мы ня мелі, таму вучыліся на хаду. Калі перасекліся з Андрэем Юрковым, актывістам руху „За свабоду“, дык ён са сваімі 77 днямі няволі падказваў, як даваць рады праблемам.

Першыя два дні ў нас нічога, акрамя цыгарэт, не было. Каб папіць гарбаты, трэба было мець свае кубкі і заварку. У камэры мы адшукалі плястыкавыя кубачкі. Яны ад бруду былі нават не карычневыя, а чорныя. Адмылі іх мылам і прасілі ў ахоўнікаў кіпеню. Потым займелі свае кубкі зь перадач.

Родныя па вызваленьні расказалі, што ім давялося спачатку аплаціць наша знаходжаньне ў ізалятары, бо бяз гэтага ахоўнікі адмаўляліся браць перадачы. За мае 15 дзён выйшла 217 рублёў.

У ізалятары зроблена ўсё так, каб сядзельцу было максымальна некамфортна. Напрыклад, вышыня стала была нязручнай, каб сядзець за ім. А стаяць даводзілася згорбленым, зацякала сьпіна. Матрацы былі ў камяках.

На працягу ўсяго знаходжаньня там мы ня ведалі часу і навінаў. На волі смартфон пастаян-

на пад рукой: абнавіў тэлеграм — і ведаеш, што адбылося новага. Пакуль не адвыклі, ляпалі па кішэнях, шукаючы тэлефон. Ад самоты і нічоганяробства ратавала чытаньне. Яўген, выйшаўшы на волю, сказаў, што за 15 дзён прачытаў больш кніжак, чым за апошнія 15 гадоў.

У адной камэры была забітая ракавіна. Як толькі мы яе „адрамантавалі“, нас перакінулі ў іншую. Тады жартавалі, што ахоўнікам падабаецца, як мы прыбіраемся, таму вырашылі зрабіць экскурсію па ізалятары, і каб мы заадно навялі ў камэрах парадак.

Прыбіральня ў іх зь невысокай загарадкай. Я заўважыў, што ўсе мелі праблемы са спаражненьнем „па-вялікаму“. У такім туалеце зьнікаў момант інтымнасьці і здавалася, што ты ўва ўсіх на вачох. Хацелася, але не маглося. Да таго ж у куце пад стольлю было відэаназіраньне, і ад адчуваньня, што за табою прыглядаюць, пазбыцца не ўдавалася.

У душ мы трапілі толькі на 11-ы дзень. Іншым часам галовы і цела абмывалі пад рукамыйнікам, балазе вада была цёплай.

У ізалятары немагчыма адчуваць сябе ў бясьпецы ад каранавірусу, бо канвэер людзей не супыняецца. Калі туды пастпаеш, табе мераюць толькі тэмпэратуру. У мяне градусьнік паказаў 37,4, і хацелі былі вяртаць назад, у Дрыбін, але другі градусьнік засьведчыў 36,8. Ахоўнікі сказалі: „Ай, ладна, залятай“.

Ніякіх сродкаў прафіляктыкі, акрамя масак, у нас не было. На ранішнюю і вячэрнюю праверку прымушалі надзяваць маскі, але гэта больш для бясьпекі супрацоўнікаў.

Павал, якому прысудзілі 7 дзён, па вызваленьні страціў нюх. Відаць, на сутках быў з каранавірусам. Мяне самога пару разоў калаціла, хоць нюх не прападаў. Цяпер стан памежны, адчуваюцца прыкметы прастуды.

Мы захапілі вялікія маразы, і акно, якое ратавала спачатку ад смуроду, стала клопатам. Мы, аднак, ня мерзьлі, бо шмат рабілі фізычных практыкаваньняў.

Я і Яўген у ізалятары адзначылі дні народзінаў. Такі сыстэма зрабіла нам падарунак. Дзецям і ўнукам раскажу, як сустрэў сваё 32-годзьдзе. Рыхтык сапраўдны зэк, пакаштаваў чыфіру. Яго запарыў Андрэй Юркоў, і яшчэ падарыў шакалядку. Я ня тое каб хацеў глынуць такой „гарбаты“, але падумаў: калі зьявілася магчымасьць паглыбіцца ў нявольніцкую субкультуру, то чаму не скарыстацца?

Віншавалі і ахоўнікі. Яны казалі, што я зьбярог грошы, быўшы ў ізалятары, бо на волі давялося б прастаўляцца.

Яўген на свае народзіны сядзеў асобна ад нас. З Андрэем для яго мы сьпявалі „Happy Birthday To You!“, а калі апынуліся разам, ён сказаў, што чуў нашае віншаваньне і ў адказ крычаў „Дзякуй!“.

У няволі я зрабіў выснову: калі там паводзісься адэкватна, то бачыш зьмены ў стаўленьні да цябе ахоўнікаў. Людзкія паводзіны разьбіваюць высілкі прапаганды выставіць нас наркаманамі, алькаголікамі і прастытуткамі. Думаецца, што адэкватнасьць спараджае ў міліцыянтаў карысныя сумневы.

А яшчэ пачуцьцё гумару дапамагае ўмацоўваць веру ў свае сілы. Яно ратуе ад нуды. Але нішто так не калечыць, як неабгрунтаваная надзея.

Хоць і разумееш, што адбываецца ў краіне і што разьлічваць на пазытыўнае вырашэньне справы не выпадае, але ўсё роўна спадзяесься. Праскоквала думка: а раптам судзьдзя трапіцца прынцыповы і разьбярэцца, што фатаграфаваньне не зьяўляецца масавым мерапрыемствам? Ці наша затрыманьне выкліча такі грамадзкі рэзананс, што нас адпусьцяць. Але ў судзе нашы надзеі зьніклі імгненна.

Адзін з судзьдзяў адмовіўся разглядаць усе тры справы. Узяўся толькі за адну. І ён, як высьветлілася, быў больш ляяльным: наш „падзельнік“ Павал атрымаў толькі 7 дзён арышту. А нам судзьдзя ўлупіла па пятнаццаць.

На працэсе, як мне здалося, завязаўся дыялёг зь ёю. Судзьдзя настойвала, што я праводзіў масавае мерапрыемства, але як яно магло быць такім, калі ў парку ніводнага чалавека не было? На маю заўвагу судзьдзя адрэагавала тым, што фота я выклаў у інтэрнэт і яго пабачыла шмат людзей. Я і дапусьціць ня мог, што на фатаграфаваньне ў парку патрэбен дазвол райвыканкаму!

У няволі, тым ня менш, я пераканаўся ў слушнасьці выбранага шляху. Я прайшоў паўнавартасны абрад ініцыяцыі і цяпер з гонарам магу заявіць, што я беларус у поўнай меры. У ізалятары завяршыўся мой пратэставы цыкль.

Пачаўся ён з праблемаў на працы, працягнуўся прафіляктычнымі гутаркамі ў пракуратуры, звальненьнем, судамі і скончыўся арыштам. Цяпер прымаўка „Не сядзеў — не беларус“ і пра мяне таксама.

# ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ

## Той год, што мне далі, я на адной назе перастаю!

*Спадзяваньняў на амністыю ў мяне няма. Я тут гартуюся, адукоўваюся, назапашваю сілы, бо жыцьцё толькі пачалося! Вельмі раю на волі нікому не дэпрэсаваць, бо ў турме аптымізму, здаецца, часам болей, чым у вас.* Павал Юхневіч

*Я жыву цяпер ва ўласным сьвеце, аддаленым ад мітусьні. У ім ёсьць месца толькі любові, сяброўству, духоўнаму разьвіцьцю, а суды, этапы, сьцены існуюць нібы самі па сабе, не закранаючы мой унутраны спакой і не парушаючы цішыні. Я адчуваю поўную гармонію з сабою. Кажу, не хітруючы: калі б мяне спыталі, што я хачу зьмяніць у дні 15 лістапада, калі вяла стрым і была затрыманая, я б адказала: ні-чо-га.* Кацярына Андрэева

*Гэта не выпрабаваньне. Выпрабаваньне — гэта падняцца на Эвэрэст на інвалідным вазку або нырнуць з аквалянгам бяз ног. Пакуль ёсьць рукі, ногі, пакуль на плячах галава, пакуль ты свабодны, значыць, у цябе ёсьць усё. Пакуль ты на нешта здольны, шкадуй каго-небудзь яшчэ.* Ігар Банцэр

*Я спадзяюся, што хутка выйду. Але хай будзе так, як будзе. Прасіцца і ўмольваць я ня буду і не зьбіраюся. Тым больш — год. Ды я яго на адной назе перастаю!* Аляксей Раманаў

*І памятай: калі лопнула цярпеньне — надзімай новае :)* Тацяна Канеўская

*Дачка пасьля жнівеньскіх рэпрэсій неяк сказала: „Тата, я 11 гадоў з табой жыву і ніколі ня бачыла, каб ты нечага баяўся“. Пасьля такіх словаў я ня мог збочыць са шляху да мэты. Я ведаў, якім коштам я магу разьлічыцца за нашу праўду, і не шкадую.* Віктар Царыкевіч

*Кожны дзень усё больш людзей у сабе раскрывае новае і лепшае, сьветлае. Так зроблены гэты сьвет, што за пераход на новы ўзровень сьвядомасьці трэба плаціць, і кошт часам высокі. Але ўрэшце гэта прынясе свой плён. Ужо цяпер мы як грамадзтва зрабілі велічэзны крок наперад.* Ільля Шпаткоўскі

*Сяджу ў Пішчалаўскім замку і адчуваю сябе графам Монтэ-Крыста. Нягледзячы на тое, што зь першага арышту прайшло ўжо 10 гадоў, хутка ўспомніў рэжым. Хутка адаптаваўся. Поснае турэмнае харчаваньне добра ўплывае на мой страўнік.* Анджэй Пачобут

*Штодня ў дворыку на шпацыры стараюся праходзіць па 3 кілямэтры. Раблю спартовыя практыкаваньні, бо пілігрым мае быць апрыёры ў добрай фізычнай форме. Сум і тугу маю толькі з адной прычыны — уяўляю, як мы з табою бавілі б гэты час пад блакітам нябёсаў і зіхоткім сонцам. Дарэчы, упершыню за час майго пілігрымаваньня пабачыў у задратаваным небе вясёлку. Яна зьявілася раптоўна (не было аніякага дажджу) на заходнім напрамку*

*на тле шызых хмараў. Будзем лічыць гэта добрым знакам.* Дзяніс Івашын

*Статус свой успрымаю як „ваеннапалонны“... Але ж у турме таксама людзі. І такіх, як я, тут вельмі многа! Нас закрылі — але не зламалі! Затое ёсьць час заняцца самаадукацыяй, пачытаць добрыя кнігі, пазнаёміцца з цудоўнымі людзьмі, хай нават і празь перапіску.* Дзьмітры Ластоўскі

*Якія яшчэ сьлёзкі? Ану зьбярыся, мадэмуазэль! Неўзабаве Тамаз прыедзе — парадак навядзе!:) Наконт імпрэзы абяцаць ня буду, бо рэальна ацэньваю свае пэрспэктывы, прабач, калі ласка. А выслухаць і падтрымаць цябе палічу за гонар!* Тамаз Піпія

*Усе мы часова знаходзімся тут, упэўненыя ў сьветлай будучыні нашай Беларусі, таму „сядзець“ за агульную справу ня так крыўдна. Усе на пазытыве, усе ў прыемных чаканьнях. Трымаем хвост пісталетам. Галоўнае цяпер — не губляць веру. Страціць свабоду ня так страшна, як застацца без надзеі.* Вікторыя Кульша

*Зноў сьвеціць сонца, сьпяваюць птушкі, на вуліцы — сьпякота. Пасьпеў тут крыху паабжыцца, набыў марской капусты ў краме, радуюся жыцьцю, наколькі гэта магчыма.* Дзьмітры Цімашэнка

*Так, згодны, што складаны, але дзіўны шлях праходзім. Галоўнае — ня вешаць нос і ня думаць пра кепскае, усё будзе добра, трэба думаць пра сьветлае, радаснае, цудоўнае — пра ўсё, што ёсьць*

*добрага, і толькі такое прыцягваць. Пра што думаеш, тое і прыцягваеш.* Андрэй Нічыпар

*Калі ўспрымаць камэру як манастырскую кельлю і больш чытаць, то мазгі заўсёды будуць у парадку.* Эдуард Пальчыс

## Маю сям’ю паднялі на вушы каля 6:30

*Зьміцер Шэшка, Бабруйск:*

22 студзеня маю сям’ю — жонку і пяцярых дзяцей — паднялі на вушы каля 6:30. Дзеці маленькія — старэйшаму дзесяць, малодшай крыху больш за год. Дзяцей спалохалі, хадзілі ў абутку па ўсёй кватэры. Я бяз майкі, у адных трусах — за імі. Прычым чацьвёра супрацоўнікаў спрабавалі разысьціся адначасова па пакоях, я запатрабаваў, каб безь мяне не хадзілі. Забралі ноўтбук сына, тэлефоны, флэшку, цьвёрды дыск, усе налепкі зь бел-чырвона-белай сымболікай. Папрасілі праехаць у пастарунак на маёй машыне, нібыта каб уладзіць фармальнасьці. Ужо на тэрыторыі УУС пачалі складаць пратаколператрусу машыны, хоць пастановы на ператрус мне не паказалі. Прымусілі зьдзерці бел-чырвона-белую налепку з попелкі. Мяне спрабавалі пераканаць, што ў машыне, якую я ня больш як пяць месяцаў таму ставіў на ўлік у ДАІ, пашкоджаны або зьменены нумар. Асудзілі мяне паводле арт. 23.34 КаАП за пікет з плякатам у лесе (доказ — фота) і прысудзілі трое сутак адміністрацыйнага арышту. Выйшаў я 25 студзеня. Напісаў скаргу ў пракуратуру на парушэньні пры затрыманьні і незаконную канфіскацыю аўтамабіля.

## У адказ на патрабаваньне пратаколу атрымаў удар

*Зьміцер Салаўёў, Наваполацак:*

16 лютага 2021 году прадстаўнікі губазіку выламалі ўсе дзьверы ў доме, дзе я знаходзіўся з жонкай і дачкой. Супрацоўнік, які кіраваў штурмам іператрусам, пачаў зьбіваць мяне, наносіў удары ў жывот і галаву. Пасьля да біцьця падключыліся іншыя асобы ў масках, білі па галаве і нагах. У адказ на патрабаваньне выдаць копію пратаколуператрусу я атрымаў удар па назе ад невядомага ў масцы, пасьля гэтай падсечкі паляцеў патыліцай у падлогу. Пасьля гэтага мяне павезьлі на мікрааўтобусе сіняга колеру. Адзін зь сілавікоў, які быў у масцы, ударыў мяне ззаду кулаком у патыліцу. Наступствы — чэрапна-мазгавая траўма, пашкоджаньне шыйнага аддзелу хрыбетніка. У РАУС Менскага раёну высьветлілася, што старшы опэрупаўнаважаны падпалкоўнік Валадзько і старшы опэрупаўнаважаны падпалкоўнік Рудэнка склалі рапарт, згодна зь якім у мяне на доме разьмешчана выява „Пагоні“, што, на іх думку, зьяўляецца масавым мерапрыемствам, за што я і атрымаў 12 сутак па рашэньні судзьдзі Казловай.

## Малатком разьбілі фігуркі вожыкаў

*Кацярына Пытлева, журналістка:*

Яшчэ летась я зь сям’ёй зьехала зь Беларусі. А цяпер даведалася, што сілавікі правялі ў мяне ператрус. Дзьверы зламалі ня толькі ўваходныя,

але чамусьці і ў спальню, хоць замкоў усярэдзіне не было. Парэзалі калёнкі, малатком разьбілі фігуркі вожыкаў, парвалі вясельныя фатаграфіі, распатрашылі вінілавую калекцыю і рассыпалі крупы і муку па ўсёй кватэры. Я ўжо не кажу пра скрынкі, у якія мы склалі ўсе рэчы, калі зьяжджалі. Такая вось помста рэжыму. No comments.

## Мама, што адбываецца? Нехта стукае ў дзьверы

*Ірына Сурыгіна, маці траіх дзяцей, Бабруйск:*

У пятніцу, 22 студзеня, я прачнулася ў сем раніцы ад слоў 14-гадовага сына: „Мама, што адбываецца? Нехта стукае ў дзьверы“. Дома былі сыны, старэйшая дачка начавала ў бабулі.

Стукалі, не перастаючы. Я паглядзела ў вочка — цемра. Падумала, раптам нешта здарылася ў суседзяў, і, як была ў начной кашулі, так і адчыніла дзьверы. Стаяць здаровыя дзядзькі, чацьвёра, па-мойму. Паказалі пастанову наператрус. Я прасіла даць у рукі — не далі. Што можа прачытаць сонны чалавек? Я ўбачыла ў гэтым дакумэнце, што гаворка ідзе пра нейкую крымінальную справу, нейкія незнаёмыя прозьвішчы, тэлефоны ў вайбэры. Сказала, што не пушчу ў хату, пакуль ня ўстануць дзеці. Мне адказалі, што калі буду ўпірацца — выламаюць дзьверы. Было страшна. Спалохаўся старэйшы сын, ён не разумеў, што адбываецца. Пайшоў у школу, адтуль патэлефанаваў маёй маме. Да таго дня я думала, што ў нас бясьпечна, дзьверы ў тамбуры часта пакідала адчыненымі. Цяпер замыкаюся на ўсе замкі.

Перантрус праходзіў каля дзьвюх гадзін. Яны перагледзелі ўсе паперы, якія знайшлі, усе дзіцячыя фатаздымкі. Забралі бел-чырвона-белую стужку для валасоў, фенечкі, якія я пляла на руку, зьнялі стужачку з сумкі. Забралі тэлефоны. У мяне няма дакумэнта, зь якім я магу атрымаць рэчы назад. І мяне забралі — сказалі, што трэба зь імі праехаць, каб атрымаць сьпіс канфіскаваных рэчаў.

Я спакойна паехала, ня думаючы, што на некалькі дзён. Я была на бальнічным, на працу мне ня трэба было. Не ўзяла з сабой нічога, нават таблетак, якія прымаю ўвесь час паводле раскладу.

У РАУС Бабруйску я праседзела дзьве з паловай гадзіны, пакуль не пачалі дапытваць. Пыталіся, у якіх чатах у сацсетках знаходжуся, пагражалі крыміналкай, казалі, што дзеці пойдуць у прытулак. Казалі, давай пішы. Што пісаць, незразумела. Паказалі фота зь бел-чырвона-белым сьцягам, на якім была я і яшчэ некалькі чалавек. На допыце мне казалі, што калі прызнаю сябе на фота, пайду дадому. Я прызнала, што на групавым фатаздымку зь бел-чырвона-белым сьцягам ёсьць я і незнаёмыя мне людзі. Мяне ўсё роўна адвезьлі ў ізалятар: яны расцанілі фатаграфаваньне са сьцягам як пікет. Мне яшчэ намякнулі, што я раззлавала начальства тым, што не назвала людзей, якія былі на фота побач са мной.

У РАУС не кармілі, далі толькі шклянку вады, і каля 23 гадзін павезьлі ў ізалятар. Там у мяне падняўся ціск, і мяне павезьлі ў шпіталь.

Мне было важна туды трапіць ня толькі праз ціск, але і яшчэ і таму, што ў мяне былі месячныя, не было ніякіх гігіенічных сродкаў. Я папрасіла

мне дапамагчы ў лякарні, і там пытаньне вырашылі. Потым у ізалятары жанчыны ў такой жа сытуацыі адчувалі вялікі дыскамфорт, ім выдавалі вату і марлю. Мне ж на наступны дзень зноў выклікалі „хуткую дапамогу“. Лекарка пачала сварыцца, сказала супрацоўнікам ІЧУ, што ў мяне будзе падымацца ціск бязь лекаў, што мне патрэбныя выпісаныя мэдыкамэнты. Тады ўжо яны патэлефанавалі маёй маме, і мне прынесьлі таблеткі.

Пасьцельнай бялізны ў першую ноч ня выдалі, спала на голым ложку, затое было цёпла. Пакармілі першы раз толькі 23 студзеня.

25 студзеня суд, проста ў ізалятары. Абвінавацілі паводле арт. 23.34 КаАП, судзьдзя Таццяна Тарабуева прысудзіла штраф у памеры 20 базавых велічынь.

Цяпер нашу значок зь лічбамі 23.34. Краіну давялі да таго, што хто ня быў асуджаны паводле артыкулу 23.34, той, атрымліваецца, не беларус. Мы шмат гадоў не заўважалі, што адбываецца ў Беларусі, як абыходзяцца зь людзьмі, цяпер вось убачылі. Сёньня сутнасьць маёй пазыцыі ў тым, што я супраць гвалту, я хачу для сваіх дзяцей свабоднага жыцьця ў краіне, дзе ня ўказваюць, што слухаць, што апранаць.

Яшчэ я цяпер вельмі баюся за дзяцей. Пасьля таго, што адбылося, мне ўжо патэлефанавалі з каледжа, дзе вучыцца дачка, і сказалі рыхтавацца да таго, што сям’ю паставяць на ўлік як праблемную.

Некалькі гадоў таму я ўжо атрымлівала такія пагрозы.

Я тады ўладкавалася на працу ў Маскве вахтавым мэтадам — два тыдні праца па 14 гадзін без

выходных і два тыдні дома. Так я адпрацавала тры гады. Інакш пракарміць дзяцей адной было немагчыма. Я і цяпер ледзь спраўляюся — працую ў краме два дні праз два з 11 да 23 гадзін, зарабляю 400 рублёў і яшчэ атрымліваю ад былога мужа 100 рублёў алімэнтаў.

Праца ў Маскве дала магчымасьць ня толькі зьвесьці канцы з канцамі, але выйсьці на новы матэрыяльны ўзровень. Аднак у паліклініцы даведаліся, што дзяцей глядзіць мая пажылая маці, якая зь цяжкасьцю ходзіць, і ўчынілі скандал, абвінавацілі мяне ў невыкананьні мацярынскіх абавязкаў, пагразілі забраць дзяцей.

Гэта была мая апошняя вахта ў Маскве, больш я ня езьдзіла. Дзеці даражэйшыя за любыя грошы. Цяпер вось спраўляюся, як магу. У дзяцей у школе бясплатнае харчаваньне, за карыстаньне падручнікамі мы плацім палову цаны. На рамонт клясы ў школе здавала палову таго, што добраахвотна-прымусова зьбіралі. Сёлета не здавала ні на якія падарункі, ні на рамонт. Я пакрыўдзілася. Летась упершыню зьвярталася па сацыяльную дапамогу. Атрымала каля тысячы рублёў. Сказалі, што наступны раз магу зьвяртацца праз паўгоду. Так што штраф у памеры 20 базавых — гэта для мяне вялікія грошы.

## Навошта патрэбна столькі кніг?

*Паўліна, жонка журналіста Андрэя Скурко:*

Ох, народ. Сёньняшні дзень, 8 ліпеня, быў доўгі, а я цяпер так не хачу пабачыць яго ў сьне, што ўсяляк адцягваю засынаньне. Самай стромнай

была раніца. Мы з малым толькі ўсталі, яшчэ не адзеліся, я традыцыйна ўвешчавала яго зьвярнуць увагу на гаршчок.

Андрэй дасыпаў. Я пачула за вокнамі галасы. Адхінаю фіранку, а там… Як у страшным сьне: паміж нашай маладзенькай сьлівай і пясочніцай, паўз лужок з рамонкамі (сёлета Андрэй залужыў для Тамаша свае любімыя бульбяныя градкі) да нашага дому нясецца натоўп з закрытымі тварамі і аўтаматам (ружжом?). Гэта нагадвала сон і страшныя фільмы пра Афрыку. І як у сьне я зараўла з усёй сілы: „Андрэээйка, вобшук!!! Андрэй, у нас вобшук!!!!!“

Выходзіць мой муж з пакоя: „Ты нешта казала?“

Некалі будзе сьмешна ўспамінаць, спадзяюся.

Андрэй трымаўся агурком: спакойна, усё нармальна, гэта штатная сытуацыя.

Шкадую, што ня ўвесь час была побач, трымала яго за руку.

Мы з малым тусаваліся па ўсім доме, бо малога на месцы не ўтрымаеш. А Андрэй з гэтымі людзьмі („джэнтэльмэнамі“) пераходзіў з пакоя ў пакой. Было сьмешна, калі Тамаш закамандаваў ісьці на двор, і мы зь міліцыяй шукалі яго другі сандалік. „Па-мойму, ён сам нёс яго ў бок ваннай“, паказвае адзін з панятых. „Я пагляджу“, кажа чалавек у масцы. Вы ня бачылі? — пыталіся адзін у аднаго. І на фоне Тамаш крычаў сваёй звацельнай інтанацыяй: „Сандалік!“

Другому дзядзю ён падносіў, камэнтуючы, усе свае цацкі. Дзядзя нават запусьціў яму юлу.

„Навошта патрэбна столькі кніг?“ — пыталіся тым часам у Андрэя. „Я так і не прыдумаў, што адказаць“, — кажа ён мне потым. Рэдкасны выпа-

дак, калі мой дасьціпны, вясёлы муж не прыдумаў адказу.

З кніг міліцыю найбольш зацікавілі лісты Януша Радзівіла, палескія песьні з нотамі, Карлас Шэрман, савецкая падлеткавая аповесьць „Побеждая оглянись"... Была яшчэ камічна-драматычная сытуацыя з удзелам літаратуразнаўчых твораў Дзьмітрыя Быкава. Але яе, спадзяюся, герой раскажа ў мэмуарах.

Перажываю за майго Андрэйку, мой скарб. Увесь дом перапах чужымі парфумамі, але яны ўжо амаль выветрыліся.

Перажываю за сёньняшнія сны і заўтрашняе прабуджэньне. Калі малы па сваёй звычцы дзелавіта пойдзе адчыняць усе дзьверы: „Тата! Тата?"

Я так люблю цябе, мой мілы.

PS. Падыходжу да спальні ў час гэтага ўсяго і чую адтуль Андрэеў голас: „Цікава, што аснову эканомікі Старажытнай Русі складаў гандаль рабамі..."

Зараз Андрэй і яшчэ тры супрацоўнікі „Нашай нівы" затрыманыя. Яны падазраваныя ў нейкай крымінальнай справе.

## Мой камэнтар быў з аднаго слова — „тварь"

*Аляксандра Шастакова:*

Я карэнная мянчанка, на пэнсіі. Цяпер працую пэдагогам дадатковай адукацыі, вяду дзіцячую студыю акторскага майстэрства „Хачу на сцэну". У кастрычніку мінулага году брала ўдзел у відэа-

звароце „Сумленныя настаўнікі Беларусі супраць гвалту“. За ўдзел у маршы пэнсіянэраў мяне аштрафавалі на 30 базавых.

Пасьля вызваленьня з ізалятара да трэцяй ночы адказвала на камэнтары і словы падтрымкі.

Мяне падтрымлівалі бацькі вучняў майго мужа, якога няма ўжо больш як два гады, бацькі маіх вучняў, якія ў выпадку, калі мяне звольняць, гатовыя наняць памяшканьне, каб я далей працавала. Учора гэта мяне расчуліла да сьлёз. Гэта людзі, якія трымалі сувязь з маімі сынамі, пыталіся, што са мной і дзе я. Мне нават неяк няёмка, бо я не народны герой, але быў шквал перажываньняў, пастоў.

5 красавіка ў мяне на кватэры супрацоўнікі крымінальнага вышуку зрабілі з санкцыі пракурораператрус. Я праходзіла сьведкай у крымінальнай справе, пачатай у Магілёве, за камэнтар пад пастом пра міліцыянта, які зьбіў лекара. Я нават ня памятаю той пост у лістападзе. Мне паказалі скрыншот, дзе мой камэнтар з аднаго слова „тварь“ ідзе пасьля нецэнзурнага камэнтара. Я патлумачыла, што так рэагавала на нецэнзурны камэнтар.

Пасьля ператрусу ў мяне забралі кампутар і тэлефон.

У іх была задача забраць „прылады злачынства“. Для мяне балюча толькі адно, бо ў кампутары ёсьць папка „Мае песьні для Сашы“, якія муж запісаў за два месяцы да сваёй сьмерці. Я яшчэ ня ведала, што ён памірае, а ён ужо ведаў. Ну, і мой дзёньнік, які я вяду пасьля яго сьмерці і яму прысьвячаю. У мяне валасы становяцца дыбарам, калі я разумею, што нехта чужы гэта глядзіць, чытае. Гэта нібы табе ў душу ўлезьлі з бруднымі нагамі.

9 красавіка ў 7.24 раніцы пазванілі ў дзьверы кватэры, зайшлі чатыры чалавекі з пастановай аб тым, каб даставіць мяне ў Магілёў, дзе пачатая крымінальная справа па 369-м артыкуле за зьнявагу супрацоўніка Ленінскага РУУС. Мне сказалі, што я падазраваная і мяне затрымліваюць на 72 гадзіны.

Па мяне прыехалі цэлы палкоўнік, падпалкоўнік, нейкая дзяўчына, менскі апэратыўнік. Мне далі сабрацца, бо я яшчэ спала ў гэты час.

У Магілёве мяне дапыталі ў сьледчым камітэце, потым адвезьлі ў РУУС у „обезьянник“, дзе я правяла 7 гадзін. Сюды ж даставілі яшчэ дзьвюх жанчын зь Менску, якія за камэнтары праходзяць у той самай справе і з тым самым артыкулам.

У нас бедная краіна. Але па мяне адправілі машыну з Магілёва, гэта больш за 400 кілямэтраў. Яшчэ дзьве мае сукамэрніцы таксама зь Менску, і па іх таксама адпраўлялі машыну. Гэта ж колькі грошай за бэнзін аддалі, каб нас, такіх „злачынцаў“, даставіць і пасадзіць на трое сутак? Апроч гэтага, нас агулам суправаджалі дзевяць чалавек, і кожнаму зь іх, відаць, плацілі камандзіровачныя. А там камэнтароў пад тым пастом, як мне сказалі, каля 400. Дык вось колькі грошай патраціць дзяржава, каб задаволіць некага пакрыўджанага.

Дзьве мае сукамэрніцы, якіх забралі адразу пасьляператрусу, былі ў шокавым стане. Адна зь іх маладзейшая за мяне на тры гады, а другая на восем. Іх таксама вызвалілі ўчора раніцай.

З нас там зьдзекаваліся. Я гэта расцэньваю як катаваньні. Нам надзявалі кайданкі, нас разьдзявалі дагала некалькі разоў на дзень, аглядалі нават нашу бялізну. У камэры мы спалі на голых

дошках. Замест падушкі была двухлітровая бутэлька з вадой. Нам не дазвалялі сядзець на нарах, дзе можна было прыхіліцца сьпінаю да сьцяны, толькі на лаўцы. Нас вадзілі на допыты і не давалі ўначы спаць.

Дзьве гадзіны я правяла ў халодным аўтазаку, калі нас перавозілі з пастарунку ў ізалятар.

Калі вывелі з аўтазака, надзелі кайданкі. Мне адвакат прынёс 4 літры вады, і я з хворай сьпінай свае торбы несла перад сабой у руках з кайданкамі. Потым прывялі ў пакой агляду зь відэакамэрай, дзе прымусілі разьдзецца дагала, рукі за сьпінай скавалі кайданкамі. Я хвілін 20 стаяла так голая, пакуль яны ашчупвалі ўсё да бялізны. Першы дзень я была галодная. Бутэрброды, якія былі з сабой, не дазволілі ўзяць у камэру, хоць дазволілі ўзяць ваду. Шакалядныя батончыкі, якія мне купіў адвакат у Магілёве, таксама ўзяць не дазволілі. Калі вада скончылася, нам давялося піць з-пад крана.

У камэру я трапіла толькі каля дзясятай вечара.

Мы толькі леглі на нары, на дошкі без матрацаў, як праз 10 хвілін сьвятло ўключылі. Праз пару гадзін адчынілі ваконца, і нам загадалі падысьці і назвацца. Не пасьпелі легчы, празь дзьве гадзіны зноў загадалі падысьці да ваконца і назваць свае прозьвішчы. Прычым грукалі жалезам: „Устаць!“. Потым зноў грукнулі, і нейкі юнак спытаўся: „Барышні, вам туалетка і мыла патрэбныя?“ Паперу яны выдавалі, наматаўшы мэтры тры на руку, і штораз мы павінны былі яе прасіць. Я адказала, што я яму ня „барышня“, а бабуля. То бок першую ноч нам наогул не далі спаць.

У ізалятары служаць розныя людзі, ёсьць садысты, а ёсьць тыя, хто спрабуе неяк аблягчыць пакуты тых, хто там апынуўся.

На наступны дзень паднялі, прынесьлі анучу на швабры з хлёркай, каб мы памылі камэру. Хлёрка там ажно булькала на ёй. Мы памылі. Пад нарамі знайшлі новыя мужчынскія трусы, і мы іх выкарысталі, каб прыбраць у камэры. Потым зноў на агляд. Рукі завялі за сьпіну, і нам праз ваконца надзелі кайданкі, вывелі ў калідор, загадалі стаць тварам да сьцяны, галаву ўніз. Потым нас завялі ў калідорчык і зноў загадалі разьдзецца дагала. Пасьля сьняданку прыехаў нейкі супрацоўнік, мы зь ім пагутарылі пра перамены, пра ўсё. Я яму сказала, што не зьбіраюся хаваць свае погляды, што думаю, тое і кажу. Перад абедам нас зноў павялі на агляд, разьдзявалі дагала. Прычым там адчынілі балькон, і быў скразьняк. Я прасіла зачыніць, бо ў мяне хворая сьпіна. Адна дзяўчына зачыніла, а другая — не. Перад вячэрай зноў павялі на агляд і зноў разьдзявалі.

Потым мяне і іншых дзьвюх жанчын зь Менску перавялі ў суседнюю камэру, дзе мы правялі дзьве ночы.

Гэтая камэра была пракураная настолькі, што нават мае сукамэрніцы, якія самі кураць, кашлялі. У мяне быў бронхаспазм, бо я не пераношу паху дыму. Я наглядчыкаў папярэдзіла, але мне сказалі, маўляў, калі будзе дрэнна, выклічам „хуткую“. Мы ўключылі ваду ў кране, каб зьбіць гэты пах. У камэры было вельмі брудна.

Мой сын Павал, як даведаўся, што мяне вязуць у Магілёў, паехаў за намі на сваім аўтамабілі.

Прычым мы спыталі суправаджаючых, ці можна са мной паехаць, і яны дазволілі. Сын быў якраз на Магілёўскай шашы, бо адвозіў маю маці ў кляштар у Ляды. Ён пад'ехаў, пасыгналіў і памахаў рукой. У Магілёве Паўла затрымалі, маўляў, на машыне перабітыя нумары.

Сына трымалі ў тым жа пастарунку, пакуль мяне не перавялі ў ізалятар. Але аўтамабіль не аддалі, пакінулі ў Магілёве нібыта для экспэртызы.

Уявіце, ён вяртаўся бяз грошай, ня мог трапіць на працу, у яго трое дзяцей. Ня змог забраць бабулю з манастыра ў Лядах, яна дабіралася дадому з чужымі людзьмі. Пакуль я была ў ізалятары, уся трывога была за сына. Мяне папярэдзілі, што ў маёй справе да суду будуць выклікаць на сьледчыя дзеяньні ў Магілёў, куды я мушу дабірацца сама, потым будзе суд.

Гэта проста сродак запалохваньня, дэмаралізацыі. Тое, што з намі адбывалася ў ізалятары, — гэта катаваньні і прыніжэньне чалавечай годнасьці. Не было неабходнасьці нас затрымліваць. Раней ніхто б і ўвагі не зьвярнуў на гэты камэнтар з аднаго слова, дарэчы, літаратурнага і біблейскага. Ён бязадрасны, там не напісана імя, наогул нічога.

Я даглядаю 82-гадовую маці і сястру-інваліда, але пры затрыманьні гэтага не ўлічылі.

Мая маці прайшла падчас вайны нямецкі дзіцячы дом, у два з паловай гады апынулася там у гета ў Менску, яе згубілі падчас эвакуацыі. Яна ўсю вайну прабыла ў нямецкім дзіцячым доме, у яе бралі кроў. Таму ў мяне генэтычная памяць і загартоўка. Цяпер маці 82 гады, яна манахіня, служыць званаром у царкве. Калі яна такое вынесла, то і я вынесу таксама.

## Большага вэрхалу ня бачыла ў сваім жыцьці

*Тацяна Мушынская, маці журналіста Ягора Марціновіча:*

Я прыехала ў кватэру сына за некалькі хвілінаў да зьяўленьня там сілавікоў, пакуль сына везьлі з офісу рэдакцыі дахаты.

Стаю на кухні. Раптам уваходныя дзьверы адчыняюцца. Спачатку зьяўляецца Альма на павадку, потым Ягор. Нейкі дзіўны, маўклівы. Сьледам увальваецца проста зграя. Дзікае паляваньне, самае натуральнае! Чалавек 7 ці 8. У чорным, у масках, толькі прарэхі для вачэй. Галасы — з агрэсіяй.

— Так, вы хто?

Ні „добры дзень“, ні тлумачэньня, хто заявіўся.

— Я маці!

— Мабільнік сюды! Пэратрус! І выйсьці ў калідор.

Пасьля пэратрусу сілавікі вывелі Ягора з рукамі за сьпінаю і загадалі мне замкнуць кватэру.

Уваходжу ў пярэдні пакой. Відаць, што пагром і ўсё дагары дном. На сушцы зьверху ляжыць валізка. Падымаю. Туды я паклала мабільнік. Мабілы няма. Кожнаму нармальнаму чалавеку зразумела: у мабіле — рабочыя тэлефоны, сябры, кантакты, фота. Без мабілы як бяз рук. Бегма да ліфта. Можа, яшчэ чакаюць і ня зьехалі? Дзьверы зачыненыя, стаяць на пляцоўцы.

— Аддайце мой мабільнік! Аддайце!

З таго боку трымаюць дзьверы, каб я не адчыніла.

— Мабільнік далучаны ў ходзе ператрусу. Калі будзеце павышаць голас, тады...

Мабільнага не аддалі і зьехалі без складаньня пратаколу аб канфіскацыі.

Вяртаюся ў кватэру. Большага вэрхалу ня бачыла ў сваім жыцьці ніколі. Калі ў гэтую ж кватэру прыходзіў месяц ці два таму ДФР, то ў тых аказалася неяк інтэлекту пабольш. Паводзілі сябе спакойна, карэктна. Прыстойна апранутыя, не хавалі твараў.

Ня ведаю, што шукалі апошні раз і што знайшлі. Усё пераварочвалі зь нейкай злоснай, а можа, садысцкай радасьцю. Сілы няма куды падзець? З-за вуглавой канапы мала што дасталі коўдры, дык яшчэ і раскідалі па падлозе. Яшчэ і пакінулі паднятую на спружыне частку. Дзесьці паміж коўдраў — пульт ад тэлевізара, які немагчыма знайсьці. Матрац сьцягнулі і папярок кінулі. Рэчы з шафы вывалілі гарой у пярэднім пакоі.

Ведаеце, што мяне больш за ўсё забіла маральна? На створцы вакна ў залі вісела гірлянда. Для прыгажосьці. Ну каб увечары ўключыць і палюбавацца. Дык вось — гірлянду сарвалі з акна з такой злосьцю, што яна разьляцелася на мноства частак, а шкляныя аскепкі валяліся потым па ўсім пакоі. Што можна было схаваць і што шукаць у гірляндзе і ў маленькіх празрыстых лямпачках? Нічога.

Я больш чым упэўнена: грамадзяне, якія ўчынілі пагром у кватэры майго сына, наўрад ці могуць складна напісаць ці сказаць пяць фразаў па-беларуску. Тым больш напісаць артыкул. Наўрад ці ведаюць беларускую гісторыю і яе падзеі. Ім яна глыбока нецікавая і непатрэбная. Але камусьці вельмі трэба пасадзіць за краты людзей, якія рых-

туюць і рэдагуюць выданьні, якія адлюстроўваюць беларускую рэальнасьць і беларускую гісторыю. Партал „Наша ніва“, часопіс „Наша гісторыя“, часопісы, адрасаваныя дзецям, карысталіся вялікай папулярнасьцю. Іх ніхто не прымушаў выпісваць пад пагрозай пакараньня.

Ад таго, што разам зь Ягорам Марціновічам загрэблі аднachасова ягоных калег, вядомых грамадзкіх дзеячоў Андрэя Дынько і Андрэя Скурко, каму стала лягчэй? „Русскому миру“, тэлеканалу „Царьград“ або вялікім начальнікам зь вядомых дамоў? Калі б вялікія начальнікі ўмелі пралічваць хоць на пяць крокаў наперад, маглі б сьцяміць: для многіх зь іх у Паўночна-Заходнім краі пасадаў ня хопіць. Ліквідуюць. Я пра пасады. А самі яны застануцца ў гісторыі з таўром Герастрата (калі, праўда, ведаюць, хто гэта). Беларуская культура ўсё роўна выжыве. Яна, што называецца, трывалая. Паднімецца і на папялішчы. Але найлепшых людзей свайго часу могуць запалохваць і мучыць толькі ворагі беларускай дзяржавы.

# *ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ*

## *Учора я стала ў мосьцік! Наступны — шпагат*

*Я вырашыла, што маім наступным дасягненьнем будзе шпагат. Учора я стала ў мосьцік. Цалкам! Не без падтрымкі Вікі і сьцяны. Але ўсё роўна! Ааа! Наступны — шпагат.* Яня Арабейка

*Мы адзначылі Дзень Волі торцікам. Рэцэпт нескладаны. Бісквітныя каржы (прадаюцца тут на „атаварцы“), масла, згушчанка, шакаляд і сухафрукты. Дзякуй вам за канвэрт і прысмакі. Тое, што вы робіце, дапамагае нам тут адчуць, наколькі беларусы неймаверныя і згуртаваныя.* Павал Дрозд

*Пазаўчора да мяне на „сьвіданку“ прыяжджала мая жоначка Вольга. Дзьве гадзіны праляцелі як пяць хвілін! Толькі рука забалела трымаць тэлефонную трубку). Напрыканцы папрасіў жонку наступным разам захапіць з сабою скотч, каб прывязаць тэлефон да галавы!))) Карацей, жартавалі і рагаталі на ўсю турму!* Вітольд Ашурак

*Набыцьцё навыкаў супадала са знаходжаньнем у той ці іншай камэры. У камэры 167 я навучыўся рабіць домік і кубік з запалак, ружу з сурвэткі. У турме мне не хапае на ўсё часу. У працэсе — вывучэньне ангельскай мовы, на пэрспэктыву ляжыць курс праграмаваньня. А тут яшчэ ў аднаго хлапчука*

*ёсьць поўны школьны курс біялёгіі. Як я магу ўставаць?* Алег Краўцоў

*Вельмі чакаем ад вас усіх новых лістоў і паштовак, зь якіх мы перамалёўваем карцінкі і дасылаем блізкім, каб яны іх расфарбоўвалі. Гэтым занятая цяпер уся камэра. Яўген Бабак*

*Я пра тваё фота зь Піцера сказаў, што гэта ў Менску цераз Сьвіслач зрабілі разводны мост. Натуральна, усё гэта было з сур'ёзным тварам. Паверылі:).* Сяргей Капанец

*Цікава назіраць, як людзі, калі трапляюць сюды, пачынаюць зьмяняцца. Наркаманы пачынаюць актыўна займацца спортам; забойцы хапаюцца за Біблію і пачынаюць верыць у Бога. Толькі палітычныя застаюцца невыпраўляльнымі пры ўсіх абставінах.* Павал Лукаянаў

*Мы лавілі сьмяшынкі. Я нават для сябе склала гайд "Што не рабіць, каб ня сесьці". У яго ўваходзяць пункты: не спазьняцца на пару, ня тэліць адвакату, не маўчаць; ня есьці, дзе ня трэба.* Ксенія Сырамалот

*Вельмі прыемна ведаць, што існуе салідарнасьць. Гэта асабліва важна для ўсіх, хто сядзіць побач са мной. Яны добра бачаць, якая падтрымка ідзе палітычным вязьням. Яны вельмі паважліва ставяцца да таго, што нам прыходзяць лісты. Шмат хто пачаў ужываць беларускія словы ў размовах з намі, хоць спачатку некаторыя злаваліся, калі чулі ад нас беларускую мову.* Вольга Маёрава

*Цяпер чытаю Караткевіча „Чорны замак Альшанскі“ на беларускай... Спачатку гэта было такое выпрабаваньне. У нас у бібліятэцы гэты твор ёсьць на рускай, але я ня ведала. І добра! У выніку мозг перабудаваўся, і „заходзіць“ выдатна...* Анастасія Булыбенка

*У нядзелю зь дзяўчатамі мы сьвяткавалі Вялікдзень. У пятніцу мне прынесьлі зь бібліятэкі Новы Запавет. Я падрыхтавала фрагмэнт з Эвангельля ад Мацьвея. Мы пасьля прагулкі накрылі сьвяточны стол. Перад ядой я прачытала малітвы і фрагмэнты з Эвангельля, а потым — кароткае пажаданьне Божай міласэрнасьці, абдымкі і ўрачыстая бяседа. Ох, як жа мы аб’еліся!* Вольга Залатар

## Людзі сядзелі па турмах. А ты што зрабіў?

*Алесь Мармыш, 36 гадоў, былы гукарэжысэр „Радыё Гродна“:*

Я меў выбар: ці працаваць, але пайсьці на зьдзелку з уласным сумленьнем, і я выбраў, каб сумленьне заставалася чыстым. Я ведаю, што працу, якую я павінен быў рабіць... Ніхто б нават ня ведаў, што гэта я раблю. Але ж я ведаў гэта і я ня мог на гэта пайсьці. Мне трэба было апрацаваць ролік для міліцыі, які казаў, каб людзі не выходзілі на вуліцы... Такое. Нам абяцалі, што ніякай прапагандай мы займацца ня будзем. Але прыйшоў час, нас паспрабавалі ўцягнуць у прапаганду і я адмовіўся ад гэтага. Я вельмі люблю сваю працу і мне вельмі балюча, што я больш ня частка „Радыё Гродна“. У нас двое дзяцей, мы плацім крэдыт за кватэру. Можа за тыдзень, за два да свайго рашэньня я размаўляў з жонкай, як яна паставіцца да гэтага. Яна сказала, што прыме кожны мой выбар. Гэта ўсё дзеля таго, каб калі мае дзеці спытаюцца: што ты, бацька, зрабіў у гэты час, мне было што адказаць. Вось людзі выходзілі на плошчы, людзі сядзелі па турмах, а ты што зрабіў? А я вось гэта зрабіў.

## Мой подпіс за Бабарыку быў фармальнай прычынай

*Максім Ачарэтні, былы галоўны лекар 3-й дзіцячай лякарні Менску:*

Мой подпіс за Бабарыку, магчыма, быў фармальнай прычынай звальненьня. Справа ў тым, што ня толькі мяне пазбавілі працы. У адзін дзень са мной звальнялася 4 ці 5 галоўных лекараў. За адно і тое ж. Званілі мне з розных арганізацый, каб звальняў лекараў. А на якой падставе звальняць? Я пытаўся, ці будзе мне нейкі загад, каб звальняў. Не, гэта вы будзеце звальняць, адказвалі. Не, я нікога ня буду звальняць, гаварыў. Яны хочуць рукамі кіраўнікоў на месцах усё зрабіць. Нехта вядзецца на гэта. А я за сваёй рэпутацыяй сачу. Я лічу ганьбай так рабіць.

## Прыйшоў правяраць шафы, ці няма бчб

*Ніка Сяховіч, анэстэзіёляг-рэаніматоляг:*

Я атрымала паведамленьне, што мяне звольняць з працы ў 5-й менскай клінічнай бальніцы ў сувязі з заканчэньнем кантракту. За ўвесь час працы на мяне не было ніякіх скаргаў і заўвагаў. Наймальнік — галоўны лекар бальніцы Міхаіл Назарчук, які вырашае, каму кантракт працягваць, а каму не. Увосені Назарчук прыйшоў правяраць шафы, ці няма бчб-сымболікі. Разам са сваімі намесьнікамі ён даволі рэзка зайшоў да нас у ардынатарскую і пачаў адчыняць шуфляды, усё даставаць і правяраць. Зь яго словаў мы зразу-

мелі, што ён прыйшоў шукаць сымболіку. На той момант у ардынатарскай знаходзіліся яшчэ двое маіх калегаў. Я яму зрабіла заўвагу, бо ён у некага ў асабістых рэчах знайшоў невялічкі вымпел з „Пагоняй“. Ён спрабаваў яго парваць, выкінуць, крычаў, што мы тут нарабілі. Я пачала гэта здымаць на відэа, бо сытуацыя мне здалася абсалютна нездаровай. Гэта ж непрымальна для працадаўцы так сябе паводзіць адносна сваіх калегаў. Як мінімум, гэта непаважліва.

## У „мундзірах“ бывае нават бульба

*Аляксандар Кучынскі, 22 гады, былы ўчастковы інспэктар Мядзельскага РАУС, Нарач:*

Мяне звольнілі 14 сьнежня 2020 году з пасады ўчастковага інспэктара Мядзельскага РАУС „за разьмяшчэньне інфармацыі, якая дыскрэдытуе дзяржаўныя органы, што пацягнула за сабой прычыненьне шкоды іміджу і аўтарытэту органаў унутраных спраў“.

Я перахварэў на каранавірус і выйшаў на працу 10 сьнежня. І не падазраваў, што супраць мяне праводзіцца службовая праверка. На наступны дзень па абедзе начальнік паклікаў у кабінэт, дзе сказаў знаёміцца з матэрыяламі праверкі. Потым забралі пасьведчаньне і жэтон, паехалі дахаты, забралі форму.

Канкрэтна ў заключэньні праверкі было ўказана, што я разьмясьціў верш, на які ёсьць спасылка „УКантакце”.

Паводле праверкі, гэты верш выклікаў вялізны грамадзкі рэзананс, то бок набраў больш за сто

праглядаў. Я спрабаваў гэта абвергнуць у рапарце. Зрабіў скрыншот і ўказаў, што на 12 сьнежня верш набраў усяго 38 праглядаў. Прычым палову зь іх зрабілі супрацоўнікі падчас службовай праверкі.

Далей у заключэньні ёсьць сказ, які невядома як там зьявіўся, што ў той жа час у тэлеграм-каналах „Выбар нарачанцаў“ і „ProНарач“ зьявіліся вершы зьневажальнага характару на адрас намесьніка начальніка Мядзельскага РАУС Дзьмітрыя Рыбакова. Гэтых вершаў я не пісаў. Якім чынам гэта адносіцца да мяне і да майго верша, я не разумею.

Мой верш быў напісаны 31 жніўня. Яго можна прачытаць „УКантакце”.

Идейные вдохновители без свежих идей.
О чести забыли люди в мундирах.
На улицах толпы свободных людей,
И вы не сидите в квартирах!
Идет за свободой весь мир.
Никто не остался в квартирах.
Нет правды в ударах дубин,
Не выстоят люди в мундирах.

Яны палічылі, што гэтым вершам я дыскрэдытаваў гонар і годнасьць супрацоўнікаў органаў унутраных спраў. Я сам юрыст. Я пісаў, каб да мяне не падкапаліся ў выпадку чаго. Там жа няма згадкі пра саміх работнікаў унутраных спраў. „Люди в мундирах“, але ў „мундзірах“ бывае нават бульба. Таму дакапацца тут складана.

Але ўсё пачыналася нашмат раней, калі была перадвыбарчая кампанія, нас прымушалі ісьці на датэрміновыя выбары, я не пайшоў, былі пра-

блемы. Потым забіралі людзей у Мядзелі, я адмовіўся складаць пратаколы па артыкуле 23.34. Са мной праводзілі гутарку. У выніку ўсё вылілася ў звальненьне.

Пакуль, шчыра кажучы, ня ведаю, што рабіць. Месяц быў у дэпрэсіі, цяпер крыху ачуўся, пачаў дзейнічаць.

Я вучыўся на вочнай форме ў Акадэміі МУС на сьледча-экспэртным факультэце з 2016 па 2020 год. Са мной быў падпісаны кантракт на 9 гадоў (4 гады навучаньня і 5 гадоў адпрацоўкі ў сьледчым камітэце, міліцыі ці ў іншай сілавой структуры). Цяпер атрымліваецца, што я не адпрацаваў кантракт, і Акадэмія МУС выставіла мне рахунак за навучаньне ў памеры каля 50 тысяч рублёў.

Згадваю, як падчас навучаньня ў Акадэміі, калі зьбіралі подпісы за кандыдатаў у прэзыдэнты, пасьля дзяржаўных іспытаў завіталі людзі, якія зьбіралі подпісы за Лукашэнку. Усе мы знаходзіліся ў вялікай залі, там сказалі, што справа добраахвотная і нікога прымушаць ня будуць, маўляў, калі хто подпіс ставіць ня хоча, прапанавалі пакінуць залю. Дык за хвіліну ніводнага чалавека там не засталося. Праз дзень гэта, як нам сказалі, дайшло да міністра Караева, усім загадалі вярнуцца назад і паставіць подпіс, каб не было „праблем“.

Газэта „На страже“ 19 студзеня апублікавала артыкул з пазнакай „антыфэйк“, у якім назвала мяне „перабежчыкам“. У артыкуле сказана, што я нібыта пераконваў сваіх калег, што „каб шчасьліва паехаць на ПМЖ у Польшчу, сёньня супрацоўніку АУС дастаткова проста звольніцца“. А калі яшчэ быў супрацоўнікам міліцыі, я сфатаграфаваўся зь

сябрамі „на фоне незарэгістраванага бел-чырвона-белага сьцяга, а таксама цісную̆ зь сябе ўсьмешку, дэманструючы ў аналягічных дэкарацыях службовае пасьведчаньне“.

Пад артыкулам пазначана, што ён напісаны на падставе паведамленьня Мядзельскага РАУС.

Фатаздымак на фоне бел-чырвона-белага сьцяга я апублікаваў ужо пасьля таго, як быў звольнены з РАУС за верш. Яны маглі хоць бы ў газэце патлумачыць, які ж я зрабіў праступак, чым жа я адзін змог так зьнішчыць гонар і годнасьць супрацоўнікаў унутраных справаў, нанесьці шкоду іх іміджу, што ім ажно давялося мяне звольніць. Відаць, такі там імідж, калі адзін мой вершык можа яго падарваць.

Як сплаціць акадэміі МУС такія грошы, пакуль ня ведаю. Калі б я нават прадаў усю сваю маёмасьць, а ў мяне толькі мабільны тэлефон, і маёмасьць бацькоў, то ўсё роўна такіх грошай не сабраў бы за два месяцы. Таму плаціць я не зьбіраюся. Ну а там, пасьля суду будзе бачна, што яны скажуць. Відаць, будуць неяк дзяўбсьці. Пакуль ня ведаю, што з гэтым рабіць. Спрабую тут знайсьці працу.

Пасьля таго, як мая гісторыя стала вядомай, людзі зь Мядзельскага раёну пачалі мне дапамагаць, папрасілі мой рахунак. За дзень сабралі 50 рублёў.

Сваякі даведаліся, пачалі цікавіцца, спрабуюць дапамагчы, бацькі зразумелі нарэшце, што да чаго. Мая дзяўчына побач, і гэта мне дапамагае. Калі б не яна, я ня ведаю што б рабіў. Таму ў прынцыпе і не магу выехаць. Сябры патэлефанавалі, прапанавалі дапамогу. Ну, круцімся, змагаемся.

## Просяць не маліцца за зьняволеных

*Арцемій (Аляксандар Кішчанка), 69 гадоў, горадзенскі архіяпіскап:*

Маё звальненьне адбылося на ўказаньне дзяржавы. Цяпер трошкі зьмянілася становішча пасьля жнівеньскіх хваляваньняў і адбываецца ўсеагульная чыстка. Мяжа перакрытая, людзей звальняюць, саджаюць. Пакуль у іх зацішша — час для таго, каб трошкі паставіць і Царкву на месца. Таму што царкоўнікі ня ўсе падтрымліваюцьісны рэжым. Цяпер прадстаўнікі ўлады разьяжджаюць па эпархіях, выступаюць там. Нават я чуў, што просяць не маліцца за тых, хто ў зьняволеньні. Такія малітвы забароненыя, каб нідзе не было і самага малога іншадумства.

Ну і палічылі патрэбным са мной расправіцца. Зь ініцыятывы гэтай улады прадстаўнікі нашай сыстэмы гаварылі з патрыярхам у Маскве і папрасілі яго паспрыяць дзеля супакаеньня становішча ў Беларусі. Мабыць, на гэта ён даў ім дабраславеньне і згоду. Сынод адразу ж абʼявіў пра сваё рашэньне.

Прэтэнзіі да мяне, што я падзяліў грамадзтва на два лягеры з палітычных матываў. Падзяліў сьвятароў і вернікаў. А гэта недапушчальна. Я запярэчыў, што з палітычных нагодаў я не выступаў. Я даў маральную ацэнку таму варʼяцтву, калі зьдзекуюцца зь людзей. Тое, што яны мне прадʼявілі, — гэта было сьмеху варта.

Магу вам прывесьці прыклад. Паказваюць мне фатаздымак кошыка зь велікоднымі яйкамі. На іх намаляваная „Пагоня“, наш старадаўні герб, ён

сугучны і іканаграфіі. Нашых знакамітых князёў Барыса і Глеба заўсёды малююць аднаго зь дзідай, другога зь мячом, а яны бяруць сваю традыцыю яшчэ з старажытнагрэцкае царквы ад велікамучаніка Георгія Пераможца і Дзьмітрыя Салунскага зь мячом. Вось такі герб быў у нашых межах, а ў пачатку перабудовы ён быў нашым нацыянальным сымбалем, затым мы вярнуліся да савецкай сымболікі.

Па-першае, выява гэтага герба не зьяўляецца злачынствам. Па-другое, гэта сьмешна, у нас 100 парафій, і калі дзесьці дзіця намалявала на яйку „Пагоню“, я павінен пра гэта ведаць і карныя меры прымаць? Велікоднае яйка ёсьць велікоднае яйка. Гэта сьвята радасьці. Людзі малююць тое, што сьвятарнае і дарагое для іх, гэта адпавядае велікоднаму ўспрыманьню жыцьця.

Другое абвінавачаньне: чаму ў нас сьпявалі „Магутны Божа“? Гэта стары беларускі гімн „Магутны Божа, уладар сусьвету“. Мітрапаліт, знаходзячыся ў Горадні, афіцыйна забараніў сьпяваць гэты гімн? Мы яго гадамі сьпявалі. У нас музычны фэстываль „Калоскі Дабравест“ зь міжнароднай музычнай праграмай заўсёды пачынаўся з гэтага сьпеву, а тут раптам гэта стала забароненым і ледзь не антыцаркоўным. На набажэнствах зразумела, але на канцэртных праграмах — гэта наш асабісты выбар. І вось у адной з парафій дзіцячы калектыў ладзіў велікодны канцэрт і прасьпяваў „Магутны Божа“, што палічылі дзяржаўным злачынствам.

Ну вы самі ведаеце, калі ў нас на бальконе будуць вісець чырвоныя і белыя шкарпэткі адначасова, то можна атрымаць тэрмін.

Я не кажу ні пра які раскол. Я да гэтага стаўлюся вельмі асьцярожна і выкарыстоўваю мэдычны прынцып „Не нашкодзь“. Мы не даём палітычных ацэнак. Мы спрабуем зьмяняць сытуацыю знутры, выкарыстоўваючы хрысьціянства і Эвангельле. У нас нават гаворкі не было ні пра якую аўтакефальную царкву, як ва Ўкраіне. Гэта ўвогуле нерэальная рэч, у нас усе культавыя будынкі належаць Беларускаму Экзархату, і ніякі прыход ня зможа мець храм іншай юрысдыкцыі. Гэтае пытаньне яшчэ не сасьпела нават для абмеркаваньня. Гэта домыслы і хлусьлівае абвінавачаньне. Ніякага падзелу ў нашых вернікаў няма, наадварот, мы заклікаем да салідарнасьці, адзінства.

Цяпер мы павінны адпавядаць свайму ўзроўню, а мы ператварыліся ў Царкву пэрыяду застою, ганеньняў і палону. Мы ўжо пераўзыходзім хрушчоўскія часы, калі ўпаўнаважаны перадаваў сваю волю, як жыць прыходам і што гаварыць.

Наведваньне месцаў зьняволеньня таксама ставілася ў віну. Чаму наведвалі зьняволеных і прыносілі ім лекі і ваду? Тое, што Хрыстос сказаў: „Я быў хворы, і вы наведалі мяне; быў у вязьніцы, і вы прыйшлі да мяне“, — мы не павінны прымаць за кіраўніцтва да дзеяньня? Для нас мусіць быць важным указаньне кіраўніцтва. Ніякіх наведваньняў.

І яшчэ куча дробязяў. Бацюшка благаслаўляў паству і разам са словамі „Хрыстос уваскрос!“ сказаў яшчэ: „Жыве Беларусь!“ А вы што, хочаце, каб не жыла? Правільна сказаў, хай жыве Беларусь. Я кажу, я згодны з гэтымі словамі. Ва ўсіх эпархіях ёсьць моманты, калі людзі ў той ці іншай форме выказваюць сваю салідарнасьць з тымі падзеямі,

якія цяпер адбываюцца. Таму абвінавачаньне проста некампэтэнтнае.

Па стане здароўя я не падаваў ніякіх прашэньняў, і я не лічу, што па стане здароўя я не магу служыць. Ёсьць, вядома, узроставыя праблемы, я надаю ім увагу, але сытуацыя не крытычная. Няма ніякіх сьведчаньняў з боку мэдыкаў, няма прад'яўленьня мне, на падставе чаго. Я Сыноду прама сказаў: „Вы робіце несумленна, вы пазбавілі мяне катэдры. А мне ня сорамна ісьці на спачынак“.

Гэта заканамерна — турбавацца за свой народ. Мы не даём ацэнкі ўладзе або палітычнай структуры, мы гаворым пра тое, што бачым парушэньне ўсіх нормаў чалавечага быцьця. Мы лічым гэта недапушчальным і выступаем з заклікам спыніць жорсткасьць у дачыненьні да нашага народу і вызваліць невінаватых зьняволеных. Ніякай рэакцыі Царквы на гэта не было, і цяпер нават ня згадваецца, як быццам ніхто ніколі нічога не пісаў.

Чаму мяне не адхілілі адразу ж пасьля гэтых заяваў, яшчэ ў жніўні летась? Вельмі бурны быў пэрыяд, гэта ж трэба было падліваць алею ў агонь. Гэта магло спрыяць таму, што мы маглі наогул адкрыта выйсьці на ўдзел. Цяпер народ запалоханы. Я лічу, што і з пункту гледжаньня палітычнага яны зрабілі няправільна і атрымаюць вынікі не на сваю карысьць.

Па-першае, паводле заканадаўства архірэйскага сабору эпархія павінна аказваць матэрыяльную дапамогу, нейкую грашовую дапамогу прызначыць. Мне загадана чамусьці пакінуць сваё месца жыхарства, я мушу зьехаць у Менск, каб застацца там у поўнай адзіноце. Хочуць загнаць мяне ў кут.

Будзем жыць. Пэнсія дзяржаўная ў мяне ёсьць... Паглядзім, трэба будзе — уладкуюся на працу ў парафіі вартаўніком.

## Ня кожнаму такі нэкралёг удаецца прачытаць пры жыцьці

*Юры Стулаў, былы выкладчык лінгвістычнага ўнівэрсытэту:*

Калі амон хапаў студэнтаў проста ва ўнівэрсытэце, як настаўнік можа гэта проста так прыняць? Людзі спрабуюць паказаць, што яны патрабуюць пераменаў, што яны ніякія не прастытуткі, а звычайныя людзі. Нічога не было пачута, на жаль. Беларусы — вельмі спакойны народ, вельмі цярплівы. У мяне доўга было жаданьне зьехаць у Маскву працаваць, але на пэўным этапе жыцьця я зразумеў, што ў Беларусі лепш. Зусім іншы мэнталітэт. І калі пачалі тысячамі затрымліваць, навошта? Што гэта мяняе? Толькі павялічвае колькасьць незадаволеных.

У верасьні 2020-га я публічна заступіўся за студэнтаў МДЛУ, якія ўдзельнічалі ў пратэстах. Мой выступ перад новай рэктаркай трапіў на відэа і разышоўся па тэлеграм-каналах. Праз паўгоду пасьля тых падзей мне не працягнулі кантракт.

Я прыйшоў ва ўнівэрсытэт пасьля хваробы, 3 сакавіка, і мой пропуск ужо ня дзейнічаў. Ня змог прайсьці праз турнікет. Мяне прапусьцілі ў выніку, я пайшоў у кадравы аддзел. Там мне сказалі, што скончыўся кантракт, і ўсё.

Пасьля гісторыі з турнікетамі мяне выклікалі да кіраўніцтва ўнівэрсытэту, там адбылася непра-

цяглая размова. Мне сказалі, што трэба даваць дарогу маладым. Натуральна, некалі трэба было б сыходзіць. Я яшчэ адчуваю ў сабе сілы працаваць. Але як ёсьць, так ёсьць. У мяне няма ніякіх пачуцьцяў зараз. Разам са мной шмат калег пайшлі на пэнсію. Жыцьцё ёсьць жыцьцё.

Катэдру замежнай літаратуры замест мяне зараз узначаліць мая былая асьпірантка Ірына Кудраўцава. Гэта таленавітая выкладчыца, якая разумее праблемы катэдры і зможа іх вырашыць. Я задаволены выбарам пераемніцы.

Ці зьвязанае маё звальненьне з тым верасьнёўскім выступам у абарону студэнтаў? Ну як я магу казаць, узрост ёсьць узрост. Калі непатрэбны, то і непатрэбны. Я гэта прымаю спакойна. Пра той выступ не шкадую па-ранейшаму. Трэба шчырым з сабой быць.

Я атрымаў вялікую падтрымку пасьля навіны пра маё хуткае звальненьне. Былі і званкі, і лісты ад студэнтаў, якія ў розныя гады ў мяне навучаліся. Былі нават паведамленьні ад тых, каго я вучыў у 1960-я.

Чытаў усё гэта як нэкралёг нейкі, з аднаго боку. А я ж яшчэ жывы. А зь іншага боку, зразумеў, што нешта я ў сваіх студэнтах пакінуў. Ня кожнаму такі нэкралёг удаецца прачытаць пры жыцьці. Роспачы я не адчуваю зараз, гэта не канец жыцьця. Я працягваю навуковую працу.

Акрамя лістоў з падтрымкай, шмат званілі з розных краінаў і гарадоў — зь Лёндану, з Вашынгтону, вельмі шмат было паведамленьняў ад калег з Расеі. Нават зьбіраліся выступіць у маю абарону, пісаць лісты, аднак я іх адгаварыў.

Пішу артыкулы, удзельнічаю ў канфэрэнцыях. У гэтым навучальным годзе браў удзел у 13 міжнародных канфэрэнцыях. Усё анлайн! І гэта нават прасьцей, бо езьдзіць нікуды ня трэба. Гэта быў Пецярбург, Сыбір, Варшава і гэтак далей.

Таксама запрашалі на канфэрэнцыю ва Ўральскі фэдэральны ўнівэрсытэт у якасьці ганаровага госьця. Акрамя навуковай дзейнасьці, я разьлічваю працягваць і лекцыі. Апошнія гады праз інтэрнэт выкладаў курс расейскай і беларускай культуры для студэнтаў з Кітаю. Ёсьць верагоднасьць, што займацца гэтым можна будзе і надалей.

Ва ўнівэрсытэце зараз усё стала цішэй. Людзі разумеюць, што небясьпечна. Многія навучаюцца платна. Страціць магчымасьць вучыцца для іх будзе цяжка. Але гэтыя настроі ж нікуды не падзеліся. Перакананьні засталіся тыя, што і былі. Як я ўжо недзе казаў, гісторыя ідзе цыклямі. Адзін пройдзе, пачнецца другі.

Ня буду казаць, што я велічыня ў навуцы, усяго толькі дацэнт. Але ў мяне вельмі вялікі досьвед, я шмат вучыўся. Прайшоў шмат стажыровак. І такіх ведаў, якія ёсьць у мяне, іх няма ў маладых выкладчыкаў. Я сваю ролю бачыў у тым, каб іх перадаваць. Нават ня столькі студэнтам, колькі самім маладым выкладчыкам. Але зараз як будзе, так будзе. Гады пройдуць, пакуль чалавек дасягне патрэбнага ўзроўню.

У лістападзе мінулага году я казаў, што з аптымізмам гляджу ў будучыню і перакананы, што перамены ў лепшы бок абавязкова адбудуцца. Не зьмяніў сваёй думкі і пасьля звальненьня з унівэрсытэту.

Мяне дзівіць жорсткасьць і актыўнасьць, зь якой дзейнічаюць улады. Не разумею, чаму ўсё так адбываецца. Сумняюся, што такая тактыка можа быць прадуктыўнай.

З аднаго боку, людзі будуць паводзіць сябе цішэй, будуць баяцца. Але ж нэгатыўнае стаўленьне да ўлады тады будзе зьяўляцца ня толькі ў сэрцы таго чалавека, які сам трапіў пад ціск. Але і ў сэрцах яго родных, блізкіх, сяброў. Нават калі нехта зараз ухваляе ўлады, то я не перакананы, што ён гэта робіць ад шчырага сэрца.

Ці стануць студэнты больш любіць уладу, калі іх пачнуць гэтаму мэтанакіравана вучыць у ВНУ? Мяркую, што гэтага дасягнуць будзе складана. Нават у часы СССР студэнты часам пачуваліся вальней, чым цяпер.

Я пачынаў працаваць выкладчыкам у 1960-я. Тады ўжо адліга скончылася, пачыналіся рэпрэсіі. Але зь цяперашняй сытуацыяй іх цяжка параўноўваць. Мы тады аднойчы стварылі такі „Клюб 317“, бо група называлася 317. Рабілі вечарыны паэзіі, спэктаклі, шмат чаго. У нас выступала група „Лявоны“, якія пазьней сталі „Песьнярамі“. Вельмі цікава было. Але мяне аднойчы выклікаў дэкан, папракнуў, што „мы нацыяналістычныя рэчы ладзім“. Сказаў, што ўсё трэба ўзгадняць. Але гэта было магчыма. Зараз, я так разумею, ужо не.

Існавала магчымасьць займацца нечым, акрамя вучобы, і пазьней. Быў створаны папулярны ў Менску кінаклюб, дзякуючы якому мноства людзей пабачылі фільмы Анджэя Вайды ды іншыя стужкі. Усё гэта паўплывала і на пратэсты студэнтаў на пачатку 1990-х. На плошчу Леніна выходзілі ў тым ліку і мае вучні.

Але і зараз немагчыма ўсё забараніць. Калі людзі маюць галаву, калі яны чытаюць кнігі, калі глядзяць фільмы, то не. Зараз ёсьць інтэрнэт. Трэба мець галаву і думаць над тым, што ты бачыш, што адбываецца навокал. Людзям толькі трэба працаваць над сабой.

## Напісаў на мяне 17 заяваў у міліцыю

*Ігар Кузьняцоў, гісторык:*

Адзін неабыякавы грамадзянін, прозьвішча Прохараў, за паўтара месяца напісаў на мяне 17 заяваў у міліцыю. Заявы розныя — пачынаючы ад рэабілітацыі нацызму да процьмы рэпостаў.

Першая заява — калі я рэпосьціў вядомае фота, дзе група воінаў трымае павержаны нацысцкі сьцяг. Прохараў напісаў, што Кузьняцоў прапаведуе нацызм. І другое — нібыта я рэпосьціў нейкі матэрыял Белсату.

Участковы апытаў мяне па першым эпізодзе. Ясная справа, там нічога не было. Але грамадзянін Прохараў напісаў скаргу вышэй, што, маўляў, участковы ня толькі праяўляе ляяльнасьць, а ўступіў у злачынную змову з Кузьняцовым, каб той пазьбег адказнасьці паводле артыкула 19.11.

Паколькі тэрмін разгляду спраў па першых заявах Прохарава скончыўся, той 3 кастрычніка напісаў на мяне яшчэ 6 заяў, што Кузьняцоў рабіў рэпосты з сайтаў Белсату і Tut.by.

Але ўсе матэрыялы, якія я рэпосьціў, былі выключна па гісторыі, адукацыі, пра Эўразьвяз, быў выступ прэзыдэнта Польшчы. То бок па зьмесьце там нічога экстрэмісцкага няма. Але паколькі

яны былі разьмешчаныя на такіх сайтах, у міліцыі склалі пратакол і накіравалі ў суд Савецкага раёну.

27 кастрычніка адбылося судовае паседжаньне, якое доўжылася роўна адну хвіліну. Судзьдзя адразу паведаміла, што матэрыялы накіраваныя на дапрацоўку ў Савецкае РУУС.

Прохараў — чалавек рэальны і піша скаргі рэгулярна.

Калі я напісаў на сваёй старонцы ў фэйсбуку, што „Прохараў А.А. зьяўляецца інфарматарам“, і папярэдзіў, каб людзі „былі пільнымі і асьцярожнымі“, грамадзянін Прохараў А.А. падаў чарговую скаргу ў РУУС, каб мяне прыцягнулі ўжо да крымінальнай адказнасьці.

Прохараў напісаў, што я яго пакрыўдзіў і назваў інфарматарам, а таксама выклаў пэрсанальныя дадзеныя гэтага Прохарава. Хоць акрамя прозьвішча і ініцыялаў там нічога не было.

Дарэчы, пасьля таго як на Свабодзе ў жніўні 2021 году мы аналізавалі званкі, якія паступілі ў міліцыю летась, Прохараў таксама накатаў заяву, і там была цікавая фармулёўка: „Кузьняцоў аналізуе базу 102, а я зьяўляюся індывідуальным прадпрымальнікам і баюся, што пацярпіць мой бізнэс“. Прычым гэты Прохараў піша заявы ня толькі на мяне. Таму я быў вымушаны зьвярнуцца да адваката.

Пакуль невядома, калі адбудуцца наступныя судовыя паседжаньні па скаргах Прохарава.

У той жа дзень, калі адбыўся першы суд, я забраў сваю працоўную кніжку з БДУ, дзе адпрацаваў 23 гады. Фармальная прычына — са мной не працягнулі кантракт. Паколькі я дасягнуў пэн-

сійнага ўзросту, кантракт заключаўся на 1 год. Такі парадак.

Ціск на мяне пачаўся яшчэ ў чэрвені, пасьля шматлікіх публікацый Мукавозчыка ў „СБ — Беларусь сегодня“, а таксама пасьля таго, як я даў некалькі інтэрвію да дня пачатку вайны. 28 чэрвеня мяне выклікала дэкан факультэту міжнародных адносін БДУ Алена Дастанка і запатрабавала напісаць заяву аб звальненьні па ўласным жаданьні.

Я катэгарычна адмовіўся. Пасьля мне заявілі, што кантракт будзе разарваны датэрмінова. Я адказаў: „Назавіце прычыну“. Не знайшлі, да чаго дачапіцца. І вось дачакаліся сканчэньня кантракту — 27 кастрычніка.

Калі я зьвярнуўся да рэктара з просьбай пракамэнтаваць, чаму кантракт са мной ня будзе працягнуты, я атрымаў адказ, што, маўляў, у сувязі з рэарганізацыяй, скарачэньнем аднаго з вашых курсаў (а ён складае 5% нагрузкі выкладчыка на год) і пераразьмеркаваньнем нагрузкі кантракт з вамі працягнуты ня будзе.

Я зьвярнуўся і ў камісію па працоўных спрэчках пры прафкаме БДУ. І здарыўся рэдкі выпадак — бакі не прыйшлі да згоды. Прафкам выказаўся супраць звальненьня, а адміністрацыя — за звальненьне.

То бок прафкам, па сутнасьці, стаў на мой бок з адной простай прычыны: ёсьць юрыдычны дакумэнт — Калектыўная дамова калектыву БДУ і адміністрацыі, і там ёсьць пункт 3.1.9. Калі супрацоўнік БДУ добрасумленна працуе, цягам году ня мае спагнаньняў, кантракт зь ім працягваецца на максымальны тэрмін. То бок усе фармальныя адказы і адмовы супярэчаць Калектыўнай дамове.

За 23 гады працы на катэдры дыпляматыі і консульскай службы факультэту міжнародных дачыненьняў БДУ я выдаў каля 120 кніг, зь іх 67 — гэта падручнікі, вучэбныя і вучэбна-мэтадычныя дапаможнікі. У штогадовым рэйтынгу выкладчыкаў БДУ, дзе ўлічваюцца розныя віды дзейнасьці, у тым ліку і навуковая, колькасьць публікацый, у мяне дастаткова высокія пазыцыі.

З 2500 выкладчыкаў я ў гэтым рэйтынгу займаў 92 радок, то бок уваходзіў у першую сотню лепшых. На факультэце міжнародных адносін каля 300 выкладчыкаў. У мяне 13-я пазыцыя. Ёсьць яшчэ такі крытэр: цытаваньне ў Google Scholar — колькі навукоўца, выкладчыка цытуюць. У мяне паказчык — 32. Наколькі я ведаю, нават у вядучых выкладчыкаў, загадчыкаў катэдраў нашага факультэту самы высокі паказчык — ад 8 да 10. То бок па ўсіх паказчыках я ўсе 23 гады знаходзіўся наперадзе. Аднак мне не прапанавалі нават 0,25 стаўкі ці працаваць „пагадзіньнікам“.

# *ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ*

## *Лёгкім бывае толькі шлях у рабства*

Віктар Бабарыка, экс-прэтэндэнт у кандыдаты на прэзыдэнцтва:

*Адразу скажу, мае адказы абапіраюцца на вельмі бедную інфармацыю. Амаль 8 месяцаў я знаходжуся ў фізычнай і камунікацыйнай ізаляцыі, большую частку навінаў атрымліваю зь беларускай тэлевізіі — а яе прагляд можна прыраўняць да маральных катаваньняў.*

*Але нават у такім становішчы магу сказаць, што тое, што дзеецца ў нашай краіне, нельга назваць масавымі рэпрэсіямі.*

*Фактычна гэта вайна ўладных вярхоў, якія абапіраюцца на вайскова-сілавы блёк, а значыць хунты, супраць часткі свайго народу. І нават ня важна, якая колькасьцю гэтая частка ёсьць — большасьцю ці не. Самае страшнае, што яна тычыцца ўсіх слаёў насельніцтва.*

*Гэтую вайну могуць ператварыць у грамадзянскую два моманты. Па-першае, пасьпешлівае падвядзеньне пад свае дзеяньні заканадаўчай базы праз узмацненьне пакараньня за найпрасьцейшае выказваньне думкі. А па-другое, уцягненьне ў барацьбу простага цывільнага народу (чыноўнікаў, дзяржслужбоўцаў, работнікаў камунальнай гаспадаркі і гэтак далей), вымушаных выконваць загады і службовыя абавязкі і ўступаць у сутыкненьне з гэткімі ж грамадзянамі краіны.*

*Але расколатае грамадзтва ня зьлепіш. Нельга дапусьціць, каб простыя людзі сталі ненавідзець адно аднаго толькі за тое, што яны любяць сымбалі рознага колеру. Кожны мусіць разумець, што індывідуальная адказнасьць за ўчыненьне дзеяньня ня пройдзе, нават калі нехта скажа, што бярэ на сябе ўсе грахі за асобныя загады і распараджэньні.*

*Я не кажу пра крымінальны перасьлед. Ёсьць больш важная ацэнка — нашых дзяцей і ўнукаў. У жыцьці не сустракаў ніводнага чалавека, які ганарыцца продкамі, якія ўдзельнічалі ў гвалце супраць простых людзей.*

*Маё вылучэньне кандыдатам у прэзыдэнты дакладна ўзбудзіла супраць мяне крымінальны перасьлед. А калі сур'ёзна, то мне заўсёды складана ацэньваць свае ўчынкі і іхны ўплыў на іншых, хай гэта робяць людзі самі.*

*Я ж скажу, чым бы я вельмі ганарыўся і чаго б вельмі хацеў — бачыць вынікі сваіх дзеяньняў. Так ужо атрымалася, што я засьпеў толькі пачатак працэсу абуджэньня і раскрыцьця нашых людзей. Я ня бачыў зіхоткіх вачэй і шчасьлівых усьмешак шматтысячных удзельнікаў „ланцужкоў салідарнасьці“ і маршаў свабоды. Але калі хоць малая частка гэтых людзей лічыць, што я ім нечым дапамог, то для мяне гэта найвышэйшая пахвала. Быць датычным да адраджэньня нацыі, да абуджэньня ў чалавеку самых каштоўных ягоных якасьцяў — значыць не дарэмна пражыць жыцьцё.*

*Аднак мне здаецца, што тое, што адбываецца ў Беларусі, — гэта не барацьба з рэжымам Лукашэнкі. Я ўвогуле прыхільнік дзеяньня ня „супраць“, а „за“. Сёньняшнія падзеі я ацэньваю як барацьбу за новую Беларусь, за лепшага чалавека, за будучае*

*шчасьлівае жыцьцё — ня толькі нашае, але і будучых пакаленьняў.*

*Рэжым дзейнае сёньня ўлады — гэта не адзін чалавек, а сукупнасьць людзей, гатовых жыць у атмасфэры хлусьні і вымушанай бездапаможнасьці. Гэта аналяг добраахвотнага асобаснага рабства, якое не памірае пры зьнікненьні рабаўладальніка. Чалавек не становіцца свабодным на загад або дазвол зьверху.*

*Нам доўгія гады ўнушалі думку, што мы ня вартыя альбо ня здольныя быць адказнымі за свой лёс, што нам патрэбны кантроль і кіраваньне, бо мы „народзец", які жыве на „лапіку зямлі", аточанай ворагамі. Асноўным дасягненьнем і гонарам лічылася, што мы бедныя, але не жабракі, што нашыя веды і здольнасьці не патрэбны нідзе і нікому, апроч як усярэдзіне краіны. Што мэта жыцьця — стабільнасьць з „чаркай і скваркай".*

*Але 2020 год паказаў хлусьлівасьць гэтага сьцьвярджэньня. Мы пабачылі, што велізарная колькасьць людзей ня згодныя з такімі каштоўнасьцямі і мэтамі — акурат гэта я лічу перамогай ці першым крокам да вялікай перамогі. Багата людзей зьдзейсьнілі вельмі важную асобасную перамогу: заваяваць сваё права называцца чалавекам з пачуцьцём уласнай годнасьці, гатовага ўзяць адказнасьць за свой лёс і лёс сваіх дзяцей на сябе.*

*Нам не хапіла крыху часу, каб пасталець як нацыя. Ніхто не чакаў, што ў XXI стагодзьдзі ў цэнтры Эўропы за такія агульначалавечыя каштоўнасьці, як самапавага, права на праўду і мірны пратэст, надыдзе такая жорсткая рэакцыя.*

*Цяпер у нас посттраўматычны шок. Ён абавязкова пройдзе, і я веру, што ўсё ў нас будзе добра.*

*Я заўжды спрабую прытрымлівацца простага прынцыпу: меркаваць паводле спраў, я ня слоў. Таму магу сказаць, што сцэнар, выкладзены ў рамане „Восень патрыярха“, рэалізуецца вельмі блізка да тэксту.*

*У цэлым я яшчэ раз пераканаўся ва ўсім вядомай ісьціне, якую даказала сыстэма ў дэмакратычных краінах. Выбарныя пасты павінны займаць людзі, у якіх ёсьць куды вяртацца пасьля страты ўлады. Інакш для такіх людзей паўстае знак роўнасьці між пасадай і шчасьцем у жыцьці. А часам і такая роўнасьць: улада = жыцьцё. У такім выпадку барацьба за ўладу ператвараецца ў барацьбу за жыцьцё — і ў такой бітве палонных не бяруць. Выклікае аптымізм толькі тое, што для такіх людзей кожны наступны дзень набліжае іх да горшага, а астатніх — да лепшага.*

*Я ніколі не любіў рэвалюцыі і іх лёзунг — „разбурыць дарэшты, а пасьля...“. Тое, што мы назіралі ў Беларусі, — паскораная эвалюцыя. Мы на неймавернай хуткасьці праходзім працэс фармаваньня самасьвядомасьці сябе як асобаў, а таксама аб'яднаньня людзей у нацыю. Як вынік — патрабаваньні новага, запыт на іншую сыстэму кіраваньня.*

*Хоць і спрэчны, але для мяне ўсё ж слушны шлях — нежаданьне праліваць чужую кроў дзеля ўласных, хоць і добрых, мэтаў. А гэта і мае на ўвазе сьцьвярджэньне — гатовасьць на ўсё. Наш народ не апусьціўся да такога мярзоцьця, якое прадэманстравала ўлада. Мы не заплямілі сваіх рук чужой крывёй. Новая Беларусь павінна будавацца не на крыві, хоць старая ўтрымліваецца акурат гвалтам і жорсткасьцю. Менавіта дабро забясьпечыць шчаслівую будучыню краіны.*

*І пра дробнабуржуазнасьць тых, хто імкнецца да зьменаў, усё абсалютна слушна: людзі стаміліся жыць на мяжы жабрацтва і беднасьці. „Па 500“ — недасяжная і „зіхоткая Шамбала“ — нагнала аскому. Мы хочам стаць „дробнымі буржуа“. Толькі ў сучасным сьвеце такіх людзей называюць „сярэдняя кляса“, і яны ствараюць аснову і апору ўсіх цывілізаваных і высокаразьвітых краін.*

*Як далей будзе разьвівацца сытуацыя ў краіне? — гэта адно з самых складаных пытаньняў для чалавека, які атрымлівае 90% інфармацыі, насычанай выключна хлусьнёй, страхам і нянавісьцю (то бок зь дзяржаўнай тэлевізіі). Але мне здаецца, варыянтаў толькі два. Або новая Беларусь, эканамічна і палітычна незалежная, або спыненьне існаваньня фактычна незалежнай краіны (хай нават юрыдычна яна і захавае свой статус) шляхам уключэньня нас у арбіту чыйго-небудзь „сьвету“.*

*Выбіраць адну з гэтых дарог давядзецца найбліжэйшым часам — эканоміка не дазволіць доўга цягнуць цяперашні стан. Калісьці было сказана вельмі дакладна: „Палітыка ёсьць канцэнтраванае выражэньне эканомікі“. Таму крайні пункт — 2025 год, але хацелася б думаць, што гэта фантастычна доўгі тэрмін. Я за першы варыянт.*

*Я заўжды казаў, што маё рашэньне не было прадыктаванае менавіта мэтай стаць прэзыдэнтам. Прэзыдэнцтва — гэта інструмэнт і магчымасьць удзельнічаць у зьменах у краіне. Я зыходзіў з таго, што прапаноўваў сваю кандыдатуру як нанятага мэнэджэра з сваім досьведам і бачаньнем. Але пасьля падзей 2020 году я зразумеў, што зьмены, якія адбываюцца ў нашых людзях і якія паказалі ўсю неймаверную таленавітасьць, шчырасьць і годна-*

*сьць беларусаў як нацыі, моцна зрушылі акцэнты і патрабаваньні да таго чалавека, які мог бы хаця б і на нейкі час прадстаўляць інтарэсы нашага народу.*

*Таму мне б вельмі хацелася быць вартым такога народу. Тых, хто нягледзячы на ўсю несправядлівасьць і жорсткасьць, захавалі сваю чысьціню. Я разумею, што апошні год даў нам шмат маладых і годных людзей, якія цалкам здатныя прэтэндаваць на ролю лідэра. Вось жа майго жаданьня і раней было недастаткова, а цяпер і патрабаваньні дужа вырасьлі. Але пры захаваньні запыту на маё бачаньне шляхоў разьвіцьця краіны ў мяне застаецца гатоўнасьць узычыць усе свае ўменьні і навыкі. Прапанова з майго боку ёсьць, але ці будзе на гэта попыт — паглядзім.*

*Я хачу зьвярнуцца ня толькі да беларусаў, якія пратэстуюць. Мне хацелася б, каб гэтыя словы прачыталі ўсе грамадзяне нашай краіны. Кожны з вас унікальны і мае права на ўласную думку. Усе разам мы фармуем нашу дзяржаву і нацыю, якая таксама ўнікальная і мае права на выбар уласнага шляху. Але кожная ўнікальнасьць мае і агульныя каштоўнасьці; для чалавека гэта — непарушнае права свабоды выбару, павагі да асобы і каштоўнасьці жыцьця.*

*У нашай краіне, на жаль, склалася сытуацыя, калі стаўленьне да гэтых каштоўнасьцяў падзяліла ўсіх на тры катэгорыі. Тых, хто ўсьведамляе гэтыя рэчы і гатовы для іх рэалізацыі рабіць актыўныя дзеяньні. Тых, хто згодны зь неабходнасьцю мець гэткую сыстэму каштоўнасьцяў, але праз страх не гатовы што-кольвек для гэтага рабіць. А таксама тых, хто лічыць, што ня мае права разважаць пра гэта, і проста чакае шчасьця, якое ім абяцаюць*

*іншыя. І хачу зьвярнуцца да кожнай з гэтых катэгорый маіх суайчыньнікаў.*

*Я схіляюся перад тымі, хто ўсьвядоміў сябе гаспадаром лёсу і адчувае сваю датычнасьць і адзінства з усім чалавецтвам. Вы сапраўдныя асобы, вы сьвятло дабрыні і свабоды. Тыя выпрабаваньні, празь якія праходзіце вы і вашыя блізкія, шчодра акупяцца і апраўдаюцца залучэньнем і натхненьнем іншых грамадзян Беларусі. Не спыняйцеся! Лёгкім бывае толькі шлях у рабства.*

*Я разумею нерашучасьць тых, хто баіцца страціць утульнасьць і спакой свайго маленькага сьвету. Але трэба разумець, што сёньня выбар стаіць не між лепшым ці горшым жыцьцём, але між дрэнным і добрым. Гэта выбар для наступных пакаленьняў — зрабіць крок наперад да лепшай долі. І для гэтага кроку ня трэба выйсьці на барацьбу, дастаткова проста не рабіць нізкіх і супрацьзаконных учынкаў.*

*І я таксама хачу, каб задумаліся тыя, хто лічыць, што адказнасьць за злачынствы і несумленныя ўчынкі будзе апраўданая словамі „Нам загадвалі“ і „Што мы маглі зрабіць?“. Ніколі ў гісторыі падпарадкаванасьць не змывала крыві з рук забойцаў. У сёньняшніх абставінах заспакойлівая думка „Я спрабаваў зьмякчыць жорсткасьць мераў і распараджэньняў і служыў свайму народу“ ня ёсьць апраўданьнем. Зьмякчаць распараджэньні, якія парушаюць закон і топчуць агульначалавечыя прынцыпы — усё роўна рабіць злачынствы. Будучыня непазьбежная, і пытаньні будуць зададзеныя кожнаму. Таму, можа, лепей застацца па-за камандай, чым у камандзе тых, хто ўчыняе ці спрыяе згубным для ўсіх дзеяньням.*

## Усе падумалі, што гэта тэатральная пастаноўка

*Настасься Доль, мэнэджэрка гурту „РСП“:*

13 лютага на базе адпачынку „Агеньчык“ пад Смалявічамі амонаўцы затрымалі ўдзельнікаў канцэрту, на якім мусілі выступіць гурты „Разьбітае сэрца пацана“, Panska Moc, Ok-Band, сьпявачка Lear. У МУС падзею ахарактарызавалі наступным чынам: „Актывісты дэструктыўных тэлеграм-каналаў сабраліся пад выглядам вечарынкі“. У выніку амаль усіх, акрамя непаўналетніх дзяцей і маладых маці, якіх адпусьцілі, пачалі судзіць, прызначаючы „суткі“ і штрафы. Падобныя канцэрты на гэтай турбазе праходзілі і раней. Калі на сцэну выйшлі хлопцы з „РСП“, яны пасьпелі выканаць усяго адну песьню, як у памяшканьне ўварвалася каля 30 амонаўцаў і іншых супрацоўнікаў міліцыі. Яны нічога не тлумачылі, проста загадалі ўсім стаць тварам да сьцяны і пачалі забіраць у людзей тэлефоны. Першыя хвіліны гледачы і артысты думалі, што адбываецца шоў ад „РСП“, нейкая тэатральная пастаноўка. Але неўзабаве стала зразумела, што ўсё гэта па-сапраўднаму. Амаль усіх удзельнікаў адвезьлі ў Смалявіцкі РАУС, дзе мы прасядзелі ў актавай залі да наступнага дня.

## А ўсё чаму? Таму што чытала кніжку Янкі Купалы

*Раіса Алецкая, пэнсіянэрка:*

Мне 60 гадоў, маю сярэднюю спэцыяльную адукацыю, пачынала працу ў будаўнічай арганізацыі простай рабочай, а скончыла намесьнікам кіраўніка, цяпер пэнсіянэрка. За 15 сутак, што адбыла на Акрэсьціна, мушу сплаціць за харчаваньне 220 рублёў, гэта прыблізна палова маёй пэнсіі. А ўсё чаму? Таму што я чытала ў электрычцы кніжку Янкі Купалы. Сапраўды чытала, не адрываючыся, спынілася толькі, як убачыла побач нейкага мужчыну, які здымае мяне на відэа. Потым у судзе міліцыянты казалі, што я была ў чырвонай куртцы і гэта была акцыя, хоць куртка ў мяне малінавага колеру і я насамрэч чытала. Але што ты ім дакажаш? Такі час.

## З усіх бакоў беглі, здаецца, цэлы батальён

*Кацярына Брагінец, 20 гадоў, футбалістка:*

25 сакавіка нас зь сяброўкай затрымалі на Пушкінскай. Мы ішлі мэтанакіравана, але калі ўбачылі, што няма людзей, то вырашылі — няма чаго тут лавіць. І пайшлі дахаты. У падземным пераходзе на нас напалі спачатку тры міліцыянты, потым з усіх бакоў беглі яшчэ, здаецца, цэлы батальён. Бабулькі, якія гандлявалі кветкамі, пачалі разьбягацца ў розныя бакі. Пакуль мы сядзелі ў бусе, яны ўсё вышуквалі — каго б яшчэ схапіць. Мужчына

выйшаў з Макдональдса з бургерам, толькі ўкусіў яго — і апынуўся ў бусе.

## У падʼезьдзе засталіся адны жанчыны. Мужчын затрымалі

*Яўген Гараднічук, 21 год, Жабінка:*

Той травеньскі досьвед у ізалятары я буду памятаць доўга. 15 сутак раней у параўнаньні з травеньскім затрыманьнем — проста благі піянэрскі лягер.Я і цяпер не магу спаць, усё цела сьвярбіць. Яшчэ ўзімку мяне цягалі па судах, атрымліваў штрафы. Потым усё зацiхла. Было вельмі ціха — люты, сакавік, красавік. А ў траўні пачалося. Мне здаецца, у тыя дні, 19-20 траўня, схапілі да 35 жыхароў Жабінкі. Калі я вярнуўся з ізалятара, то ў маім падʼезьдзе засталіся адны жанчыны. Усіх мужчын з падʼезду затрымалі. Да мяне прыйшоў амон і некалькі ў цывільным. Я зразумеў, што нічога вясёлага тут ня будзе. Кватэру перавярнулі дагары нагамі, мяне павезьлі зь мехам на галаве і ў кайданках у Берасьце, у губазік. Потым мы даведаліся, што нехта разьвесіў па Жабінцы партрэты Лукашэнкі ў г...не. Вось так шукалі вінаватых. Нават бралі аналіз калу. На трэці дзень у мяне быў допыт. Была нейкая сьледчая зь Пінску і дзяржаўная адвакатка, якая не напружвалася. Па выніку пасьля допыту (яны хацелі ведаць, хто разьвесіў тыя партрэты) мяне адпусьцілі. Але, як толькі вярнуўся дахаты, мне сказалі, што з панядзелка будуць браць усіх паўторна. Ранкам я паехаў на Маскву, адтуль — у Кіеў. Я ўжо быў за межамі Беларусі, калі прыяцелі напісалі, што мяне

шукае міліцыя. Потым пачалі цягаць у аддзел усіх, хто сябраваў ці кантактаваў са мной.

## Арышт быў чаканы. Але ўсё адбылося нечакана

*Уладзімер Мацкевіч, філёзаф, мэтадоляг:*

Арышт быў чаканы на працягу ўсяго году. Але, як гэта часта бывае, усё адбылося нечакана. Я думаў, што могуць узяць у аэрапорце падчас вылету/прылёту, а калі гэтага ня здарылася, трохі расслабіўся. І вось тады па мяне прыйшлі. Мая разгубленасьць доўжылася некалькі хвілін. У абвінавачаньні, якое я атрымаў, не названа ніводнага дзеяньня або ўчынку. Я разумею, што падставай для арышту сталі артыкулы, выказваньні, ідэі і думкі; гэта значыць, мяне зьбіраюцца судзіць за „думзлачынства“ паводле Оруэла. Менавіта гэта найлепш характарызуе сёньняшні рэжым у Беларусі. Рэжым арыштаваў лідэраў, здушыў і запалохаў актывістаў, адчуў сябе беспакараным, урэшце ўзяўся за свабодную думку.

## Быў рэстаўратарам, а цяпер з жулікамі сядзіш

*Алесь Пушкін, мастак:*

Я нашу спэцоўку з надпісам ААТ „Белрэстаўрацыя“, у якой мяне затрымалі. Дык кажуць канвойныя: „Эх, Пушкін! Быў рэстаўратарам, мастак — а да чаго дакаціўся — у турме — з жулікамі, бан-

дытамі, злодзеямі ўсякае масьці — сядзіш!!!“ Мне сапраўды сорамна. Як сказаў адзін 18-гадовы хлопчык Сярожка (што пырнуў тату нажом 3 разы, 4 гады яму далі): „Аляксандар Мікалаевіч, — а вы такі ж, як мы, нічым ня лепшы, нічым не адрозьніваецеся — калі вас дзяржава з намі пасадзіла, а не асобна!“. Вось мне было непамысна ад гэтай сэнтэнцыі!

## Матам патлумачылі, хто ў гэтай краіне доктар, а хто не

*Надзея Пятроўская, доктар-анколяг:*

Я звольнілася з пасады загадчыцы аддзяленьня РНПЦ дзіцячай анкалёгіі, бо не магу нармальна працаваць ад хваляваньня за калег. А сёньня выйшла на волю пасьля трох дзён на Акрэсьціна. Мяне затрымалі на праспэкце Пераможцаў 23 студзеня. Нібыта я ўдзельнічала ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і актыўна супраціўлялася супрацоўнікам міліцыі пры затрыманьні.

У пратаколе пазначана, што мяне затрымалі ў 16:55. Але, як высьветлілася на судзе, у 16:50 я толькі выйшла з працы. А праз 10 хвілін у тэлеграм-каналах ужо зьявілася відэа майго затрыманьня на пустой вуліцы. Ніякага мітынгу побач не было.

Судзьдзя адправіў справу на дапрацоўку.

У 16:45 я адпусьціла апошняга пацыента, потым апранулася і выйшла з мэдычнага цэнтру. Пайшла вуліцаю; вочы — у экран тэлефона, бо перапісвалася з таварышам.

Але бачыла, што на пешаходнай зоне стаяць аўтазакі і побач людзі ў чорным. І тут мне махаюць рукой: „Стой, дзе стаіш“.

Я спыняюся, хаваю мабільнік, а ад мяне яго патрабуюць. Я аддаю. „Разблякуйце!“ — „Не, ня буду“. — „Тады хадзем“.

Мяне завялі ў аўтазак, там былі чатыры ці пяць чалавек у форме і некалькі затрыманых асобаў нейкай усходняй зьнешнасьці, якія вельмі ціха сядзелі.

Мне сказалі аддаць заплечнік, абшукалі, расшпілілі паліто, усё ў вельмі няветлівай форме. Я абурылася, што я не адмаўляюся падпарадкоўвацца іх патрабаваньням, але трэба рабіць паводле закону: я жанчына, мяне абшукваць могуць толькі жанчыны. Трэба выконваць законнасьць.

Гэта выклікала іх незадаволенасьць і пагрозы гвалту, якія не рэалізаваліся, але ўспрымаліся рэальна.

Я ж зьвярталася да іх на „вы“, казала, што нічога кепскага не рабіла, нічога не парушала, мне сказалі: „Дзевушка, не пагаршайце свайго становішча“, — і адвезьлі ў РУУС.

Я была ўпэўненая, што, паколькі на праспэкце Пераможцаў шмат камэр, я хутка дакажу неправамернасьць свайго затрыманьня. Як жа я памылялася! Прачытала пратакол — „непадпарадкаваньне, удзел у масавым мерапрыемстве“. Я яго не падпісала, мяне адправілі на Акрэсьціна.

Гэта былі ня лепшыя дні ў жыцьці, я паставілася да гэтага, як да прыгодаў.

Прывезьлі мяне гадзіне аб 11-й вечара. Стаўленьне не магу сказаць, што звышжорсткае, але непрымальнае. Нельга так абыходзіцца зь

невінаватымі людзьмі, якія не нясуць небясьпекі. Не разумею, навошта на іх крычаць матам, пагражаць і ўжываць сілу.

Напэўна, я паводзіла сябе неадпаведна месцу, калі сказала, што я доктар і патрабую да сябе паважлівага стаўленьня. У адказ пачула доўгую мацерную тыраду пра тое, хто ў Беларусі доктар, а хто не.

Рэчы забралі, было вельмі холадна ў камэры. На 6 спальных месцаў было 13 чалавек, спалі па двое — гэта магчымасьць сагрэцца.

Для жанчын гігіены не было ніякай зусім; ды што там, нават ні матрацаў, ні бялізны не было — спалі на голых дошках. Набліжэньне ночы — кожны раз прадчуваньне пакутаў, бо ўдаецца заснуць на паўгадзіны, а потым спуска есься з нараў да батарэі грэцца.

Праўда, у кампаніі з 12 жанчын заўсёды знойдзецца, чым заняцца.

Мы правялі вельмі плённа два дні, умудраліся трымацца малайцом, але калі пачаліся суды і пачалі даваць суткі, дзяўчаты вельмі засмучаліся. Але я сказала: „Давайце не дамо ім атрымаць асалоду ад нашых сьлёз. Ня плачам“.

Мяне судзілі апошняй. Аказваецца, адвакатка вельмі хутка даведалася пра маю сытуацыю, знайшла ўсе відэа- і фотадакумэнты, і іх, на маё зьдзіўленьне, разгледзелі ў судзе.

Было відаць, што ніякага мерапрыемства няма, што сьведка казаў няпраўду, я была адна, на вуліцы было пуста, пры затрыманьні супраціўленьня не аказвала — судзьдзя адправіў справу на дапрацоўку. Але мяне пакінулі яшчэ на ноч і выпусьцілі толькі сёньня, на трэці дзень.

## Праводзіць экскурсіі ў Менску стала небясьпечна

*Аксана Манкевіч, экскурсавод:*

31 студзеня ў Менску каля гатэля „Менск“ затрымалі нашу экскурсійную групу зь дзевяці чалавек проста падчас экскурсіі.

Я ішла з групай клясычным аглядным маршрутам: ад плошчы Свабоды і праспэктам да Чырвонага касьцёла. На праспэкце да групы падышлі амонаўцы; яны паслухалі мяне, пераканаліся, што гэта экскурсія, і далі мне зразумець, што ўсё нармальна, потым сышлі. Каля гатэля „Менск“ пад’ехаў мікрааўтобус, адтуль выйшлі іншыя амонаўцы, папрасілі людзей прайсьці зь імі. Я патлумачыла, што ідзе экскурсія, паказала бэдж.

Яны ўжо сабраліся адыходзіць, як адзін зь іх абарочваецца і пытаецца: „Зь якой краіны турысты?“. Калі яны даведаліся, што гэта не іншаземцы, а беларусы, адразу ўсім сказалі прайсьці. Потым яны яшчэ абураліся, чаму менчукі пайшлі на экскурсію. Маўляў, вы што, гораду свайго ня ведаеце?

У мікрааўтобусе людзі абурыліся, маўляў, не даслухалі экскурсію празь сілавікоў. Я працягнула апавядаць пра гісторыю цэнтру гораду, архітэктуру, пра Чырвоны касьцёл, пра будынак БДУ: „Можаце азірнуцца назад: выдатная панарама адкрываецца з нашага аўтобуса“.

У канцы хтосьці зь сілавікоў вырашыў пажартаваць: „Дзякуй за экскурсію“.

Экскурсія была бясплатная, я часам праводжу такія аглядныя па клясычных маршрутах дзеля рэклямы.

Я не прашу нікога адпісвацца, што дакладна прыйдуць; хто хоча — далучаецца. Працы цяпер асабліва няма. У будні ў людзей ня надта атрымліваецца. Ня хочацца выпадаць са сфэры, таму што складана потым гэтую базу кліентаў зноў сабраць. Раней экскурсіі ў цэнтры гораду былі і ў суботу, і ў нядзелю, і нас не чапалі.

У пастарунку сталі правяраць, ці менчукоў затрымалі ці не. У кожнага пыталіся, пра што была экскурсія, і прасілі пераказаць яе, удакладнялі, ці былі афішы. Я прапаноўвала паказаць свае дакумэнты.

Яны сьвята верылі ў тое, што гэта была не экскурсія. Спрабавалі інтэрпрэтаваць мяне як арганізатарку, але бяз слова „экскурсія“. Пыталіся ў людзей: „Яна ж арганізатар?“. Пазьней дапытваў мужчына з КДБ, заскрыніў мае фатаздымкі з інстаграма. У тым ліку тую фотку, дзе я зь бел-чырвона-белым сьцягам — а гэтаму здымку ўжо паўгоду. Судзьдзя таксама пытаўся ў турыстаў на судзе: „Вы бачылі наогул яе інстаграм? Навошта вы хадзілі да яе на экскурсію?“

На Акрэсьціна ў ізалятары, чакаючы суду, я пагаварыла зь дзяўчынай, якую затрымалі крыху раней за нас. Яна расказала, што чула, як сілавікі, убачыўшы групу турыстаў, сказалі: „Адразу 10 чалавек, давайце гэтых забярэм, добры ўлоў“.

1 лютага мяне асудзілі на 15 дзён арышту, я правяла іх у Жодзіне. Пяцярых турыстаў таксама асудзілі на 15 сутак, але з адтэрміноўкай; трое атрымалі штрафы. На судзе ўсім да справы далучылі скрыншот зь невядомага тэлеграм-канала, дзе людзей заклікалі ісьці ад стэлы ў цэнтар гораду на „рэпэтыцыю маршу“ групамі безь сьцягоў

і лёзунгаў. Паведамленьне выкарыстоўвалі як падставу для затрыманьня, хоць яго не было ў асабістым ліставаньні затрыманых.

Пасьля сутак я вярнулася дадому і неўзабаве перастала адчуваць пахі. Падазраю, што гэта каранавірус. Магла заразіцца ім у Жодзіне: у камэры хварэлі некалькі чалавек.

Пераехалі туды пасьля Акрэсьціна, і стала зразумела, што пражывём нармальна рэшту сваіх сутак. У камэры на 10 чалавек усё было нармальна: матрацы, ручнік, дзьве прасьціны, плед, падушка. Нас накармілі вячэрай. Але стаўленьне было рознае: нехта крычаў, нехта дапамагаў — прыносіў таблеткі, калі мы прасілі.

Праца мне дапамагла, калі я адбывала суткі: кожны раз перад сном, калі аб'яўлялі адбой, я сядала на ложак і апавядала легенды, гісторыі, чытала вершы.

Цяпер стаіць пытаньне аб пазбаўленьні мяне атэстацыі, але я спадзяюся, што будзе толькі папярэджаньне. Я атэставаны гід на напрамках Мір — Нясьвіж. У сакавіку будзе атэстацыя па Менску.

Але гэта не прычына, каб затрымліваць людзей і пазбаўляць атэстацыі. Паводле закону экскурсія без атэстацыі па пэўным маршруце не прадугледжвае пакараньня. Таксама мне паведамілі, што цяпер мы павінны апавяшчаць РУУС, калі зьбіраемся правесьці экскурсію, — яны прыяжджаюць і правяраюць гэты факт.

У маім пасьведчаньні аб атэстацыі экскурсавода, якое выдавала Нацыянальнае агенцтва турызму, сапраўды не пазначаны канкрэтны маршрут, толькі агульная фармулёўка „прайшла

атэстацыю, мае ўзровень ведаў і прафэсійных навыкаў, неабходных для правядзеньня экскурсій на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у вызначаным заканадаўствам парадку“.

Я пляную працягваць працаваць гідам, але разам з тым думаю, як вырашыць назапашаныя пытаньні. Я не гатовая адмаўляцца ад сваёй працы, кудысьці бегчы, хавацца, зьяжджаць з краіны.

Многія з калегаў пасьля гэтага выпадку вырашылі і зусім адмовіцца ад правядзеньня экскурсій па нядзелях у Менску. Таму што стала вельмі небясьпечна. У першую чаргу для турыстаў.

## Прыйшлі на Акрэсьціна, каб сустрэць сябра...

*Карына Хацкалёва, рэжысэрка:*

31 студзеня мы зь сябрамі прыйшлі да Акрэсьціна, каб сустрэць свайго сябра, супрацоўніка Белдзяржфілярмоніі Дзяніса Іванова, які правёў там амаль тыдзень. Але Дзяніса я так і ня ўбачыла. Спачатку супрацоўнік ізалятара проста выйшаў і настойліва папрасіў адысьці. Мы спыталі, дзе можна стаць, каб не перашкаджаць нікому, і накіраваліся ў сквэр побач. Але пасьля, як я зразумела, гэты мужчына ўбачыў камэру ў журналіста і зноў прыляцеў да нас. Пачаў штурхаць чалавека з камэрай. Я спытала ў яго: „На якой падставе вы ўжываеце фізычную сілу?“ Тады гэты мужчына падышоў да мяне, дастаў свой тэлефон, пачаў здымаць, называў нас „невероятными бл**ми“. Ён паклікаў яшчэ двух супрацоўнікаў ізалятара,

і ўжо разам яны ўзялі мяне пад рукі і завялі на Акрэсьціна.

Супрацоўнікі ІЧУ некалькі разоў прапаноўвалі „па-бацькоўску“ папрасіць прабачэньня перад тым мужчынам, які выходзіў да мяне. Тады б мяне нібыта адпусьцілі. Але я шчыра не разумела, за што павінна была выбачацца. Не разумею і сёньня.

Каб захаваць працэдуру затрыманьня, мяне транспартавалі ў РУУС. Там мяне афармілі, бліжэй да ночы, і зноў вярнулі на Акрэсьціна.

Я проста афігела ад гэтай сытуацыі, гэта быў сюррэалізм, які адбываўся са мной. Пазьней я спрабавала адказаць сабе на пытаньне, чаму мяне затрымалі. Тлумачыла гэта тым, што супрацоўнікам Акрэсьціна не спадабалася, што Дзяніса сустракала так шмат людзей. Ім не па душы, што з Акрэсьціна, карнай установы, людзей сустракаюць як герояў. Але гэта, вядома, мае суб'ектыўныя адчуваньні.

У камэры на шэсьць чалавек разам са мной былі 16 жанчын. Сярод іх пэнсіянэрка, мэдыкі, айцішніца, маладыя маці, судмэдэкспэрт, настаўніца. Ніякіх гігіенічных сродкаў нам ня выдалі. Спаць жа праз недахоп нараў давялося на падлозе.

Пачынаючы з РУУС цябе называюць „недабітым змагаром“, намякаюць, што „нам пашанцавала, што цяпер ня жнівень“, жартуюць, што могуць падкінуць наркотыкі… Цябе пераконваюць, што ты ніхто, а яны ўлада. Для іх гэта сьмешна, але калі ты знаходзісься там і ня ведаеш, чаго сапраўды чакаць, зусім не да сьмеху.

Толькі на судзе, на другі дзень майго затрыманьня, я даведалася, у чым мяне абвінавачваюць. Сьведка зь міліцыі, якога я бачыла ўпершы-

ню, сьцьвярджаў, што я ладзіла адзіночны пікет з сымболікай і цягам 15 хвілін крычала „Жыве Беларусь!“.

Вядома, ніякай сымболікі ў мяне ў вопісе рэчаў не было. А сьведка нават ня змог сказаць, дзе я стаяла.

Пасьля суду і трох дзён утрыманьня на Акрэсьціна мяне выпусьцілі. Пакуль мая справа на дапрацоўцы. Што будзе далей, ня ведаем ні я, ні адвакат.

Рэжысэр Васілій Сігараў у інтэрвію Юрыю Дудзю казаў, што ў іх у Расеі разьвіваецца культура прыніжэньня. Мне здаецца, у нас таксама. Проста той факт, што ты ня ведаеш, дзе парушаеш закон, ужо прыніжае, прымушае баяцца. Затрымаюць цябе ці не — проста справа выпадку. Фабрыка фабрыкаваньня спраў робіць сваю працу. Адзінае, што застаецца нам — гаварыць пра гэта, не замоўчваць. Ну і салідарнасьць. Калі я выйшла, то атрымала вельмі шмат падтрымкі і салідарнасьці, нават ад зусім незнаёмых людзей. Салідарнасьць — галоўная сіла, якая ў нас сёньня ёсьць.

## 15 сутак за паход у музэй

*Натальля Іосуб, студэнтка:*

Вось уявім, што я ўчора рэальна была б на мітынгу і мяне затрымалі, я б хоць разумела, што „за дзела“. Цяпер я як бы разумею, што мне далі 15 сутак за паход у музэй.

У гэты дзень я дамовілася сустрэцца са сваімі былымі аднаклясьнікамі. Нас было ўсяго чатыры

чалавекі: тры дзяўчыны і адзін хлопец. Мы сустрэліся на Магілёўскай і паехалі ў музэй. Гэта цэнтар сучасных мастацтваў, там зараз адбываецца выстава „Лінія любові“.

Мы там знаходзіліся гадзіну-паўтары, надвор’е было добрае, мы вырашылі прайсьціся пешшу. Хацелі праз плошчу Перамогі прайсьці напрасткі. Атрымліваецца, мы ўжо былі на Казлова, пераходзім дарогу з трамвайнымі рэйкамі і далей…

Я не разумею, што адбываецца. Людзей не было, то бок, пусты Менск, як звычайна ён выглядае. Нехта недзе ходзіць, але ў цэлым пусьценька. Пад’ехала машына. Нас проста запрасілі: „Пройдемте в машину“. То бок ніякага гвалту, ніхто не ўцякаў, нічога не адбывалася. Заходзім мы, нас, атрымліваецца, чатырох чалавек хапаюць і з намі яшчэ заводзяць трох дзяўчынак, яны ўвогуле школьніцы, ім гадоў 15-16. Іх ужо даганялі. І вось нас ужо прывезьлі ў РУУС, дзе якраз ужо былі людзі, пасьля нас яшчэ прывозілі некалькі „пачкаў“ па 2-3 чалавекі.

Там ужо знаходзіліся дзяўчаты з экскурсіі. Экскурсія была, я так разумею, па цэнтры горада. З таго, што я чула, яны былі каля КГБ, каля „Цэнтральнага“ і каля ГУМа. Калі яны былі ці каля „Цэнтральнага“ ці каля мэтро, да іх падыходзіў амон. Спыніўся аўтобус, дзяўчаты ўжо падумалі, што іх зараз схопяць. Але амон падышоў, убачыў і пачуў, што гэта экскурсія, і ён адышоў.

Зноў жа, зь іхных словаў, калі яны былі каля „Цэнтральнага“, пару людзей, якія выйшлі з мэтро, забралі, проста на вачах у іх. Прыехаў наступны бус і забралі ўжо іх. І дзяўчына працягвала весьці экскурсію ўжо ў бусе…

Там знаходзіцца вельмі шмат работнікаў, у штацкім, ня ў штацкім, і дапытваюцца ўсе запар, то бок, 3-4 чалавекі ты праходзіш. Пытаюцца быццам бы адны і тыя ж рэчы, запісваюць у розных дакумэнтах. Яшчэ адзін чалавек — ты ўжо чытаеш свой пратакол. Там, атрымліваецца, напісана, што мы ўсе ўдзельнічалі ў мітынгу. У мяне быў напісаны ў дакумэнце той адрас — Казлова і праспэкт — і там была напісаная гэтая іншая вуліца, на якой дзяўчат затрымалі. І таксама ва ўсіх быў скрыншот з Тэлеграма.

Я гэтага ня бачыла, у мяне няма гутарак у Тэлеграме, то бок, гэта выцягнулі не з майго тэлефона. Я ў нейкі момант яшчэ падумала, што гэта сфабрыкавана. Бо там быў скрыншот — бяз часу, без таго, хто адправіў. То бок, кавалак тэкста — час прапісаны, прапісана калі выходзім, каб пазнаць адзін аднаго, надзявайце сінія маскі наадварот і пакеты з крамы „Суседзі“...

Далей нас заводзяць у аўтазак, усе сядзяць асобна, я ўвогуле адна сядзела ў пакойчыку гэтым маленькім. І вось нас ужо завозяць на Акрэсьціна. Недзе гэта было ў раёне 11-12-ці. То бок, калі ў РУУС яны хоць бы рабілі выгляд, што па-чалавечы абыходзяцца, далей пачынаецца ўсё. Пастройкі сьмірна, потым рукі за сьпіну, рукі на сьцяну. То бок мы стаім так амаль гадзіну, і галоўнае, каб далоні было відаць.

Майго аднаклясьніка адразу выпускаюць. Ён падпісвае дакумэнты, што забраў рэчы, забірае рэчы — выходзіць. Усё. І далей нас заводзяць ужо ў камэру. Нас было дванаццаць чалавек. Там чатыры чалавекі маглі ляжаць, таму мяняліся дзяўчаты месцамі. Хтосьці змог паспаць там, хтосьці ня змог.

І калі нехта вас убачыць, што вы ўдзень ляжыце, вы начуеце на вуліцы. У даволі грубай форме ўсё гэта было сказана.

У часе суду мне зачытваюць мае правы і абавязкі, мне зачытваюць мой пратакол. Згодная я — ня згодная, веру — ня веру, усё, 15 сутак. Уставай, ідзі ў камэру. Пачынаюцца жарты з разраду, што вось, хацелі на экскурсію, зараз паедзем на экскурсію ў іншы горад. І называюць гэтыя гарады.

Атрымліваецца, што мы ўжо стаім на першым паверсе і нас усіх заводзяць па чарзе рэчы забраць. Мужчына, які зьбіраў подпісы за рэчы, маўляў, усё на месцы, усё цэлае, ён кажа, што ўсё, вам вельмі моцна пашанцавала, што вам паверыў намесьнік начальніка, што вы былі на экскурсіі рэальна.

Падпісалі паперкі, і нас выпускаюць. То бок паміж намі гэта абмяркоўвалася, што хутчэй за ўсё няма месцаў ці яшчэ нешта, але ад работнікаў гэта не было прамоўлена ні разу. Калі ўвесь гэты час, да таго, як мне сказалі пра 15 сутак, у мяне быў даволі пазытыўны настрой, бо я сяджу і думаю: мне асабіста баяцца няма чаго, я нічога не зрабіла, у мяне не было сымболікі, побач нічога не адбывалася, як мінімум, маё сумленьне чыстае, я не вінаватая.

І вось калі мне ўжо кажуць пра 15 сутак, я разумею, што ну, ужо не адкруціцца. То бок, я магу быць затрыманая зараз у двары, магу ня быць, магу заўтра, магу пасьлязаўтра, магу празь месяц. Як бы сядзець дома на рэчах і чакаць, што па мяне прыйдуць. Ці нешта прадпрымаць?

Мы абмяркоўвалі, што, магчыма, варта пайсьці і абскардзіць, паспрабаваць яшчэ раз растлумачы-

ць, папрасіць там відэа з музэя. Але я разумею, што мне ніхто ні разу не адмаўляў, што я была ў музэі. Ну была ў музэі, маладзец, так сказалі маёй аднаклясьніцы, ты пайшла ў музэй, купіла білет, каб у цябе было пацьверджаньне, калі цябе зловяць. То бок вы такія самыя, як вось гэтая экскурсія. І цяпер у мяне ўжо дома стаіць пакет, на ўсякі выпадак. Калі там патэлефануюць, прыйдуць... Але я разумею, зноў жа, калі зловяць мяне на вуліцы, ніякага пакета ў мяне з сабой ня будзе. Калі забяруць з дому, то я гатовая ў кожным выпадку.

## Затрымлівалі людзі, апранутыя як рыбакі

*Галіна Гулянкова, 66 гадоў, пэнсіянэрка:*

У ізалятар на Акрэсьціна я трапіла за тое, што чытала беларускія кніжкі ў электрычцы разам зь іншымі пэнсіянэрамі. Мяне затрымалі напрыканцы лютага і вызвалілі 18 сакавіка. Зьвінавацілі ва ўдзеле ў масавай акцыі і непадпарадкаваньні супрацоўнікам міліцыі.

А чытала я зборнік апавяданьняў Васіля Быкава „Пахаджане“. Гэта наш пісьменьнік, ён як прарок. Яго творы — пра наш час. Пасьля затрыманьня кнігі ў мяне і іншых жанчын не забралі. Яна была са мной, і мяне папрасілі пакінуць кнігу Быкава ў турме. Кніга там была вельмі запатрабаваная. Няхай будзе там, няхай чытаюць.

Затрымлівалі людзі, апранутыя як рыбакі, на чыгуначнай плятформе, калі я выйшла з электрычкі.

Я не супрацiўлялася, не запатрабавала ў iх нават дакумэнтаў, адразу пайшла з гэтым чалавекам у бус.

З аднаго боку рэйкi, з другога рэйкi, куды там бегчы цi крычаць лёзунгi. На судзе мне было вельмi непрыемна, што сьведка, мужчына з Партызанскага РУУС, раптам пачаў гаварыць, што я аказвала непадпарадкаваньне. Для мяне гэта быў шок, бо нам заўсёды ўнушалi, што iлжэсьведчаньне — гэта подласьць. А тут аказалася, што чалавек, якi быў сьведкам, сказаў, што я ўпiралася i яны мяне ўдвох цягнулi ў гэты бус. Я думаю, што яны пiшуць „непадпарадкаваньне“, каб было за што зачапiцца i каб даць больш сутак.

Напэўна, не спадабалася, што занадта многа пэнсiянэраў было i яны чыталi. Напэўна, падалося, што „нахабна i мэтанакiравана“ чыталi. А наогул гэта неяк няправiльна, нядобра.

Наша грамадзтва не павiнна жыць па загадах. Я не хачу так жыць, што мне дазволiлi i я магу рабiць, а калi не дазваляюць, то я не павiнна рабiць. Мы дарослыя людзi. Мы ж не чыталi „Майн кампф“ цi нейкiя iншыя забароненыя кнiгi. Мы чыталi нашых беларускiх пiсьменьнiкаў.

Вядома, я стаўлюся адмоўна да таго, каб мы яшчэ запытвалi дазвол у Менгарвыканкаме на чытаньне лiтаратуры ў мэтро, цi ў электрычцы, цi ў аўтобусе.

Мы толькi пачалi чытаць, як толькi электрычка паехала, i загарнулi кнiжкi, як толькi яна спынiлася. А гэтыя мужчыны за намi назiралi, бо, магчыма, нейкiя пэнсiянэркi дамаўлялiся пра сустрэчу праз тэлефон цi пiсалi ў вайбэры. А перапiска i тэлефонныя размовы праслухоўваюцца, вiдаць.

Бо, як нам сказалі ў РУУС, мы, пэнсіянэры, былі ўжо ў распрацоўцы.

Усе 20 сутак я адбывала ў ізалятары на Акрэсьціна. Там багата зьняволеных, якіх можна назваць генафондам нацыі.

Мы спалі на падлозе. Ні матрацаў, ні бялізны не было, бо за пару дзён да гэтага начальнік турмы распарадзіўся ўсё прыбраць. Нам увесь час казалі, што гэтыя рэчы на „пражарцы“, то бок дэзынфэкцыі. Ну што зробіш?

Спалі на падлозе, у вопратцы, некаторыя нават у пальчатках, бо перад сьвітаньнем станавілася холадна, хоць батарэі былі гарачыя. Прыгадалі савецкія часы, калі ляціш некуды, самалёт затрымліваюць, і часам даводзілася па двое сутак у аэрапорце чакаць, і тады ўжо ні на што не зьвяртаеш увагі.

Увесь час там было вельмі холадна, у цэляфанавыя пакеты крышылі хлеб, каб хоць нешта пакласьці пад галаву. На вузкіх нарах па двое мне было цяжка спаць.

Калі я прыйшла туды, у мяне было абвастрэньне артрозу, вельмі моцна балела рука, фэльчар давала абязбольвальныя. Я стаю на ўліку ў анкалягічным дыспансэры, у мяне выдалена палова шчытападобнай залозы. У мяне рэмісія, я пад назіраньнем і павінна ўвесь час прымаць адмысловыя лекі, якія ў мяне заўсёды ў торбе. Потым лекі ад ціску, ад сэрца мне перадалі дзеці. Я дагэтуль прыходжу ў сябе, бо нягледзячы на тое, што мы ў камэры спрабавалі хадзіць, рабіць зарадку, цягліцы вельмі атрафуюцца. Першыя чатыры ночы вельмі зводзіла сутаргай ногі. Дагэтуль яшчэ і цягліцы сьпіны баляць.

У камэры на 6 месцаў было звычайна 11 чалавек, сярод іх „начныя матылькі“ і тыя, каго чакаў этап у ЛПП. На шпацыры мяне і іншых вязьняў не выводзілі, таксама не прапаноўвалі душ.

Мы самі, пад кранам, адна адну палівалі вадой з бутэлькі. Але найперш мы патрабавалі ёршык і хлёрку. А потым, о цуд, у адной зь перадач нам перадалі ёршык. Мы выдраілі ўнітазы, таму ў камэры ад іх паху не было.

Мы па тры разы на дзень падлогу мылі, перакладалі харчы зь месца на месца, было прыгожа, як у краме. Бо вельмі цяжкае пакараньне бязьдзеяньнем.

Усяго са жніўня мінулага году мяне затрымлівалі чатыры разы, я адседзела 27 сутак і заплаціла штраф 20 базавых. Гэты штраф, які складае палову пэнсіі, у мяне проста зьнялі з карткі.

Чаму я выходзіла на маршы? Бо многа блізкіх, у якіх былі сінякі не намаляваныя, былі пераломы, некаторыя трапілі выпадкова. Калі былі выбары, мяне не было ў краіне. Я вярнулася ў Менск 16 жніўня, у гэты цудоўны дзень, калі многа менчукоў выйшла да стэлы. Мяне гэта так уразіла.

Калі я была за мяжой, чытала, што адбывалася ў краіне, і мяне ахопліваў боль, мне было страшна, тут былі мае дзеці. Я ня веру ў 80%. Я лічу, што трэба пакараць людзей, якія тварылі бясчынствы. Бо як жа так — перагарнуць старонку? Як жа забыцца?

А гэты боль, куды ён дзенецца? Ён жа з намі і жыве, як можна перагарнуць старонку і забыцца пра нашу моладзь, забыцца пра Рому? Адна справа, калі застрэлілі, а тут жа забілі, проста нагамі забілі чалавека. Быў жывы-здаровы, і раптам... У

мяне сыну 31 год. Такі ж, як Рома. Вось гэтага я не магу зразумець.

Я наогул пацыфіст, жорсткасьці не магу зразумець адносна жывёл, а тым больш да людзей, да слабых, да старых, да дзяцей. Я лічу, калі чалавек упэўнены ў сваіх сілах, што ён насамрэч лідэр, то чаму яшчэ раз не зрабіць гэтыя выбары? Я пайшла б на гэта.

Я паверыла Лукашэнку, калі ён у лістападзе на адкрыцьці станцыі мэтро паабяцаў новыя выбары. У сьнежні я хадзіла і крычала „Новыя выбары!“, я ўзрадавалася, што ён так сказаў. Мяне арыштавалі за гэта на 7 сутак.

Я нарадзілася ў Менску, мой бацька вайсковец, меў званьне палкоўніка, з 12 гадоў разам з маці, братам і сястрой быў у партызанах. Ён быў ня супраць бчб-сьцяга. Мой дзядуля быў рэпрэсаваны ў 1933 годзе, цягам 10 гадоў будаваў Волга-Балтыйскі канал. Я больш за 35 гадоў адпрацавала на „Гарызонце“, узначальвала там службу якасьці і арганізацыі сэрвіснага абслугоўваньня. Я ганаровы вэтэран.

Калі выходзіла з 20 сутак на волю, папрасіла, каб не прыходзілі сяброўкі, асьцерагалася, каб не палічылі сустрэчу за пікет.

Мы вырашылі не рызыкаваць сваімі блізкімі. Да мяне вось дзяўчаты прыходзілі дахаты, папілі кавы. Я спадзяюся, гэта яшчэ пакуль не забаронена. Я ж на іншае і не разьлічвала, я разумела, што мяне будуць караць. Вось і пакаралі.

Нічога страшнага, што я была на сутках, бо ёсьць людзі, якім яшчэ горш, цяжэй. І такіх насамрэч больш. Вось я выйшла, размаўляю. Я дома. А як Ігар Лосік? Нават не ўяўляю, што зь ім.

## У мяне заўсёды была падрыхтаваная торба

*Ірэна Бярнацкая, кіраўніца Лідзкага аддзелу Саюзу палякаў Беларусі:*

Супрацоўнікі губазіку затрымалі мяне ў Лідзе 25 сакавіка. Дома ў мяне правяліператрус, забралі тэхніку, нататнікі. Пасьля запрасілі на размову, якая мелася працягвацца „некалькі хвілін“.

Я ўжо да гэтага была на сутках, і ў мяне заўсёды была падрыхтаваная торба. Забрала торбу, бо думала, што могуць ізноў пасадзіць на 15 сутак. Па дарозе на тую размову яны заехалі да мяне ў школу, таксама зрабілі ператрус. Выбачаліся і кажуць: „Тут мы ўжо пагаварылі, а цяпер паедзем з вамі ў Менск“. Я зразумела, што гэта ўжо будзе надоўга.

Давезьлі да Валожына, там перасадзілі ў аўтамабіль менскага губазіку і даставілі ў сьледчы камітэт.

Але ніякіх паказаньняў я не давала, бо кепска сябе адчувала. Мяне адправілі на Акрэсьціна. Ні матрацаў, як там кажуць, „ваты“, нічога не далі. Але ў камэры былі файныя дзяўчаты, яны дапамаглі, я трошкі прылягла. Пасьля 72 гадзінаў я думала, што, можа, адпусьцяць дахаты. Але прыйшоў сьледчы і даў падпісаць паперу аб тым, што я ўжо зьяўляюся падазраванай. І што на 2 месяцы адпраўляюць пад арышт.

Паводле пракуратуры, я і іншыя фігуранты „польскай справы“ нібыта праводзілі незаконныя мерапрыемствы з удзелам непаўналетніх у Горадні і вобласьці з 2018 году: ушаноўвалі анты-

савецкіх дзеячоў, „дабіваліся мэты рэабілітацыі нацызму, апраўданьня генацыду беларускага народа“ (частка 3 артыкулу 130 КК). Санкцыя крымінальнага артыкулу прадугледжвае ад 5 да 12 гадоў пазбаўленьня волі.

Калі яны мне задавалі пытаньні па тых артыкулах, якія мне інкрымінаваліся, то я не разумела, пра што яны гавораць. Я займалася ўсім тым, чым займаліся мае бацькі, продкі. Прыбіралася на могілках, ведала каталіцкія сьвяты, хадзіла ставіла там кветкі, адпраўляла імшы за людзей, за хворых, за інвалідаў. А яны лічаць гэта распальваньнем варожасьці. Пыталіся і пра „выклятых жаўнераў“. Я і цяпер скажу сваю думку: кожны чалавек, выкляты ці ня выкляты, яго ўжо няма, і мы мусім шанаваць кожнага. Так вучыць нас Касьцёл. Хто забіваў — дрэнна рабіў. Цяпер забіваюць — дрэнна робяць. Хто ўмее любіць — добра робіць. Я маці траіх дзяцей, мірны чалавек, я кожнага паважаю і хачу, каб людзі жылі ў згодзе. Пабыўшы ў турме, я скажу вам такую выснову: мы мала любім адно аднаго. А калі пачнём любіць, то гэтага ня будзе: ня будзе турмаў і столькі пакалечаных людзей.

Яшчэ летась, у кастрычніку, суд Лідзкага раёну прызнаў мяне вінаватай ва ўдзеле ў недазволеным масавым мерапрыемстве 1 верасьня. Разам з паплечнікамі ад 12 жніўня я малілася на ружанцы каля Фарнага касьцёла ў Лідзе за Беларусь. Вернікі станавіліся на калені каля крыжа і праводзілі набажэнства.

З Акрэсьціна мяне перавялі ў СІЗА N1, так званую „Валадарку“, у камэру на 8 чалавек. Там я пазнаёмілася зь фігуранткамі „справы студэнтаў“ і іншымі маладымі палітзьняволенымі.

Там былі файныя дзяўчаты. Былі сёстры Вікторыя і Стаська Міронцавы. Была Ірына Шчасная. Я кожны дзень дзякавала Пану Богу, што я з такімі людзьмі. Гэта людзі зь вялікай літары. Я там патрэбная была як маці. Я ніколі не сядзела ў турмах, але для мяне гэта быў гонар і павага ад Бога, што я магла прытуліць гэтых дзяўчатак, што я магла, як матка, іх супакоіць. Яны ж маладыя. Але такія моцныя. Яны там так трымаюцца, што я яшчэ мусіла вучыцца ад гэтых дзяцей. Цяжка, але адна адну падтрымліваюць. Кожны чалавек дасьць рады, калі мае мэту.

6 траўня нас, фігурантак „польскай справы“ забралі ў сьледчы камітэт. Там на сустрэчы прысутнічаў польскі консул, які распытваў, як мы сябе адчуваем і ці пагадзіліся б мы пакінуць краіну, калі б была магчымасьць выехаць.

Мы тут нарадзіліся, гэта наша зямля, ня хочацца нікуды ехаць. Але быў такі адказ: як скажуць. Мы не палітыкі, мы ня ведаем, але калі трэба будзе так зрабіць, то трэба. Але мы хочам жыць на сваёй зямлі, дзе нашыя хаты. Так тая сустрэча і скончылася. Нас вярнулі ў СІЗА і недзе праз два дні далі нам падпісаць паперу, што тэрмін арышту падаўжаецца яшчэ на тры месяцы. Ясна, што ўнутры ўсё сьціскаецца. Але што рабіць, сядзім, няма выйсьця.

Праз пару дзён паведамілі, што мяне пераводзяць у Жодзіна. 17 траўня адбыўся этап.

Дзякуй Пану Богу, што я пабыла на ўзроўні тых людзей, на якіх я, магчыма, ніколі не зьвяртала ўвагі, што я змагла прайсьці гэты этап, што пабачыла вялізную колькасьць сабак, якія гаўкалі на мяне, гэтыя аўтазакі, „стакан“. Я пабачыла,

што такое „сталыпін“. У Жодзіне турма страшная і ўмовы страшныя.

25 траўня міналі першыя два месяцы пад арыштам.

Ранкам мне перадалі лісты, і калі я пачала іх чытаць, то пачула каманду: „Бярнацкая, з рэчамі на выхад“. Правялі вобшук каля сьцяны, затым з рэчамі павялі на паверх ніжэй, дзе далучылі Марыну Цішкоўскую.

Там пачалі аглядаць, пасадзілі ў „стакан“, потым па адным чалавеку запрашалі на размову. Там быў мужчына ў масцы, як я разумею, супрацоўнік КДБ. І ён сказаў, што ад сёньняшняга дня вы будзеце дома, але заўтра мусіце прыйсьці ў Лідзкі РАУС і стаць на ўлік. Сьледзтва ідзе далей, але вы будзеце прыходзіць у сьледчы камітэт у Лідзе. Я пагадзілася, але даведку мне тую не далі, аддалі таму кадэбэшніку. Ехалі, ехалі, ехалі, але да Менску мы не даехалі. Я пытаюся: „Куды вы мяне везяце?“ Адказваюць: „Зараз вы ўбачыце“. Я кажу: „Машына без нумароў, чаму вы ў масках?“ Трохі закаціла там гістэрыку, бо думала, што можа ў лес вязуць страляць. Калі ў лес, кажу, то мне трэба памаліцца і каб далёка ня везьлі. Але Ліду мы праехалі і паехалі да Горадні, і я зразумела, што вязуць на мяжу. Пашпарта ў мяне не было. Прывезьлі на мяжу, я выйшла, зь іншых бусаў выйшлі Цішкоўская і Панішава. Мужчыны, якія былі ў цывільным убраньні, пераапрануліся ў памежную форму, яшчэ нейкія людзі далучыліся. І так яны нас перавялі на польскі бок. Бяз пашпарта, безь нічога кінулі туды.

Інфармацыя аб прыезьдзе беларускіх полек у Польшчу першы тыдзень не афішавалася.

Прычынай быў у тым ліку і наш псыхалягічны стан, які не стабілізаваўся дагэтуль.

Ніякіх дакумэнтаў, апрача паперы, што мяне пераводзяць пад хатні арышт, я не падпісвала. Ніякіх просьбаў аб памілаваньні не было. Пра тое, што ў вызваленьні нібыта дапамог Нурсултан Назарбаеў, я нічога ня чула.

У Лідзе, адкуль я, шмат палякаў. Мы любім Беларусь, любім беларусаў, і мы гэтага ня ўтойвалі, падтрымлівалі. У маім выпадку гэта менавіта таму. Гэта вельмі дзіўна, але такі цяпер час для Беларусі. Я скажу адно: там, дзе твая хата, там твой лёс і там ты патрэбны. Там мае продкі, бабулі, дзядулі. Там мая мама. Польшча таксама мая айчына, але хочацца быць у сваёй хаце, я будавала яе, каб жыць там, каб дзеці і ўнукі прыходзілі да мяне.

Гэты месяц буду аднаўляць здароўе пасьля двух месяцаў у турме, а пасьля буду плянаваць, як жыць і чым займацца далей.

# ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ

## Самае галоўнае ўражаньне сёньня — неба!

*Мы вырашылі, што вясна ўжо прыйшла: каты крычаць пакуль няўпэўнена, птушак па галасах адчувальна дадалося, фортка адчыняецца сьмела, бяз страху стварыць сумёт на падваконьні. На шпацыры нават можна ўбачыць сонейка.* Расьціслаў Стэфановіч

*Самае галоўнае ўражаньне сёньня — неба! Промні сонца на маёй скуры! КВЕТКІ! Упершыню за паўгоду я проста ішла па асфальце, а над галавой быў гэты аграменны блакітны купал з пушыстымі аблокамі.* Кацярына Андрэева

*Сёньня 13 красавіка, і зноў за вакном непагадзь. ))) Гэтыя вясновыя „арэлі“ з пацяпленьнем і пахаладаньнем вельмі сымбалічныя для нас сёньня. Усе мы прагнем сонца і цяпла, але зіма яшчэ чапляецца сваімі сінімі пазногцямі і ня хоча сыходзіць. Але час на нашым баку. )))* Вітольд Ашурак

*Дзякуючы суду, я ўбачыў вясну. Траву і лісты, што зелянеюць; дзьмухаўцы і людзей. Ехаў у аўтазаку, глядзеў на гэта ўсё і, напэўна, вельмі бязглузда ўсьміхаўся, але мне было вельмі добра.* Павал Юхневіч

*Сёньня на шпацыры паўгадзіны глядзеў на неба. Сіняе-сіняе і белыя аблокі, прыгожа. Сёньня 26 красавіка.* Аляксандар Фядута

*Атрымаў ад цябе зімовыя пэйзажы. Дзякуй. Я ж сёлета ня ўбачыў зімы, ня ўбачыў сьнегу. Але гэта не сьмяротна. Дзякуй за прывітаньні ад тваіх котак, сабакі і перапёлак. Перадавай ім таксама. Скажы, што я іх усіх люблю. Хай яны будуць паслухмянымі і цешаць цябе і тваю сям'ю. У мяне ўсё добра. Калі не лічыць утрыманьня ў СІЗА. Сьветла, цёпла. Харчаваньне нармальнае.* Уладзімер Няпомняшчых

*Летам у турме кепска. Сьпёка, якая прыемная звонку і над ракой або возерам, тут — сапраўднае пакараньне. Але лета, як мы ведаем, мае звычку заканчвацца. Таму я сёлета, як ніколі, чакаю канца лета або прынамсі сэзону дажджоў над Жодзінам. Гэта, вядома, чыстай вады эгаізм, але ад гэтага не схавацца.* Анджэй Пачобут

*Блакіт валошак, чырвань золку — узгадваеш, і на сэрцы цёпла. Цудоўна будзе стрэць усё гэта новымі вачыма. Люблю сьвінцовы колер неба і хвалі мора пад ім, што чысьцяць узьбярэжжа, і хвоі лёгка дыхаюць над вадой. Ці навальніца. Той момант, калі ўсё застыла, і вецер гоніць віхры пылу, а гром далёкі гучыць, як абяцаньне вызваленьня. Забыць і здрадзіць гэтай прыгажосьці немагчыма.* Даніла Ганчароў

*Тут [у гомельскай калёніі] ужо адчуваецца, што нашмат больш прыемна. Паветра, прастора, рух, сонца. Крэслы не прысабачаныя да падлогі. У сталоўцы, дарэчы, даволі ўтульненька. На падваконьнях крутыя кветкі. Ранкам былі такія клёвыя пярэстыя аблокі! Як жа ў прыродзе ўсё цудоўна! У СІЗА мы*

*за такія дробязі чапляліся і захапляліся імі.* Стася Міронцава

*Яшчэ ня бачыў ні лісточка, ні травінкі — нюхаю вецер праз жалезныя жалюзі, які прыносіць пах сьвежаскошанай травы. Чую піск ластавак, што лётаюць дзесь блізка-блізка — віюць гнёзды. Хоць кветачку б жывую ўклаў бы хто, дадумаўся! Я б памяў яе ў пальцах, язьмін, скажам, ці кветку ці пялёстак шыпшыны, півоні якой — ды і ўздыхнуў бы па старонцы менскай, роднай!!!* Алесь Пушкін

## Я з 1943 году, ваенная

*Галіна Іванова, 79 гадоў, пэнсіянэрка:*

Мяне затрымалі ў нядзелю 16 траўня і адвезьлі ў Фрунзенскі РУУС. Там пратрымалі дзьве з палова гадзіны і склалі пратакол. 31 траўня прысудзілі 150 базавых штрафу.

Я проста паклала кветку і пайшла. Тры сэкунды, ня больш, хвіліны не было. Міліцэйскі бусік прыехаў, узяў мяне. Амонаўцы былі ў цывільным, я яшчэ спыталася, а чаму ня ў чорным. Кажуць, што ў чорным ходзяць на апэрацыю. У пастарунку, нічога не пытаючыся, пратакол даюць, што я пікетавала і рабіла мітынг. Затрымалі ў нядзелю, па нядзелях яны там часта езьдзяць. Там яшчэ жанчыну прывезьлі, і я мяркую, што яе на Акрэсьціна забралі. Таксама кветкі паклала.

Я жыву ў доме побач з мэтро „Пушкінская“.

Там касілі, я знайшла прыгожы, вельмі пышны тульпан. Ён быў бардовы, а не чырвоны. Ня бачыла я такіх прыгожых. Паклала туды побач, там кветкі ляжалі чырвоныя на месцы, дзе забілі Тарайкоўскага. У нас жа ўсю зіму, у любы мароз там кветкі штодня ляжалі. А цяпер яны ўзяліся за гэта, каб выпампоўваць грошы. Калі кветкі пакладуць раніцай ці днём, то потым іх прыбіраюць. Адзін дзень наогул не было кветак, то я паклала. І трапляе народ, асабліва ў выходныя.

Мяне раней затрымлівалі на маршы пэнсіянэраў і аштрафавалі на 600 рублёў.

Цяпер далі шмат, бо другі раз. Тое, што яны пішуць у рашэньні, яны такое пішуць усім: паклаў кветкі — гэта значыць, ты рабіў пікет і мітынг. Слухаюць

сьведку, амонаўца ў масцы, які кажа, што падняла пальцы і машыны сыгналілі. Маразм, і ўсё. Я буду абскарджваць прысуд. Няхай прымаюць закон, што нельга класьці кветкі на мэмарыял. І гэта будзе верх маразму. У нас жа такія законы, толькі такі не напісаны. Скажу, каб вылічалі з пэнсіі. 300 рублёў дадуць мне на жыцьцё, няхай год вылічаюць.

Я працавала на менскім заводзе ЭВМ інжынэрам-наладчыкам, маю вышэйшую адукацыю. Быў шыкоўны завод, вядомы на ўвесь Саюз, а цяпер там зрабілі адны крамы. Лукашэнка яго наогул закінуў. Які гаспадар, такая і гаспадарка.

Спачатку я ня ведала, што адбывалася летась 9 жніўня, бо ня мела смартфона. Разбудзілі тут і да 4 раніцы не давалі спаць. У мяне вокны выходзяць не на праспэкт, а ў двор. Я толькі крышку бачыла плошчу. Было і тут вакол нашага дома, стралялі шумавымі гранатамі, газ пускалі, у мяне на 10-м паверсе немагчыма было дыхаць. Вось толькі пасьля гэтага я занялася палітыкай. Я бачыла, як яны хапалі людзей, зьбівалі. У нас тут увечары ганяліся за ўсімі. Бралі ўсіх хлопцаў, мужчын зьбівалі, садзілі. Тады яшчэ пэнсіянэраў не чапалі, то я да амонаўцаў падыходзіла, пыталася, у вас вайна ідзе ці што? Гэта быў жах, я пасьля гэтага наогул не магла. Таму я пайшла ад пачатку з пэнсіянэрамі супраць гвалту.

Я з 1943 году, ваенная. Я веру, будзе наша перамога.

Маразм, гэта незразумела што, шкарпэткі нельга, белае і чырвонае нельга, шалік таксама нельга. Гэта ж сьмех і грэх. Маразм і толькі. Мяне зьдзіўляе, што гэтыя маладыя амонаўцы наогул нічога ня цямяць.

Мне не падабаецца, калі гінуць людзі. Я шаную памяць загінулых, таму і паклала туды кветкі.

## Прашу, ня варта вінаваціць Рому

*Соф'я Сапега, сяброўка Рамана Пратасевіча:*

Адзіны страх, які мучыў мяне, — гэта страх адстаць. Адстаць ад жыцьця, бо яно такое не статычнае. Баюся выйсьці нікім і абсалютна не патрэбнай грамадзтву. Страшна, што так і не абараніла дысэртацыю. Сёньня трэцяга чэрвеня, дзень, калі я павінна была раніцай абараніць магістэрскую дысэртацыю, а ўвечары адправіцца з Ромам у рэстаран, піць шампанскае, есьці пасту, сустракаць лета, цалавацца і кахаць. Аднак выйшла ўсё крыху інакш. Замест гэтага раніцай я пасьнедала кашай, патрэніравалася, а ўвечары выпіла гарбату зь печывам. Адна. Не было абароны, не было Ромы, рэстарана і халоднага шампанскага. Не было сьвята і каханьня. Але затое была гарбата. Пра гэта вельмі горка думаць, але здаецца, у жыцьці яшчэ шмат усяго здарыцца, а я гэта прапушчу. Мне не хацелася пра гэта пісаць, але падзяліцца мне няма з кім і я не ўтрымалася. Даруйце.

Я ніколі ня верыла ў прарочыя сны ды іншае. Але… Уначы перад вылетам з Атэнаў Рома прысьніў сон, што мы прызямляемся ў Менску. Ён раней казаў, што яму сьняцца прарочыя сны. Шкада толькі, што гэта быў адзін зь іх. Прашу, ня варта вінаваціць Рому ў тым, што ўсё гэтак сталася. Ён бярог і клапаціўся пра мяне, як умеў. Гэта можна назваць каханьнем. Далей усё будзе разьвівацца нялёгка, але, спадзяюся, пройдзем гэты шлях годна.

Сёньня ўвечары я атрымала два вашыя лісты. Шчыра кажучы, гэта быў першы раз за ўвесь час, калі я заплакала. Я ня плачу тут. У першы дзень я пазнаёмілася зь дзяўчынай, яна тады ў простым сэнсе не дала мне замерзнуць. Таксама яна мне сказала, што я на ўсё жыцьцё запомню першы ліст. І мела рацыю — я запомню кожны радок, кожны сказ. Я запомню гэтае пачуцьцё.

Што да мяне, то я трымаюся, вельмі шмат чытаю, увесь час чытаю. Толькі што дачытала „Трывожнае шчасьце“ Івана Шамякіна. 600 старонак за тры дні. Прысядаю сто разоў раніцай, спачатку прэс і іншае. Пішу дзёньнік. Цяпер, нарэшце, на такія рэчы часу ў мяне даволі. Я даю рады.

Я пачала арыентавацца па званах! Як што, я жыву пакуль без дакладнага часу, гадзіньніка ў мяне тут няма, затое ёсьць званы! За вакном кожную гадзіну яны б'юць пэўную і роўную дакладнаму часу колькасьць разоў. Так я арыентуюся.

У люстэрка сябе ня бачыла з 25 [траўня], таму стан скуры вызначаю рукамі, гэта нават забаўна. Дарэчы, люстэрка не прымалі, бо яно было не такіх парамэтраў. Трэба маленькае кішэннае і ў плястмасавай рамцы.

Хачу сказаць, дакладней напісаць, што я не здаюся. Я трымаюся. Пачала ўсьміхацца. Упершыню ў жыцьці радуюся такім дробязям, як сьпевы птушак, сонейка, цікавая кніга. Сапраўды радуюся. Не зьвяртаю ўвагі на некаторыя дробязі. Нават адрослыя пазногці, бровы і г. д. мяне не бянтэжаць больш :).

Я ем, добра ем, праўда! Вашыя слодычы і іншае сканчаюцца даволі хутка :).

Так, тут ёсьць лекар і ён рэгулярна мяне наведвае. Прыемны чалавек. Выпісаў мне заспакаяльнае і коле глюкозу для апэтыту. Ён просіць называць гэта сывараткай праўды :).

Не перадаць, як прыемна, што табе тэлефануюць і пішуць сябры з унівэрсытэту. Праўда, вельмі. Перадайце ім, калі ласка, вялікае прывітаньне, скажыце, што я вельмі гэта цаню. Я ганаруся тым, што ў мяне ёсьць такія людзі, як яны. Перадайце ім гэта!

Паводле чутак і вашых лістоў (навінаў у мяне тут няма), я разумею, што стала крыху знакамітай. Ніколі б не падумала, што такое адбудзецца. Тым больш са мной. Гэта таксама цешыць.

## Казалі, ты хоць укусіла, а мы проста так сядзім

*Натальля Раентава, удзельніца жаночага маршу:*

Мяне затрымалі разам з братам 26 жніўня ў тралейбусе пасьля жаночага маршу. Тады, бароначыся, я ўкусіла амонаўца за сьцягно. Брата на маршы не было. Ён прыйшоў пазьней, і якраз мы сустрэліся ў раёне Камароўкі. Яшчэ я сказала: на фіга, ну ладна. У мяне было такое адчуваньне, што мяне затрымаюць. І я яму сказала: табе трэба сыходзіць.

Ён чамусьці пайшоў да тралейбуса. І чарговая мая думка па ходу: мы адтуль ня выйдзем. Я была ў шокавай сытуацыі, таму ня памятаю нічога. І калі ў мяне пытаюцца: што было, я кажу: адкуль я ведаю, што было.

Усё, што на мне было — гэта ўкус, я яго не адмаўляла ў паказаньнях. Усё астатняе, што мне прыпісвалі... гэта было вельмі цікава. Брат увогуле нічога не рабіў. Ён хлопец, ён разумее, што яму ўвогуле нічога нельга рабіць. Калі дзяўчатам, можа быць, нешта там даруюць, дык хлопцам не даруюць нічога.

У СІЗА мы ўсе сябравалі. Нават калі мы сварыліся, мы ўсё адно сябравалі, мірыліся, ну як сям'я. На „Валадарцы", куды прыехала ўжо пасьля Жодзіна, вядома, лягчэй. Мне ўжо здавалася, што ў Гомелі будзе лягчэй, але 90 чалавек у атрадзе — гэта перабор.

Атрад падзяляецца на брыгады, якія канкрэтна нешта робяць. Брыгада, куды мяне разьмеркавалі, шые мянтоўскія нагавіцы.

Я ўяўляла, як я выйду і абдыму свайго сабаку, а сабака тым часам памёр. Разумееце, наколькі сумна было выйсьці. Я села ў машыну, спытала пра сабаку і ўсё, усё на гэтым закончылася, адчуваньне свабоды і ўсё. Бо сабакі няма, брата няма [яго асудзілі на пяць гадоў], я прыходжу дадому, і сустракаць асабліва няма каму. Я думаю, усе ведаюць, як сустракае сабака, калі прыходзіш дадому.

Мама мяне сустрэла з блінчыкамі, з катлеткамі. Я кажу, не хачу катлеты, дзе вашы каўбасы. Я каўбасы ў прынцыпе ня ем. Ведаеце, колькі я прадэгуставала каўбас за гэты час?

Адзінае, што я ўбачыла нармальных адэкватных людзей. І ў мяне трохі зьявілася вера... Ад пачатку, чаго я выходзіла на вуліцу?.. У мяне была расчараванасьць у людзях. Я ня верыла, што ўвогуле нехта выйдзе. Вось. І яны выйшлі.

## За скрыню ад тэлевізара LG на бальконе

*Андрэй Пархоменка, 27 гадоў:*

Мяне затрымалі за бел-чырвона-белую скрыню ад тэлевізара LG на бальконе першага паверху. За два тыдні да затрыманьня дадому прыходзілі міліцыянты, але мяне не было. Каб пазьбегчы праблемаў, я вырашыў зьняць скрыню з акна і паставіць яе на падлозе. 26 красавіка ў дзьверы ўсё ж такі пагрукалі людзі ў цывільным. Яны паказалі пасьведчаньне, але назваўся толькі адзін зь іх — участковы Ленінскага РУУС.

Супрацоўнікі патлумачылі, што на мяне складзены пратакол паводле арт. 24.23 КаАП за „несанкцыянаванае пікетаваньне", прычым у ім пісалася пра „папяровае палатно" нацыянальных колераў. Але замест папяровага палатна міліцыянты знайшлі скрыню. Гэта іх зьдзівіла, але не спыніла ад затрыманьня.

У кабінэце, куды мяне прывялі для гутаркі, у мяне выпытвалі, за каго я галасаваў на выбарах, ці не хацеў бы я зьехаць з краіны, якія ў мяне адносіны да павышэньня падаткаў і ці ведаю я пра тэлеграм-канал „Каратели".

Суд быў закрытым, першыя 5 сутак я правёў у ізалятары на Акрэсьціна, затым мяне этапавалі ў Жодзіна.

Праз суткі пасьля затрыманьня ўчастковы РУУС абурыўся адсутнасьцю бел-чырвона-белай скрыні на бальконе.

Ён прадэманстраваў мне, калі я ўжо знаходзіўся ў пастарунку, фатаздымак пустога балькона, зроблены пасьля затрыманьня.

Я мяркую, што ўчастковыя патрапілі ў кватэру ўжо пасьля першага суду, незаконна. Міліцыянты проста ўзялі мае ключы, якія былі сярод апісаных рэчаў.

Першыя два дні з моманту затрыманьня мяне ўвогуле не кармілі, а ваду можна было піць толькі з-пад крану. Ізалятары па-ранейшаму перапоўненыя: у ЦІП на двух спальных месцах сядзелі 11 чалавек. У пятніцу ў Жодзіна этапавалі 70 чалавек, і там стала трохі больш месца — 15 чалавек на 10 месцаў.

На вуліцу мяне і іншых асуджаных з нашай камэры выводзілі за ўвесь час зьняволеньня ўсяго некалькі разоў, а вось у душ — толькі аднойчы за два тыдні.

Калі на Акрэсьціна маглі даць нават катлету, то ў Жодзіне часам давалі толькі тушонку або адварную курыцу бяз смаку. Суп наогул выглядаў як вада. 7 кіляграм — столькі я страціў у вазе за 15 сутак.

У жодзінскім ізалятары нас ставілі на расьцяжку і білі па шчыкалатках, ад чаго заставаліся гематомы. Таксама білі па нырках, але так, каб сінякоў не заставалася. Там працуюць у асноўным маладыя і агрэсіўныя, таму дыялёгу ў нас зь імі не было. Яны спрабавалі нас палохаць сваімі крыкамі.

У жодзінскіх камэрах вельмі халодна, таму я неўзабаве захварэў, а пасьля вызваленьня здаў тэст, які пацьвердзіў інфэкцыю COVID-19. Мае суседзі сукамэрнікі ня раз прасілі таблеткі і іншыя лекі, на што супрацоўнікі турмы спачатку пагаджаліся, але ў выніку не давалі. Матрацаў у камэрах таксама не было.

## Малітва — значная рэч, але ня трэба за ёй хавацца

*Вячаслаў Барок, сьвятар:*

Да гэтай справы ў мяне не было столькі падпісчыкаў. Але, відаць, пракуратура ў супрацоўніцтве з МУС і сьледчы камітэт, а можа і КДБ, вырашылі, што як мага больш беларусаў павінны глядзець мае пропаведзі, і прарэклямавалі мой канал.

Для мяне падзеі жніўня мінулага году ня сталі нечаканасьцю. На жаль, усё тое, што мы перажываем цяпер, было прадказальным. Яшчэ напярэдадні выбараў 8 жніўня я запісаў відэа пад назвай „Беларускі Армагедон“. Армагедон — гэта апошняя бітва дабра і зла. Менавіта так я расцэньваў тыя падзеі, што разгортваліся вакол выбараў 2020 году. І казаў, што гэта ня проста палітычная кампанія, а барацьба за чалавека ў нас, за нашае сумленьне. Мяжа супрацьстаяньня пралягла праз сэрца кожнага.

А 16 жніўня, зьбіраючыся на Марш свабоды, я прадказаў, што калі мы ня пойдзем шляхам асуджэньня злачынстваў, прызнаньня найвялікшай хлусьні — фальсыфікацыі выбараў, пакараньня вінаватых у гвалце, а абяром кампраміс са злом, нас чакаюць вельмі моцныя рэпрэсіі. Што мы і бачым сёньня. Тады я казаў, што буду першым, хто апынецца пад крыжамі ў Курапатах. Пакуль да Курапат не дайшло. Але ж я быў адным зь першых сярод сьвятароў, хто пабываў за кратамі. Сёньня сьвятароў так актыўна не чапаюць, але ніхто ня можа сказаць, дакуль гэта будзе. Дай Божа, каб

не было. Але мы павінны быць падрыхтаванымі. Мая торбачка сабраная.

Я нічога ня страціў. 10 дзён у ізалятары — ці ж гэта страта?

Для мяне гэта новы досьвед, выпрабаваньне, якое робіць мацнейшым. Так, здароўе крыху пагоршала, ціск часам павышаўся. Але я пазнаёміўся зь вельмі цікавымі людзьмі і паглядзеў, як выглядае жыцьцё за кратамі, наколькі там чалавек застаецца самотным і безабаронным перад дзяржаўным беззаконьнем. Мабыць, таму Бог дазволіў мне тое перажыць, каб я ніколі не замаўкаў, калі чую, як хтосьці цярпіць за кратамі. Дзякуй Богу, зь мяне ніхто там ня зьдзекаваўся, але мне паказалі і я адчуў, як гэта можа быць.

Там мне давялося паразмаўляць з крымінальнымі аўтарытэтамі, якія сядзелі па турмах дзясяткі гадоў, адзін аж 27 гадоў, і нават яны казалі, што на зоне цяпер беззаконьне. То бок у нас законы не працуюць ні на волі, ні ў турме. Мне размова зь вязьнямі дала шмат. Я яшчэ раз упэўніўся, што Армагедон у Беларусі павінен мабілізаваць кожнага сумленнага чалавека, каб закон і праўда зноў перамаглі.

Ці цяжка было пад ціскам органаў? На маю думку, органам больш цяжка ад таго ціску. Кожнаму, хто цісьне, я раю: кідайце гэтую справу, бярыцеся за розум і пачынайце рабіць нешта добрае ў жыцьці.

Сяброў, блізкіх я ня страціў. Бо сапраўдных сяброў немагчыма згубіць, а з тымі, хто можа апраўдваць насільле і беззаконьне, я не хачу мець нічога супольнага, таму, дзякуй Богу, такія людзі адкалоліся.

Ціску ад касьцельнага кіраўніцтва на мяне не было. Наадварот, калі мяне пасадзілі за краты, мой ардынары выказаўся супраць гэтага, біскуп зь Менску Юры Касабуцкі праявіў салідарнасьць.

Ці страціў я веру ў некаторых сьвятароў ці папу Рымскага празь іх маўчаньне? Ведаеце, калі ёсьць вера ў Бога, тады ня трэба верыць ані ў сьвятароў, ані ў папу Рымскага. А вера ў Бога ў мяне ёсьць.

Але, тым ня менш, хацелася б, каб папа Рымскі таксама заўважыў нашу краіну. Каб ён публічна прамовіў да касьцёла Беларусі — „браты, я з вамі, з тымі, хто трымаецца каштоўнасьцяў Эвангельля“, каб расказаў, як нам прапаведаваць у такі час. Для нас гэта важна. І маўчаньне для мяне ня ёсьць зразумелым.

Сярод каталіцкіх, праваслаўных, пратэстанцкіх сьвятароў шмат тых, хто сапраўды верыць, якім баліць сэрца за Беларусь. Але хацелася б, каб іх было яшчэ больш. Відаць, усяму свой час.

Той, хто маўчыць, добра разумее, што робіць ня так, як трэба. Няма такіх аргумэнтаў, якімі можна б было сёньня апраўдаць сваё маўчаньне.

Праз сваю пазыцыю я спаліў масты ў барацьбе паміж дабром і злом, па якіх можна было б вярнуцца. І дзякуючы гэтаму я набыў стопрацэнтны дух свабоды. Сёньня я магу ісьці толькі наперад, толькі бліжэй да перамогі. І гэты шлях акрыляе.

Таксама займеў шмат сяброў — шчырых, адкрытых, шляхетных людзей. І гэта вельмі каштоўнае.

Калі ёсьць дух свабоды, тады няма страху і смутку. Мяжа, да якой мы падышлі, вельмі страшная, небясьпечная, палягае паміж жыцьцём і сьмерцю. Але, тым ня менш, для мяне ва ўсім гэтым няма страху. Бо я веру, што мой шлях ня можа

скончыцца толькі зямным вандраваньнем, бо існуе жыцьцё вечнае. Таму для мяне нават сьмерць ня можа быць пагрозай. Гэта не вар'яцтва, не адарванасьць ад жыцьця — я да яго вельмі прывязаны і цьвёрда стаю на нагах. Але ў гэтым і ёсьць свабода, прыгажосьць быцьця — жыць сёньняшнім днём, але кожны дзень як апошні.

Я асьмелюся сказаць, што жыцьцё чалавека ня ёсьць абсалютная каштоўнасьць. Жыцьцё ў рабстве, няволі, няпраўдзе, безь любові ня мае сэнсу. Сэнс жыцьця — у свабодзе, праўдзе, справядлівасьці.

І дзякуючы гэтым выпрабаваньням мы цяпер дарастаем да гэтага разуменьня. І тым больш будзем цаніць перамогу закону над беззаконьнем, праўды над хлусьнёй. Калі б у жніўні перамога далася нам лёгка, не было б, мабыць, асэнсаваньня каштоўнасьці гэтых значных дароў. Як казаў сьвяты Ян Павал II: „Свабода не даецца, свабода здабываецца".

Я бачу гэтую трансфармацыю ў сэрцах канкрэтных людзей. Але калі казаць цалкам пра краіну, нам ёсьць яшчэ куды імкнуцца.

Парадаксальна, але калі чытаеш лісты вязьняў, бачыш, што яны ў духу больш свабодныя за кратамі, чым тыя, хто нібыта жыве на волі, ходзіць на працу, атрымлівае капейкі, цярпіць прыгнёт начальства. Напрыклад, тыя ж лісты Вітольда Ашурка, які нядаўна трагічна загінуў у турме. Яны былі напоўненыя любоўю, надзеяй, там не было страху, яму не патрэбная была літасьць ад катаў, бо ён застаўся свабодным.

Краты ня могуць абмежаваць нашай волі. Ніхто ня можа забараніць чалавеку думаць так, як ён

хоча. Так, страх можа паралізаваць і змусіць не казаць, што думаеш, але самі думкі ён ня зьменіць. Паколькі ў мяне няма страху, то я не баюся думаць і не баюся казаць тое, што думаю, і рабіць так, як кажу. А гэта дае псыхалягічны камфорт.

Майму духоўнаму вызваленьню спрыяла вера ў Бога. Хрыстос сказаў: „Пазнайце праўду — і яна вас вызваліць". Для мяне гэта асноўны чыньнік. Чаму ж тады ня ўсе вернікі свабодныя? Мабыць, таму, што яны не карыстаюцца гэтым дарам веры ці прамянялі яго на нейкія зямныя манэты дабрабыту. Гэта можа быць ня толькі са сьвецкімі вернікамі, але і з духоўнымі асобамі: і сьвятары, і біскупы могуць прамяняць духоўны скарб веры і свабоды на нейкія зямныя прывілеі. І гэта марна. Але ня дзіўна, бо заўсёды так было. Нават сярод 12 апосталаў быў адзін, які здрадзіў Ісусу. Некаторыя думаюць, што вера — добры дар, але ёсьць нешта больш каштоўнае. І гэта вялікая памылка.

Што яшчэ можа дапамагчы быць свабодным? На маю думку, для беларуса вельмі важна ведаць сваю гісторыю. Калі чалавек губляецца, трэба каб у яго быў цьвёрды фундамэнт. І гісторыя сям'і, народу, краіны — якраз такі трывалы падмурак для адчуваньня гонару за спадчыну і за сябе. Для мяне асабіста славутая гісторыя нашай краіны — велізарны скарб, зь якога я чэрпаю асалоду і ўзмацненьне.

І, вядома, значную ролю ў маім лёсе адыграла выхаваньне бацькоў. Яны здолелі захаваць веру і перадаць яе нам. І я ім за гэта вельмі ўдзячны. Маці ўжо ў Валадарстве Божым. Яна нарадзіла 9 дзяцей. Двое зь іх сталі сьвятарамі. Бацька ўвесь час шукаў праўды, таму, можа, і не зрабіў вялікай

кар'еры, але гэта чалавек са стрыжнем, і я ім вельмі ганаруся. Ведаеце, бадай, прыклад бацькоў паспрыяў таму, што ў нас усе 4 браты з палітычных матываў у Беларусі пабывалі за кратамі.

Бацькі выхоўвалі нас у каталіцкай веры ў час, калі за гэта быў перасьлед. Я жыў у „імпэрыі зла“, дзе нішчылася асоба, але бацькі навучылі мяне быць сабой. Мне давялося адстойваць свабоду з самога маленства, бо калі ты ішоў у касьцёл на малітву, за табой сачылі, і потым настаўнікі выклікалі цябе на размовы. Псыхалягічны ціск быў моцны, але гэта была добрая школа, каб паступова разрываць кайданы няволі і страху.

Трэба сваім словам праўды зьнішчаць слова хлусьні, не ісьці туды, дзе хлусяць. Прымушаюць у піянэры — не ідзі, прымушаюць на суботнік — не ідзі. Будзь сабой.

Мы нарэшце павінны зьнішчыць царства хлусьні, якое засталося нам у спадчыну ад СССР і будавалася дзесяцігодзьдзямі ў Беларусі, і навучыцца жыць у праўдзе.

Каб спыніць гвалт, трэба спыніць хлусьню, а мы ўвесь час прымаем у ёй актыўны ўдзел. Таму парада кожнаму — змагайся з хлусьнёй у асабістым жыцьці, на працы, паўсюль. І тады нікому ў галаву ня прыйдзе фальсыфікаваць тыя ж выбары.

Ці трэба маліцца? Малітва — гэта, безумоўна, добра. Але мы дайшлі да ўзроўню, маўляў, давайце памолімся — і ўсё будзе. Ня будзе. Бог, у якога мы верым, даў нам волю і розум, каб мы гэты сьвет рабілі сабе падуладным. То бок мы павінны актыўна дзейнічаць. Адна малітва не дапаможа змагацца з хлусьнёй. Бо часам праз малітву мы яшчэ больш хлусім. У адзін дзень молімся, а ў дру-

гі фальсыфікуем выбары. Ці такую малітву хоча пачуць Бог? Ці пачуе ён яе? Не. Богу не задурыш галаву сваім пустаслоўем. Кніга Прыпавесьцяў Салямона кажа: „Хто ўхіляе вуха сваё, каб ня слухаць закону, у таго і малітва — мярзота“ (Прп 28,9). Перш за ўсё трэба справядліва жыць. Малітва — значная рэч, але ня трэба за ёй хавацца.

## Зь бішонам Жулькай і дыскамі Зісера

*Юлія Чарняўская, культуроляг,*
*пад хатнім арыштам:*

Мне так шмат засталося ад Юры — і дыскі (хоць палову іх не бярэ музычны цэнтар, яны вельмі старыя), і сабака, падараваны мне на дзень народзінаў ім жа. І нават норма крокаў, якой я заўсёды грэбавала, асабліва калі зрабілася кепска са здароўем. І вось гэтае ягонае крыло, якое ён так і не прыбраў з майго пляча, дае сілы жыць у гэтыя вельмі дзіўныя дні. Я ніколі ня думала, што Кафка — рэальнасьць.

Яшчэ мне пашчасьціла з дрэвамі пад акном. На Нямізе я настолькі забылася пра шапаценьне дрэваў, што тут мне спачатку падавалася, што пачынаецца дождж. Тут бываюць вельмі паўнакроўныя вясёлкі. І калі прыгледзецца, то з майго вакна відаць кола агляду.

...Ксеня і Саня зьехалі. Астатнія сядзяць, Юр. Апошні раз я бачыла іх на тваёй гадавіне на могілках. А назаўтра нас усіх арыштавалі.

Я напякла б хачапуры і пірагоў зь пяцьцю начынкамі. Жэнька нарабіла б салатаў. І твая душа

сядзела б з намі за сталом [...]. Я нічога ня здолела табе падарыць а 12 гадзіне ночы, як гэта было прынята. Дзеці не прыедуць. У нас з табой ня будзе шпацыру: мне забаронена выходзіць з дому нават з уяўным спадарожнікам. Родныя паедуць на тваю магілу безь мяне — таксама забаронена [...]. Я проста ранкам уключу „А пятай гадзіне вечара ў Сан-Францыска“, трыо Авішая Коэна днём і ляйпцыскі дыск Баха (які мы з табой так і не пасьпелі паслухаць) увечары. І ўсё роўна буду з табой.

Доня, дарагая, мне нават цяжка сказаць „сумую“, бо я жыву ў нейкім сьвеце, дзе вы жахліва далёка, на іншых плянэтах — як ты, так і мая мама, якая жыве за два кварталы ад мяне.

Ізаляцыя — гэта дзіўны досьвед. Часам мне здаецца, што я праходжу досьвед найглыбейшай старасьці, бо самота прыкладна такая. Мне ня верыцца, што недзе ёсьць вуліцы, людзі, а ўжо тым больш мора. Але я стараюся жыць, каб калі-небудзь апынуцца ў сьвеце, дзе вы ўсе ёсьць.

Несвабода датычыць паралізаваных або зьняволеных. Або Бог, або іншыя людзі абмежавалі чужую свабоду рухацца. Падумалася, што не выпадкова СССР быў закрытай краінай, і ад таго адчувалася такая несвабода. Бо ж унутры гэтага па-ранейшаму ёсьць думкі, пачуцьці.

Раптам зразумела, што зь дзяцінства не зьвяртала ўвагі на дождж, заўсёды была нечым занятая, у нешта „ўторкнутая“. А тут сядзела на лёджыі, не закрывала шкла, так што дождж залівае падлогу, мае босыя ступні, і глядзела ў месца на небе, дзе можа зьявіцца маланка.

Давер у дачыненьні да людзей моцна зьменшыўся. А вось да сьвету якраз павялічыўся. Раней

я ўсё адцягвала ўвагу на людзей, на людзей. А цяпер стала важна зьяўленьне на бальконе баговак.

Штучна перарванае жыцьцё, у якім я спрабую (таксама даволі штучна) генэраваць для сябе сэнсы. Цяпер ідзе туга, часам здаецца, што вось-вось і ўсё, а потым думаю: яшчэ высілак, Юлька! Яшчэ адзін! [...] Вельмі дапамагаюць весткі з волі, веданьне, што ёсьць людзі, якія цябе помняць, нехта ўсё жыцьцё.

## Сымболікай палічылі мае стыкеры

*Дзьмітры Шутаў, сын застрэленага вайскоўцамі Генадзя Шутава:*

Раніцай 7 жніўня, у суботу пагрукаліся ў дзьверы. Дома быў я, мама, сястра, мы спалі. Было недзе 7 раніцы, сказалі: „Міліцыя“. Быў участковы і двое зь Берасьця. Паказалі пастанову на ператрус, было напісана пра нейкі тэлеграм-канал, дзе невядома хто агітаваў выходзіць на плошчу ў Жабінцы 9 жніўня. Ня ведаю, да чаго там я: мяне не затрымлівалі раней, не штрафавалі, на сутках ня быў.

Потым пачаўся ператрус.

Я заўзятар футбольнага клюбу „Дынама“, але я не фанат, проста бываю на стадыёне. І ў мяне былі стыкеры, пра якія я і сам даўно забыўся. Некаторыя былі з Пагоняй. Міліцыянты іх забралі. Пасьля папрасілі мяне апрануцца і праехаць зь імі ў аддзел для гутаркі.

Паехалі. У аддзеле ўзялі мой тэлефон на праверку. Такіх, як я, там было чалавек 10, усе мала-

дыя. Частку забралі ня ведаю куды, астатнія сядзелі, чакалі невядома чаго. Праз пару гадзін нам паведамілі: едзем у ізалятар у Берасьце. Сказалі, што за сымболіку — я так разумею, сымболікай палічылі мае стыкеры. Суду ніякага не было.

У ізалятары я правёў трое сутак. Умовы прымальныя: былі і бялізна, і матрацы, кармілі. Пасьля 72 гадзін адпусьцілі.

Я ня ведаю, чаму прыйшлі менавіта да мяне.

З бацькам мы былі ў блізкіх адносінах. Заўсёды на сувязі, заўсёды на тэлефоне, бацька дапамагаў нам. Усё, як у звычайных сем’ях, хіба толькі ён ня жыў з намі. Сапраўдны бацька. Пра тое, што здарылася 11 жніўня, я даведаўся ад маці: сказала, тата ў лякарні ў Менску, у коме. Я ня ведаў, што адбылося. Пачаў шукаць інфармацыю. Афіцыйны камэнтар жа быў, што група людзей напала на міліцыю.

Толькі пазьней са СМІ ўжо стала вядома, што адбылося насамрэч, высьветліліся абставіны. Мы спадзяваліся, што бацька выжыве, хоць і была цяжкая траўма. І 19 жніўня раніцай мая старэйшая сястра зьбіралася ехаць у Менск да бацькі, калі нам пазванілі і паведамілі пра сьмерць бацькі. Гэта быў жах, шок для нас. Гэта быў самы цяжкі і найгоршы дзень у маім жыцьці.

Я спадзяваўся, што чалавек, які страляў, панясе пакараньне. Гэта ўсё ж забойства чалавека. Гэта ж страшна — забіць. На маю думку, забойства мусіць карацца турмою і ніяк інакш.

Я лічу бацьку невінаватым. Вельмі расчараваны ў судзе.

Я быў на ўсіх паседжаньнях, калі судзілі майго бацьку пасьмяротна і яго сябра Кардзюкова. Я

бачыў там тых сілавікоў, але не гаварыў зь імі, не было такога жаданьня. Часам перасякаліся позіркамі, але яны нават у вочы не глядзелі, апускалі галовы. Мы ішлі ў суд з надзеяй — разумелі, што тых сілавікоў не пакараюць, але спадзяваліся, што бацьку хаця б прызнаюць невінаватым. Каб ачысьціць яго імя. Але ж... Прысуд мы абскарджвалі, нам адмовілі.

Зьмірыцца і адпусьціць сытуацыю я не магу. Бацька мой самы блізкі чалавек. Я вельмі сумую па ім, хочацца хаця б перакінуцца слоўцам... Я б шмат аддаў за такую магчымасьць. Каб я мог папярэдзіць яго год таму, то сказаў бы, каб ён нікуды не хадзіў. Але я не лічу яго вінаватым. Гэта часткова зьбег абставінаў, але і віна таго сілавіка, які страляў. Бо навошта ён страляў у галаву? У тое, што гэта быў выпадковы стрэл, што ён цэліўся ў плячо бацьку, я проста ня веру.

## Андрэй Францавіч, у адзінаццатым „Б“ — „пацук“

*Андрэй Пятроўскі, настаўнік гісторыі, Смаргоні:*

Маё жыцьцё кардынальна зьмянілася за паўгоду, пасьля таго, як я паказаў выпускнікам школы „экстрэмісцкі“ відэаролік пра Канстытуцыю. Мяне спачатку звольнілі, а потым завялі справу за паклёп на Лукашэнку. Далі 1,5 года калёніі агульнага рэжыму.

Сёлета 12 сакавіка мяне выклікалі да дырэктара. Я думаў, што за маё спазьненьне на ўрок. Аднак школьнікі захваляваліся за мяне.

„Андрэй Францавіч, з вамі ўсё будзе добра? Вы ведаеце, што ў 11 «Б» «пацук»?“, — запыталіся вучні зь іншай выпускной клясы.

Выявілася, што перад Днём Канстытуцыі я паказваў у той клясе відэаролік „Канстытуцыя сышла ў прастытуцыю“ зь лягатыпам, які ўлады прызналі „экстрэмісцкім“. Да таго ж я расказваў пра бел-чырвона-белы сьцяг, бо дзеці задавалі такія пытаньні. Некаторыя ня ведалі пра існаваньне нацыянальных беларускіх сымбаляў.

Адзін з вучняў, сын мясцовай чыноўніцы з жыльлёвага аддзелу, запісаў урок на дыктафон на просьбу ягонай маці. Інфармацыю ён скінуў у „сямейны чат“, а маці пазваніла дырэктарцы і расказала пра маю „незаконную дзейнасьць“. Пасьля гэтага і пачаўся канфлікт. Я называю таго вучня Паўлікам Марозавым.

Дырэктарка гімназіі загадала мне пісаць тлумачальную запіску і сказала прасіць прабачэньня перад вучнямі і бацькамі, бо „ўношу ў клясу сумятню“, маўляў, можа яшчэ атрымаецца „вырашыць сытуацыю“. А за што я павінен выбачацца, не разумею.

Я паказаў той відэаролік вучням, бо „накіпела“, бо зь мінулага лета мне балела тое, што людзей білі на Акрэсьціна, парушалася Канстытуцыя, чорнае называлі белым, а белае чорным.

Відэа я паказаў у пятніцу, а ўжо ў наступны панядзелак мяне не дапусьцілі да заняткаў і звольнілі акурат у Дзень Канстытуцыі — „зрабілі падарунак“.

Спачатку звольнілі „пры згодзе бакоў“. Праз тыдзень у школу прыйшло прадпісаньне з пракуратуры, нібыта я зрабіў рэчы, несумяшчальныя з

прафэсійнай дзейнасьцю, бо „распальваў сацыяльную варожасьць“, таму мяне трэба звольніць па артыкуле. Мне перапісалі загад аб звальненьні, але я адмовіўся падпісваць паперы.

У сакратаркі, маці аднаго майго вучня, трэсьліся рукі, калі яна прынесла паперы. Кажу: Чаго вы хвалюецеся, ня вас жа звальняюць? Супакойцеся.

„Вам ня сорамна?“, — запыталася дырэктарка ў канцы.

Мне ня сорамна. Ёсьць рэчы, за якія мне ў жыцьці было сорамна, але не за гэта.

Дырэктарка пасьля перастала са мной вітацца. Аднак большасьць калег і бацькоў маіх вучняў падтрымала мяне.

Хтосьці адважна падтрымлівае, нехта ня вельмі. Але не было такога, каб людзі масава адвярнуліся і казалі: „Так яму і трэба“. У нас жа гарадок невялікі. Трыццатыя гады ўсё ж далекавата, народ крыху расслабіўся.

Жонка мяне падтрымлівае, аднак яна не чакала, што мяне будуць судзіць. Наша малодшая дачка пойдзе ў другую клясу.

Амаль адразу я знайшоў новую працу — падсобным рабочым, а потым памочнікам маляра ў фірме, якая вырабляе дзьверы на экспарт. Калі я хацеў перайсьці на лепшую працу ў іншую фірму, спачатку мяне хацелі ўзяць, але неўзабаве аказалася, што начальнік-„ябацька“ затармазіў маю кандыдатуру.

Неўзабаве на мяне завялі крымінальную справу за паклёп на Лукашэнку (частка 1 артыкулу 367 Крымінальнага кодэксу Беларусі). Але судзяць мяне не за нейкія канкрэтныя словы, а агулам за паказ „забароненага“ фільма.

Справу вяла судзьдзя Людміла Міхневіч, абвінавачаньне падтрымліваў пракурор Андрэй Клышэвіч. Справу разгледзелі за тыдзень. Сьведкамі ў тым ліку выступалі школьнікі, якія глядзелі відэаролік.

Я не прызнаю віны, што я ўзьвёў паклёп на Лукашэнку. Я ўзьвёў бы паклёп, калі б сказаў няпраўду. А так няўжо людзі ня бачаць, што адбываецца ў Беларусі, што парушаецца Канстытуцыя? Што Лукашэнка называе Бабарыку злодзеем да рашэньня суду, што Кандрусевіча не пускаюць у Беларусь.

Пракурор запярэчыў, запытаў канкрэтныя факты парушэньняў, стаў пытацца, ці я спэцыяліст у пытаньнях Канстытуцыі.

А вам патрэбна быць спэцыялістам у мясной прадукцыі, каб купіць сасіскі ў краме? Канстытуцыя напісаная для звычайнага чалавека, каб кожны мог зразумець, што яму дазваляецца.

Падчас апошніх прэзыдэнцкіх выбараў у Смаргонях чыноўнік райвыканкаму загадаў выключаць відэакамэры ва ўсіх школах, дзе былі выбарчыя ўчасткі. У нашай гімназіі перамог Лукашэнка, але зь невялікім адрывам. На некаторых участках перамагла Ціханоўская, у тым ліку ў Цэнтры творчасьці дзяцей і моладзі, дзе старшынёй камісіі была пэнсіянэрка.

Што датычыць рэформаў у сыстэме адукацыі, пра якія зноў загаварылі ў Міністэрстве адукацыі, я мяркую, што да іх яшчэ далёка. У новых падручніках па гісторыі шмат памылак, якія варта выправіць. Шкада, што са школьнай праграмы па літаратуры прыбралі творы Сьвятланы Алексіевіч і Аляксандра Салжаніцына.

Раптам дзеці пачытаюць „Адзін дзень Івана Дзянісавіча“ і падумаюць, што нешта ім гэта нагадвае, што нешта падобнае яны бачылі зусім нядаўна?

## Казалі, што запішуць відэа — „з болем ці без“

*Мікалай Дзядок, грамадзкі актывіст:*

Сваёй віны я не прызнаю. Я не заклікаў да гвалтоўных дзеяньняў, вёў свой блог адкрыта і не хаваўся на „канспіратыўнай“ кватэры, а проста пераехаў часова ў Сасновы, бо ў Менску мяне б прэвэнтыўна затрымалі. Я не наведваў маршы пратэсту, быў толькі на адным, у дзень свайго нараджэньня. Я не блякаваў работы транспарту, ня чуў ні ад кога незадаволенасьці на мой адрас. На шэсьці панавала абстаноўка душэўнага адзінства і сяброўства, якога ніколі раней не сустракаў.

Як мяне затрымлівалі. Да мяне ў кватэру праз балькон і дзьверы ўварваліся 7 чалавек у масках. Выбілі іх за 5–6 сэкундаў. Гэта былі супрацоўнікі САХР і губазіку. Адны супрацоўнікі адразу пачалі мяне біць, іншыя аглядалі памяшканьне. Білі за спробы варушыцца. Пагражалі. Білі кулакамі ў твар. Запатрабавалі пароль ад кампутара і пачалі душыць падушкай і абяцалі абас...ць. Праз хвіліну я ўспомніў пароль і назваў.

На кватэру былі запрошаныя сьведкі — суседзі. Але перад гэтым мяне папярэдзілі, што калі пры сьведках буду крычаць і скардзіцца, то потым будуць біць усю дарогу да Менску. Пры гэтым білі па рэбрах.

„Кактэйль Молатава“ мне падкінулі супрацоўнікі губазіку. Калі мяне прывялі на кухню, там на стале ўжо стаяла бутэлька з жоўтай вадкасьцю. Сьведкі пацьвердзілі, што бачылі, як бутэлькі вымалі з шафы.

Супрацоўнік губазіку Тарасік і пры сьведках працягваў мяне біць употай.

Частка рэчаў, забраных у мяне з кватэры, потым прапалі. Так, у вопісе не аказалася маёй камэры Canon, гадзіньніка і адной тысячы рублёў. Думаю, іх укралі супрацоўнікі.

Адкуль узяўся відэазапіс, на якім я прызнаю віну ў падрыхтоўцы тэрактаў. Мяне прымусілі прызнацца ў гэтым на камэру пагрозамі, біцьцём і пярцовым газам. „Гэтае відэа мы запішам, з болем ці без“, — папярэджвалі мяне супрацоўнікі. Спачатку я не пагаджаўся, тады мяне завялі ў кладоўку і пусьцілі туды газ, тады я пагадзіўся.

Але потым рабілі другі дубль. Малады супрацоўнік зноў распыліў газ 4 разы, проста ў вочы. Вярнулі ў кватэру і сказалі, што калі правільна скажу, дадуць умыцца. Палохалі электрашокерам.

Каля 1 гадзіны ночы з пасёлку Сасновы мяне адвезьлі ў губазік. Я быў у капюшоне. Мяне паставілі на калені, выпытвалі пароль ад цьвёрдага дыска кампутара. Усе супрацоўнікі былі ў масках, але я добра пазнаваў супрацоўніка па прозьвішчы Тарасік. Той пагражаў згвалціць мяне дручком. Мяне білі, пакуль ня даў пароль, але і потым білі, бо кампутарнік недакладна ўвёў пароль. У тым ліку білі па руцэ і пальцах. Адбілі мне пальцы. Я крычаў. Туды прыйшоў міліцыянт, мяркую, паставы. Спытаў, што тут адбываецца. Тады Тарасік паслаў яго матам.

Тарасік наступаў мне на твар, пакуль іншыя мяне білі. Потым Тарасік сказаў, што стаміўся, і са словамі „старасьць ня радасьць“ сеў за свой стол. І сказаў, што неўзабаве прыйдзе новая зьмена, і мяне зноў будуць біць.

Што адбылося з „кактэйлем Молатава“? Супрацоўнік Тарасік пачаў засоўваць мне ў рот бутэлькі з жоўтай вадкасьцю і потым хаваў гэтыя бутэлькі ў пакеты. Думаю, каб потым экспэртыза паказала, што я ўжываў нешта з гэтых бутэлек.

Мяне паставілі каля чырвона-зялёнага сьцяга і прымусілі выбачацца. Тарасік патрабаваў, каб я сказаў, што я чмо і гандон. Я адмовіўся. І яшчэ хацеў, каб я заплакаў на відэа. Але я не заплакаў. Потым гэтае відэа паказалі на БТ.

Перад адпраўкай у СІЗА мяне папярэджвалі, каб нічога не расказваў пра тое, што са мной адбывалася пры затрыманьні губазікам. Казалі, што калі раскажу, дык з калёніі ня выйду, будзе 411-ы артыкул і зробяць пеўнем. Тарасік сказаў, што калі адкрыю дзе рот, дык асабіста ўтопіць мяне ў парашы. „Ня выйдзеш з турмы“, папярэджваў.

Я не прызнаю сябе вінаватым. Мая дзейнасьць насіла і будзе насіць асьветніцкі характар.

## Бабуля, ты больш туды не трапляйся

*Сьвятлана Гацко, работніца чыгункі:*

Менскі гарадзкі суд 11 лістапада не задаволіў мой пазоў да Беларускай чыгункі аб прызнаньні незаконным майго звальненьня і аднаўленьні на працы. У канцы спытала судзьдзяў, чаму гэтак несправядліва судзяць, дык паўцякалі ад мяне.

Я 33 гады адпрацавала на чыгуначнай станцыі Шабаны, апошнім часам — прыёмшчыцай грузу і багажу. У 2017 годзе была прызнаная найлепшай у сваёй прафэсіі, пра што атрымала адпаведны дыплём. 11 лістапада прынесла дыплём на працэс, дзе разглядалася мая скарга, але не дапамагло.

Суд нават не захацеў прыкладаць яго да матэрыялаў справы. Няўжо ім гэтак абыякава, добры спэцыяліст я ці не? Мяне калегі дагэтуль чакаюць на працы, там няма каму моладзь вучыць, а начальству, выходзіць, на гэта напляваць. Ім абы выканаць загад і пазбавіцца ад непажаданых элемэнтаў.

Сёлета ў чэрвені мяне звольнілі за прагулы, якія мне залічылі праз адбыцьцё адміністрацыйнага арышту. Арыштаў у мяне набралася два. Першы, дзесяцідзённы, я адбыла ў лістападзе 2020 году. Другі — 30 содняў — у траўні-чэрвені гэтага году. Абодва пакараньні лічу незаконнымі і спрабавала іх аспрэчыць, але марна.

Летась 8 лістапада мяне схапілі на мосьце праз Сьвіслач каля Траецкага прадмесьця, да маршу я ўвогуле не дайшла. Тады быў вялікі хапун у цэнтры гораду, больш за тысячу чалавек затрымалі, вось я і трапілася.

Сёлета ў траўні ўзялі перад уваходам у кватэру, калі вярталася з прагулкі з унукам Мішам, якога дапамагаю даглядаць. Месяц адбыла ў нечалавечых умовах, а як выйшла, звольнілі з працы нібыта за прагулы. Хоць на той момант адміністрацыйны арышт ня мог лічыцца падставай для прагулу, гэта ўжо пасьля такі закон прынялі. Начальнікі ў судзе пацьвердзілі, што загад падпісалі на падставе пратаколу аб прагулах, які склалі задняй

датай. Але суд гэтага не ўлічыў, ім усё роўна. Быў адзін адсотак надзеі, што суд адменіць звальненьне, але — не, не адмяніў. Няма ў нас ніякага суду — гэта фікцыя, а ня суд.

Другім разам, сёлета ўвесну, мяне пакаралі за выкладзены ў інтэрнэце фатаздымак зь віншаваньнем Марыі Калесьнікавай з днём народзінаў. Сяброўак, зь якімі я тады здымалася ў лесе, каго вылічылі і пакаралі, як мяне, каму пашанцавала пазьбегнуць арышту. А некаторыя, з кім я адбывала арышт, ужо ўцяклі ад перасьледу за мяжу. Сама зьяжджаць пакуль не пляную.

Трэба сыну дапамагаць, унук гадуецца, дый на працу выйсьці яшчэ спадзяюся. Праўда, пакуль знайсьці нешта прыдатнае не ўдаецца.

За час пасьля звальненьня я спрабавала ўладкавацца на працу на камвольны камбінат і ў парніковую гаспадарку. У абодвух выпадках мяне хацелі ўзяць, але адмаўлялі, калі даведваліся пра „апазыцыйнае мінулае“.

Цяпер на дзяржаўным прадпрыемстве патрабуюць характарыстыку з былой працы, а ў маім выпадку ў ёй абавязкова напішуць, за што звольнілі. Таму шчыра сказалі, што мне можна разьлічваць толькі на працу ў прыватнай канторы. Пакуль хоць гэта магчыма. Спадзяюся, нешта знайду.

Што ўвязалася ў пратэсты і згубіла звыклую і добра аплатную працу, я не шкадую. Шкадую, што пераканалася ў няздольнасьці супрацьстаяць гэтай нечалавечай сыстэме. Тыя ж мае начальнікі — яны ж усе мне спачувалі, а зрабіць па сумленьні духу не хапіла. Ці ўзяць судзьдзяў? Як слухалі мяне, бачыла, што спачуваюць, на маім баку, а рашэньне прынялі адваротнае. Вось ад та-

кой маўклівай згоды зь няпраўдай усе праблемы, наша несвабода — яе кошт.

12 траўня, калі мяне затрымлівалі другім разам, са мной быў чатырохгадовы ўнук Міша. Да вечара хлопчык прабыў са мной у Заводзкім аддзеле міліцыі, шмат чаго там нагледзеўся. Я доўга спадзявалася, што дзіцячы розум забудзе непажаданыя дэталі, але нядаўна пераканалася, што ўнук дагэтуль добра памятае той дзень.

Нядаўна ехалі зь ім міма пастарунку, дык ён пазнаў будынак і кажа: „Бабуля, ты больш туды не трапляйся!“.

## Мне чым страшней, тым сьмяшней

*Павал Вінаградаў, грамадзкі актывіст, блогер:*

Справу завялі пасьля аднаго з пастоў у фэйсбуку. У ліпені мяне за гэты пост арыштавалі, пратрымалі за кратамі 45 сутак, а пасьля нечакана выпусьцілі. Цяпер час ад часу хаджу ў сьледчы камітэт.

Допыту ў мяне не было сёньня. Якія ў мяне могуць быць допыты, я ж паказаньняў ніякіх ніколі не даю. То мне паказвалі вынікі экспэртыз па маёй крымінальнай справе. Яна пакуль не закрытая. Да 5 сьнежня мне павінны абвясьціць, закрыюць яе ці працягнуць. Альбо ў суд перададуць. Што яны там расьсьледуюць, я сам не разумею. У мяне ні падзельнікаў, нікога няма. Але мы ж у Беларусі, то можа быць усё, што заўгодна. То я пайшоў у сьледчы камітэт зь дзьвюма вялікімі торбамі. Думаў, што ня выйду. Але вось неяк выйшаў.

Агаломшыла яшчэ адна навіна — мой тэлеграм-канал “Березинские хроники” прызналі экстрэмісцкім.

„Ашчушчэнія“ ў мяне невераемныя былі. Я спачатку падумаў жа, што гэта фэйк. Што гэта польскія спэцслужбы на мяне такое распаўсюджваюць, альбо нехта накшталт іх. Але не. Аказалася, што гэта Генэральная пракуратура на поўным сур’ёзе па прадстаўленьні пракуратуры гораду Бярэзані прызнала тэлеграм-канал “Березинские хроники” экстрэмісцкім. Што там было экстрэмісцкага, я ня ведаю. Там у асноўным былі допісы пра тое, як я кабачкі вырошчваю, як бутэлькі пустыя вазіў здаваць. Пра жыцьцё ў Бярэзані, як мой малы ў садок ходзіць. Такое вось усё. Вядома, я і пра тое пісаў, як мне міліцыя самагонку вярнула і як я ў турме сядзеў. Але што ж у гэтым экстрэмісцкага?

Я нават пайшоў пагугліць, хто такія экстрэмісты і што азначае гэты тэрмін. Раптам на самой справе туды можна залічыць вырошчваньне кабачкоў каля хаты. Аднак разабрацца ў гэтым інтэрнэт не дапамог, таму прыйшлося выдаліць “Березинские хроники” далей ад граху і ад чарговага прыходу міліцыі.

Праз 36 хвілін пасьля паведамленьня Генпракуратуры я канал выдаліў. Але яны, калі захочуць прыцягнуць да адказнасьці, то прыцягнуць, вядома. Я на ўсякі выпадак выдаліў. Праўда, я адразу і новы завёў. Захацелася неяк „угарнуць“ з гэтай сытуацыі. Я падумаў сабе — а што будзе, калі назваць тэлеграм-канал „Экстрэмісцкі тэлеграм-канал“? То я так і зрабіў. Мэта — пабачыць у навінах паведамленьне пра тое, што Генэральная пракуратура Рэспублікі Беларусь прызнала тэлеграм-канал

„Экстрэмісцкі тэлеграм-канал“ экстрэмісцкім. Я калі гэта прачытаю, то буду тыдзень сьмяяцца. Можа, нават нехта Шнобэлеўскую прэмію атрымае.

Жонка мне пастаянна кажа, каб я быў акуратным і „фільтраваў базар“, так скажам. Але я ўжо і сам у тэме, сам стараюся быць асьцярожным. Фільтрую, так скажам. Бо калі б я пісаў усё, што я хачу напісаць, і так, як я хачу напісаць, я б з турмы не выходзіў увогуле ніколі! А так вось часам выходжу. Я ж не вар’ят, да парадаў жонкі прыслухоўваюся. Але не пісаць увогуле нічога мне не дазваляе маё сьветаадчуваньне і сумленьне. Трэба хаця б пісанінай рэагаваць.

У фэйсбуку я патлумачыў падпісчыкам прыроду ўласнага пачуцьця гумару, асабліва ў складаныя часы. Чым большы навокал „п... ц“, тым больш мне робіцца сьмешна. Найбольш весялосьці ў маім жыцьці зусім не цяпер. Яшчэ сьмяшней было ў 2011 годзе, калі мяне пасадзілі ў турму за падзеі 19 сьнежня 2010 году каля Дому ўраду ў Менску.

Тады было максымальна сьмешна. Там жа сытуацыя такая, што калі не сьмяяцца, то можа быць яшчэ горш. У турме настолькі дрэнна, што чалавек сам падсьвядома рэагуе на ўсё сьмехам. Калі не сьмяяцца за кратамі, то дах паедзе вельмі хутка. Але і зараз сьмешна, вядома. Зараз тое самае адбываецца. У любы момант могуць прыйсьці і „закрыць“ за што-небудзь. Я нават ня ведаю, за што. Гэта ўсё б’е па мазгах вельмі моцна, людзі жывуць у пастаяннай напрузе. А мая рэакцыя на такое — гэта сьмех.

Але я разумею, што ў Беларусі не аднаму мне, скажам так, ня вельмі добра. Хтосьці сядзіць і думае, дай я Вінаградава пачытаю, што ён там

яшчэ панапісваў. Дай зайду, гляну. Хай павесяліць мяне. Гэта прыкольна ўсё. Я рады, што людзям падабаецца, што яны чытаюць.

Адна з самых запамінальных гісторый апошніх месяцаў зьвязаная зь візытам да мяне ў дом міліцыі, якая нечакана прывезла мне забраную падчасператрусу яшчэ ў ліпені самагонку. Перад гэтым супрацоўнікі мясцовага РУУС прасілі мяне і майго бацьку забраць самагонку зь міліцэйскага пастарунку самім, але мы адмаўляліся. Прычына адмовы — артыкул Адміністрацыйнага кодэксу, які забараняе перавозіць самаробны алькаголь (захоўваць яго пры гэтым можна). У выніку ўся гісторыя набыла вядомасьць далёка за межамі Бярэзані.

Я б сам у гэта не паверыў, але ўсё так і было. Са мной адбываюцца неверагодныя сытуацыі. Калі б гэта было не са мной, то я б і не паверыў. Гэта ж яшчэ адбылося ў афіцыйны „Дзень цьвярозасьці“, які тады быў абвешчаны ў горадзе! Міліцыя ў Дзень цьвярозасьці арганізавала для мяне дастаўку самагонкі. Гэта як навіна з паралельнага сусьвету. Але вось усё яно так і было насамрэч. Яны хацелі вярнуць усё, што тады забіралі падчасператрусу. Ім так трэба па працэдуры. А мы з бацькам самастойна адмовіліся забіраць яе, бо мы ж ведаем, дзе мы жывём. Усякае тут бывае. Прыйдзем забіраць, яе трэба дадому прывезьці. А перавозка — ужо артыкул. Самагонка ж выдатная, між іншым. І яны самі прывезьлі — атрымайце, расьпішыцеся. Ніхто не злаваўся, нават пажартавалі. Звычайна ўсё адбылося.

У саміх міліцыянтаў таксама ёсьць пачуцьцё гумару, гэта 100%. Яно, вядома, можа быць вы-

чварэнскім. Калі амонаўцы ў аўтазаку пачынаюць жартаваць, што ў Курапаты цябе павязуць. І сядзяць сьмяюцца. Але ёсьць і выдатны чорны гумар у іх. Як прыклад, магу расказаць гісторыю, што адбылася, калі я сядзеў у жніўні 2020 году ў Бярэзінскім РУУС. Мяне тады ў дзень выбараў пасадзілі. То там у адзін зь дзён яны ў калідор ізалятара прынесьлі калёнку і ўключылі на ёй на ўсю гучнасьць песьню Аляксандра Саладухі „Зреет виноград зелёный“. Яна там вельмі доўга гучала на рэпіце. Прыкол я ацаніў. Гэта 10 з 10. Маёй жонцы таксама вельмі спадабалася.

За жарты ў складаныя для вялікай часткі беларусаў часы мяне пакуль ніяк і ніхто не папракаў. Нават у прыватных паведамленьнях. Хто ж мяне папракне ў чымсьці зараз, я ж публічна адмовіўся ўцякаць з краіны. Сьвятасьць гэтага ўчынку мае неверагодную веліч. Мяне немагчыма зараз у нечым папракаць. Яна ўсё пераважыла.

Ці можна будзе жартаваць „у мірны час“? Можна і пра кабачкі сьмешна напісаць. Хоць я ня ведаю. Магчыма, „у мірны час“ я стану панылым хмурным мужыком. А можа, і жартаваць працягну. Мой прагноз, што ўсё гэта скончыцца добра. Калі гэтае „добра“ будзе, я сказаць не вазьмуся. Але будзе дакладна. У 2020 годзе мы ўсе думалі, што ўжо вось-вось. У 2021 ужо няма такога адчуваньня. Але ў Беларусі проста няма іншага выбару, як стаць нармальнай дэмакратычнай краінай.

## *ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ*

Вітольд Ашурак, 50 гадоў, актывіст зь Лідчыны, загінуў у шклоўскай турме:

### *Яны галадранцы. І нас хочуць зрабіць галадранцамі*

*Усё тое, што было са мной у маёй памяці да турмы, са мной і засталося, як гэта ні дзіўна зь першага погляду. А калі не адбылося пераасэнсаваньня, то гэта азначае, што мая сьвядомасьць засталася на тых самых пазыцыях, што і была да турмы.*

*Адзінае, з чым я сутыкнуўся, — сны. Такіх пяшчотных і пранізьлівых, раней, бадай што, і не было. У снах да мяне прыходзілі маці, брат, жонка, мае пляменьнікі... Гэта было шчымліва прыемна, выклікала боль, супакойвала — цэлая палітра эмоцый.*

*Калі я яшчэ сядзеў у лідзкім ЦІП, то зьвярнуў увагу на тое, што пры рэгістрацыі і мяне, і іншых пратэстоўцаў міліцыянты з задавальненьнем запісваюць у графе „занятак“ — „Не работает“.*

*І я ўспомніў тады словы маёй бабы Мані, якая была сьведкай прыходу на нашу зямлю камуністаў. Яна часта казала нам з братам, калі мы былі дзецьмі і хадзілі ў школу: „Дзеткі, ня верце бальшавікам. Яны галадранцы. І яны нас хочуць зрабіць галадранцамі“.*

*І вось прайшлі дзесяцігодзьдзі — і я разумею, што мая любая баба мела рацыю: міліцыянты сьвядома запісваюць нас „неработаюшчымі“, каб дыскрэдытаваць, выставіць нас „галадранцамі“. Хоць самі ў жыцьці ніколі не працавалі.*

## *Ты выхавала мяне правільна, мама*

*Мая любая мама!*

*Атрымаў учора перад адбоем Твой ліст і доўга чытаў і перачытваў яго! Ён маленькі — усяго некалькі словаў, але такі эмацыйны і пранізьлівы, што аж сэрца сьціскаецца!*

*Я таксама сумую па табе, мама! Тыя людзі, што гавораць, маўляў, дарослым не патрэбная мама, памыляюцца! Я памятаю ўсё, як ты адна гадавала нас з Андрэем, як табе хацелася, каб мы вырасьлі прыстойнымі людзьмі!*

*І цяпер мне вельмі важна, каб Ты была здаровенькая і радавалася за сваіх дзяцей і ўнукаў! А яно так і атрымалася! Ты добра выхавала нас з Андрэем! Ніхто ня будзе пароць Табе вочы, што Твае сыны злодзеі ці афэрысты! Наадварот, мяне пасадзілі менавіта таму, што я казаў праўду, і заклікаў не мірыцца з жулікамі.*

*Каб я, мама, не ўзначаліў нашую Рэвалюцыю ў Лідзе, то, пэўна, што я сам сябе не паважаў бы! А калі ты ўжо сам сябе не паважаеш, то ці варта чакаць павагі ад другіх людзей? Калі на 135 тысяч людзей Лідчыны ў нас не знайшлося хаця б аднаго, хто ўзяў бы на сябе адказнасьць падняць Паўстаньне за Праўду, то хто тады будзе нас, беларусаў, паважаць?*

*На шчасьце, у нас цудоўныя людзі, і яны мяне падтрымалі ўсёй душой! А цяпер, калі я часова патрапіў у турму, людзі яшчэ больш падтрымліваюць мяне, дасылаюць лісты і паштоўкі, перадаюць перадачы і перасылаюць грошы, выпісваюць мне газэты і моляцца па ўсёй Беларусі ў цэрквах і касьцёлах!*

*Лістоў столькі, што я ледзь пасьпяваю адказваць! Я нават пакуль што прыпыніў вывучэньне ангельскай мовы, каб было болей часу на пісаньне адказаў. Пішуць зь Бярозаўкі і Ліды, Горадні і Менску, Берасьця і Віцебску, Магілёва і Гомлю! Пішуць з Брытаніі нашыя беларусы, якія зьехалі за мяжу, але перажываюць за сваю Айчыну! Пішуць беларусы з Бэльгіі, Фінляндыі, ЗША і нават беларусы Бразыліі!*

*Учора за адзін вечар мне прыйшло 17 лістоў! Ідуць тэлеграмы са словамі падтрымкі! Увесь сьвет ганарыцца і падтрымлівае нас! Мне пішуць беларускія ксяндзы зь Менску і Віцебску, каб павіншаваць зь Вялікаднем і выказаць словы падтрымкі і захапленьня тым, што мы ня мірымся зь няпраўдай!*

*Мама! Людзі паважаюць мяне! Ты выхавала мяне правільна! Упэўнены, што табе гавораць на вуліцы ў Бярозаўцы часта гэтыя словы!*

*А за мой побыт у турме не перараймайся, калі ласачка! Усё, што трэба, я маю! Тым больш, што Ты ж ведаеш, што я чалавек даволі сьціплы!))) Дзяўчаты-валянтэры рэгулярна робяць перадачы, так што ежы хапае, ды я яшчэ дапамагаю тым, каму перадач няма.*

*Людзі ў камэры ўсе прыстойныя. Прыкладна аднаго са мной узросту. Са шпаной мяне ня садзяць! У камэры цёпла. Кожны дзень шпацыры на сьвежым паветры цягам гадзіны. Людзі ў камэры не канфліктныя. Большая частка — палітычныя. Мяне паважаюць. Так што падстаў для клопату няма!*

*Учора прыяжджала на „сьвіданку“ Вольга [жонка]. Дзьве гадзіны гаварылі зь ёй. Казалі мне, што Ты вельмі сумуеш, але трымаесься малайцом! Трымайся, мама!*

*Вер, што 5 гадоў я сядзець ня буду! Ідуць перамены, і яны прынясуць мне свабоду і сустрэчу з Табой! Памятай, мама, што я абавязкова вярнуся дадому! Моцна-моцна цябе абдымаю!*

*Твой сын Вітольд.*

## Здымкам каля ялінкі парушыў Канвэнцыю ААН

*Ігар Краўчанка, Гомель:*

Больш за ўсё міліцыю разьюшыў фатаздымак каля ялінкі ў 5-м мікрараёне, зроблены 1 студзеня, на якім я нібыта стаяў са сьцягам. Я адмаўляў, што на фота я. Але міліцыю доказы не цікавілі, і там склалі пратаколы менавіта на мяне. Судзьдзём у справах быў Аляксандар Мохараў, які даўно займаецца палітычнымі прысудамі. Там цікавостка ў пастанове суду была. Яны змаглі прыплесьці, што я парушыў Канвэнцыю ААН у правах чалавека. Усе ўжо сьмяяліся. Я бачыў сотні рашэньняў суду, але ўпершыню яны спасылаліся на Канвэнцыю.

## Мне далі „дзяржаўнага“ адваката за 800 рублёў

*Аляксей Раманаў, пэнсіянэр па інваліднасьці, Гомель:*

Улетку 2020 году займаўся агітацыяй за Сьвятлану Ціханоўскую. Ну, а потым судзілі ў Хойніках у закрытым судзе за „абразу прэзыдэнта“. Мне далі „дзяржаўнага“ адваката. Хоць я і сплаціў ёй

800 рублёў, але ўся яе дапамога была ў тым, што на судзе яна сказала адзіную фразу: „Прашу прызначыць майму падабароннаму штраф у памеры 30 базавых велічынь“. Вось такая абарона.

## У закрытым судзе ёсьць свае бонусы

*Уладзімер Цыгановіч, 41 год, блогер:*

У закрытым судзе ёсьць свае бонусы. Напрыклад, няма неабходнасьці ў такую сьпёку некуды ехаць. Усё на месцы. Сёньня ў мяне ўсё хутка скончылася. Дарэчы, вуліца Кніжная ў Гомелі на мапе 1910 году называлася вуліцай Турэмнай.

## Судзьдзя шэптам сказала, што паспрабуе выпусьціць усіх

*Юры Дзівакоў, тэатральны рэжысэр і актор:*

Увосень 2020-га мы сыгралі ў дварах батлейку „Цар-Цар“ разам зь іншымі акторамі Свабоднага тэатру. Толькі цяпер я зразумеў, што граць спэктаклі было ня страшна, а класна, нават нягледзячы на тое, што падчас выступу ў Прылуках прыехалі два бусы зь людзьмі ў масках. 8 лістапада мяне затрымалі. Пасьля Заводзкага РУУС сярод ночы вывезьлі ў Жодзіна, дзе ўжо на наступны ранак адбыўся суд. Мне трапілася судзьдзя, якая шэптам сказала: „Хутчэй падпісвайце пратакол, я тады паспрабую сёньня выпусьціць больш людзей“. З нашай партыі выпусьцілі ў той дзень сапраўды ўсіх, але ня ўсе атрымалі штраф, у некаторых справы накіравалі на дапрацоўку.

## Нават падумаць кепскае для нас лічыцца грахом

*Юры Седзянеўскі, 39 гадоў, Горадня (апошняе слова):*

6 верасьня я вырашыў пайсьці паглядзець на людзей, якія выступаюць супраць гвалту. Па дарозе я стаў сьведкам гвалту з боку „людзей у чорным“. Цяпер мяне вінавацяць у гвалце, такая іронія. З самага дзяцінства я ня памятаю, каб я зь некім нават біўся. Усе мяне лічаць дыпляматам, у любых стасунках, калі ёсьць напал, я спрабую гэта залагодзіць. З самага дзяцінства мяне прывучалі да традыцый хрысьціянства, а ў хрысьціянства законы і парадкі значна больш жорсткія, чым у нашай сыстэме. Мы як хрысьціяне працуем ня толькі над сваімі ўчынкамі, але і над тым, што мы кажам, і нават над тым, што мы думаем. Нават калі мы падумаем нешта кепскае, для нас гэта ўжо лічыцца грахом.

## Па кватэры белыя коні скачуць, а яна ня бачыць

*Жанна Захаркевіч, 47 гадоў, Горадня (апошняе слова):*

Людзі, якія парушаюць закон, хаваюцца ад народу, хаваюць свае твары. Я дагэтуль ня веру, што гэта былі супрацоўнікі амону, ва ўсялякім выпадку гарадзенскага, беларускага. Мы бачылі тыя зьверствы, дзе сярод мірных людзей маглі ака-

зацца суседзі, сябры, сваякі, на маім месцы маглі аказацца аднакласьнікі. У мяне на гэтую сытуацыю толькі анэкдот круціцца ў галаве: „Тэлефануе мужчына ў хуткую і кажа: „Прыяжджайце. Маёй жонцы блага“. — „А што зь ёй?“ — „Па кватэры белыя коні скачуць, а яна ня бачыць“. Толькі так я магу апісаць гэтую сытуацыю.

## Тата, я хачу стаць міліцыянтам

*Уладзімер Седзянеўскі, 36 гадоў, Горадня (апошняе слова):*

Я б хацеў расказаць крыху пра сябе. Я нарадзіўся ў Горадні, вырас у Горадні. За гэты час я ні разу не сутыкаўся з падобнымі сытуацыямі, мяне не прыцягвалі да адказнасьці, я не парушаў ніякіх парадкаў. У адзін сонечны дзень адбылася такая адметная падзея для мяне і маёй сям'і. Я проста выйшаў прагуляцца, паглядзець. Так атрымалася, што мой шпацыр скончыўся ня вельмі добра для мяне і ўсёй маёй сям'і. Мне здаецца, кожны чалавек можа трапіць у такую сытуацыю. Пару словаў я б хацеў сказаць пра сваю сям'ю, пра свайго сына. Гадоў 5 таму ён сказаў мне: „Тата, я хачу стаць міліцыянтам“. Я ў яго пытаюся: „А хто такі міліцыянт, якім ён павінен быць?“. Я яму кажу, што ён павінен быць мудрым, сумленным, прыстойным, ён павінен абараняць слабых. Прайшоў час, а я кожны раз пытаюся ў яго: „Кім ты будзеш?“, а ён мне заўжды кажа: „Я хачу стаць міліцыянтам“. Я ня ведаю, што яму на гэта адказваць. Сёньня такі адметны дзень — дзень міліцыі. Сёньня дзень народзінаў майго сына.

## Акцыі студэнтаў не парушалі навучальнага працэсу

*Ільля Трахтэнбэрг, былы студэнт БДУ (апошняе слова):*

Няма доказаў таго, што я ўступаў у змову зь іншымі падсуднымі для арганізацыі пратэстаў студэнтаў, у чым мяне абвінавачваюць. Няма і сувязі паміж падзеямі на тэрыторыі БДУ і маімі допісамі ў чаце. Хай бы знайшлі хоць аднаго студэнта, які пайшоў на акцыю пад уплывам маіх допісаў. Не было і грубых парушэньняў грамадзкага парадку ў БДУ. Гэта засьведчыў і прарэктар БДУ Іван Янушэвіч, які сказаў, што акцыі студэнтаў у БДУ не парушалі навучальнага працэсу. Гэтая крымінальная справа выключна палітычна матываваная. Запэўніваю вас, што ня быў пад уплывам „нейкіх людзей зь іншых краін“. Пра тое, што са мной адбылося, не шкадую. Я застануся свабодным чалавекам.

## Шчырасьць у людзях будзе цаніцца найбольш

*Вольга Філатчанкава, былая выкладчыца БДУІР (апошняе слова):*

Мне выпаў гонар выкладаць у адной з найлепшых ВНУ краіны. І рабіла я гэта не за грошы, а за сумленьне. Я атрымлівала задавальненьне ад выкладаньня і кантактаў з моладзьдзю, для якой не пашкадую найлепшых словаў. Але, на вялікі

жаль, цяперашняя сытуацыя прымушае шмат каго зь іх пакінуць родную Беларусь. А ўсё з-за таго, што яны не пабаяліся выказаць свае думкі, што гарантавана Канстытуцыяй. Маладыя людзі, якія знаходзяцца разам са мной у жалезнай клетцы, маглі б атрымліваць новыя веды, рабіць шмат карыснага, але ўжо 8 месяцаў знаходзяцца за кратамі. Веру, што мы будзем жыць у вольнай краіне, пабудаванай нашымі рукамі. У краіне, дзе шчырасьць у людзях будзе цаніцца найбольш. Хочацца, каб гэты час надышоў хутчэй. Дзякую ўсім родным і асабліва дачцэ Машы, якой праз тры дні будзе 8 гадоў. У думках абдымаю цябе моцна-моцна і люблю.

## Я беларуска і маю права на свабоду думкі

*Анастасія Булыбенка, былая студэнтка БНТУ (апошняе слова):*

Я не лічу сябе вінаватай, але мусіла правесьці 8 месяцаў у СІЗА за свае думкі. Я беларуска і маю права на свабоду думкі. Але я ніколі не выходзіла за межы закону. Я не злачынца. Я выйшла на пратэст супраць гвалту, беззаконьня і хлусьні. Мая мэта як студэнткі ВНУ — ня толькі набыць веды, але і раскрыцца як асоба. Мы — пакаленьне талерантнасьці, свабоды і жаданьня зьмяніць сьвет да лепшага. І гэта не злачынства. Гэта мы. Мамачка, ты заўжды вучыла мяне быць добрай, сумленнай, справядлівай да сябе і тых, хто вакол, ты вучыла мяне слухаць сэрца.

## Адзіны магчымы прысуд — апраўдальны

*Тацяна Якельчык, былая студэнтка мэхмату БДУ (апошняе слова):*

Паўтару суду тое, што казала на допыце. Усе свае дзеяньні рабіла паводле сумленьня і ніколі не парушала законаў Беларусі. Прашу суд не пазбаўляць усіх падсудных у гэтай справе волі, даць студэнтам магчымасьць давучыцца і вынесьці адзіны магчымы прысуд — апраўдальны.

## Хачу пахваліць нас усіх за тое, што мы пратрымаліся

*Кася Будзько, актывістка ЗБС, навучалася ў пэдагагічным унівэрсытэце (апошняе слова):*

Хачу пахваліць нас усіх за тое, што мы пратрымаліся. Усе вельмі цікавыя і разумныя людзі. За 8 месяцаў у СІЗА я пабачыла зрэз грамадзтва і пераканалася, што яно дагэтуль баіцца праблем, закрывае на іх вочы, бо гэтак лягчэй, але ў мяне іншы шлях. Люблю Беларусь з усімі яе плюсамі і мінусамі, нават пасьля гэтых 8 месяцаў. Такая салідарнасьць беларусаў абавязкова дасьць плён.

Я думаю, што на кожным з нас ляжыць адказнасьць за тысячы зьнявечаных лёсаў, што ў нейкі момант чалавек спатыкнуўся і зусім не было каму працягнуць яму руку дапамогі, ніхто не зьвярнуў увагі. Гэта разважаньне пра тое, што мы ўсе жывём разам, побач адзін з адным. Кожнае нашае дзеяньне ці нават бязьдзеяньне нараджае ланцуг наступстваў...

## Згадваю тых, хто навучыў мяне танцаваць кракавяк

*Яня Арабейка, былая студэнтка БДПУ (апошняе слова):*

8 месяцаў таму нас завялі ў СІЗА, поўнае страху і жаху. Са мной ды іншымі фігурантамі справы гэта рабілі такія ж маладыя людзі. У зьняволеньні з удзячнасьцю згадваю тых, хто навучыў мяне танцаваць кракавяк, падарыў самую лепшую віншавальную паштоўку, навучылі розным побытавым сакрэтам. Час за кратамі не пераканаў мяне ў тым, што страх лепшы за давер.

## Ганаруся тым, што я беларуска

*Алана Гебрэмарыям, выпускніца МДМУ (апошняе слова):*

Я адмаўляю абвінавачаньні ў арганізацыі і каардынаваньні студэнцкіх пратэстаў. Я мала каго знала з тых, з кім цяпер сяджу на адной лаве падсудных. Са жніўня я была пад пільнай увагай спэцслужбаў, але рэальных доказаў маёй „арганізатарскай ролі“ так і не прадстаўлена. Зь дзяцінства я хацела прысьвяціць сябе дапамозе людзям і таму абрала прафэсію лекара. Я мірны чалавек, але рашуча супраць дыскрымінацыі, зьнявагі і гвалту. Калі студэнты паспрабавалі дамагчыся дыялёгу з кіраўніцтвам ВНУ, я не магла не далучыцца і не паведаміць ім пра магчымасьць навучаньня за мяжой. Не павінны студэнты знаходзіцца ў турмах — гэта шлях у нікуды. Яны дакладна не

злачынцы. Закон павінен дзейнічаць для ўсіх, а калі ён дзейнічае для аднаго, гэта ненармальна. Я патрабую для ўсіх падсудных апраўдальнага прысуду і ганаруся тым, што я беларуска.

## Яны зьехалі, таму што мы тут

*Ксенія Сырамалот, былая студэнтка філязофскага факультэту БДУ (апошняе слова):*

Бацькі навучылі мяне спагадзе і любові да іншых людзей, і я ганаруся бацькамі і тым, што мяне выхавалі менавіта гэтак. У матэрыялах справы ёсьць доказы таго, што я таленавітая і ўмею дапамагаць людзям, а вось доказаў зьдзяйсьненьня злачынстваў там няма. Восеньню 2020 году я брала ўдзел у запісе відэазвароту студэнтаў і выкладчыкаў БДУ. У ім ані слова няма пра страйк, а дэкляруюцца рэчы, прапісаныя ў Канстытуцыі. Хіба згадваць Канстытуцыю — гэта злачынства? Я не выключаю ад’езду з краіны таленавітых людзей — навукоўцаў, айцішнікаў, архітэктараў і мастакоў — якіх не задавальняе адсутнасьць свабоды. Хай тады не пытаюцца, чаму яны зьехалі. Таму што мы тут.

## Калі бачу чалавека ў форме, я яго баюся

*Вікторыя Гранкоўская, былая студэнтка БНТУ (апошняе слова):*

Падзеі жніўня моцна паўплывалі на ўсіх нас. Я ніколі не мірылася і ня буду мірыцца з гвалтам над мірнымі людзьмі. Беларусь для мяне дом, а

беларусы — вялікая сям’я. Мяне зь дзяцінства вучылі спачуваньню. Я нікога не заклікала і не навучала, але спрабавала быць пасярэднікам паміж студэнтамі і рэктаратам, старалася дамовіцца аб сустрэчы. Але 1 верасьня мяне затрымалі проста на тэрыторыі БНТУ, і гэтых падзей я забыць не магу. Два маладыя чалавекі ў чорнай вопратцы цягнулі мяне па двары ўнівэрсытэту, я крычала, клікала дапамогу, зьвярталася да ахоўнікаў, але ніхто мне тады не дапамог. Але на наступны дзень некалькі бацькоў прыйшлі і заступіліся за мяне. Мы, студэнты, зусім неабароненыя. Ня ведаеш, калі і дзе цябе забяруць — вось чаго мы баяліся. Я ніколі ня думала, што буду баяцца людзей у форме, у мяне шмат знаёмых афіцэраў, але цяпер, калі бачу чалавека ў форме, я яго баюся. Я працягваю верыць, што сумленных людзей больш. Прашу вынесьці справядлівае рашэньне адносна ўсіх.

## Я буду сядзець столькі, колькі асабіста захачу

*Сьцяпан Латыпаў, абаронца „плошчы Перамен“ (апошняе слова):*

Я буду сядзець столькі, колькі асабіста захачу. Якую цану за гэта буду плаціць — іншае пытаньне. Але вырашаць буду толькі я. Я буду вырашаць, працягнецца судовае паседжаньне ці не. Я буду вырашаць, вярнуся я сёньня з канвоем або з „хуткай дапамогай“. Гэта маё права. Гэта мая свабода. Самае балючае, што я з усіх сіл спрабую ставіцца да судзьдзі, як да прафэсіянала, які знаходзіцца ў вельмі няпростай сытуацыі. Але мне не ўдаецца.

## Я тут, бо жыву паводле Божых запаветаў

*Вольга Залатар, маці пяцярых дзяцей*
*(апошняе слова):*

Я тут, бо я неабыякавы чалавек. Я тут, бо жыву паводле Божых запаветаў. Я тут, бо я мама, якая хоча абараніць сваіх дзяцей. Як мама і як каталічка я стаю на варце чалавечай годнасьці і духоўнай каштоўнасьці. Усе мае дзеяньні і выказваньні прадыктаваныя любоўю да людзей і нянавісьцю да хлусьні і гвалту. Матэрыяламі справы маім дзеяньням нададзеныя сэнсы, якіх я ня мела на ўвазе, і звычайныя чалавечыя ўчынкі, рэакцыі, пачуцьці крыміналізаваныя. Матэрыяламі справы ёсьць фота з плякатам, на якім напісана: „Мір, любоў, свабода“. Я падпісваюся пад кожным словам. Я хачу міру для сваёй роднай краіны. Я хачу, каб у маёй краіне панавала любоў да Бога і людзей. Я хачу, каб кожны чалавек меў свабоду выбару. Я хачу скончыць словамі Ўладзімера Караткевіча: „На Беларусі Бог жыве“. Жыве Бог! Жыве вечна.

## Я перад бандытамі не ўстаю

*Паліна Шарэнда-Панасюк,*
*грамадзкая актывістка, Берасьце*
*(дыялёг з судзьдзём Яўгенам Брэганам):*

Брэган: Абвінавачаная, устаньце, калі ласка.

Паліна: Я перад бандытамі не ўстаю.

Брэган: Я вам яшчэ раз тлумачу, што на судовым пасяджэньні паказаньні вы павінны даваць стоячы. Гэта вам зразумела? За парушэньне па-

радку вы можаце быць выдаленыя з залі… Імя вашае і год нараджэньня… Пад вартай па гэтай крымінальнай справе зь якой даты знаходзіцеся?

Паліна: З трэцяга студзеня.

Брэган: Ці з шостага?

Паліна: Захоплена ў палон трэцяга студзеня.

Брэган: Копію пастановы пракурора аб перадачы крымінальнай справы для накіраваньня ў суд атрымлівалі?

Паліна: Ведаеце, я вашымі бандыцкімі паперамі асабліва не цікаўлюся. Усе гэтыя паперы будуць перададзеныя міжнароднаму трыбуналу па зьвяржэньні „лукашызму“.

Брэган: Вам зразумелыя правы і абавязкі?

Паліна: Я вас не лічу судзьдзёй.

Брэган: Абвінавачаная, устаньце, калі ласка. Тлумачу вам, што вы можаце заявіць адвод судзьдзі.

Паліна: Вы не судзьдзя.

Брэган: Не давяраеце разглядаць крымінальную справу?

Паліна: У Беларусі магчымая толькі адна крымінальная справа — па факце незаконнага захопу ўлады.

Брэган: Устаньце, калі ласка. Вы асабіста заяўляеце адвод суду?

Паліна: У Беларусі няма судоў. Пасьля 1995 і 1996 гадоў быў праведзены дзяржаўны пераварот на чале з Лукашэнкам. Цяпер няма ніводнай легітымнай структуры, няма легітымнага заканадаўства, парлямэнту, у тым ліку і суду.

Брэган: Вы заяўляеце адвод? Устаньце!

*Паліна падымаецца з лавы.*

Паліна: Я ўстаю толькі таму, што мне быў прычынены гвалт. Яго прычынялі ў СІЗА,ператвораным у прыватную турму Лукашэнкі. Гвалт прымяняецца практычна да ўсіх палітвязьняў.

Брэган: Я ў вас пра іншае пытаюся.

Паліна: Вы ня суд. Можаце назвацца сталінскай тройкай, як заўгодна. Але вы не легітымны суд. І больш мяне не пытайце.

Брэган: Гэта значыць, асабіста мне вы заяўляеце адвод? У сувязі з чым?

Паліна: Я заяўляю адвод сыстэме і вам як прадстаўніку гэтай сыстэмы.

Брэган: Ці зразумелыя вам прад'яўленыя абвінавачаньні?

Паліна: Гэта не абвінавачаньне, а палітычна матываванае злачынства. Толькі народ — крыніца законнай улады. Ні фальшывыя пратаколы галасаваньня, ні тысячы дубінак, нічога з гэтага не дае вам права на кіраваньне дзяржавай. У жніўні 2020 году народ Беларусі выбраў кіраўніком дзяржавы Сьвятлану Ціханоўскую. А тыя, хто мае дачыненьне да злачыннага захопу ўлады, паводле азначэньня зьяўляюцца бандытамі і саўдзельнікамі крымінальнага злачынства.

Брэган: Па прад'яўленым абвінавачаньні вам усё зразумела?

Паліна: Гэта палітычны перасьлед. Я не магу быць вінаватай ці невінаватай.

Брэган: Значыць, вінаватай вы сябе не прызнаеце, я вас правільна зразумеў?

Паліна: А вы сябе прызнаеце вінаватым?

Брэган: Пытаньні суду не задаюць.

Паліна: Вы ўдзельнічаеце ў палітычных рэпрэсіях.

Брэган: Пытаньне здымаецца.

Паліна: Не, пытаньне не здымаецца. Пытаньне фальсыфікацыі выбараў яшчэ не закрытае. Яно будзе закрытае тады, калі Лукашэнка будзе адхілены ад улады і над усімі, хто бярэ ўдзел у гэтых дурных працэсах, тых, хто зьдзекуецца зь людзей, аддае злачынныя загады, пройдуць сапраўдныя суды. Вось тады гэтае пытаньне будзе закрытае. Гэты судовы працэс мае ролю хоць бы ў тым, што нам вядомыя ўсе імёны і прозьвішчы гэтых людзей, і потым ніхто ня скажа, што яны ня бралі ўдзелу, што яны ні пры чым. Называйце вашыя імёны і званьні. І вы ўсе панесяце адказнасьць. Вы яшчэ самі не разумееце, ува што вы ўляпаліся. Гэтае кляймо застанецца з вамі на ўсё жыцьцё.

## Баюся, што яна будзе помсьціць мне яшчэ больш

*Вольга Сінялёва, 33 гады, уладальніца менскай кватэры:*

Мяне асудзілі на два гады „хатняй хіміі“ за тое, што адмовілася здаваць кватэру намесьніцы пракурора Аліне Касьянчык. Я ня згодная з прысудам і буду раіцца са сваёй адвакаткай наконт яго абскарджаньня. Суд быў закрытым і гэта не дазваляе мне расказаць падрабязнасьці ўсёй справы.

Я не лічу сябе вінаватай, мяне мусяць апраўдаць. Гэта нейкі абсурд, што маю свабоду абмяжоўваюць за такі выпадак. Падрабязьней я не магу сказаць. Гэта вельмі дзіўна, што частка майго жыцьця раптам стала засакрэчанай. Я нічога не

магу сказаць людзям, як гэта ўсё было, ні слова ў сваё апраўданьне, пры тым, што пракуратура гэта можа публікаваць. А я не магу гэта аспрэчыць, і ніхто ня ведае, што там было папраўдзе. Проста нейкі абсурд.

Не было ніякіх падстаў для пачатку гэтай справы, я нічога не рабіла ні крымінальнага, ні нават адміністрацыйнага. Мяне зьдзівіла, што суд на поўным сур'ёзе разьбіраў гэтую справу. Нейкія яшчэ свае ўражаньні я баюся гаварыць, бо асьцерагаюся, што яна [Касьянчык] будзе помсьціць мне яшчэ больш.

Вядома, я перажывала, бо калёнія для мяне магла быць сьмяротнай як для жанчыны, якая корміць груднное дзіця. Бацькі перажывалі. Бацька сказаў, што дачкой ён ганарыцца, хаця ён таксама ўсё ведаў збольшага з мэдыя.

## Рыхтавацца да самагубства пачаў адразу пасьля допыту

*Сьцяпан Латыпаў, абаронца „плошчы Перамен“:*

Людзі ў масках занесьлі мяне ў мікрааўтобус. Зацягнулі рукі за сьпінаю, надзелі на галаву сьмецьцевы пакет і павезьлі. Двойчы перасаджвалі з аўтобуса ў аўтобус. Потым уключылі радыё на ўсю моц і пачалі біць. Ніколі не было так страшна. Людзі ў масках білі рукамі, нагамі, дубінкамі. Усе гуртам і па адным. Выкручвалі рукі, ногі за сьпінаю, ластаўкай, білі кулакамі і далонямі па вушах так, каб у галаве нібы выбухала граната.

Білі дубінкай па ягадзіцах. Абапірацца я ня мог яшчэ тры тыдні. Я крычаў, задыхаючыся ў чорным

пакеце, а яны сьмяяліся. Казалі: „Не крычы, твая Ціханоўская не пачуе“. Калі было асабліва балюча, я ўспамінаў словы маці, яна вучыла мяне гаварыць сабе: „Я маленькі-маленькі вожык, мне зусім не балюча“. І гэта ў нейкае імгненьне дапамагала. Але яны вельмі вопытныя, пастаянна называлі па імені, і ў мяне не атрымлівалася адключацца.

Рыхтавацца да самагубства пачаў адразу пасьля допыту. На сустрэчы з адвакатам браў кавалачак фольгі, падбіраючы форму і памер так, каб іх ня мог выявіць канвой. Забойца-рэцыдывіст за пакет кавы расказаў пра надгляд, а злодзей-кішэньнік навучыў хаваць лязо. Пазьней мне параілі абматаць мэтал кавалачкам плястыру, каб ня сьлізгаў па пальцах. Плястыр я наклеіў на тэчку з дакумэнтамі, а потым пераляпіў на куртку.

Нікога і не зьбянтэжыла, што ўсю першую палову пасяджэньня я плёў кляп, каб сысьці годна, не скуголячы ад болю. Мэтай ставіў перарэзаць адну з сонных артэрый. З правага боку, дзякуючы ўхілу налева, атрымалася, я адчуў пальцамі цяпло... Потым тузануў за нагу канваір, я стукнуўся галавой і ўпаў. Было страшна і сорамна, бо спроба выйшла няўдалай.

## Дакажыце, што вы не баязьлівец

*Дар’я Лосік, жонка палітвязьня:*

Хвіліначку ўвагі, мяне завуць Дар’я Лосік, і я жонка палітвязьня Ігара Лосіка.

Я хачу зьвярнуцца да ўсіх, хто мае дачыненьне да сёньняшняга бязладзьдзя. А менавіта да

судзьдзяў, пракурораў, прадстаўнікоў праваахоўных органаў, работнікаў СІЗА і, вядома ж, да грамадзяніна Лукашэнкі. Сёньня ўвесь гэты фарс, увесь гэты спэктакль пад назвай „суд у справе Ціханоўскага“ падышоў да канца.

Як вы сябе адчуваеце пасьля гэтага ўсяго, я пытацца ня буду, але вельмі спадзяюся, што кепска.

Як вам жыць далей, абдымаць сваіх дзяцей, блізкіх і любімых людзей, ведаючы, што вы нарабілі сёньня? Спадзяюся, што кепска. Як гэта — усьведамляць, што зламалі лёсы і жыцьці невінаватым людзям? Спадзяюся, што балюча.

Вы растапталі ўсе законы і нормы права, хоць ваша праца — іх выконваць. Вы схаваліся за дзьвярыма СІЗА, судоў і таніраваных мікрааўтобусаў у надзеі, што ніхто і ніколі ня ўбачыць вашых твараў, а вашыя справы, чорныя справы, ніколі ня выйдуць вонкі. А дарма, бо судзьдзі, пракуроры, сілавікі ў гэтай гульні проста пешкі, якія пры нязручным раскладзе пойдуць у расход. Сыстэма зжарэ іх гэтаксама, як цяпер пажырае сумленных і выдатных людзей у засьценках турмаў.

Таму я чарговы раз зьвяртаюся да грамадзяніна Лукашэнкі.

Аляксандар Рыгоравіч, па ўсіх тэлеканалах і інтэрнэт-рэсурсах дзяржпрапаганды трансьлююць прамовы пра тое, які вы сьмелы, як вы самаахвярна і непахісна ратуеце краіну ад усіх мажлівых і неймаверных напасьцяў. Вельмі цікава, бо вы змагаецеся з такімі нібыта страшнымі пагрозамі, але сустрэцца з адной простай дзяўчынай, жонкай і мамай, у вас сьмеласьці не хапіла. Дык можа дакажаце, што гэта ня так.

І паўтаруся, я адна, а вы можаце пасадзіць мяне ў адзін з вашых таніраваных мікрааўтобусаў, прыставіць мне да скроні пісталет і ў рэжыме поўнай ананімнасьці адвезьці туды, куды вам будзе заўгодна. Чаго ж вы баіцеся? За вашай сьпінай, як вы ўжо сказалі, 90% падтрымкі, а асноўная маса — гэта ня толькі сілавікі, але і простыя людзі.

Давайце ж сустрэнемся, і я раскажу, праз што дзякуючы вашым падначаленым праходзіць наша сям'я. Як гэта — пераражыць дзьве галадоўкі мужа, даведацца, што ён спрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам проста на вачах аднаго з вашых так званых сьледчых; як гэта, калі цябе зьмяшчаюць у камэру з псыхічна нездаровымі людзьмі, і як гэта — даведацца, што псыхоляг у СІЗА-3 Гомля падштурхоўвае твайго мужа на новую спробу суіцыду. Я раскажу ў колерах і фарбах пра свае пачуцьці, якія ўзьнікаюць, калі наша дачка дзень пры дні пытаецца: „Мама, а дзе тата і чаму ён ня ходзіць са мной гуляць у парк?“. А вы паспрабуеце растлумачыць мне, навошта мы прайшлі і працягваем праходзіць праз усе гэтыя катаваньні.

Вы казалі, што не ваюеце з жанчынамі, але мой прыклад і прыклад дзясяткаў жанчын-палітвязьняў сьведчыць пра адваротнае.

Я думаю, што тэмаў для абмеркаваньня больш чым дастаткова.

Выбар месца і часу я пакідаю за вамі. Уцякаць і хавацца за мяжой я не зьбіраюся. Дакажыце мне, што вы не баязьлівец. Чакаю запрашэньня.

## ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ

Максім Знак, адвакат:

### *Наша праблема — не рэжым, а паталягічная хлусьня*

*І ўсё ж я не магу зразумець: як, ведаючы ня толькі пра ўсе публічныя ўчынкі, а і пра кожную думку тых, хто працаваў разам са мной тым летам, можна выкладаць усё з дакладнасьцю да наадварот у дакумэнце, які накіраваны на зьмену жыцьця чалавека на пэрыяд да 12 гадоў? Гэта не ўкладаецца ў галаве.*

*Самае сумнае, што, зыходзячы з сэнсу абвінавачаньня, экстрэмістамі можна лічыць усіх годных беларусаў, якія ўвайшлі ў Каардынацыйную раду. Сытуацыя на самой справе дзіўная: у заканадаўстве — дэмакратычныя прынцыпы, афіцыйная прапаганда таксама апэруе ідэаламі законнасьці, дэмакратыі і справядлівасьці. Але пры гэтым відаць, што адным і тым жа дзеяньням розныя бакі на падставе адных і тых жа дэклараваных ідэалаў даюць супрацьлеглыя ацэнкі. Гэта значыць, хтосьці хлусіць, а замест абмеркаваньня ідэалаў трэба нарэшце перайсьці да абмеркаваньня фактаў.*

*Наша праблема — не рэжым, а перш за ўсё паталягічная хлусьня. Прававы дэфолт — гэта не асобныя парушэньні, а стан сыстэмы ў цэлым. Нельга трошкі парушыць закон пры яго ўжываньні — заганныя практыкі будуць распаўзацца па розных сфэрах, бо так зручней. Але, як паказвае гісторыя, у канчатковым выніку кола замыкаецца, і заганная практыка вяртаецца да тых, хто яе выкарыстаў.*

## *Прывыкнуць — азначае прыняць навязаную думку*

*Год таму я шмат працаваў дзеля дабра і на падставе закону. Таму ў мяне чыстае сумленьне наконт вартасьці маіх дзеяньняў.*

*Вядома, умовы ўтрыманьня цяпер лепшыя, але я дакладна ведаю, што яны могуць пагоршыцца ў кожны момант. Чалавек прывыкае да ўсяго, а ў беларусаў прывыканьне да цяжкасьцяў лічыцца нацыянальнай асаблівасьцю!*

*У пэўным сэнсе я прызвычаіўся да затрыманьня, і дні ідуць, напоўненыя дзейнасьцю, якая можа падацца звычайнаму чалавеку вельмі дзіўнай. Я спрабую адзначаць гэтыя абсурдныя і трагікамічныя моманты.*

*Калі падумаць, ёсьць некаторыя рэчы, да якіх проста нельга прывыкнуць. Напрыклад, немагчымасьць атрымаць пэўныя дробязі, напрыклад, кефір, колу, бананы, маліны, тачылку для алоўкаў... Часам адсутнічае нешта абстрактнае, чаго я раней не ацэньваў і нават не заўважаў. Акрамя відавочных рэчаў, якіх, магчыма, нестае, самым цяжкім для мяне было прывыкнуць да адсутнасьці цемры і адзіноты.*

*Добра, што мы — тыя, хто ў такой жа сытуацыі, як і я, — не прывыкаем да гэтага цалкам. Таму што прывыкнуць да гэтага азначае прыняць навязаную думку: вы заслугоўваеце гэтага, вы злачынцы, і нічога страшнага няма ў тым, што вы ня можаце зрабіць большую частку таго, што могуць зрабіць нармальныя людзі. Але мы ня згодныя, проста не прывыкаем.*

*Я не хацеў бы, каб мае словы „я ні пра што не шкадую“ гучалі як бравада, таму я паспрабую пат-*

*лумачыць прагматычна. У жыцьці для таго, каб у нашым настроі, гэтым эмацыйным кактэйлі, пераважалі задавальненьне і ўсьведамленьне таго, што зрабіў добра, а не шкадаваньне і прыгнечанасьць, дастаткова дзейнічаць прыстойна і дзеля дабра.*

*Але адыдзем ад эмоцый дзеля лёгікі. Сёньня як юрыст я ведаю, бо пражыў сам, што адбылося і чаго не адбылося падчас выбарчай кампаніі 2020 году. Праблемы, зь якімі мы сутыкнуліся, былі глябальнымі, і яны важныя для ўсіх членаў грамадзтва.*

*Калі мэтафарычна задаць сабе пытаньне: ці варта шкадаваць, што ты пайшоў у склеп і выявіў там пажар, ці лепш ніколі не адчыняць дзьверы і жыць у спакойным няведаньні? Гэта ня лепш, вядома. Я пра гэта не шкадую.*

*8 тысяч чалавек, якія падпісаліся ў траўні 2020 году, каб далучыцца да ініцыятывы Віктара Бабарыкі, у тым ліку і я, тэарэтычна дапускалі магчымасьць нэгатыўных наступстваў. Але наўрад ці хто мог прадказаць маштабы і асымэтрыю рэпрэсій. Добраахвотнікаў у штабе нельга лічыць камбатантамі або рэвалюцыянэрамі. Мы проста прыйшлі, каб удзельнічаць у выбарчай кампаніі з дапамогай законных мэтадаў і сродкаў, бо ў краіне былі абвешчаныя выбары, і прыняць удзел мог кожны. Як і ў выпадку з агнём, схаваным у склепе, добра, што мы ўсё выявілі, і што далей ілюзій няма. Гэта добра, але надзвычай расчароўвае як тых, хто паддаўся ціску, так і тых, хто апынуўся ў сьпіралі падзеньня, хто даўно ўжо дасягнуў дна і, здаецца, працягвае падаць.*

## І я вырашыў ляцець

*Андрэй Суша, дэфэктаскапіст, Менск:*

У студзені 2021 году да мяне пачалі прыходзіць сілавікі, затым павезьлі ў аддзел бясьпекі кампаніі і прыгразілі запісаць прабачэньні на камэру. У сакавіку 72 гадзіны пратрымалі ў ізалятары і выклікалі на допыт у сьледчы камітэт. Пасьля таго, як на мяне завялі дзьве крымінальныя справы — „за абразу міліцыянта“ і „пагрозу расправы над супрацоўнікамі праваахоўных органаў“, — я вырашыў пакінуць Беларусь. У мяне літоўскай візы не было, празь мяжу ісьці таксама няма стопрацэнтнай гарантыі, што я бясьпечна перайду. Ужо былі выпадкі, што людзей лавілі і адпраўлялі назад на „хімію“. І я вырашыў ляцець. Я лётаю на мотапараплане ўжо даволі даўно, таму тэхнічна гэта не было складана. Я проста па мапе прыкладна пабудаваў свой маршрут, прыехаў на месца, узьляцеў і паляцеў. Так, было трошкі страшна, але лепш памерці прыстрэленым, чым гніць у лукашэнкаўскай турме. Я там ужываў некаторыя меры, каб засьцерагчыся: ляцеў над лясамі, каб мяне складана было заўважыць, ляцеў на нізкай вышыні, прыкладна мэтраў 100 над зямлёй. Калі я прызямліўся, пайшоў да мясцовых жыхароў, яны выклікалі паліцыю. Паліцыя ўжо потым выклікала памежную службу, і я напісаў прашэньне аб

прытулку. Цяпер я ў цэнтры для прыёму ўцекачоў, мае дакумэнты разглядае літоўскі ўрад — служба эміграцыі.

## Размаўляеш з чалавекам у форме, і ты яго не баісься

*Уладзіслаў „Lesley Knife“ Наважылаў, лідэр гурта Gods Tower:*

Спачатку я апынуўся ва Ўкраіне, але потым вылецеў у Літву. Адразу адчуў кантраст у стаўленьні міграцыйных і памежных службаў Літвы і Ўкраіны ў параўнаньні зь Беларусьсю. Ты размаўляеш з чалавекам у форме, і ты яго не баісься. Ты бачыш, што ты ў іншай краіне не геаграфічна, а ў іншай мэнтальна. Калі ты разумееш розьніцу паміж мянтом і копам. У мянта „ўшытая“ ў галаве прэзумпцыя вінаватасьці. А ў копа — прэзумпцыя невінаватасьці, ён цябе наогул ня бачыць, пакуль ты не пачынаеш нешта вырабляць незаконнае. У Беларусі мянты, і іх трэба было баяцца, а тут копы, можна не баяцца. Проста нельга параўнаць атмасфэру, я пачаў яшчэ ва Ўкраіне вольна дыхаць, і мне ўжо ня страшна па вуліцы хадзіць, пасьвятлела ў галаве.

## Ужо нельга было схітраваць і застацца ў сыстэме

*Аляксей Пацко, былы судзьдзя, Пінск:*

Я нарадзіўся і жыў у Пінску. Скончыў юрфак БДУ, вярнуўся ў родны горад. Жанаты, трое

дзяцей — ім 3, 6 і 10 гадоў. Да працы ў судзе быў юрысконсультам на розных прадпрыемствах. Спрабаваў будаваць кар'еру.

Не сказаць, каб я не цікавіўся да леташніх выбараў палітыкай. Можна не цікавіцца, калі ты жывеш на хутары ў глухім лесе. Палітыка — прыняцьце рашэньняў, якія тычацца ўсяго грамадзтва. Хочаш ня хочаш, а цябе гэта тычыцца. Асабіста я, дый уся мая сям'я ніколі не былі згодныя з уладай.

Але ў 2015 годзе, калі мяне прызначылі судзьдзёй, была іншая сытуацыя. Была лібэралізацыя. Сыстэма рабіла спробы палепшыць сябе. Маладых людзей запрашалі на розныя пасады — вось, у вашых руках ёсьць магчымасьць нешта зьмяніць, палепшыць.

Мне тады было 28. Я меў максымалісцкія, ідэалістычныя погляды на сыстэму. Што можна нешта выправіць у меру сваіх магчымасьцяў. На пачатку працы была вялікая адсутнасьць палітычнага складніку.

У 2017 годзе ў Пінску прайшлі, як і ў іншых гарадах, акцыі супраць Дэкрэту №3 „пра дармаедаў". У канцы 2019 году — акцыі супраць інтэграцыі з Расеяй. У горадзе былі выступы нязгодных.

На нас, судзьдзяў, быў пэўны дыпляматычны ціск. Не загады, як судзіць і колькі даваць, а намёкі і парады ў межах умоўнасьцяў. Што гэтыя справы „важныя для грамадзтва", што „падыдзіце да іх адказна", што „каб было законна". Пры такіх прыгожых фразах рабілася ясна, у чым сутнасьць і накіраванасьць ня зьместу фраз, а формы. Фармальна нібыта было парушэньне закону аб масавых мерапрыемствах. Памятаю, што і я раз-

глядаў справы па ўдзельніках акцый 2017 году. Даваў штрафы.

Да таго часу я асабіста, дый іншыя судзьдзі, былі больш-менш незалежнымі ў прыняцьці рашэньняў. Увосень 2019 году ў судах зьмяніліся старшыні — і ў Пінскім раённым, і ў Берасьцейскім абласным. Тады пачаліся зьмены. Пачалі „закручваць гайкі“. Спыніліся, як я называю, „умоўна-дэмакратычныя“ практыкі.

Зьявілася нэгатыўная практыка раіцца з вышэйшым кіраўніцтвам, зрабілася больш кантролю з боку начальства. Гэта рабілася пад добрапрыстойнай маркай „якасьці і апэратыўнасьці“. Трэба было дакладаць кіраўніцтву — вось такую справу вось так я пляную разгледзець. Потым увялі сыстэму пазбаўленьня прэмій за парушэньне апэратыўнасьці і якасьці.

Бліжэй да выбараў-2020 пачаліся ўзгадненьні з кіраўніцтвам па „грамадзка значных“ артыкулах — карупцыя, наркотыкі, ДТЗ у стане алькагольнага ап'яненьня. Па такіх артыкулах трэба было начальству даваць інфармацыю і ўзгадняць пакараньне. Гэта не было фармалізавана, у выглядзе загадаў, а так — парады. Бо насамрэч умяшаньне ў правасудзьдзе — гэта крымінальнае злачынства.

Калі зьбіралі подпісы ў судзе ў падтрымку Лукашэнкі, я адмовіўся, дый многія. І нам нічога не было. Бліжэй да выбараў нам ужо паступіў загад — усім прагаласаваць датэрмінова і даць справаздачу. Я не хадзіў. Лічу, што і прасачыць за ўсімі немагчыма. Гэта проста быў элемэнт запалохваньня. Бо праверыць усе ўчасткі нерэальна.

9 жніўня па сутнасьці было галасаваньне пратэсту. Маё атачэньне схілялася больш да Віктара

Бабарыкі ці Валера Цапкалы. Але іх не дапусьцілі да выбараў. Ціханоўская была альтэрнатывай. Пытаньне было ў кансалідацыі і каб галасаваць супраць, а пэрсона была не такая важная. Карацей, гэта магло быць слоганам кампаніі: „Галасуй за любога, апроч адзінага“.

9 жніўня была нядзеля. Я быў на працы, і старшыня суду, і ягоны намесьнік таксама. Два судзьдзі былі тады ў адпачынку. Былі на працы ў нядзелю, таму што ўсе ж разумелі, што „нешта будзе“.

Яшчэ да выбараў былі затрыманыя назіральнікі і актывісты. Яны былі ў ізалятары. 10 жніўня, у панядзелак, іх трэба было судзіць. 9 жніўня міліцыянты прынесьлі іх справы на праверку. Таму што ў важных справах заўсёды ёсьць пытаньні аб афармленьні, працэсуальных момантах. Там былі такія артыкулы, як непадпарадкаваньне, няяўка па позьве, дробнае хуліганства.

І кіраўніцтва прапанавала мне заўтра даць ім па 15 сутак. Я сказаў, што ня буду ў гэтым удзельнічаць. Пачалося: „Ну ты падумай, у цябе сям’я, дзеці, не гарачыся, супакойся“. Я сказаў, што не. Таму, каб судзіць тых людзей, з адпачынку адклікалі іншых судзьдзяў.

Пра „Пінскую бойню“ я ведаю ад непасрэдных удзельнікаў падзей. Калі я 10 жніўня прыйшоў на працу, то міліцыянты актыўна расказвалі, што пратэстоўцы ледзь ня ўвесь аддзел міліцыі зьнішчылі, што шмат міліцыянтаў у рэанімацыі, а адзін нават пры сьмерці, што гэта былі не жыхары Пінску, а ўкраінцы, якія нелегальна перайшлі мяжу. Але ўсё гэта было няпраўдай. Усе затрыманыя былі пінскія, якія ўкраінцы? Ніхто ў рэанімацыю

зь міліцыі ня трапіў. Для чаго яны гэта гаварылі? Мусіць, каб апраўдаць сваю агрэсію і жорсткасьць.

На 10 жніўня ў горадзе была абвешчана спэцаперацыя. Дзяржаўных службоўцаў, і нас таксама, адпусьцілі з працы ў 16:00 і сказалі ісьці дахаты, бо будзе спэцапэрацыя.

Тады затрымалі, за два дні, недзе 120–140 чалавек. Яны сядзелі ў падвале міліцыі, там ізалятар знаходзіцца. Іх усіх адразу падазравалі паводле крымінальных артыкулаў. І вось праходзіць 72 гадзіны з затрыманьня. Трэба іх ці выпускаць, ці выбіраць меру стрыманьня. І што тады робяць? Іх „перазатрымліваюць“ у адміністрацыйных справах, па 23.34. І пачынаюць судзіць.

Складаюць пратаколы, рыхтык як напісана ў пастановах аб прыцягненьні да крымінальнай адказнасьці, і судзяць. Але калі ёсьць крымінальная справа, нельга даваць адміністрацыйную.

І пачалі выпісваць суткі, канвэерам, там жа, у падвале міліцыі. Цікава, што адзін чалавек атрымаў штраф, неяк праскочыў. А пазьней яго за гэтыя ж дзеяньні — „беспарадкі“ — пакаралі вялікім тэрмінам калёніі.

Потым асуджаных перавезьлі адбываць пакараньне ў калёнію ў Івацэвічы, бо не было месца ў ізалятары.

Калі я адмовіўся караць людзей, са мной адразу спынілася камунікацыя на працы, бо я стаў „небясьпечным“. Я яшчэ працаваў, разглядаў дробныя побытавыя справы. Потым мяне выклікалі на гутарку ў абласны суд, прасілі падумаць. Але сутнасьць размоў была ня ў тым, каб я не звальняўся, а каб маўчаў. У мяне якраз падыходзіў да канца пяцігадовы тэрмін прызначэньня судзьдзём, і я

адклікаў свае паперы на перапрызначэньне. У кастрычніку я быў звольнены.

Калі я звальняўся, то старшыня суду сказаў мне, што, па зьвестках супрацоўнікаў КДБ, мае кантакты шукае Tut.by. Старшыня суду сказаў: „Ты разумееш меру адказнасьці?“. Намёк мне быў зразумелы. Галоўная задача — каб я маўчаў. Але я даў інтэрвію Tut.by і „Нашай ніве“. Потым старшыня суду напісаў мне ў Viber: „Гэта ты даваў інтэрвію, гэта ты так казаў?“. Я напісаў, што так. Ну і пачалося.

Я спрабаваў уладкавацца на працу. Хадзіў на тыя прадпрыемствы, дзе раней працаваў, на іншыя. Усюды была адмова. Спрабаваў пайсьці ў адвакатуру. Мне сказалі, што асабіста на цябе стаіць забарона. На іншых прадпрыемствах казалі: „Ну ты сам усё разумееш“. Восеньню мяне ня „бралі“, бо ім тады было не да мяне — трэба было тушыць вогнішча.

Я дапамагаў людзям юрыдычнымі парадамі, бясплатна. Мне дапамаглі неабыякавыя беларусы фінансава выстаяць у той цяжкі пэрыяд.

Мая маці працавала адвакатам. І яна ўзяла мяне да сябе памочнікам.

Літаральна праз пару дзён прыйшла падатковая з праверкай. Мне прад’явілі, што я нібыта займаюся незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасьцю, аказваю адвакацкія паслугі, хоць гэта было ня так.

Потым КДБ пайшоў па маіх знаёмых — каб яны далі паказаньні, што насамрэч не мая маці дапамагала ім як адвакат, а я. Людзі адказвалі, што нам дапамагала Тацяна Юр’еўна, а супрацоўнікі

КДБ ім: „Не, вы нас не разумееце, вам дапамагаў Аляксей Васілевіч. Падумайце, у вас сям'я, дзеці".

Потым мне паступіла інфармацыя, што пачалі варушыць мае старыя справы ў судзе, нешта там аналізаваць. Я зразумеў — па мяне прыйшлі. Кола сьціскаецца. Я зьехаў ва Ўкраіну. І я іх апярэдзіў. Бо літаральна праз два дні па месцы майго жыхарства, да маёй маці і сястры, прыйшлі зьператрусам. Пастанову на ператрус паказалі так, што ніхто не зразумеў — што, за што. Здаецца, гаворка ішла пра артыкул 380 Крымінальнага кодэксу (падробка дакумэнтаў).

На ператрусе прысутнічаў намесьнік пракурора. Ён намякаў маці пра крымінальную справу, што ў яе будуць праблемы. Мусіць, калі яны зразумелі, што мяне няма ў краіне, то зьмянілі вэктар. Праз два дні мы эвакуавалі маці. А празь дзень даведаліся, што на яе распачалі крымінальную справу. Пэўнай інфармацыі няма, але, здаецца, паводле артыкулу 427 (службовы падлог). Каб ведаць, у чым нас абвінавачваюць, мы мусілі б застацца. Ну і ў СІЗА ўжо пачыталі б, у чым мы „вінаватыя".

Цяпер мы, пры такім „правасудзьдзі", ніяк ня зможам апраўдацца. Бліжэйшым часам мы наўрад ці зможам вярнуцца ў Беларусь. Ва Ўкраіну цяпер пераехалі мая жонка і дзеці. Нам тут дапамаглі і беларусы, і ўкраінцы. Самае галоўнае — што мая жонка, дзеці цяпер у бясьпецы. Натуральна, гэты вымушаны пераезд — стрэс, выхад з зоны камфорту. Але няма сэнсу пра нешта шкадаваць. Неяк разьбяромся. Галоўнае — мы разам.

Ва Ўкраіне я сустрэў вельмі шмат беларусаў. Маладыя, крэатыўныя, адукаваныя, энэргічныя... Гэта пісьменьнікі, акторы, журналісты, прадпры-

мальнікі. Гэта проста цьвет нацыі! Ня нейкія там маргіналы. А ў іх крымінальныя справы!

У 2015 годзе мне здавалася, што можна неяк увайсьці ў сыстэму, манэўраваць, пабудаваць кар'еру і ня страціць чалавечых якасьцяў, застацца ў ладзе з сумленьнем. Але ў пэўныя моманты, як летась, сыстэма патрабуе ад цябе большага. У жніўні многім давялося выбіраць.

Ужо нельга было схітраваць і застацца ў сыстэме, абысьці вострыя вуглы. Выбар быў — ці так, ці так.

У мяне ёсьць надзея на вяртаньне дахаты. Калі зьменіцца ўлада. У новай краіне мы дакажам сваю невінаватасьць. Бо абвінавачаньні абсурдныя. Цяпер нешта даказваць ня мае сэнсу.

Калі скрынка ад тэлевізара на бальконе — пікет, шкарпэткі ці стужкі — пікет? І за гэта караюць суткамі?

Дарэчы, у розных тэлеграм-каналах пішуць пра судзьдзяў, якія выносяць несправядлівыя прысуды. Але ніхто ня піша пра старшынь судоў — а менавіта яны цяпер „кіруюць" правасудзьдзем. А імі кіруе абласны суд. А абласным судом, напэўна, КДБ.

## Мінулым летам я ўцягнула маму ў палітыку

*Маці і дачка Вольга і Арына Няхайчык:*

*Арына:*

Мы ўжо больш як тры месяцы жывем за мяжой і ня можам вярнуцца дамоў. Зь Беларусі мы мусілі тэрмінова зьехаць з прычыны перасьледу.

Разам з суседзямі пасьля выбараў мы сталі зьбіраць дваровыя вечарыны, ладзілі вялікія творчыя праекты. Дзякуючы ў тым ліку ім Сеніца, дзе мы раней жылі, стала адным з актыўных пратэставых месцаў.

Мінулым летам я ўцягнула маму ў палітыку. Гэта былі мае першыя выбары. У чэрвені зь сяброўкай выходзілі выпіць кавы, а траплялі на пікеты. Пасьля гэтага я прыходзіла дадому і вельмі эмацыйна маме ўсё расказвала, як перад намі выхоплівалі людзей, білі дубінкамі, зацягвалі ў бусы. Я была ў здранцьвеньні, зусім не была да такога гатовая. Мяне гэта моцна шакавала. Я настойвала, каб маці паставіла подпіс за кагосьці з альтэрнатыўных кандыдатаў.

Нам вывесілі вынікі а палове на дванаццатую ночы, дзе было 1000 за Лукашэнку і 200 за Ціханоўскую. Гэта пры тым, што на вуліцы стаяла больш за 300 чалавек. З камісіі тады выйшлі і сказалі: „Гэта не да нас пытаньні, ідзіце на плошчу“.

Мы наогул у Сеніцы нікога ня ведалі. Аказваецца, каб пазнаёміцца з суседзямі, трэба было проста, каб прайшлі выбары.

*Вольга:*

На суседнім участку ў Доме культуры палічылі ўсё правільна, і людзі крычалі „Ўра“, а мы крычалі „Ганьба“. Мы на сваёй пляцоўцы бачылі суседзяў, віталіся зь імі, але не размаўлялі. А пасьля выбараў мы ўсе перазнаёміліся, усе пачалі кантактаваць, людзі імгненна палітызаваліся. Нас усіх узьняла гэтая несправядлівая хваля гвалту. Я да гэтага часу думаю, што калі б нелегітымны прэзыдэнт паставіў сабе 52%, то ўсе б прамаўчалі.

Пасьля пратэстаў многія жыхары Сеніцы атрымлівалі адміністрацыйныя арышты. Потым людзі пачалі арганізоўвацца, каб хутка і бясьпечна сабраць подпісы за адкліканьне мясцовых дэпутатаў.

Я дні два думала, як дапамагчы ў гэтай справе. Сьпякла шарлётку, зрабіла гарбату ў тэрмасе, пашыла першы свой сьцяг і прапанавала суседзям, маўляў, давайце зьбяромся. Тут галоўнае было запусьціць старт. Мы выйшлі піць гарбату. Так і зьявілася ідэя чаяваньняў.

Я ўзгадала, што ў сяброў ёсьць самавар на дровах, а цяпер жа гэта дзіва! Напісала ў чат: „Суседзі, ё самавар, хадземце піць разам гарбату!“. Хтосьці прынёс стол, дровы, нехта ўзяў булачкі, бліны. Таксама тады напісалі лісты палітвязьням, бо было пачуцьцё, што, акрамя нас, гэтага ня зробіць ніхто. Гэта было, як у маім дзяцінстве, калі зьбіраліся на сьвяты, дапамагалі адно аднаму. Людзей станавілася ўсё больш. Потым мы пачалі гастраляваць з самаварам па розных дварах: тыдзень у адным, тыдзень у іншым. У нас была такая пазыцыя, што мы павінны выходзіць штодня. Дождж, вецер, холадна, усё роўна кожны дзень. А аднойчы мы з суседкамі пафарбавалі парэнчы лесьвіцы ў бела-чырвоныя колеры.

Лесьвіца да возера была ў жахлівым стане, і мы проста перафарбавалі па міжнародных нормах, як аварыйны аб’ект. За гэта мяне і суседак забралі на 72 гадзіны. Для мяне сталася самым вялікім стрэсам ня тое, што мяне затрымалі, а што на наступны дзень у нас павінен быў быць вялікі дваровы канцэрт. На судзе мы паказалі фота лесьвіцы „да“ і „пасьля“, падзяку ад жыхароў

Сеніцы. Судзьдзя быў у шоку, што мы, тры жанчыны, якіх асудзілі за дробнае хуліганства, маем вышэйшую адукацыю.

*Арына:*

Міліцыянты, відаць, думалі, што затрымалі маму — і традыцыйнае чаяваньне адмяняецца. Яны прыяжджаюць у суботу, а ў нас ужо не адзін, а два сталы стаяць, мангалы з шашлыкамі, два самавары, сеніцкі сьцяг, калёнка.

Гэтыя дваровыя сустрэчы і канцэрты былі аднымі з самых шчасьлівых момантаў. А пад канец восені на нас пачалося „паляваньне“.

Зь лістапада маме пастаянна прыходзілі позвы з органаў, але мы іх ігнаравалі. Аднойчы да нас прыйшлі ўжо самі супрацоўнікі органаў, грукалі ў дзьверы, але мы ім не адчынялі, зрабілі выгляд, што нас няма дома. Недзе гадзіну ці болей яны нас вартавалі, а пасьля кінулі позву ў паштовую скрыню. Я яе сфатаграфавала, адправіла адвакату і паклала назад. Пасьля гэтага мы вырашылі, што маме будзе лепш пажыць у сяброў.

*Вольга:*

Мой тэлефон пачалі праслухоўваць. Калі я вярталася з працы да сяброў, мяне ўжо чакалі каля пад’езду.

Гэта былі нашы мачулішчанскія апэратыўнікі, крымінальны вышук. Я яшчэ паднялася да сяброў, пакінула рэчы і дакумэнты. Тады сказала сілавікам, што нікуды не паеду, пакуль ня выкуру цыгарэту. Мяне пасадзілі ў „стакан“ зь дзьвюма жанчынамі ў стане алькагольнага ап’яненьня. Калі ж мяне прывезьлі ў будынак, то ўсе ўжо мяне чакалі, усьміхаліся.

*Арына:*

Я моцна хвалявалася, бо мама не падымала тэлефон. Пазьней прыехалі маміны сябры і патлумачылі, што адбылося.

Я падумала, што маме дакладна дадуць крыміналку. Бо і да гэтага яе лічылі арганізаторкай мясцовых чаяваньняў. Тэлефануе тады мне адвакат і кажа: „Зьбірай маме рэчы. Мінімум на трое сутак яна затрымаецца“. Ён яшчэ дадаў, каб я пачысьціла кватэру, бо могуць прыйсьці зьператрусам. Я дастала ўсё, што ў мяне было чырвонага і белага. Яшчэ праблема ў тым, што я крыху „партызаніла“, у мяне былі бчб-кармушкі, трафарэты, налепкі... Мама таксама са мной „на справу“ хадзіла, але зь яе партызан так сабе: дым цыгарэты і сьмех.

*Вольга:*

Наступныя 12 сутак я правяла ў ізалятары Менскага раёну.

На пятыя суткі мяне пачалі называць Вольга Ўладзіміраўна і казалі, што я назіральніца камэры, бо настаяла з сукамэрніцай, каб было праветрываньне, папрасіла хлёрку, каб усё вымываць, напісала скаргі, што ня выдалі пасьцельную бялізну звычайным людзям (яна была толькі ў палітычных) і кубкі. Ад таго, што я нават там была актыўная, мяне перавялі ў адзіночку, думалі, што я буду плакаць і прасіцца назад, упаду ў дэпрэсію. А я была рада адпачыць, спала, чытала, ела. Калі мяне вярнулі ў агульную камэру, там ужо была бялізна.

*Арына:*

Маму выпусьцілі, але потым прыйшлі зь ператрусам і пачалі сачыць за мной.

На наступны дзень пасьля ператрусу я выйшла раніцай на працу, падышоў да мяне чалавек і кажа: „Здрасьце, а можна вашы дакумэнты?“. У яго ў руках былі копіі мамінага і майго пашпарта. Мне стала ўсё зразумела. Сказалі сесьці ў машыну і праехаць зь імі. Калі я папрасіла патэлефанаваць адвакату, мне сталі хаміць, але потым усё ж далі паведаміць. Яшчэ ў мяне ў тэлефоне была куча закрытых чатаў, і я баялася, што падстаўлю людзей.

*Вольга:*

Арыну дапытвалі ў пастарунку 5 гадзін. Мне нічога не сказалі, але мая настойлівасьць дапамагла вызначыць, у чым спрабуюць абвінаваціць дачку. Мне сказалі, што дачкі ў аддзяленьні няма. Тады я паабяцала ім зараз жа напісаць заяву, што сілавікі яе выкралі, і запатрабавала пусьціць мяне да начальніка. Потым мяне ўпусьцілі ўнутр, але Арыну працягвалі трымаць. Тут тэлефануе адвакат і кажа: Толькі спакойна, Арыне „шыюць крыміналку“.

Арыну спрабавалі абвінаваціць у адміністраваньні тэлеграм-канала і чата „Сеніца“, яе вылічылі па ip-адрасе ў інстаграме. Яна насамрэч была адміністратаркай, але ў іншым пабліку.

*Арына:*

Я ехала як сьведка і наогул не была гатовая. Сказала ім, што мне трэба быць праз дзьве гадзіны на працы. Мне было вельмі цяжка, хацелася піць і есьці, там было вельмі душна. Я сказала сьледчаму, што ён мне незразумелыя артыкулы спрабуе павесіць. А ён мне проста шпурнуў кнігу Крымінальнага кодэксу на стол і сказаў пачытаць, што мне „сьвеціць“. Калі ж я зноў папрасіла адва-

ката, сьледчы адказаў: „Вы хочаце адваката? Калі ён зараз прыедзе, то вам канец, мы вас закрыем“.

*Вольга:*

Падчас ператрусу нічога не знайшлі, і Арыну выпусьцілі. Пасьля допыту Арыны я хацела, каб яна хутчэй зьехала, і тэрмінова падала дакумэнты на гуманітарную візу.

Пасьля ўсіх гэтых допытаў і ператрусаў я захварэла. Гэта рэакцыя майго арганізму на стрэс: у мяне балела горла, заклала нос, тэмпэратура. І тут у чацьвер мне тэлефануюць са сьледчага камітэту і кажуць: „Калі вы да нас прыедзеце?“. Я адказала, што магу проста зараз, толькі я кашляю і чхаю, было чуваць, што голас хворы. Я ўжо нічога не баялася, бо шмат чаго прайшла ў жыцьці, але заставалася апошняе — сесьці ў турму.

*Арына:*

Я ж, наадварот, хацела, каб мама зьехала. Ёй трэба было ў панядзелак ісьці ў сьледчы камітэт, я ёй прапанавала сабраць валізкі і адправіць яе ў Кіеў, маўляў, я застануся, разьбяруся з унівэрам. Але ўсё аказалася ня так проста. У чацьвер увечары мы прымаем рашэньне зьехаць разам. У пятніцу я ўстаю заплаканая, нікуды не хацела, мяне трэсла, я паехала забраць атэстат, сустрэцца зь сяброўкамі. Пасьля мама пагаварыла з адвакатам і таксама перадумала. І вось у пятніцу днём мы ўжо супакоіліся і вырашылі, што нікуды ня едзем, выдыхнулі. А ў суботу мы сустрэліся з нашымі сябрамі, якія сказалі, што калі нас і не „закрыюць“, жыцьця ў Беларусі нам ужо не дадуць. І днём мы ўжо купілі квіткі ў Кіеў на нядзелю на 8 раніцы.

Першыя тыдні за мяжой сталі для мяне асабліва цяжкімі, я шмат перажывала і плакала.

Я памятаю, як толькі пазнаёмілася зь беларускімі студэнтамі, яны нешта ў мяне пытаюцца, а я не магу адказаць, таму што адразу ліюцца сьлёзы. Яны тады пачалі вадзіць мяне на шпацыр, каб я крыху разьвеялася.

У Кіеве нам вельмі дапамагалі беларусы. Першыя тыдні мы жылі ў дзяўчыны-студэнткі. Пазьней нас прынялі беларускія праграмісты, якія адмыслова нанялі трохпакаёвую кватэру для рэлякантаў, якія толькі прыехалі. Кіеў спачатку плянаваўся як адпраўны пункт, каб атрымаць візу і пераехаць далей. Але мы крыху затрымаліся і пераехалі ў Вільню толькі паўтара месяца таму.

*Вольга:*

Валянтэрка Віялета з фонду „Разам“ дапамагла нам з жытлом, замовіла нам гатэль па добрай цане. Мяне да яе накіравалі, калі мы яшчэ былі ва Ўкраіне. Вельмі важна, што ёсьць такія людзі і фонды, якія дапамагаюць разабрацца ва ўсім, зьяўляюцца такімі мэдыятарамі. Потым іншы валянтэр дапамог нам знайсьці і арандаваць кватэру.

Цяпер мы наладжваем сваё жыцьцё ў Вільні і працягваем пратэставую дзейнасьць.

*Арына:*

Мы запусьцілі наш кінафэстываль „ЛукаПад“ у Літве анлайн. Яго мэта — падымаць настрой і наладжваць сувязі з грамадзкасьцю. Калі ў вас ёсьць нешта старое, класна зьнятае, і вы вельмі хочаце, каб гэта было апублікавана, але баіцеся, то можаце дасылаць нам, мы апублікуем і пастараемся зрабіць так, каб гэта было бясьпечна. Калі недзе ёсьць адкрытыя твары, мы гэта зарэтушуем

у відэарэдактарах, каб максымальна засьцерагчы людзей, якія дагэтуль у Беларусі.

З той прычыны, што сям'я працягвае сваю пратэставую актыўнасьць, мне некалькі тыдняў піша міліцыянт з Мачулішчаў і нават абражае мяне. Пры гэтым як толькі я нагадала, што ў новай Беларусі прыцягну яго за такія ўчынкі да суду, міліцыянт адразу пачаў прасіць прабачэньня.

Я неяк пачала іх троліць, сфатаграфавалася зь іншымі жанчынамі ў лесе ў бела-чырвоных колерах і была з адкрытым тварам. Потым, калі мяне шукалі, я сказала, маўляў, шукайце ў лясах Беларусі.

Я хацела неяк вярнуцца ў Менск, купіла квіток на самалёт і за гадзіну да рэгістрацыі яго адмяніла. Пазьней адвакат напісала, што мяне ўжо шукаюць. Можна прывыкнуць да ўсяго, улічваючы, што мы зьехалі ў лютым. Мы ўжо адаптаваліся да многага. Але мяне накрывае, асабліва калі бацькі дзяцей, зь якімі мы сустракаліся ў дварах, дасылаюць фота і перадаюць прывітаньні ад малых. Да гэтага часу цяжка. Але разумееш, што па-іншаму ўжо і ня зробіш, бо вернесься — цябе закрыюць. Мне цяжка, бо за тры месяцы я практычна ня мела зносін з аднагодкамі. Я бачу, як мае сяброўкі разам дзесьці шпацыруюць, а я адна ў чужой краіне, межы закрытыя, і невядома, калі мы сустрэнемся.

*Вольга:*

Пару дзён я плакала, калі забралі маю сяброўку, калі быў працэс над студэнтамі. Мяне наогул не адпускае, я думаю, што і не адпусьціць, бо гэта ўласьцівасьць майго характару, мая эмацыйнасьць і здольнасьць суперажываць.

Мая асноўная мэта — перамагчы. І я буду рабіць усё магчымае дзеля гэтага. Усё залежыць ад нас, нам ніхто не дапаможа, акрамя нас. Многія чакаюць, што нехта за нас усё зробіць. Я лічу, што гэта безадказнасьць. Мяне яшчэ вельмі хвалюе, калі людзі зь Беларусі ўцякаюць, потым ставяць крыж на сваім удзеле ў барацьбе, пачынаюць наладжваць сваё жыцьцё і больш не дапамагаюць змагацца. І мне вельмі хочацца, каб людзі не забываліся і нагадвалі пра сябе, хоць нейкім допісам, здымкам ці вершам у чаце сваёй супольнасьці.

*Арына:*

Ніхто ня прыйдзе і ня дасьць чароўную пілюлю, каб „бах!“ — і рэжым паваліўся. Але я ўжо стамілася думаць пра тое, калі мы пераможам, таму што кожны дзень ад гэтага эмацыйныя арэлі. Ёсьць мара, што Новы год мы сустрэнем дома.

## Усё сур’ёзна, як у страшнай казцы, імя якой Беларусь

*Валярына Кустава, паэтка, тэлевядоўца:*

Трэцяга чэрвеня я напісала ў фэйсбуку, што да мяне ў кватэру ломяцца невядомыя. Але мяне ў кватэры не было.

Прыехаў чорны бусік і прыйшло сем асобаў у цывільным. Па папярэдніх зьвестках, гэта былі супрацоўнікі губазіку. На шчасьце, я літаральна на паўгадзіны выйшла з хаты, і мне паведамілі, што ў маю кватэру ломяцца.

На жаль, я не магу назваць імёны сяброў, якія дапамаглі і эвакуавалі палеткамі-лясамі, некалькі

сутак вывозілі. Кожны зь іх дапамог мне на 3–5 гадоў ня трапіць за краты. Але думаю, што столькі ня будзе. Я зьбіраюся вярнуцца ў самы блізкі час, бо веру, што гэта ўсё зьменіцца, і буду са свайго боку рабіць усё, каб гэта хутчэй зьмянілася.

Адначасова зьператрусам у кватэры сілавікі прыйшлі і на маю афіцыйную працу, дзе я цяпер у дэкрэце. Таксама прыйшлі да бацькоў. У маёй кватэры сілавікі знаходзіліся суткі.

Цяпер кватэра апячатаная, хоць яна нават не зьяўляецца маёй уласнасьцю. Дакладна ведаю, што вынесьлі ўсю тэхніку, бо спрабавалі ўзламаць мае акаўнты. Я на дадзены момант нават ня ведаю, што адбываецца ў кватэры, што з маімі рэчамі, дакумэнтамі. Туды немагчыма трапіць. Апытвалі маіх суседзяў, правяралі іх тэлефоны, пільнавалі на месцы. То бок усё сур'ёзна, як у страшнай казцы, імя якой Беларусь.

Зь Беларусі я выяжджала два дні. Падрабязнасьці маршруту не хачу агучваць, бо ім ня раз трэба будзе скарыстацца і іншым. Выяжджаючы, я пакінула ў Беларусі двухгадовую дачку. Пазаўчора яе прывезьлі ў Польшчу да мяне. Гэта было няпроста, яе выпусьцілі з краіны ня зь першага разу.

Паводле інфармацыі адвакаткі, мяне вінавацяць у арганізацыі і фінансаваньні пратэстаў і нясплаце падаткаў за фінансаваньне пратэстаў.

Я лічу, што перасьлед зьвязаны з маёй адкрытай пазыцыяй наконт сытуацыі ў краіне, але найперш з прафэсійнай дзейнасьцю. На тэлеканале Белсат я вяла праграму „Беларус беларусу“, у межах якой гледачы дапамагалі сем'ям палітвязьняў.

Зь фінансаваньнем пратэстаў наша праграма ніяк не зьвязаная. Мы расказвалі гісторыі лю-

дзей, якія пацярпелі за свабоду. Яны гаварылі пра свае мары, жаданьні, чаго ім цяпер нестае ў жыцьці. А пасьля гледачы і проста неабыякавыя беларусы зьвярталіся да іх і, як маглі, дапамагалі і зьдзяйсьнялі іхныя мары.

Для сына Волі і Паўла Севярынцаў мы знайшлі выдатную няньку, якая дапамагае Волечцы. Мы зьдзейсьнілі мару сям'і з Мастоў, у якой мужа і шматдзетнага тату пасадзілі за тое, што ён разьвесіў выявы міліцыянтаў у горадзе.

Для рэжыму настолькі страшная нашая салідарнасьць, якая нікуды не зьнікае, што ўсе магчымыя крокі дзеля падтрымкі нацыі яны спрабуюць спыніць. А мы ж агучваем яшчэ ня ўсё. Беларускія пратэсты сышлі ў падпольле, але ня сталі меншымі. Як чалавек, які бачыў маштабы гэтай салідарнасьці ў межах праграмы, я магу гэта сьцьвярджаць: магчыма, цяпер больш людзей задзейнічана ў салідарнасьці, чым раней было на вуліцах.

Чым дакладна буду займацца ў Варшаве, пакуль ня ведаю. У кожным выпадку гэта будзе нешта, што набліжае зьмены ў Беларусі.

Пакуль галоўным пытаньнем было: што есьці і дзе начаваць. Але я ўпэўненая, што калегі і сябры дапамогуць, бо як інačай. Беларус беларусу — гэта любоў, падтрымка і дапамога. І перамога. Павінна быць супольная праца, як зьнешняга ўзьдзеяньня, так і ўнутранай моцы. Прагнозы рабіць ня варта, бо яны расчароўваюць. Але відавочна, што як было да 2020, так ужо ніколі ня будзе. Галоўная рэвалюцыя адбылася — гэта рэвалюцыя ў галовах беларусаў. Мы зрабіліся нацыяй. Цяпер застала-

ся невялікая адлегласьць, каб зрабіцца вольнай нацыяй.

Кожны павінен рабіць на сваім месцы тое, што ён можа, і дапамагчы хаця б той справай, якой ён валодае. Калі пісьменьнік — пішы пра свабоду. Лекар — дапамагай тым, хто пацярпеў за свабоду. Сантэхнік — зрабі бясплатна тым, хто пацярпеў за свабоду. Адзін мой герой, таксіст, вывез з „сафары ў Курапатах“ каля двух дзясяткаў чалавек. Кожны на сваім месцы хай робіць хоць нешта. І гэта спрацуе таксама.

## Нашы прозьвішчы імгненна апынуліся ў чорным сьпісе

*Натальля Максімава (Казей),*
*былая карэспандэнтка АНТ:*

Так, нас выклікалі ў сьледчы камітэт. І я гэта дакладна ведаю, бо мне ўжо ўсё перадалі, але я знаходжуся не ў Беларусі цяпер, а ў іншай краіне, таму я, вядома, туды не пайду. Аднак большасьць маіх калегаў засталіся ў краіне, яны знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі. І я ведаю таксама, што ўжо праз некалькі хвілін пачнецца чарговы допыт, калі будуць выпытваць, выбіваць нейкую патрэбную ім інфармацыю, якая дапаможа сьледчым сфабрыкаваць крымінальную справу, і маіх былых калегаў, якія таксама звольніліся пасьля 9 жніўня, са статусу сьведак перавесьці ў статус абвінавачаных. Для нас усіх абсалютна відавочна, што раз ёсьць крымінальная справа, значыць, нехта павінен сесьці.

Як гэта адбываецца? Цяпер калегам тэлефануе сьледчы і кажа: „Прыходзьце, выклікаем вас на допыт у якасьці сьведкі“. „Па якім пытаньні?“ — „Па крымінальнай справе“. „Па якой крымінальнай справе?“ — „Гэтага мы вам па тэлефоне сказаць ня можам“.

Дык што ж гэта за такая сакрэтная крымінальная справа? Для нас гэта пацьверджаньне таго, што нічога супрацьпраўнага мы не рабілі і, вядома, гэта проста такая дурная помста з боку нашага былога кіраўніцтва, з боку былога кіраўніцтва краіны, але дзейнага. Таму што яшчэ летам, калі Лукашэнка зьбіраў журналістаў дзяржаўных СМІ ў Палацы Незалежнасьці, ён сказаў: „Запомніце, калі вы пойдзеце і будзеце блытацца пад нагамі, вас задушаць“. І мы тады ведалі, што хутка гэта ўсё ня скончыцца.

Калі ў жніўні сыходзілі, мы ведалі, што ўлада будзе да апошняга трымацца, чапляцца пальцамі, рукамі за гэтую ўладу, што нам будуць помсьціць. Калі мы сыходзілі, [кіраўнік тэлеканалу] Маркаў таксама многім асабіста казаў, што не забудзе гэтага.

Інтэрвію, але я б сказала — допыт Маркавым Рамана Пратасевіча, у яго праграме, гэта пацьвярджае. Калі вы памятаеце, Маркаў вельмі цікавіўся: „А хто з былых журналістаў зь дзяржаўных СМІ вам дапамагае?“ Яму вельмі цікава, яму гэта вельмі сьвярбіць. Ён хоча ведаць, хто нешта робіць, каб адпомсьціць, каб нас пакараць, каб нас усіх пасадзіць.

Я ведаю, што цяпер выклікалі ўсіх калегаў, якія ўдзельнічалі ў страйку. Страйк мы правялі 17 жніўня. У гэты дзень мы сабраліся, мы падпісаліся,

паставілі свае прозьвішчы — каля 20 чалавек. Гэты лісьцік мы аддалі Маркаву. Страйк ён афіцыйна, вядома ж, не прызнаў, але лісьцік гэты захаваў, і ўсе нашы прозьвішчы імгненна апынуліся ў чорным сьпісе.

Нас фізычна не пускалі на канал, на Камуністычную, 6 мы не маглі трапіць. І я, напрыклад, свае рэчы забірала ўжо праз акно — гэта здымаў швэдзкі канал SVT, як мне адміністратар перадавала мае рэчы. У выніку мяне звольнілі паводле артыкула за прагулы. Хоць так, я проста не магла трапіць на канал.

Усе, каго выклікаюць, усе нашы калегі, хто ўдзельнічаў у тэлевізіцным страйку, упэўненыя, што гэтая крымінальная справа насамрэч тычыцца страйку. Сьледчаму камітэту трэба знайсьці ар ганізатара. Пакуль што ўсе праходзяць у ролі сьведак. Але гэта ж сапраўды сьмешна. Вы ж разумееце, што са статусу сьведкі ў нас вельмі лёгка трапіць у статус падаз раванага і сесьці. Я ўпэўненая, што цяпер яны ў кожнага выпытваюць: „А што вас не задавальняла на працы?“ Па тэлефоне казалі: „Мы пагаворым пра лета, пра вашу працу на тэлебачаньні. Што вас тады не задавальняла? Чаму так адбылося?“.

Мы сабралі ўсе нітачкі разам, якія можна было сабраць, і прыйшлі да такой высновы, што ім про ста трэба запалохаць, знайсьці арганізатара, яго пасадзіць, каб іншым было непанадна. Але гэта сьмешна, гэта вельмі дурная помста. Усе цудоўна разумеюць, што той, каго пасадзяць, стане героем, а той, хто зьедзе, у яго ўжо больш будуць разьвязаныя рукі, і за мяжой гаварыць ён зможа значна больш, чым у Беларусі.

Паводле нашых падлікаў, тады сышло сапраўды каля 80 чалавек — гэта фактычна кожны трэці адмовіўся працаваць.

Нашы патрабаваньні падчас страйку былі вельмі простыя: асьвятліць у эфіры тое, што адбывалася на Акрэсьціна, тое, што адбывалася ў горадзе, у краіне пасьля выбараў. Некаторыя нашы калегі самі трапілі на Акрэсьціна, самі былі зьбітыя амонам, і мы бачылі нашых сяброў, таму мы не маглі маўчаць.

Маркаў, я вельмі спадзяюся, адкажа ў судзе за кожнае сваё злачынства, а злачынстваў ён зьдзейсьніў ужо нямала. Усе тыя, якія засталіся, я спадзявалася, што яшчэ ўвосень яны пойдуць за намі. Узімку я верыла ў гэта, але вера амаль зьнікла. Вясной я перастала зь імі мець зносіны. Я была ў Менску ў траўні, сустрэла калегу на праспэкце Незалежнасьці — я нават не павіталася. Я не магу вітацца з тымі, хто дапамагае зьдзяйсьняць злачынствы. Калегі, вы ўсе ўжо злачынцы. Калі ласка, прачніцеся, апамятайцеся, спыніцца ніколі ня позна, я вас заклікаю. Людзі прымуць, людзі вас не зьядуць, наадварот, усе толькі падтрымаюць. Я заклікаю вас: ідзіце, не садзейнічайце крываваму рэжыму.

Яшчэ я заклікаю ўсіх сумленных людзей, сусьветную супольнасьць: калі ласка, дапаможыце, зьвярніце ўвагу на гэ тую справу, таму што нас, былых журналістаў дзяржаўных СМІ ў Беларусі, прэсуюць, застрашваюць, рэпрэсіі закранулі нас значна мацней. Усё гэта прэсаваньне і застрашваньне пачыналася з былых сілавікоў, былых судзьдзяў, а цяпер справа дайшла да былых журналістаў дзяржаўных СМІ.

## У мужчынскім адзеньні, з пакункам сьмецьця

*Юлія Драбушэўская, 33 гады, Магілёў:*

Мы з мужам гадуем траіх дзяцей. Дочкам 13 і 2 гады, сыну — 5. Пасьля акцый пратэсту наша жыцьцё кардынальна зьмянілася. На момант затрыманьня я была ў дэкрэтным адпачынку, муж працаваў на чатырох працах. Цяпер выйшла так, што ўсе мы ўцекачы.

У 2020-м наступіў, скажу так, пункт кіпеньня. На пікеце ўлетку з удзелам Марыі Калесьнікавай, Сьвятланы Ціханоўскай і Веранікі Цапкалы — гэта быў момант, калі я паверыла, што ўсё магчыма! Пасьля выбараў не магла заставацца ўбаку і сьпісваць сваё бязьдзеяньне на тое, што ў мяне дзеці.

У 2020-м я выйшла на жаночы ланцуг салідарнасьці 12 жніўня, пасьля больш ужо не прапускала мірных акцый. Я стварыла чат „Могилев. Возрождение“. Удзельнікі чату ладзілі самыя розныя акцыі, у тым ліку — з павешанымі лялькамі Лукашэнкі і Ярмошынай.

Пазьней за гэта некаторыя людзі атрымалі тэрміны зьняволеньня.

Мяне затрымалі 23 лістапада. А далей — ператрусы, допыты, вочныя стаўкі, ізалятар… Пра тое, як мяне вылічылі, я магу сказаць так — мяне „здалі“. 8 лютага да мяне ў кватэру грукалі супрацоўнікі амону. Ноччу я таемна выехала ў Расею. Выбіралася ў мужчынскім адзеньні, з пакункам сьмецьця ў руках. Муж зь дзецьмі пачалі хавацца ў знаёмых, а 13 лютага ім удалося вылецець ва Украіну.

Сьледчы забраў у мяне пашпарт, бо была забарона на выезд.

Было страшна, часам быў моцны адчай. Ніхто ня ведаў — ці ўбачу я зноў дзяцей, мужа. Месяц я была ў Расеі... Ехала празь межы нелегальна, празь лес, з п’янымі гастарбайтэрамі. Цэлы месяц я ня бачыла мужа і дзяцей, толькі 13 сакавіка здолела трапіць ва Ўкраіну.

Там нарэшце сям’я сустрэлася. Але мне патрэбны быў дакумэнт, і я зьвярнулася ў беларускую амбасаду.

Вельмі страшна... Не было інфармацыі — могуць мяне там затрымаць, ці не. За плотам чакала вялікая група падтрымкі, на выпадак, каб ня даць мяне, калі што, вывезьці. У амбасадзе пры мне патэлефанавалі ў службу бясьпекі і сказалі: „Тут прыйшла Драбушэўская, вы прасілі папярэдзіць“.

Пра што далей ішла размова — я ня чула. Але ледзь не самлела. Уцякаць ужо не было куды, заставалася чакаць. Супрацоўніца амбасады афармляла паперы, а я памірала са страху. Не паверыце — але я выйшла з „Пасьведчаньнем аб вяртаньні на радзіму“.

Урэшце наша сям’я апынулася ў Варшаве. Цешуся, што шмат незнаёмых людзей, фонды, дыяспары падтрымлівалі нас і працягваюць падтрымліваць. Я ўсім ім удзячная.

Нам тут усяго хапае. Мы цешымся свабодай і магчымасьцю быць побач адзін з адным. Муж уладкаваўся на працу, нам дапамаглі наняць жытло. Я пакуль не працую, бо ня маю дакумэнтаў. Хочам вярнуцца, натуральна. Мы любім свой дом, свой горад, краіну. Але быць рабамі ці сядзець у турме з надуманых прычын ня хочацца.

## Нейкім цудам „на дзень“ я выпрасіла ў сьледчай пашпарт

*Анастасія Рысева, 20 гадоў, Магілёў:*

На момант гарачых лета і восені 2020 году я працавала прадаўцом. Актыўна ўдзельнічала ў „ланцужках салідарнасьці“, акцыях і маршах.

Калі я пачула афіцыйную лічбу „80%“ за Лукашэнку — у мяне вочы былі па пяць капеек! Гэта ж проста немагчыма! Мы хадзілі па горадзе і пыталіся ў кожнага мінака — за каго ён галасаваў? Ніхто не сказаў, што за Лукашэнку. Мяне проста калаціла.

Калі пачаліся масавыя рэпрэсіі і затрыманьні, я з кампаніяй з закрытага чату „Могилев. Возрождение“ пачалі ладзіць акцыі. За адну зь іх — спаленьне лялек з выявай Лукашэнкі і Ярмошынай — удзельнікі чату ўжо атрымалі пазбаўленьне волі ад трох да трох з паловай гадоў. Некаторым — як Сьвятлане, Юліі і Анастасіі — удалося ўцячы за мяжу.

Мяне шукалі за акцыю з павешанымі лялькамі. Міліцыянты прыйшлі зьператрусам, затым забралі мяне на допыт.

Яны спрабавалі мяне ўсялякім чынам „душыць“, прыніжалі, міліцыянтаў было чалавек дзесяць, і ўсе разам нешта гаварылі мне. Адзін крычаў, што я ў 20 гадоў не магу мець сваёй думкі, што мне прамылі мазгі, што мы змагары, што лепш бы я пайшла ў бар і знайшла сабе хлопца. Прапаноўвалі ўсіх здаць, супрацоўнічаць зь імі. Але маё сумленьне чыстае, я прынцыповы чалавек.

Да зімы мяне не чапалі. Але 18 студзеня выклікалі ў сьледчы камітэт за акцыю 4 лістапада памяці Гая Фокса.

На маім ноўтбуку знайшлі здымкі. Дакладней, яны былі зьнішчаныя, але іх аднавілі. Здымкі як быццам доказвалі маю „віну“ ў „партызанскіх акцыях“. Я адмовілася даваць паказаньні і трапіла ў ізалятар на тры дні, як падазроная ў крымінальнай справе. І тады ў мяне забралі пашпарт. У ізалятары я плакала. Мне было крыўдна, што прымаюць за злачынцу, хоць я нічога не зрабіла. На сьценах камэры было надрапана: „Жыве Беларусь!“, а нехта напісаў, што ён тут адседзеў 30 сутак. Тыя надпісы падбадзёрылі. У ізалятар прыходзілі опэры, дапытвалі, казалі, што хочуць мне дапамагчы. Круцілі перад носам маім пашпартам і сьмяяліся. Але пасьля трох сутак выпусьцілі — і мне параілі ўцякаць.

Нейкім цудам „на дзень“ я выпрасіла ў сьледчай пашпарт.

Той ноччу я зьехала ў Расею, адтуль — ва Ўкраіну.

Страшна было, ня страшна — на той момант мне было ўсё роўна, галоўнае, каб не ў турму. Я лічу, што ніхто з нас, беларусаў, якія ўдзельнічалі ў мірных акцыях, не заслужыў таго, каб сядзець у турме.

Я ўсхваляваная падтрымкай, якую атрымала ад беларусаў спачатку ва Ўкраіне, потым у Польшчы. Я спачатку жыла ў Кіеве, і мне неставала грошай, каб даехаць да Кракава. Напісала ў чат — і мне адразу накідалі грошай, каля 4,5 тысячы грыўняў! Я была проста ў шоку.

Мае родныя былі супраць улады, але маўчалі. І пасьля маіх „прыгод“ сказалі: „Насьця маладзец! Першая з нас, хто адважыўся“.

Па прыезьдзе ў Кракаў мяне атачылі клопатам беларусы.

Падтрымлівалі і фінансава, і прадуктамі, і маральна. Запрашалі на вячэры, на музычныя вечарыны. У нейкі момант я ўпала ў самоту... Нічога не хацелася — ні польскую вучыць, ні сустракацца. Проста сядзела і думала, што хачу дахаты. Але беларусы мяне выцягвалі некуды ўвесь час — і мне зрабілася лепш.

Я падала дакумэнты на праграму Каліноўскага, цяпер чакаю адказу.

Тым часам да маці і нядаўна яшчэ прыходзілі міліцыянты, казалі, што мы ведаем пра вашу дачку, выйшаў закон, што ўцекачоў будуць пазбаўляць грамадзянства. Маці ім сказала ў такім тоне, што „сьцяг вам у рукі“.

## „Бервяно“ разагналася — і моцна стукнула мне ў грудзі

*Ўладзіслаў Навіцкі, 19 гадоў, студэнт, Берасьце:*

„Здорава“ прайшлі мае першыя выбары! Прыкладна праз месяц пасьля іх я трапіў на мірнае шэсьце ў цэнтры Берасьця. Гэта было 13 верасьня. Людзі танцавалі, вадзілі карагод, сьпявалі і слухалі песьні. Усё было падобна да сьвята, дзе незнаёмыя людзі ўсьміхаліся адзін аднаму, давалі ваду, дапамагалі. Праз некалькі хвілін без аніякага папярэджаньня прыехаў вадамёт і пачаў

паліваць людзей, нават тых, хто былі на тратуары. Ён паліваў і правады электраперадач, і тралейбусы, якія праяжджалі.

Я сышоў на тратуар, рэзка прыехалі аўтазакі з амонам, многія зь іх былі са стрэльбамі. Яны жорстка пачалі біць людзей дручкамі і затрымліваць. Схапілі і мяне. Разьбілі губу, цягалі за валасы, прыдушвалі, выкручвалі рукі і вялі носам у асфальт. У аўтазаку на нас крычалі матамі, білі па сьценках дручкамі, забралі рэчы. Завезьлі нас у ІЧУ. Паставілі тварам да сьцяны, здымалі на камэру. Мяне, як і іншых, прымусілі разьдзецца дагала, прысядаць.

У камэры ўмовы былі жахлівыя — прыбіральняй служыла дзірка пасярэдзіне. Начальнік ізалятара выклікаў мяне і пагражаў, што мяне адлічаць з унівэрсытэту, ён сапсуе мне жыцьцё. Мой тэлефон забралі, пагражалі, што будуць выкручваць пальцы і біць, калі я не разблякую яго. Нас трымалі ў падвале, там гарэла яркае сьвятло — дзень і ноч. На прагулкі не вадзілі, мыцца не давалі. Праз тры дні мяне адвезьлі ў суд і далі штраф 270 рублёў паводле артыкулу 23.34.

Пасьля вяртаньня на вучобу мяне часта пачалі выклікаць на „прафіляктычныя гутаркі“. Са мной размаўлялі начальнікі РАУС, адміністрацыя ВНУ, пракурор Берасьцейскай вобласьці. Яны задавалі розныя пытаньні і ўсяляк аказвалі ціск. Аднойчы ва ўнівэрсытэце адлічылі адразу дзевяць студэнтаў. Гэта было неправамерна, юрысты не хацелі падпісваць такіх папераў, і тады звольнілі юрыстаў. У сьпісе на адлічэньне мусіў быць і я. Але я актыўна ўдзельнічаў у жыцьці ўнівэрсытэту, выступаў на канцэртах з хорам, іграў на музычных

інструмэнтах, удзельнічаў у алімпіядах і студэнцкіх аб’яднаньнях. Аднак мяне пазбавілі грашовых прэмій. Проста выкрэсьлівалі са сьпісаў, нібыта я і не выступаў.

Потым па мяне прыйшла міліцыя. Мяне завезьлі ў пастарунак. Там выпытвалі, каго я ведаў на „карагодзе“, ці быў я адзін там. Зноў пагражалі ізалятарам. Паведамілі, што на мяне распачалі крымінальную справу „за масавыя беспарадкі“ — за тыя самыя дзеяньні 13 верасьня, за якія я атрымаў раней штраф. Сьледчы патрабаваў у мяне прызнаньня, пагражаў, што пасадзіць у СІЗА, дзе зь людзей выбіваюць паказаньні.

Пяць месяцаў я хадзіў у сьледчы камітэт, дзе на мяне псыхалягічна ціснулі.

Ва ўнівэрсытэце зьявілася пасада прарэктара па бясьпецы. Ім стаў Андрэй Басько. Гэты чалавек выклікаў мяне да сябе, пагражаў адлічэньнем, прыдумляў вымовы і прымушаў выдаваць яму іншых студэнтаў, якія ня згодныя з уладай. Ён мне напісаў тры вымовы і, паводле ягоных слоў, мяне маглі адлічыць у любы момант. Яшчэ ён сказаў, што калі ўбачыць недзе налепку ці стужку бел-чырвона-белага колеру, то адразу адлічыць мяне, таму я мушу выдаваць яму студэнтаў, якія будуць гэта рабіць. Натуральна, я такога не зрабіў.

Ва ўнівэрсытэце мяне дапытваў губазік, гэта таксама моцна ціснула на мяне. Некаторыя выкладчыкі наўмысна не хацелі ставіць мне залікаў за мае палітычныя і чалавечыя перакананьні. Перад анансаванымі акцыямі пратэсту мне тэлефанавала міліцыя і пагражала аб адказнасьці. Я пастаянна знаходзіўся ў напружаньні, мог быць затрыманы ў любы момант.

Працэс у „карагоднай справе“ хацелі зрабіць закрытым. Але мы дабіліся, каб пусьцілі незалежнага журналіста і людзей. Пры гэтым рызыкавалі, што нас могуць затрымаць тут жа. Мы ня выканалі патрабаваньня судзьдзі заняць нашы месцы і сталі, пакуль ня пусьцяць людзей.

Да ўдзельнікаў працэсу ставіліся вельмі непаважліва. Не было ніякіх доказаў віны. „Доказам“ маёй віны было маё адзеньне, якое ні пра што ня сьведчыла. Быў здымак, дзе я проста стаю на месцы. Ад таго, што людзі нібыта парушылі працу арганізацый з 16 да 18 гадзін, кіёск зачыніўся ў 15 гадзін — вось такія былі доказы „віны“.

У судзе ад нас не прымалі хадайніцтваў, судзьдзя і пракурор часта падвышалі голас на нас. Яшчэ быў „доказ“ віны — здымак бюлетэня з тэлефона адной з абвінавачаных. Гэта нібыта даказвала яе віну ў перакрыцьці руху.

У выніку я атрымаў два гады „хіміі“. Там бы мяне прымушалі працаваць за капейкі, плаціць за пражываньне ў гэтай установе. Пры гэтым у нашай краіне можа быць так, што ты атрымаеш тры заўвагі на „хіміі“ — і паедзеш у турму як парушальнік парадку.

Ва ўнівэрсытэце пагражалі, што адлічаць бяз права на аднаўленьне. Хоць я добра вучыўся. Улічыўшы ўсё гэта, я вырашыў уцякаць з краіны. Бо далей было б горш. Я баяўся за сваё здароўе, жыцьцё, свабоду. У мяне адбіралі ўсё, што я меў.

Я хачу адчуваць сябе свабодным чалавекам, атрымліваць добрую адукацыю, раскрыць свой патэнцыял, выкарыстоўваць свае навыкі і ўменьні на карысьць людзям. Але ў Беларусі я цяпер не магу нічога гэтага зрабіць.

На мапе я знайшоў месца, дзе мог бы прайсьці мяжу, пераплыўшы Буг. Склаў свае рэчы ў заплечнік, запакаваў у воданепранікальны пакет, узяў з сабой камізэльку для плаваньня і пайшоў. Вечарам ішоў глухім лесам. Было вельмі страшна. Калі падышоў да ракі, там быў вельмі круты спуск, а ўнізе з ракі пачалі выскокваць вялікія самы! Але часу думаць пра іх не было. Склаў заплечнік у пакет, прывязаў яго вяроўкай да сваёй папругі, надзеў камізэльку і палез у ваду.

Вось так плыў недзе мэтраў 75. Каля мяне плавалі самы. На сярэдзіне ракі ўбачыў нейкае бервяно. Калі яно наблізілася, то зразумеў, што гэта нешта жывое. „Бервяно" паплыло ў мой бок, а потым разагналася — і моцна стукнула мне ў грудзі! Я трохі адскочыў, але „бервяно" зьнікла і я даплыў да берага. Там зразумеў, што гэта быў бабёр. Потым даведаўся, што не такія яны мілыя і добрыя, як у мультфільмах.

На тым баку блукаў яшчэ хвілін сорак па густым лесе, пакуль не знайшоў сьляды ад матацыкла і ня выйшаў на польскіх памежнікаў.

У лягеры для ўцекачоў умовы больш-менш добрыя, кормяць, трохі грошай даюць. Польскія памежнікі паставіліся добра. Пыталіся, хто я, чаму тут. Так я сустрэў сьвітанак у іншай краіне. Аформілі дакумэнты, узялі прашэньне пра статус уцекача. Апытвала мяне паліцыя. Але ня так, як у Беларусі.

У лягеры цяпер беларусаў большасьць, але людзей няшмат, можа, чалавек дваццаць.

Я веру, што ўсё робіцца да лепшага. І перамены — гэта заўсёды добра. У нашай краіне ва ўсім адчувалася стагнацыя, адсутнасьць руху, асабліва

я гэта адчуваў у сыстэме адукацыі. Тут, нават у невялікім горадзе Белай Падляскай, у дэталях адчуваеш, што ўсё разьвіваецца, робіцца больш новым і зручным.

Спадзяюся атрымаць тут добрую адукацыю, працу з добрым заробкам, пры гэтым ня думаць пра абавязковае разьмеркаваньне і войска. Пляную вучыцца тут у сфэры IT.

# *ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ*

## *Не чакаў, што будуць судзіць, як забойцаў і маньякаў*

Ігар Лосік, блогер і журналіст:

*Лісты даходзяць ажно праз два тыдні, відаць, вельмі вялікая нагрузка. Час, вядома, цягнецца невыносна... Дачцэ ўсяго паўтара года, і больш за ўсё я баюся, што яна забудзе мой твар.*

*Я атрымліваў лісты і паштоўкі ад цэлых менскіх двароў і вуліц, дзе расьпісваліся дзясяткі чалавек. Гэта ваў!*

*У камэры пусьцілі ацяпленьне, стала горача. Лётае мыш па начах і не дае спаць. Атрымліваю ад Дашы фоткі Паўлінкі, сьлёзы льюцца самі па сабе. Яна вельмі вырасла.*

*Ужо пяты месяц... Без дачкі, бяз Дашы... Галава забітая думкамі, што ніколі іх не пабачу ці не дацярплю. Можа, так восень уплывае, усё халадае, пахмурна, сонца няма, сьвежага паветра няма... Так хочацца простай справядлівасьці! І пабачыць вас усіх!*

*Самаадчуваньне нармальнае. Шмат п’ю, трымаюся. Галоўнае, што зь сям’ёй усё нармальна. І велізарная падтрымка. Пішуць нават з Бразыліі. Наша возьме!*

*Сёньня атрымаў „Гары Потэра“. Вялікі дзякуй. Даведаўся, як будзе [праходзіць] суд і дзе будуць праводзіць, то падарунак троху ўзьняў настрой... Не чакаў, што так спужаюцца і ажно ў СІЗА будуць*

*судзіць, як нейкіх забойцаў і маньякаў. Такое сабе. Пакуль не магу думкі сабраць у галаве і асэнсаваць гэта ўсё.*

## Я маю хай невялікую, але мару — быць аўтасьлесарам

*Ягор Цюлькоў, 17 гадоў, Асіповічы:*

Я фізычна ня мог больш вучыцца, бо ў сьнежні 2020-га мяне выселілі з інтэрнату. Даводзілася штодзень, калі здаваў зімовую сэсію, езьдзіць з Асіповічаў у Сьмілавічы, у аграрны каледж. Гэта недзе 130 кілямэтраў у адзін бок. Прачынаўся а шостай раніцы, вяртаўся амаль ноччу дахаты.

Ад 9 жніўня я ўдзельнічаў у „ланцугах салідарнасьці“.

На акцыях у Менску я пазьбегнуў затрыманьняў, быў вельмі асьцярожны. У Асіповічах у нас нічога такога маштабнага не было. Паціху „партызаніў“, маляваў, дзе мог, лёзунгі, бел-чырвона-белы сьцяг.

Міліцыя прыйшла да мяне зьператрусам 28 сьнежня. Думаю, таму, што на мяне „мела зуб“ намесьніца дырэктара каледжа. Яна сама сябра ўсіх магчымых чырвона-зялёных партый і арганізацый. Яна мяне выселіла зь інтэрнату напярэдадні сэсіі. Фармальна — за тое, што лазіў праз вакно ноччу. Я думаю, выселіла таму, што даведалася пра маю палітычную актыўнасьць. Бо ў нашым інтэрнаце і больш сур’ёзныя здарэньні былі, і нікога не высялялі.

Намесьніца дырэктара ўдзельнічала ў выбарах, выклікала міліцыю на назіральніка. Таму нехта напісаў на асфальце каля каледжа, зьвяртаючыся да яе: „Колькі каштуе сумленьне?“. Гэты надпіс замазалі, але ён і цяпер відаць. Калі яна выклікала мяне з маці ў каледж, то моцна крычала на мяне.

А я ўсё ўзіраўся ў гэты надпіс. І яна сказала: „Ты нешта хочаш спытацца?“, а я сказаў: Колькі каштуе сумленьне?

Два тыдні я езьдзіў здаваць сэсію ў Сьмілавічы з Асіповічаў, каб была скончаная хаця б сярэдняя адукацыя. Потым напісаў заяву на адлічэньне. Бо ні фізычна, ні па фінансах я ня здолеў бы далей так вучыцца.

Міліцыянты казалі, што хацелі проста праверыць мяне. Але па выніку ў мяне знайшлі бел-чырвона-белы сьцяг, балёнікі з фарбай і складнікі, зь якіх пры жаданьні можна было вырабіць выбухоўку. Хоць, забягаючы наперад, скажу, што экспэртыза паказала, што гэтыя складнікі самі па сабе не нясуць пагрозы, не зьяўляюцца выбухоўкай.

Пасьляператрусу мяне ўзялі пад рукі і павезьлі ў Чэрвеньскі РАУС. Бо каледж знаходзіцца ў Чэрвеньскім раёне. Там асноўнае пытаньне ў міліцыі было ў тым, што нехта запаліў рамку BelToll для платнай дарогі, і міліцыя хацела мяне дапытаць, раз я засьвяціўся. Мяне ня білі, але моцна крычалі і абражалі. Адзін з губазіку крычаў: „Ты разумееш, што ты чмо?!“. Ну, і ўсе размаўлялі аднымі матамі.

У Чэрвеньскім РАУС мяне пратрымалі сем гадзін. Дапытвалі бяз маці, без пэдагогаў. Потым завезьлі на мяжу з Асіповіцкім раёнам і перадалі мясцовым міліцыянтам. Тыя перадалі мяне маці.

Калі везьлі з Чэрвеня ў Асіповічы, то прымусілі сказаць на камэру, што я зьбіраўся зрабіць выбухоўку і прымяняць яе супраць міліцыянтаў.

Я першы раз трапіў у міліцыю. Мне праўда было страшна. Яны сказалі — калі скажаш на камэру

прызнаньне, што зьбіраўся прымяніць выбухоўку да міліцыі, то адпусьцім. Калі не — пасадзім. Ну, я і сказаў.

Потым мяне выклікалі ў Асіповіцкі РАУС, пыталіся — ці спрабаваў я зрабіць выбухоўку, дзе яе выпрабоўваў. Пыталіся — ці ня я размаляваў прыпынкі ў горадзе. Як мой тэлефон забралі на ператрусе, то, думаю, яны шмат чаго адтуль даведаліся, бо я не пасьпеў яго пачысьціць.

Пасьля экспэртызы, якая паказала адсутнасьць выбуховых рэчываў, маю справу закрылі. 5 сакавіка я паехаў да бацькі ў Маскву, уладкаваўся там на працу ў дастаўку ежы.

Працаваў два месяцы, да 5 траўня. Сабраў грошай. У нашай сям'і ня вельмі добрая фінансавая сытуацыя, таму я з 15 гадоў недзе падпрацоўваў. І ў Маскве ў траўні да мяне прыйшла паліцыя, каб апытаць мяне на запыт беларускіх міліцыянтаў. А потым мне напісала маці, што крымінальную справу аднавілі, у яе зноў быў ператрус, а мяне чакаюць на допыт у міліцыі. Я напісаў маці, што прыеду, купіў квіток на цягнік і сабраўся ехаць. Потым пачытаў артыкул 295 Крымінальнага кодэксу — „незаконныя дзеяньні са зброяй і выбухоўкай" — і перадумаў ехаць у Беларусь. Бо пагражала да сямі гадоў.

У выніку бацька пры падтрымцы беларускай дыяспары завёз мяне ў Кіеў.

Першыя тры дні я ня мог апамятацца і не разумеў, дзе я. Кіеў мяне проста ашаламіў.

Ад усіх уражаньняў, ад прыгажосьці Кіева ў мяне проста камень зваліўся з душы. На твары эмоцый не было, але ў душы — проста эўфарыя. Ведаеце, я нідзе ня быў за свае 17 гадоў — за

мяжой, маю на ўвазе, сям’я часта пераяжджала, грошай у нас было ня надта, каб некуды езьдзіць. Я адразу пачаў шукаць працу, бо не прывык прасіць грошы. Уладкаваўся памочнікам афіцыянта, працаваў па 12 гадзін у суткі, але зарабіў ня столькі, каб хапіла аплаціць хостэл і ежу, таму пачаў шукаць іншую працу.

Цяпер я ўладкаваўся на аўтамыйку, праходжу стажыроўку.

Тут давядзецца працаваць па 14 гадзін, але іншага выйсьця ў мяне пакуль няма. Думаю, калі мне ў верасьні споўніцца 18 гадоў, рабіць візу і ехаць у Польшчу. Я маю хай невялікую, але мару — быць аўтасьлесарам. Бо надта люблю аўтамабілі і корпацца зь імі. Думаю ў Польшчы адвучыцца і працаваць. У Беларусь я не хачу вяртацца. Хачу ўбачыць сьвет. У мяне Кіеў такія вялізарныя эмоцыі выклікаў! Нават не ўяўляю, што мяне чакае далей!

## Проста за намі прайшла група мігрантаў

*Андрэй Шарэнда, грамадзкі актывіст, Берасьце:*

Мне пагражала да 5 гадоў пазбаўленьня волі. Абвінавацілі ў паклёпе на Лукашэнку. 4 чэрвеня маю жонку, актывістку „Эўрапейскай Беларусі“ Паліну Шарэнду-Панасюк асудзілі на 2 гады. Суд нада мной распачаўся 28 чэрвеня, але я на працэс не зьявіўся, хоць быў пад хатнім арыштам.

Я вырашыў не станавіцца чарговым закладнікам рэжыму. Зьвязаўся зь сябрамі, якія параілі перайсьці мяжу зь Літвой. Я пасяліўся ў адным

з памежных гарадоў. Мы дамовіліся з Вольгай Паўлавай, актывісткай „Страны для жизни“, перайсьці мяжу разам.

Ніякага плоту там няма, але ёсьць паняцьце памежнай зоны і на ўсіх дарогах стаяць кантрольна-прапускныя пункты, дзе дзяжураць памежнікі, ва ўсіх вёсках ёсьць інфарматары памежнікаў і спэцслужбаў.

Паводле маіх зьвестак, за кожнага злоўленага чалавека, які спрабуе нелегальна перасекчы мяжу, памежнікі атрымлівалі прэмію. Таму цяпер гэтая міграцыя арганізаваная.

Нас падвезьлі да бліжэйшага ад мяжы пункту, дзе няма КПП. І мы проста ноччу праз лес практычна дайшлі да месца, дзе думалі пераходзіць. Літаральна за 300 мэтраў ад месца пераходу ўбачылі разьбіты лягер. Там быў нацягнуты вайсковы тэнт, памежнікі. Мы вырашылі не рызыкаваць і па кароткай дарозе пабеглі да мяжы. Спачатку трапілі ў балота, але ўсё ж апынуліся на тэрыторыі Літвы і пачалі шукаць памежнікаў, каб да іх зьвярнуцца па палітычны прытулак.

Нас разьмясьцілі на адной з памежных застаў.

Аказалася, што проста за намі прайшла група мігрантаў у тым жа месцы, дзе і мы. Можна зрабіць выснову, што той лягер быў разьбіты менавіта для іх. Калі я яшчэ хаваўся на кансьпіратыўнай кватэры ў горадзе недалёка ад мяжы, мясцовыя жыхары расказвалі, як гэта адбываецца: яны неаднаразова бачылі бусы, якія праходзяць памежныя пункты і пад’язджаюць да памежнай зоны, куды простыя людзі, па сутнасьці, ня маюць доступу. Відавочна, што гэта робіцца арганізавана і за грошы.

За чатыры дні мы сутыкнуліся зь некалькімі групамі мігрантаў. Тыя расказвалі, што заплацілі за свой „перакід“ празь мяжу.

Ясна, што гэтым займаецца беларускі бок, які зарабляе на гэтым. І, самае цікавае, нават не прыдумаў ім нармальнай легенды, па якой гэтыя мігранты могуць папрасіць палітычнага прытулку. Калі міграцыйныя службы пыталіся ў іх, як яны трапілі ў Беларусь, некаторыя кажуць, што былі студэнтамі Горадзенскага ўнівэрсытэту, хоць слова сказаць ня могуць па-беларуску. Некаторыя апавядаюць, што прыплылі ў Менск на лодцы зь Лібану.

Многія мігранты нават не разумеюць, дзе яны. Ім абяцалі, што „перакінуць“ у Эўразьвяз, але куды канкрэтна, не паведамілі.

Мы бачылі людзей зь немаўлятамі на руках, а памежная застава — гэта ня месца для дзяцей. Хоць самі памежнікі вельмі добра да ўсіх ставяцца, але яны проста не спраўляюцца. Людзі, якія незаконна перасякаюць мяжу, — проста разьменная карта. Гэта калясальная трагедыя для тых, хто трапіў у такую сытуацыю.

## Не магу прывыкнуць, што на пратэстах паліцыя нас ахоўвае

*Наста Захарэвіч, журналістка:*

За тое, што я працавала журналісткай на пратэстах, мяне два разы затрымлівалі. Першы раз прысудзілі 7 дзён адміністрацыйнага арышту, другі раз — 15. Яшчэ мяне спрабавалі абвінаваціць

у крадзяжы міліцэйскага відэарэгістратара, але ў выніку ня сталі заводзіць крымінальную справу. Пасьля другога вызваленьня сталі тэлефанаваць маім сваякам. Я гэта зразумела як адназначны сыгнал: або я зьяжджаю, або мяне саджаюць.

Як і многія іншыя ўцекачы, я не зьбіралася пакідаць Беларусь надоўга — максымум на некалькі тыдняў: адпачыць, прыйсьці ў сябе, зьмяніць абстаноўку, а потым зноў паехаць у Менск і працаваць. Але пачаліся арышты і суды над журналістамі, потым прымусовая пасадка самалёта з Раманам Пратасевічам, іншыя рэпрэсіі. Стала ясна, што эміграцыя — гэта, магчыма, надоўга.

Гэта была поўная разгубленасьць, я наагул не разумела, як далей жыць. У Менску застаецца здымная кватэра, бацькі ў Беларусі, усё жыцьцё ў Беларусі, а з сабой — чамадан, пакет і заплечнік.

Я ўжо атрымала ў Латвіі афіцыйны статус палітычнага ўцекача — ён дазваляе атрымаць від на жыхарства ў краіне на пяць гадоў. Пакуль я жыву ў цэнтры для мігрантаў: для таго, каб здымаць кватэру і жыць самастойна, трэба знайсьці працу. З аднаго боку, неяк усё блізка і падобна на Беларусь, з другога — я ніяк не магу прывыкнуць, што на акцыях пратэсту паліцыя нас ахоўвае, гэта кожны раз такі шок. Тут бясьпечна, гэта самае галоўнае. Але, вядома, хочацца дадому, убачыць бацькоў і па Менску пагуляць.

Людзі пачынаюць будаваць сваё жыцьцё ў новай краіне. Я сёньня ўспамінала першы буйны марш, 16 жніўня: мы ішлі ўсе ўпэўненыя, што ўжо перамаглі, што народ ужо перамог. Гэта ўжо было сьвяткаваньне. Ну а цяпер усё дрэнна.

## Мы называлі гэтую справу „за шакаляднага Сашу“

*Аляксандар Дарафееў, Жабінка:*

Да жніўня 2020 году я жыў мерным жыцьцём у Жабінцы. Маёй старэйшай дачцэ шэсьць гадоў. Летась 21 жніўня жонка нарадзіла меншую дзяўчынку.

Увосень я прайшоў праз затрыманьні і арышты. Увесну па мяне прыйшлі ў крымінальнай справе. У ізалятары я даведаўся, што такое „прэс-хата“.

Папраўдзе я заўсёды быў супраць гэтай улады. Бо разумеў яе сутнасьць. У жніўні 2020 году я думаў, што нарэшце нам выдаўся шанец нешта зьмяніць у краіне. Таму я выходзіў на пратэсты ў Жабінцы. 21 жніўня мая жонка нарадзіла малодшую дачку. У кастрычніку нашу сям'ю прызналі „сацыяльна небясьпечнай“, бо я быў двойчы арыштаваны за пратэсты. Адзін раз адбыў 10 дзён. Другі — 15. Значыць, мы „благія бацькі“.

У лістападзе мяне „папрасілі“ з працы — зноў жа за ўдзел у пратэстах. Жабінка — невялікі горад, таму пасьля ўмяшаньня „слабавікоў“ знайсьці працу вельмі цяжка. Адзін чалавек, праўда, узяў мяне на працу.

І мяне, і жонку ўсё цягалі на допыты, усё пыталіся — ці дапамагалі нам фонды, ці аплачвалі мае штрафы і арышты. Спакою не было.

У нашай Жабінцы ў траўні распачалі крымінальную справу за „абразу прэзыдэнта“, мы называлі гэтую справу „за шакаляднага Сашу“. Нехта разьвесіў партрэты Лукашэнкі па Жабінцы. Яны былі ў нешта выкваценыя, можа быць, у экскрэмэнты.

Пачалі скрозь хапаць людзей. Урываліся ў дамы, цягнулі на допыты і ў ізалятары. Гэта страшна — у нас малыя дзеці, а няма спакою. Ранкам урываюцца ў балаклавах, ператрасуць дом дагары нагамі, дзеці палохаюцца, плачуць.

Мяне забралі ў берасьцейскі губазік, там дапытвалі пра гэтую „абразу прэзыдэнта“. Потым перавезьлі ў Жабінку, „закрылі“ на 72 гадзіны і завезьлі ў Кобрын, у ІЧУ. Там я трапіў у „прэс-хату“. Бо не прызнаваўся ні ў чым. А ў чым мне было прызнавацца? Гэта ня я рабіў. У „прэс-хаце“ сядзелі два такія здаровыя мужчыны, адзін увесь у наколках. Гэта былі „зэкі“. Яны пачалі мяне біць, каб я прызнаўся пра тыя партрэты. Білі па галаве, у жывот, каб пайшоў на яўку з прызнаньнем. Потым... Адзін дастаў чэлес і сказаў: „Мы цябе зараз згвалцім“. Я тады сказаў цьвёрда: Я рукі мачану ва ўнітаз, заквэцаю вас, і вы самі будзеце „апушчанымі“. Потым яны пачалі мяне душыць псыхалягічна, прыніжалі, абражалі, казалі: Ды цябе ўсё роўна раскрыюць, прызнавайся, цябе зноў кінуць у „прэс-хату“. І яны ўсё выбягалі з камэры і давалі справаздачу апэратыўнікам. Я чуў, як яны размаўлялі з апэратыўнікамі на жаргоне пра мяне: „Он на полном морозе, быка включил“. Гэта значыць, што я ўпарты, не „калюся“ і ні ў чым не прызнаюся.

Праз 72 гадзіны мяне адпусьцілі, але я застаўся ў статусе падазраванага.

Потым ад іх яшчэ быў ціск, але толькі псыхалягічны. Праз 72 гадзіны мяне адпусьцілі, але я застаўся ў статусе падазраванага.

Я не хацеў і не зьбіраўся нікуды бегчы ці зьяжджаць. Я ж ведаю, што ў іх на мяне нічога няма. Але

людзі, якія маюць сувязі ў міліцыі і іншых органах, папярэдзілі, што па нас — тых, каго затрымлівалі, абавязкова прыйдуць і забяруць другі раз.

Мы з жонкай вырашылі ўцякаць.

Жабінка — маленькі горад. Тут жа ўсе адно аднаго ведаюць.

Мая маці ўсё жыцьцё працавала ў дзіцячым садку. Груба кажучы, усе дзеці мясцовых міліцыянтаў выхоўваліся ў яе. І такое пачалося з восені, што міліцыянты — а цяпер я не магу іх так называць! — такое зьверства ладзілі! Проста генацыд свайго народу. 1937 год нам зладзілі.

Жонка зьехала зь дзецьмі ва Ўкраіну. У мяне былі праблемы — сьледчы забраў мой пашпарт. Праўда, потым міліцыянты падкінулі яго ў маю паштовую скрыню, але ён быў сапсаваны — фатаграфія размытая.

Прыгодаў было шмат у мяне. Але ўрэшце днямі я праз Расею дабраўся да Ўкраіны, пабачыў жонку, дзяцей.

Нам дапамаглі нашы беларускія фонды, дапамагалі неабыякавыя людзі.

Божа, я цешуся, што мы вырваліся з канцлягеру! Я гатовы жыць хоць у гостэле, хоць у будане — абы на волі. У Беларусі я даўно забыўся, што такое свабода. Цяпер я спакойны, мая жонка і дзеці ў бясьпецы, бо ў чым яны вінаватыя? Я прыходжу ў прытомнасьць, вяртаюся да жыцьця, калі да цябе не пастукаюць у дзьверы, ня будуць гаспадарыць у тваім доме, ня будуць палохаць тваіх дзяцей!

Далей — ня ведаю. Можа быць, паедзем у Польшчу.

Цяпер проста вяртаемся ў прытомнасьць.

## Давайце зробім зь мяне тэрарыстку па лініі Інтэрполу

*Вольга Вялічка, кіраўніца дзіцячага госьпісу, Горадня:*

1 жніўня стала вядома, што на патрабаваньне сілавікоў зь Беларусі мяне ўнесьлі ў сьпіс асобаў, якіх шукае Інтэрпол.

Нам зь Сяргеем Вялічкам у Горадні ўскрылі кватэру. Ускрываў „дамушнік“ адмычкамі. А хто стаяў побач? Правільна, сьледчы камітэт. На мой запыт — „Што гэта было?“ — які адказ? Правільна — „Вас гэта не датычыцца“. Мне не дазволена праз электронны зварот даведацца, што гэта было. На запыт у ДФР — адказу няма. На запыт у пракуратуру — адказу няма.

Летась у кастрычніку празь перасьлед я разам зь сям’ёй мусіла зьехаць зь Беларусі. 1 сьнежня 2020 году супраць мяне завялі крымінальную справу (ч. 3 арт. 210 Крымінальнага кодэксу) аб крадзяжы маёмасьці грамадзкай арганізацыі.

Мы з мужам маем дваіх непаўналетніх дзяцей, я нэўрапсыхоляг і онкапсыхоляг паводле адукацыі, магістар дзяржаўнага кіраваньня ў сацыяльнай сфэры. У 2007-м стварыла і ўзначаліла дзіцячы госьпіс. Арганізацыя дапамагае дзясяткам цяжка і невылечна хворых дзяцей і іхным сем’ям. У разгар пандэміі пры ўстанове працавала майстэрня, дзе бясплатна шылі ахоўныя касьцюмы для мэдыкаў. Увосень 2020-га ў майстэрню прыйшла праверка ДФР, валянтэраў выгналі. Памяшканьне спрабуюць забраць праз суд.

Я ўваходзіла ў ініцыятыўную групу ўдзельніка выбараў 2020 году Віктара Бабарыкі, была незалежнай назіральніцай. Пасьля выбараў разам з паплечнікамі спрабавала стварыць раду народнага даверу ў Горадні. Удзельнічала ў перамовах актывістаў з уладамі, выступала на мірных акцыях супраць фальсыфікацый прэзыдэнцкіх выбараў і гвалту сілавікоў. Адседзела арышт у гарадзкім ізалятары нібыта за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу і атрымала штраф.

Калі зьявілася пагроза, што забяруць дзяцей, мы пераехалі ў Вільню.

На мяне завялі дзьве крымінальныя справы (за нясплату падаткаў і ўдзел у пратэстах), і ўключылі ў сьпісы Інтэрполу. У госьпіса забралі памяшканьне, а саму арганізацыю ліквідуюць разам з сотняй іншых НДА.

Але ўсё будзе нармальна. Усё будзе працаваць, як працавала. Гэтай уладзе патрэбная толькі ўлада. Іх не цікавіць, што будзе зь людзьмі, што будзе з жывёламі, што будзе зь людзьмі з абмежаванымі магчымасьцямі, з пэнсіянэрамі.

А нас цікавяць людзі. Таму ў нас ёсьць плян B, C, D, E, зыходзячы з таго, што ім зойдзе ў галаву. Мы будзем і далей дапамагаць людзям у межах закону ў той форме, у якой мы і раней аказвалі дапамогу.

Юрыдычная асоба „Горадзенскі дзіцячы госьпіс імя сьвятога Губэрта“ — гэта толькі юрыдычная назва. За гэтым стаяць людзі, неймаверны калектыў, якія ахвяруюць сабой, сваім часам, сваімі інтарэсамі. Можна ліквідаваць юрыдычную асобу, але людзі засталіся, і мы будзем дапамагаць.

Некаторыя кажуць: „Як шкада!“. Ня трэба ладзіць тут памінкі, дасылаць нам жалобныя лісты. Госьпіс меў такіх выпрабаваньняў да неба і раней. Мы глядзім на гэта як на новае выпрабаваньне, пасьля якога мы павінны стаць больш дасканалымі.

А ўлады... Калі ласка! Я іх прашу давесьці ўсё да абсурду. Давайце зробім зь мяне тэрарыстку па лініі Інтэрполу, а зь дзіцячага госьпісу — тэрарыстычную, экстрэмісцкую арганізацыю! Калі гэта ўсё, на што яны здольныя, то калі ласка. Свой розум я ім не пастаўлю. А мы маем адну мэту — дапамагаць дзецям. Нармальны чалавек гэта разумее.

Наша праца зьмянілася, і ў лепшы бок. Неўзабаве госьпісу будзе 14 гадоў. Усё, чаго мы дасягнулі, далося праз цяжкасьці. Таму я бясконца дзякую за гэтае выпрабаваньне. Мы сталі больш дасканалымі, салідарызаваліся зь міжнароднымі арганізацыямі. У нас цяпер ёсьць падтрымка ўсяго сьвету. Калі я прыяжджаю кудысьці, прыкладам цяпер — на стажаваньне ў Варшаву, мне кажуць: „А, дык гэта той самы госьпіс!“. Увесь сьвет ведае твар гэтай улады. Анджаліна Джалі ведае пра Горадзенскі дзіцячы госьпіс.

Пра Інтэрпол я даведалася ў аэрапорце Ўкраіны, калі паляцела туды зь дзецьмі зь Літвы. Быў пашпартны кантроль. Памежніца глядзіць на мяне, на дзяцей, на пашпарт, у кампутар. У кампутар, на пашпарт, на дзяцей, на мяне. І пытаецца: „Вы пашпарт не гублялі?“ — „Не, я пашпарт не губляла“. — „Вы дакладна пашпарт не гублялі?“ — „Не губляла“. Яна бярэ слухаўку і кажа: „У мяне супадзеньне па лініі Інтэрполу“.

Да ўсяго гэтага я ня мела палітычных амбіцый, мне было нецікава. А цяпер маю, бо гэтая ўлада павінна скончыцца, і мы мусім зрабіць нармальную, адэкватную, цывілізаваную, дэмакратычную краіну. Ненармальна выкарыстоўваць такія інструмэнты для запалохваньня людзей.

Калі мяне тады забралі ў ІЧУ, ну і забралі. Сяджу і сяджу. Тое, што я мусіла пераехаць у іншую краіну і тут жыць, для мяне гэта стрэс, што тут таіць. Але я веру ў тое, што калі табе нешта суджана, то табе гэта будзе. Вядома, чалавек мусіць быць асьцярожным, абачлівым. Але калі табе наканавана гэта лёсам, трэба прайсьці гэта годна.

Ва ўкраінскім аэрапорце яны тады зьвязаліся з пэўнымі структурамі, убачылі, што тут відавочны палітычны перасьлед, і адпусьцілі мяне.

Навошта тутэйшая ўлада гэта робіць? Я не магу зразумець. Я выехала, сяджу сабе спакойна, іх не чапаю, госьпіс працуе ды ўсё. Яны ня могуць падумаць, што будзе далей, на крок, на два далей. Нас пратрымалі тры гадзіны і адпусьцілі са словамі „Жыве Беларусь!“.

Да ўзлому нашай кватэры ў Горадні мы паставіліся спакойна. Яны прыйшлі, паглядзелі, як жыве дырэктарка госьпісу, ну і што? Гэта толькі рэчы. Я не прывязаная да рэчаў. Я прывязаная да людзей, да ўспамінаў, да падарожжаў, да адказаў палітвязьняў на мае лісты. Ну ўзламалі дзьверы адмычкамі, паглядзелі, як мы жывём, замкнулі тымі ж адмычкамі, як бандыты, і пайшлі.

Я была ўпэўненая да жніўня мінулага году, што я ўсё бачыла ў гэтым жыцьці, толькі ўнукаў сваіх ня бачыла. Жнівень мінулага году паказаў, чаго я ня бачыла раней: як беларус б’е беларуса, якія

моцныя беларускія жанчыны, якія акуратныя беларусы. Гэта неймаверна, як за вельмі кароткі час мы дасьпелі да нацыі. Я бясконца ўдзячная лёсу, што я нарадзілася ў такі час, калі магу гэта бачыць, як на нашых вачах ствараецца тая гісторыя.

Чалавек ніколі ня будзе жыць добра. Чалавек такая істота, якая заўсёды будзе незадаволеная. Цяпер беларусам, якія знаходзяцца ў таталітарнай пастцы, вельмі складана нешта рабіць, што б паказвала адкрытую барацьбу. Але барацьба можа быць і не адкрытай.

Беларусы дагэтуль вельмі мала ўвагі надавалі беларускай культуры, беларускай мове, беларускім выдатным людзям. І гэты час можна скарыстаць, каб даведацца, якая скарбніца ў нас ёсьць, якія ёсьць цудоўныя месцы ў Беларусі.

Я вельмі згодная з Дашкевічам, які кажа: вывучыце тры простыя словы па-беларуску: „добры дзень", „дзякуй", „калі ласка". Скажыце ў краме „дзякуй", а не „спасибо".

Нават у такіх чорных умовах можна заставацца чалавекам. Гэтыя простыя словы — „добры дзень", „дзякуй", „калі ласка" — робяць зь цябе чалавека і робяць зь цябе беларуса: не ўкраінца, не паляка, не француза, а беларуса. Я веру, што беларускасьць ёсьць у кожным беларусе, нават у „ябацьках". Калі стварыць адпаведныя ўмовы, гэтыя маленькія зярняты прарастаюць.

З 2016-2017 году ўлада ўзяла кірунак на лібэралізацыю. Макей езьдзіў, расказваў пра „Ўсходняе партнэрства". За такі кароткі час, 4-5 гадоў, колькі ў нас зьявілася шмат класных гарызантальных грамадзкіх ініцыятываў!

Я цяпер больш чытаю па-беларуску, выкарыстоўваю гэты час, каб у сабе прарошчваць беларускасьць. Калі людзі будуць гэта рабіць, гэта вельмі-вельмі важна. Гэта тое, чаго мы не рабілі дагэтуль, бо беларуская мова спачатку была „калгасная“, пасьля стала „апазыцыйнай“, потым пераўтварылася ў „сьвятарную карову“, на якой нібыта нельга пісаць плёткі, бо па-беларуску можна пісаць толькі Янка Купала.

У Беларусі адбываецца мэнтальны развал Савецкага Саюзу, бо 30 гадоў таму адбыўся толькі фізычны развал. Вырасла новае пакаленьне, для якога чалавек зьяўляецца найвышэйшай каштоўнасьцю.

Я вярнуся пры першай мажлівасьці. Калі пачалася гэтая сытуацыя на мяжы, у мяне зьявіўся плян: я хацела прыйсьці ў Беларусь лесам, крыху пабыць і пайсьці. Мне сапраўды здавалася, што я так зраблю. Я нават сны пра гэта сьніла. Але потым я ўзважыла плюсы і мінусы і зразумела, што не магу думаць толькі пра сябе, на мне завязана шмат усялякага рознага. І я не пайшла.

## У мяне гэта ня першая спроба ўцёкаў

*Дзьмітры Кулакоў, 30 гадоў, Шуміліна:*

Я адбываў пакараньне ў папраўчай установе адкрытага тыпу №49 у Шклове. Мне прысудзілі 3,5 года за паведамленьні міліцыянту ў суполцы „Лепель для жизни“. Я напісаў : „Ну раз так, маёр Патоцкі, чакай, прыкарытнік, люстрацыі“. Гэта значыць „прыкарытнік“ — гэта публічная абраза,

а „люстрацыю“ яны палічылі як пагрозу ўжываньня гвалту.

У мяне гэта ня першая спроба ўцёкаў. Яшчэ пасьля суду ў канцы сьнежня, калі я быў на волі пад падпіскай, я зьбягаў на літоўскую мяжу. Але мяне ўзялі беларускія памежнікі і перадалі раённай міліцыі. Мяне пасадзілі ў ІЧУ, а на наступны дзень прывезьлі на „хімію“. На новыя ўцёкі я адважыўся 19 ліпеня.

Гэта быў якраз першы дзень, як я зьмяніў працу — перавёўся з грузчыка на сьлесара на камбікормавым заводзе ў Александрыі. За 15 хвілін да абедзеннага перапынку я сказаў, што трэба пайсьці памыцца, бо рукі брудныя. А пасьля паем і лягу пасплю ў будцы, бо на „хіміі“ не высыпаюся. Спаць, вядома, ня клаўся — разабраў тэлефон, адключыў шлейф ад батарэі, выкінуў сімку. Акуратна паглядзеў па баках, каб мяне ніхто ня бачыў, пераскочыў цераз плот і пабег. На працы праз паўтары гадзіны заўважылі, што мяне няма і забілі трывогу.

Я дзякую арганізацыі Dapamoga за вываз сябе і сям’і за мяжу. Спачатку я хаваўся ў Беларусі, бо маглі абʼявіць плян „Перахоп“. Таксама сілавікі рабілі нібыта „выцек“ інфармацыі пра тое, што жонку зьбіраюцца экстрадаваць зь Літвы ў Беларусь. Міліцыя шукала мяне і дома: прыходзіла па адрасе прапіскі ў Лепель і ў Шуміліна, дзе я жыў. Але нават сваякі ня ведалі, дзе я. Хавацца было самым складаным.

31 ліпеня я разам зь яшчэ адным уцекачом апынуўся ў Літве.

Перайшлі мяжу, зайшлі ў найбліжэйшую літоўскую вёску, папрасілі мясцовага жыхара,

каб ён выклікаў памежнікаў. Ён яшчэ ўдакладніў, якіх — беларускіх ці літоўскіх. Падумаў, раптам гэта заблудзілі грыбнікі. Мы сказалі, што літоўскіх. Прыехалі памежнікі і забралі нас на заставу, дзе мы правялі шэсьць дзён.

Першыя дні два мы дапамагалі літоўскім памежнікам разгружаць прадукты, рамантаваць ложкі і разьмяшчаць мігрантаў з Азіі і Афрыкі ў намётавым лягеры.

Я чуў, што на „хіміі" пасьля маіх уцёкаў крыху адпусьцілі гайкі. Большасьць вязьняў у Шклове адпраўляюць працаваць у калгасы, некаторых бяруць прыватныя фірмы на перапрацоўку другаснай сыравіны, хтосьці разгружае склады ў „райпо". Сам я да пераводу на камбінат працаваў на пілараме.

Заробкі — 500-600 рублёў у найлепшым выпадку. Гэта калі ў цябе няма штрафаў і пазоваў. Я за паўгоду атрымаў на рукі каля 630 рублёў, астатняе пайшло на аплату адміністрацыйных штрафаў: за 9 жніўня, калі я нібыта абразіў супрацоўніка міліцыі, за фота зь пікету са сьцягам у сацсетках, плюс штраф за спробу незаконнага пераходу мяжы.

На „хіміі" нас прымушалі глядзець дзяржаўныя тэлевізійныя навіны і прафіляктычныя фільмы — у асноўным пра шкоду наркотыкаў, алькаголю, пра ролю сям'і.

Некаторых у горад адпускаюць на 4 гадзіны. Самому без дазволу нельга выходзіць. Калі па дарозе з працы адхілісься ад маршруту, могуць палічыць за парушэньне.

Цяпер я падаў дакумэнты ў Літве на наданьне статусу ўцекача.

## Ішла з манікюру, забралі на допыт у КДБ

*Юлія Сьліўко, 34 гады, тынкарка, Горадня:*

Мяне сын папрасіў выехаць за мяжу, ён ня мог ужо трываць, што начамі нам ламалі дзьверы, мяне штодзень цягалі ў міліцыю. Ведаеце, што страшна? Сын сказаў, што ня хоча вяртацца ў Беларусь, сваю родную краіну.

Да лета 2020 году я ня лезла ў палітыку. Бо які сэнс? 27 гадоў ва ўладзе Лукашэнка, і зьмяніць гэта ніхто ня можа. Я назірала, як „узялі“ Ціханоўскага, потым — Бабарыку. Я якраз хацела за Бабарыку галасаваць, але гэты шанец у мяне забралі. На выбары 9 жніўня я хадзіла пад прымусам. Бо жыла ў інтэрнаце, і начальства пагражала, маўляў, калі не прагаласую, могуць быць праблемы. Нават выселіць могуць з інтэрнату. Так, дарэчы, і адбылося з тымі, хто на выбарах у мясцовыя саветы не пайшоў галасаваць. Пайшла, каб ня мець праблем. Выехала на выходныя з гораду.

10 жніўня пачула плёткі, што людзей моцна білі, і спачатку не паверыла. Я ўсё разумею. Але проста не хацела ў гэта верыць. 11 жніўня ўбачыла на свае ўласныя вочы, як білі людзей. 12 жніўня на „Гроднапрамбудзе“, дзе я працавала, пачаліся размовы пра страйк. Мяне пасьля выбралі старшынёй страйкаму. Сказалі калегі: „Бо ты ўмееш прыгожа размаўляць“.

Пачаліся пагрозы ад начальства, што звольняць з працы, выганяць з інтэрнату. Начальства казала, што „ўсе вы на алоўку ў КДБ“. Пачаўся моцны прэсінг, штодзень выклікалі з прыдуманых прычынаў у міліцыю, далі штраф за нібыта ўдзел у мітынгу.

Потым пачалі вечарамі і начамі грукаць у дзьверы, палохалі сына — яму 13 гадоў. Палохалі мяне, што забяруць сына.

Неяк увосень я ішла ад майстра манікюру, і мяне схапілі, забралі на допыт у КДБ. Там усё пыталіся пра грошы: хто мне плаціць, колькі, з кім я знаёмая. Патрабавалі „здаць“ актывістаў. Пагражалі згвалціць. Абвінавацілі, што я каардыную дваравыя чаты. Калі я адмаўлялася адказваць ці казала ня тое, што яны хацелі пачуць, — білі ў вуха. Ды так, што ўпала з крэсла, з вуха пайшла кроў. І цяпер я ня чую на гэтае вуха. Я раней гэтага не расказвала, бо яны сказалі, што як толькі каму гэта раскажаш, зноў апынесься ў нас, і тады ўжо адсюль ня выйдзеш.

Пазьней мне знаёмы адзін патэлефанаваў і сказаў, што ёсьць загад на маё затрыманьне. Тады і сын мне сказаў, што лепш выехаць, бо яму цяжка давалася, што маці хапае міліцыя, што нам выносяць ноччу дзьверы. Не такога жыцьця я жадала для свайго сына.

У кастрычніку 2020-га мы з сынам паехалі ў Варшаву. Нам дапамог „Беларускі дом“ — мы два месяцы правялі ў санаторыі пад Уроцлавам. Па вяртаньні я вучыла польскую мову, прайшла курсы манікюру і вырашыла заняцца гэтай працай — „пілаваць пазногці“. Мне гэта падабаецца, бо дзяўчаты ёсьць дзяўчаты, я дару ім радасьць і прыгажосьць. Цяпер я ў стадыі таго, каб пачаць свой невялікі бізнэс. Стараюся зарабляць грошы.

Спачатку я думала вучыцца на псыхоляга. Але каму я магу дапамагчы, пакуль мой псыхалягічны стан не ў парадку пасьля таго, што я бачыла і перажыла ў Беларусі. Уночы сьніліся кашмары, я

баялася кожнага гуку, людзей у спартовай вопратцы, людзей у масках. Калі я прыехала ў Варшаву, я была як загнаная жывёла.... Усяго баялася.

Спачатку, увосень, я адчувала сябе чужой тут. Чужая краіна, горад, мова. У нейкі момант прыйшло адчуваньне, што я буду тут жыць. Калі я вярнуся дахаты, я проста паламаю жыцьцё сыну. Зноў будзе для яго стрэс і перамены. Ён ня хоча вяртацца. Ня хоча туды, дзе баіцца застацца бяз маці, дзе ломяцца ноччу ў хату.

Мне здаецца, у Беларусі псыхалягічна цяпер вельмі цяжка. Людзей настолькі запалохалі, што яны глядзяць воўкам, баяцца адзін аднаго...

Дарэчы, у Горадні і я, і сын гаварылі па-расейску. Бо ў школе ў яго былі толькі дзьве гадзіны на беларускую мову, ён цяжка разумеў яе. Тут ён заявіў, што ён беларус і будзе размаўляць на беларускай мове. Таму і я пачала дома размаўляць па-беларуску. У школе ён вучыцца на польскай.

У Горадні на дзьвярах майго жытла надрапалі чэлес і напісалі: „Варшаўская прастытутка“. Прычым суседка мне расказала, што гэта зрабілі людзі ў форме, міліцыя! Яна надпіс „варшаўская прастытутка“ змыла, а чэлес выдрапаны так і застаўся. Мне таксама паступалі паведамленьні ў тэлеграм ад нашай міліцыі — патрабавалі вярнуцца, пагражалі. Маім сваякам таксама тэлефанавалі, прасілі перадаць мне, каб я вярнулася. Яшчэ мне пагражалі, каб я тут „хадзіла і азіралася“.

Бо я бяру актыўны ўдзел ва ўсіх акцыях салідарнасьці зь Беларусьсю. Я не магу не выходзіць, маўчаць, бо я люблю сваю краіну, сваіх суайчыньнікаў.

## Мы паехалі да Юркевічаў і даведаліся, што іх арыштавалі

*Дзьмітры Бачыла, 51 год, бізнэсовец:*

Па натуры я чалавек апалітычны. Быў. Калі зразумеў, што з палітыкай у нашай краіне зьвязвацца няма сэнсу і нават небясьпечна, вырашыў быць у баку.

За падзеямі сачыў, натуральна, але сам ня ўмешваўся. Але калі ў 2020 годзе на палітычнай арэне зьявіўся Сяргей Ціханоўскі, мне стала цікава. Яшчэ цікавей — калі пра свае амбіцыі заявіў Валер Цапкала, а за ім — Віктар Бабарыка. Я зразумеў, што гэтыя выбары будуць яркімі і не траваеднымі. У той жа дзень, 13 траўня, калі Бабарыка абвясьціў пра свой удзел у выбарах, я запісаўся ў яго ініцыятыўную групу.

Стаяў у перадвыбарчых пікетах, зьбіраў подпісы. Калі Віктара Бабарыку арыштавалі, спрабаваў зрабіцца сябрам участковай камісіі. Пасьля адмовы судзіўся з выканкамам. Потым стаў назіральнікам на ўчастку, разьмешчаным у 148-й школе Менску.

Як і многіх, нас не пускалі ў будынак школы, выгналі на ганак. Мы лічылі на ганку тых, хто прыйшоў галасаваць. Былі шакаваныя, калі ўбачылі яўку па пратаколах, завышаную. Нашаму абурэньню не было межаў! 9 жніўня пратакол камісія ня вывесіла, і ў поўнай цемры, пад прыкрыцьцём амону, камісію вывозілі на аўто са школы. Людзі крычалі ім „Ганьба!“.

9 жніўня 2020 году з жонкай мы пайшлі ў цэнтар гораду.

Бачылі выбухі, трапілі пад газ, дапамагалі людзям выбірацца з разьбітых аўто. Дзякуй Богу, уцяклі самі. Потым хадзілі на нядзельныя маршы — пакуль іх не задушылі канчаткова. Потым удзельнічалі ў дваровых чатах, пілі гарбату з суседзямі, друкавалі газэту, распаўсюджвалі яе. Тым часам увосень сын „трапіў на камэры“ — ён удзельнічаў у маршах, а ва ўнівэрсытэце, дзе вучыўся, таксама актыўнічаў. Ён быў у студэнцкім страйкаме. Калі схапілі студэнтаў, зь якімі ён сябраваў — Касю Будзько і Яню Арабейку, то мы палічылі за лепшае „эвакуаваць“ сына ва Ўкраіну. Тым больш ён два разы трапляўся па сумнавядомым артыкуле 23.34. Ён і цяпер ва Ўкраіне — вучыцца ва ўнівэрсытэце.

Сям’я заставалася ў Беларусі. Працавалі, друкавалі газэту і распаўсюджвалі яе. Увосень мы прынялі замову Юркевічаў — уласьнікаў кампаніі „Юркас“ [вытворчасьць дзьвярэй] — пашыць фіранкі для дому.

У студзені мы здалі асноўную замову па фіранках, атрымалі грошы, і ў той жа дзень нас папрасілі дашыць яшчэ адну фіранку — для ваннага пакою. Фіранку мы здалі ўвесну, атрымалі за яе грошы праз кіроўцу „Юркаса“. 22 чэрвеня мы паехалі ў іншы дом Юркевічаў на замеры вокнаў для замовы, і вечарам даведаліся, што іх арыштавалі!

Дзяржаўныя выданьні пісалі, што кампанія „Юркас“ фінансавала пратэсты. У адным з артыкулаў на тэлеграм-канале „Жоўтыя зьлівы“ зьявіліся мае дадзеныя, а таксама мае перамовы з кіроўцам „Юркаса“.

Гэта было пададзена так, што Юркевічы давалі мне грошы на пратэсты, масавыя беспарадкі! Мы

былі ў шоку, разумелі, што цяпер трэба чакаць „гасьцей“ і крымінальнай справы. Таму ў той жа дзень, калі зьявіўся артыкул, мы зьехалі зь Беларусі. Дабіраліся таемнымі сьцяжынкамі ў Расею, адтуль — ва Ўкраіну, потым — у Польшчу. Цяпер мы ў бясьпецы.

У Беларусі застаўся дом, аўто, бізнэс, кравецкі цэх.

Мне нават думаць страшна пра тое, што цяпер адбываецца ў Беларусі. Гэта проста вар'яцтва, за межамі здаровага сэнсу. Натуральна, нейкія надзеі ў нас застаюцца. Але цяпер жывём як на арэлях. То ўверх, то ўніз. То спадзяесься на нешта, то ў дэпрэсію звальваесься, што ўсё страціў і дахаты ня вернесься. Нам добра ў Польшчы, да нас добра ставяцца людзі, але мы хочам дахаты.

Я не шкадую, што летась „ублытаўся ў палітыку“. Я шкадую, што нам усім у жніўні 2020-га не хапіла рашучасьці. Варта было выходзіць — і не сыходзіць, стаяць на сваім. Калі яны пачалі забіваць людзей, яны нам далі маральнае права на супраціў, на нейкія дзеяньні ў адказ. Я адчуваю, што ўсё зьменіцца, але калі — ня ведаю.

## Выяжджала „белым шляхам“

*Яўгенія Парашчанка, літаратарка,*
*праваабаронца:*

Я рыхтавала дакумэнты ў міграцыю, і трэба было прыкласьці ўласную гісторыю; так што мне мімаволі давялося яе ўзгадваць. У мяне ня самая страшная гісторыя: я выяжджала „белым шля-

хам“ — самалётам зь Беларусі; са мною быў мой сыночак — і няхай гэта ўскладніла вандроўку ў тысячу разоў, але маральна ехаць без Альберта было б усё адно, што сядзець у турме; мне вельмі дапамагалі — замаўлялі таксоўку, квіткі на самалёты, гатэлі, адна б я не адолела гэты шлях.

І ўсё адно, гісторыя маіх уцёкаў, усе эпізоды таго бясконцага дня — гэта тысячы іголак у сэрца. Бясконцага дня, які пачаўся званком у дзьверы а сёмай раніцы — такім працяглым і нахабным званком, які не пакідаў сумневаў — хто і па што прыйшоў. (І за званком — мой погляд у вочка на чорныя галовы амонаўцаў на пляцоўцы. Відовішча, на якое я не забудуся ніколі.)

І вось, пасьля другога ператрусу, я стаю пасярод кватэры, якую мне цягам 20 хвілінаў трэба пакінуць назаўсёды. Часу вобмаль, бо трэба пасьпець на начны самалёт зь Менску, а я ў Гомелі.

(Да таго ж, наперадзе галоўная інтрыга: арыштуюць мяне на мяжы ці не, як маю калегу Тацяну Ласіцу. Таму з намі на таксоўцы ў Менск паедзе мая мама, каб паспрабаваць забраць Альберта ў выпадку майго арышту.)

Кватэра арандаваная, я ў яе больш не вярнуся. Аднак мы пражылі ў ёй пяць гадоў. Вось я машынальна папраўляю плед на ложку — бессэнсоўна, больш у ім ніхто ня спацьме. Вось вопратка, сабраная для мыцьця, — ніхто больш не запусьціць тут пралку. Вось гармідар у дзіцячым пакоі (дзіцячыя рэчы перагарнулі ўсе дагары нагамі — шукалі там найбольш) — я не прыбірацьму яго, бо ўсё тут трэба складаць у скрыні і кудысьці вывозіць. Мае кветкі... Карацей, у мяне больш няма хатніх расьлін.

І вось я гляджу апошні раз на свой ДОМ і пакідаю яго назаўсёды.

Рэчы для мяне і Альберта я сабрала за 20 хвілін. Мне здавалася, што я добра сябе кантралюю. Але, напэўна, я была крыху ў непрытомным стане. Я чамусьці ўзяла маленькую торбу. Палову зь яе я запоўніла пампэрсамі, якія можна купіць на кожным рагу. Узяла плед, які для Альберта пашыў дзядуля (і ён заняў другую палову торбы). Захапіла маленечкую летнюю коўдрачку, якую для нованароджанага Альберта таксама пашыў дзядуля, каб яму не сьпякотна было ўлетку ў вазку. І ўзяла гірлянду з зорачкамі. Напэўна, мне хацелася захапіць паболей рэчаў, якія б нагадвалі пра дом. Я не ўзяла шмат чаго патрэбнага; затое плед, коўдрачка і гірлянда з зоркамі — са мной.

Гэтую гірлянду я першай дастала з торбы, калі мы з Альбертам праз шмат гадзінаў увайшлі ў гатэль у Кіеве. Я паклала яе на палічку над ложкам, запаліла, і мы абое схаваліся пад коўдру, абняліся і заснулі нарэшце. Нашая вандроўка (дакладней, уцёкі) яшчэ былі далёкімі ад заканчэньня, але ў той момант я ўпершыню ад таго, як убачыла чорнагаловых, адчула палёгку.

А на фота я (чырвоны капюшон) сядаю ў міліцэйскую машыну (амонавец адчыняе мне дзьверы), каб ехаць зьператрусу ў бацькоў на ператрус у маёй кватэры. Фота зрабіў нехта з бацькоў, калі яшчэ было не вядома, пабачаць яны мяне пасьля ператрусу ці не.

# *ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ*

## *Значэньне маёй постаці шматкроць узрастае*

*Турма — гэта самы цяжкі пэрыяд у жыцьці кожнага, але і вельмі насычаны эмацыйна. „Своеасаблівы трыюмф духа, трыюмф асобы, які мяжуе з пастаяннай рызыкай адчаю. Ведаю, што гэтае выпрабаваньне зробіць мяне нашмат лепшым, але самае галоўнае — напоўніць маё сэрца любоўю бязьмежнай!“. Гэты ўрывак зь ліста Эдуарда [Бабарыкі] мне напісала яго родная цёця... Напэўна, лепш цяжка сказаць. Гэта проста космас! Я і па сабе заўважала ўжо даўно, што станаўлюся ўсё лепшая і лепшая, і па сваіх суседках...* Сьвятлана Купрэева

*Калі над галавой згушчаюцца хмары, трэба памятаць, што за імі сонца. Час выкінуць з галавы закаранелую думку: „А што я адзін магу?“ Час казаць сабе: “Я магу! Няхай нават няшмат, але дакладна магу!” Калі так скажа кожны, то вынік не прымусіць сябе чакаць.* Уладзімер Гарох

*Вядома, цяжка знаходзіцца ў такім месцы, калі параўноўваць яго са сваім мінулым жыцьцём. Але гэта ягоная частка, і я прымаю яго такім, якім яно ёсьць. Усю ягоную зьменлівасьць, непаўторнасьць, адзінкавасьць і ўнікальнасьць. Насамрэч, тут шмат што пераасэнсоўваецца. Вучысься радавацца простым дробязям, на якія раней амаль не зьвяртаў увагі. Калі прыходзіць ліст або прыносяць цікавую*

*кнігу зь бібліятэкі, дзень ужо можна лічыць удалым.* Аляксандар Рэзьнік

*Аднак мае асабістыя жаданьні, памкненьні зараз не нагэтулькі важныя, як значэньне маёй постаці. Мы менавіта на вайне, я хоць цяпер і не на перадавой, мая журналісцкая зброя вымушана адпачывае, але знаходжуся ў паўнавартасным палоне. Менавіта праз гэта значэньне маёй постаці шматкроць узрастае. Праз гэта маем быць гатовыя да ўсяго.* Дзяніс Івашын

*Вось ты мне нагадала пра пытаньне асуджэньня людзей. Калі знаходжуся тут, я дакладна не спрабую знайсьці вінаватых у тым, што я тут. Або калі бачу іншых, я таксама нікога не спрабую асудзіць. Я, наадварот, стараюся ад усяго абстрагавацца. Бывае, мяне ў камэры клічуць, а я нават ня чую, бо ў сваіх думках, у сваім сьвеце. А зло, дурасьць і несправядлівасьць я ганю ад сябе прэч.* Аляксандар Дайнека

*Зьмены сапраўды ёсьць, прычым у пазытыўны бок. Досьвед калясальны, жыцьцёвая навука, адшуканьне самога сябе, спрэчка з самім сабой, адсейваньне непатрэбных людзей, аналіз памылак. Мала таго, я пачаў цяміць у палітыцы, гісторыі, соцыюме. Выпрабаваньне, вядома, для арганізму моцнае. Моцнае ўзрушэньне, я б сказаў. Але я сапраўды многае і многае прыдбаў.* Вадзім Дубойскі

*Мне спадабалася, як сказаў адзін з палітзьняволеных, што дробязі жыцьця сталі яшчэ драбнейшымі. І я гэта проста адчуў, калі выйшаў зь СІЗА, бо*

*нейкія першыя праблемы: „хімія“, суд, апэляцыя — гэта ўсё лухта, нейкія пэрыяд ты пражыў. Цяпер, калі я выходжу з „хіміі“, я ўжо разумею, што праблемы на працы ці нейкія бытавыя праблемы — яны вырашальныя, любыя нейкія гісторыі. Бо* ***там*** *увогуле ніякіх гісторый няма. Узяць хоць бы СІЗА, там так не хапае нейкіх пазытыўных ці нэгатыўных гісторый, што ты выходзіш і радуесься ўсяму. Нехта з тваіх сяброў расстаўся, выдатна, давай абмяркуем хоць што-небудзь. Што б цяпер не адбылося, ты проста рады, што ёсьць падзея.* Антон Бяленскі

*Мала хто памятае, але перад маім затрыманьнем у Горадні 29 траўня я ўсяго 8 дзён быў на свабодзе пасьля выхаду з ІЧУ. Я пражыў гэтыя 8 дзён, нібыта ў мяне былі крылы. Тысячы людзей фатаграфаваліся са мной і выказвалі падтрымку. Я бачыў, як людзі паверылі ў сябе. Ня кожны можа пахваліцца, што пражыў хаця б адзін такі дзень.* Сяргей Ціханоўскі

*Улічваючы, што я ў краіне, дзе ўсіх саджаюць, то ўспрымаю сябе не ахвярай і не героем, а звычайным грамадзянінам. Я нават радуюся, што ўсё зацягнулася. Бо да 2020-га ў беларусаў у палітычным сэнсе было шмат наіўнага і дзіцячага. Калі б усё было хутка і проста, то нацыя б не зрабіла важных высноў, якія, я спадзяюся, яна зрабіла цяпер. Усё сапраўднае і вартае даецца праз выпрабаваньні. Таму мы і перажываем унікальны час, хай і цяжкі. Гэта трэба выкарыстоўваць для ўсьведамленьня сапраўднага і добрага, будучага і мінулага.* Эдуард Пальчыс

## У ізалятары бачыла вельмі яркія сны

*Анастасія Перавошчыкава, 32 гады, Гомель:*

Мяне сем разоў каралі арыштам па 15 сутак — за нібыта ўдзел у „партызанскіх“ акцыях. Усяго 105 дзён. З ізалятару ў Буда-Кашалёве выйшла 9 траўня. Вядома, у ізалятары цяжка сядзець вялікі тэрмін, як і ў турме. Я разглядала разводы на сьценах, уяўляла твары жывёл, фігуры людзей, нешта ўзгадвала — прыемныя месцы, блізкіх. Нейк уяўленьне пачынае само сябе займаць. У ізалятары пачалі сьніцца вельмі яркія сны. Адзін быў такі, што я вызвалілася, іду па Гомелю — а горад абсалютна пусты, няма людзей. Пустыя вуліцы, пустая плошча Леніна. І там залілі каток. І два чалавекі гуляюць у хакей… Я сама сабе пераказвала тыя яркія сны, якія бачыла. Здаецца, гэта нецікавы занятак, але ён мяне захапіў.

## Каб Жэня наноў стартаваў у жыцьці

*Марта, сяброўка палітвязьня*
*Яўгена Каліноўскага (22 гады):*

Я ня веру, што зьняволеньне будзе працягвацца 4 гады, але калі будзе так, усё адно жыцьцё Жэні будзе нашмат больш напоўненым, чым жыцьцё тых, хто яго асудзіў. У маім выпадку мэта — зь-

біраць нейкі невялікі пэрсанальны фонд для таго, каб Жэня наноў стартаваў у жыцьці. Зьбіраць прапановы аб працы ці вучобе. Ужо шмат людзей з Эўропы адгукнуліся. Зьбіраць інфармацыю пра псыхалягічную дапамогу, каб калі ён выйдзе, новы ўваход у новае жыцьцё быў для яго найбольш мяккім. У турму Жэню перадалі падручнікі нямецкай мовы, ён пачаў патроху займацца спортам. Таму я думаю, ён выйдзе зь веданьнем некалькіх моваў і ў добрай фізычнай форме.

## Бяздомныя далучыліся, калі мы гулялі ў „кракадзіла“

*Кацярына Брагінец, 20 гадоў, футбалістка:*

У камэру да нас падкідалі бяздомных. Яны нам расказалі, што іх не затрымлівалі, а „папрасілі“ міліцыянты: „Вы там пасядзіце, пасьпіце, мы вам дадзім па 12 рублёў“. Гэта каб яны правакавалі нас на бойкі — забіралі ў нас хлеб, пагражалі абліць атрутай, якую ім далі ад вошай. Але яны не рабілі гэтага, наадварот — нават далучыліся да нас, калі мы гулялі ў „кракадзіла“.

## Было сказана: „Ты думаеш толькі пра сябе!“

*Натальля Хершэ, грамадзянка Беларусі і Швайцарыі:*

Я лічу, што гэта ня дрэнна, што мая справа набывае такі шырокі розгалас, ты мяне добра ведаеш — піяр мне не патрэбны. Менавіта такога

кшталту абвінавачаньні я атрымала ад маіх новых сукамэрніц. Уяўляеш, нават было сказана так: „Ты думаеш толькі пра сябе!“. Гэта было ня вельмі прыемна, але глыбока мяне гэта не кранула. Бог ім судзьдзя. Я вельмі рада, што прайшлі ўсе сьвяты, бо гэта практычна мёртвыя дні. Заўсёды чакаю панядзелка (ніколі ня думала).

## Пэдафіл нічога дрэннага дзяржаве не зрабіў

*Радзівон Медушэўскі, 23 гады, Берасьце:*

Стаўленьне да мяне з боку турэмнікаў было розным. Адныя разумеюць, што гэта адкрыты цырк і што амаль усім палітычным тут наогул ня месца, а іншыя лічылі нас „дурнямі і фанатамі Ціханоўскай“. Адзін сукамэрнік спытаў у супрацоўніка СІЗА, чаму пэдафіл сядзіць у добрай камэры з вакном, а мы сядзім у падвале, на што той адказаў, што „ну, пэдафіл нічога дрэннага дзяржаве не зрабіў“.

## Падсадная назвалася Людмілай Леўчанкай

*Алеся Бука, студэнтка філфаку Полацкага ўнівэрсытэту:*

Я апынулася ў камэры з жанчынай сумнеўнага выгляду і паводзінаў. Яна назвалася Людмілай Леўчанкай, сказала, што працуе дацэнтам БДУ, але

па яе твары я зразумела, што яна даўно сябруе з алькаголем. Пачала мяне распытваць, што ды як, з кім сябрую, ці падпісаная на „Нехта“, як стаўлюся да Натальлі Качанавай. Пра сябе сказала, што нібыта „яны бастуюць“, але жыве з мужам у Полацку. А чаму тады працуе ў Менску ў БДУ? Карацей, у яе было столькі нестыковак, што хутка я вырашыла — гэта простая падсадная „качка“. Мяркую, і прозьвішча ня ейнае, а прыкрылася вядомай баскетбалісткай. Карацей, размовы не атрымалася, і назаўтра мяне ўвогуле выпусьцілі.

## Сказана — „стварыць умовы“ — вось і дзейнічайце

*Дзяніс Урбановіч, лідэр „Маладога фронту“:*

Перад ахоўнікамі стаяў нейкі начальнік і літаральна роў на іх: „Колькі вас вучыць? Сказана — «стварыць умовы» — вось і дзейнічайце“. Ну, і пачалося. Уварваліся ў камэру, усіх паставілі тварамі да ложкаў. Потым пачалі выводзіць па адным у калідор. Першым С. вывелі, вярнуўся праз 10 хвілін пабіты. Потым мяне. Завялі ў душ. Стаіць ахоўнік з палкай, такі пухленькі, лагодны, нават добры на твар. А ззаду ў дзьвярах маёр застаўся. Раптам ахоўнік пачынае біць палкай: па сьпіне, па ягадзіцах. Пытаўся потым, ці не баяцца апынуцца ў „чорным сьпісе“? У сьпісе тых, хто зьбівае, зьдзекуецца, каму потым прыйдзецца адказваць? Адзін пасьміхаецца: „А што такога? Буду зоркай інтэрнэту“.

## Патрапіў у засьценкі гестапа

*Алесь Герасіменка, намесьнік дырэктара бізнэс-саюзу імя Куняўскага:*

27 сакавіка ў цэнтры Менску, каля гандлёвага цэнтру „Эўропа“ людзей амаль не было. Разам з тым была вялікая канцэнтрацыя сілавікоў. Вайскоўцы выцягвалі людзей з машын і вялі іх у аўтазакі. Езьдзяць мікрааўтобусы з амонаўцамі, таксама выскокваюць, людзей хапаюць. Натуральна, я паспрабаваў сысьці з гэтага месца і калі пайшоў уздоўж гэтага гандлёвага цэнтру, каля мяне наўпрост спыніўся мікрааўтобус, выскачыў супрацоўнік амону і пабег у мой бок. Я пабег, але літаральна праз некалькі крокаў пачуў: „Стой, страляю!“. Так я апынуўся ў аўтазаку. Што мяне ўразіла, гэта як адрозьніваюцца паводзіны міліцыянтаў, калі яны ў масцы і калі бяз маскі. Бяз маскі ну такія мілейшыя людзі, могуць і пажартаваць. А калі надзяваюць маску, а ім, напэўна, яшчэ загад даюць — пакашмарыць, то зь якой яны агрэсіўнасьцю сябе паводзяць, такое адчуваньне, што патрапіў у засьценкі гестапа.

## Асуджаныя за забойства зь мяне сьмяяліся

*Кацярына Барысевіч, журналістка:*

Я не магу сказаць, што да мяне было нейкае асаблівае стаўленьне. Супрацоўнікі былі падкрэсьлена ветлівыя, карэктныя. То бок, адносіны як і да астатніх зьняволеных. Але паколькі ў мяне бы-

ла карычневая картка, як у схільнай да экстрэмізму, то ўсе людзі з карычневай карткай этапуюцца ў наручніках. У мяне першы этап быў з Жодзіна ў Магілёў, я ехала ў наручніках, і другі этап быў з Магілёва ў Гомель, я таксама ехала ў наручніках. Са мной разам былі дзьве жанчыны, асуджаныя за забойства паводле 39 арт., у іх тэрміны былі 9-10 гадоў, яны пасьля сьмяяліся, што яны ехалі проста спакойна, а я, як экстрэміст ці схільны да экстрэмізму, ехала ў наручніках.

## Мая бабуля сядзела тут падчас нацысцкай акупацыі

*Марына Золатава, рэдактарка Tut.by:*

Першае, што я падумала, калі мы сюды трапілі, што мая бабуля падчас акупацыі сядзела вось тут, у склепе на „Валадарцы“. І калі нас вядуць на шпацыр па скляпеністым сутарэньні, я ўзгадваю яе апавяданьні і думаю: ці ня тое гэта сутарэньне? Яна цудам пазьбегла сьмерці, яе павінны былі расстраляць. Потым яе пагналі ў палон. Але яна вярнулася дадому, і мы вернемся.

## Быць грамадзянінам краіны-здрадніцы я не хачу і ня буду

*Дзьмітры Папоў, мадэратар сацсетак „Страны для жизни“, грамадзянін Расеі:*

Я больш за год чакаў, што „Расея сваіх не пакідае“, як неаднаразова казаў Пуцін. Аказалася, што гэта зусім ня так. На сваіх у Расеі выбіральная

сьлепата. Уступаецца яна толькі за тых, дапамога якім можа прынесьці палітычныя балы кіраўніцтву Расеі. За простых сьмяротных, як я, які не адменіць санкцыі, ня купіць лішні танкер нафты, ніхто не заступіцца. Тым ня менш, менавіта Расею я называў сваёй радзімай. Я адмаўляюся разумець, чаму за цэлы год консульства пацікавілася маёй пэрсонай толькі аднойчы. Я адмаўляюся разумець, чаму той дыялёг праходзіў пасьля катаваньняў мяне ў прысутнасьці супрацоўніка КДБ. Я адмаўляюся прымаць такое цынічнае стаўленьне расейскай дзяржавы да сваіх грамадзян. Я не хачу мець пашпарт такой краіны, якая гатовая ахвяраваць сваімі грамадзянамі ў інтарэсах іншай краіны. Для мяне гэта подлая і жорсткая здрада. Быць грамадзянінам краіны-здрадніцы я не хачу і ня буду.

## Цьвіль на сьценах — характэрная для сьледчых ізалятараў

*Васіль Завадзкі, 20 гадоў працаваў у пэнітэнцыярнай сыстэме, сам сядзеў у „Амэрыканцы“:*

Грыбок на сьценах — на жаль, характэрная зьява ў сьледчых ізалятарах. Вільготнасьць вялікая, бо, па-першае, вэнтыляцыя вельмі дрэнная ў такіх месцах, а па-другое, шмат людзей у камэры. І людзі ж вымушаныя мыць тут сваю бялізну, а сушыць няма дзе, і праветрыць няма магчымасьці. У некаторых СІЗА камэры пасьля нядаўняга рамонту выглядаюць больш сучасна. Але з часам цьвіль усё адно праядае фарбу. „Амэрыканка“ сама круглая, камэры — па вонкавай

частцы пэрымэтру. У той час там толькі ў некалькіх камэрах былі туалеты. Я ў такую ня трапіў — у маёй стаяла звычайнае вядро з вадой (параша).

## Старалася не глядзець на іржу

*Лілія Ўласава, сябра Прэзыдыюму Каардынацыйнай рады апазыцыі:*

На „Валадарцы“ я „пажыла“ амаль 50 дзён у дзьвюх камэрах. Першая камэра на шэсьць чалавек была на тэрыторыі турэмнага шпіталя, у ёй знаходзіліся хворыя людзі, у тым ліку з сур’ёзнымі псыхічнымі захворваньнямі. Потым мяне перавялі ў іншую камэру, дзе зьмяшчалася 10 чалавек. Там умовы былі жорсткія. Акрамя кратаў, вокны забітыя жалезнымі жалюзі, якія не прапускаюць дзённае сьвятло і ўскладняюць доступ паветра. Пад’ём а 6 раніцы, з гэтага часу і да адбою а 22 гадзіне забаронена ляжаць, можна хадзіць і сядзець на ложку. Мне па стане здароўя было дазволена ляжаць. У камэры быў тэлевізар, які трансьляваў толькі беларускія каналы і НТВ. Дзесяць чалавек у адным пакоі спалі, елі, мылі, мыліся і хадзілі ў туалет. Восем зь дзесяці жанчын курылі, часам я адчувала, што задыхаюся. Усім зьняволеным выдаюць пэрсанальныя кубкі. Калісьці яны былі эмаляваныя, але эмаль знасілася, у мяне быў кубак з іржавым дном. Я прасіла яго замяніць, але прынесьлі такі самы, сказалі, што лепшага няма. Муж некалькі разоў спрабаваў перадаць плястмасавы кубак — ня бралі. Выбару не было, піла з таго, што было, і старалася не глядзець на іржу.

## Курэньне для іх — кавалачак свабоды, які ў іх не адабралі

*Лявона Халатран, валянтэр штабу Віктара Бабарыкі:*

На „Валадарцы“ я быў у корпусе, які называюць Шанхай, таму што людзі там сапраўды сядзяць шчыльна. Другая праблема — курэньне. У некаторых камэрах ёсьць вэнтыляцыя, але яе рэдка ўключаюць. Сярод палітычных многія ня кураць, хлопцы па іншых артыкулах у большасьці сваёй кураць, і для іх гэта сьвятое, кавалачак свабоды, які ў іх не адабралі. Так што дамовіцца, каб людзі не курылі, проста немагчыма.

## Крымінальнікі прасіліся ў „нармальную“ камэру

*Тацяна Вадалаская, сацыёляг:*

Умовы на Акрэсьціна для палітычных па-ранейшаму застаюцца нечалавечымі: ні матрацаў, ні пасьцелі, кру гласуткава ўключанае сьвятло. Гэта дадатковы ціск і спроба паказаць, у тым ліку іншым жыхарам гэтай установы, што вось хто самыя злачынцы. У камэры палова сядзела па справах палітычных, а палова — па звычайных крымінальных, накшталт невялікіх крадзяжоў. Ім не пашанцавала, што яны патрапілі да нас. Для іх гэта было дадатковае па караньне, і крымінальнікі спрабавалі з ахоўнікамі дамовіцца, каб іх перавялі ў „нармальную“ камэру.

## Катлеты на абед — падзея сусьветнага маштабу

*Алена Талкачова, журналістка:*

У тое, што прайшло ажно 100 дзён, паверыць складана. Каб не каляндар, была б пэўная, што ўсё яшчэ 18 траўня. У СІЗА здаецца, што „дзень сурка“ ня толькі ў лютым. Усе дні амаль аднолькавыя, і кожная дробязь становіцца падзеяй. Перадача — падзея, лісты — падзея, прагулка ў вялікім двары — падзея, а ўжо катлеты на абед — падзея сусьветнага маштабу.

## Круасана будзе дастаткова

*Ксенія Луцкіна, былая журналістка БТ:*

Усё роўна веру ў хэпі-энд! Думаю, калі ўсе мы страцім веру, вось тады і здарыцца апакаліпсіс. А мне гэтага вельмі не хацелася б. Мы ўсе разам проста не заслугоўваем гэтага. Мы ж з вамі жывём на адной вуліцы. Магчыма, бачыліся, і ня раз, а кантактаваць (хай нават у лістах) пачалі „дзякуючы“ гэтым экзатычным абставінам. Вельмі спадзяюся, што ўсе разам захаваем гэтую чалавечнасьць, адкрытасьць, эмацыйнасьць на доўгую шчасьлівую будучыню! Галоўнае сонца ў чалавека ня звонку, а ўнутры. Мне дапамагаюць родныя, клапоцяцца пра мяне. Калі хочаце нешта перадаць, то хадзіць сюды не абавязкова, можна адправіць бандэрольлю. Круасана будзе больш чым дастаткова.

## Самая энэргічная і бойкая з нас памерла ад кароны

*Кацярына Карпіцкая, журналістка:*

Сукамэрніца Алена Амеліна, самая энэргічная і бойкая з нас, памерла ад кароны. На Акрэсьціна мы ўсё на яе хварэлі. Алене за адзін дзень стала вельмі блага, яна амаль трупам ляжала пад нарамі, мы прымушалі яе хоць нешта зьесьці. Лячылася ўсё гэта парацэтамолам і, калі зусім чалавеку блага, антыбіётыкам. Зь ЦІП Алена адправілася на ШВЛ і так і ня выкараскалася. Жанчыне было ўсяго 53 гады.

## Я поўнасьцю цяпер застаюся без падтрымкі

*Шэры Кот (Зьміцер Казлоў), 33 гады, блогер:*

Паколькі ў мяне няма блізкіх сваякоў, то цяпер ніхто ня можа мне аказаць ніякай дапамогі, ні перадач, ні грашовых пераводаў, ні тэлефанаваньняў, ні спатканьняў у мяне ня можа быць, і я поўнасьцю цяпер застаюся без падтрымкі.

## Баюся, што да суду магу не працягнуць

*Ільля Міронаў, аўтар больш за 2500 лістоў палітвязьням, Гомель:*

Пішу толькі табе, а таксама нашаму адвакату. Баюся, што да суду я магу не працягнуць, на-

магаюся нейк настройвацца, але ўжо праз стан здароўя ні чытаць (кніг тут шмат), ні, тым больш, адказваць на лісты (атрымліваю па 7-8 лістоў на дзень) не магу, таму перадавай усім неабыякавым людзям ад мяне прывітаньне і сардэчныя зычэньні. Спадзяюся, што на зямлі стане яшчэ больш добрых, сумленных, неабыякавых людзей, якія зь яшчэ большымі сіламі пачнуць падтрымліваць адзін аднаго і ўсіх, каму патрэбная дапамога. Я ўсіх вельмі люблю і сумую.

## Седзячы ў карцары, ён уставаў, сьнедаў, рабіў зарадку і „ішоў на працу“

*Антон Бяленскі, валянтэр штабу*
*Віктара Бабарыкі:*

Часта такое даводзіцца чуць у СІЗА: Жыві, як на волі жыў. Людзі, якія ўпадаюць у нейкую дэпрэсію... Гэта не дае ўпадаць у дэпрэсію. Ты ў прынцыпе, выконваючы гэтую рэкамэндацыю, можаш зь нічога, нават у карцары, дзе ўвогуле нічога няма... Можаш жыць сваім звычайным жыцьцём. Гэта гісторыя аднаго з асуджаных. Ён у карцары ўставаў, сьнедаў, рабіў зарадку і „ішоў на працу“. Ён заставаўся ў карцары, але ён браў майку, мачыў яе і майкай цэлы дзень мыў камэру. Гэта была работа, кожны дзень, трэба памыць тут, трэба памыць тут. Увечары ён вешаў майку, нібыта прыйшоў з работы, вячэраў і клаўся спаць. То бок ён у пустым абсалютна памяшканьні знайшоў, як зрабіць сваё жыцьцё нармальным, такім, якім яно было да турмы.

## Усе зэкі хочуць быць у мяне целаахоўнікамі

*Алесь Пушкін, мастак:*

Яны ўсур’ёз лічаць, што я зьбег ад жонкі, ад дзяцей — у турму схаваўся, бо надакучыла, і хачу быць ці то прэзыдэнтам у будучыні, ці, на крайні выпадак, — хоць міністрам культуры РБ!!! Я ім падтакваю (дурасьць — спрачацца, аднеквацца, казаць, што я за проста любоў да мастацтва, праўды — выбраў сядзець у турме — а не застаўся ў Кіеве, бо не паверацьь! Бо людзі ўсё больш прагматычныя, за грошы і наркотыкі сядзяць). Ну, і канвойныя ім падтакваюць, бо, маўляў, за кожны дзень тут, у вязьніцы, капаюць грошыкі на швайцарскі рахунак!!! Таму ўсе зэкі хочуць быць у мяне вадзіцелямі, калі я стану міністрам культуры, ці хаця б целаахоўнікамі!

## На Новы год мы нарвалі рукамі салат аліўе

*Юлія Слуцкая, кіраўніца „Прэс-клюбу“:*

На Новы год мы нарвалі рукамі салат аліўе, зрабілі бутэрброды з рыбай, а ў шэсьць гадзін вечара чокнуліся алюміневымі кружкамі з шыпучымі вітамінамі, пажадалі адзін аднаму хутчэй абняць сваіх родных.

Апішу табе ўсе гэтыя дзіўныя дні. У 6.00 гучыць кароткая сырэна, і ўключаецца верхняе сьвятло. Ужо ў 6.05 праз кармушку падаюцца міскі з кашай.

Часьцей за ўсё я бяру пустую міску, і заварваю там кашы, якія ты мне перадала. Трэба варушыцца, бо ў 6.50 міскі і лыжкі забяруць. На дзень застанецца толькі конаўка. Яна такая ж алюміневая, як міскі і лыжка, і бяз ручкі. Вусны аб яе апякаюцца нават калі кава або гарбата ўжо астылі.

У 8 раніцы праверка. Да гэтага часу трэба пасьпець паесьці, памыцца, пераапрануцца і прывесьці сябе ў парадак. Гэта ня проста, бо тое самае робяць яшчэ 7 чалавек. Прастора вельмі цесная, і ў нашым распараджэньні адна ракавіна і адна прыбіральня. Таму тут вельмі важна, каб усе дзейнічалі зладжана. Мы навучыліся.

Адначасова дзяжурны — адна з нас — прыбірае камэру: падмятаем і мыем падлогу, мыем конаўкі, ракавіну і туалет. Дзяўчынкі прымудраюцца нават пасьпець нафарбавацца)

З 9 да 10 у мяне першая трэніроўка — разьмінка, прысяданьні, практыкаваньні на касыя мышцы, прэс, сьпіна, расьцяжка. Кожны раз дзякую Галіне Радзінай за тое, што навучыла мяне. Праўда, многія практыкаваньні давялося адаптаваць пад цесную прастору. Некаторыя даводзіцца рабіць проста на нарах.

Далей, да 13.00 у буднія дні могуць вадзіць у кабінэты — да адвакатаў або сьледчых. Часам водзяць на шпацыр. На жаль, мы ходзім вельмі рэдка. Бо выводзяць толькі ўсёй камэрай, а дзяўчынкі лічаць, што на вуліцы мокра, і яны праз гэта могуць захварэць.

Распавяду пра шпацыр: гэта зусім не падобна на шпацыры ў турмах у амэрыканскіх фільмах. Кожную камэру выводзяць у асобны маленькі бэтонны панадворак-калодзеж. Відаць толькі не-

ба зьверху, і калючы дрот. Там зусім няма месца для таго, каб пасоўвацца ці пабегаць. І калі ідзе дождж — у гэтых бэтонных студнях сапраўды волка. Але я ўсё роўна гуляла б кожны дзень, будзь мая воля. Стараюся бегаць на месцы, скокаць, прысядаць.

У 13.00 — абед. Я ем толькі суп з хлябцом — той, што ты перадала мне, ці турэмны. На дэсэрт — яблык.

З заняткаў у мяне: чытаньне (атрымалася замовіць у бібліятэцы аж 2 кнігі). Яшчэ тут у камэры ёсьць Карнэгі „Як перастаць турбавацца і пачаць жыць". Гадзіну на дзень чытаю яго. Гэта, зразумела, вядомыя ісьціны, але дапамагае настроіцца. Яшчэ ў камэры ёсьць размоўная граматыка ангельскай мовы. Стараюся праходзіць па 2-3 урокі на дзень. Ну, і лісты, вядома. Пішу кожны дзень, хоць пакуль у мяне адчуваньне, што лісты сыходзяць у космас. Бо адзінае, што я атрымала — гэта тваю тэлеграму.

У 16.00 у мяне другая трэніроўка.

З раніцы да вечара тут уключаны тэлевізар. У асноўным БТ. На сваёй шкуры адчула тое, што і так добра ведала: ня маючы інфармацыі зь іншых крыніц, цалкам немагчыма ўявіць сабе, што ж адбываецца насамрэч. І нават цьвёрда ведаючы, што нешта адбываецца — здаецца, што гэта ня так. Здаецца, што вакол ціша ды спакой, і толькі нас ізалявалі, як шкодных для гэтага спакою суб'ектаў.

Яшчэ з забавак — мае дзяўчынкі-суседкі. Яны ўвесь час бавяцца і сваволяць. То крыўляюцца, то танчаць, то паддражніваюць адна адну, то сьпяваюць караоке разам зь целікам. Спачатку мне было цяжка. Але цяпер я разумею, што гэта хутчэй адцягвае ўвагу і забаўляе.

У 18.00 вячэра, а ў 22.00 адбой. Яркае сьвятло і тэлевізар вырубаюцца, і можна застацца з сабой сам-насам.

Падчас ператрусаў нас усіх, акрамя дзяжурных, выводзяць у карцар. Гэта памяшканьне мэтар на тры з паловай. У далёкім канцы туалет. Над ім замест зьліву кран з вадой. То бок, гэта яшчэ і ўмывальнік. Замест вэнтыляцыі над унітазам дзірка, ацяпленьня няма. Вельмі сыра і халодна. Драўляная дошка-ложак на дзень прышрубоўваецца да сьцяны. Апошні хлапчук сядзеў тут 17 сутак.

Вяртаемся ў параскіданую камэру. Сумкі з-пад ложкаў высунутыя, матрацы загорнутыя, рэчы выкінутыя на ложкі.

Па панядзелках у нас душ. Туды трэба ісьці па вуліцы. Дзяўчынкі ідуць у халатах і гумовых тапках на босую нагу. Я надзяваю шкарпэткі і спартыўны касьцюм. На 8 чалавек пяць кранаў. Душаў няма, проста ліецца струмень вады. На тое, каб памыцца, у нас 20 хвілін. Уключаючы апрананьне і распрананьне.

Сёньня мы гулялі па самым краёчку панадворка, бо па цэнтры была велізарная лужына. У куце ўтварылася горка сьнегу, сантымэтраў 60. Дзяўчынкі прымудрыліся з гэтай горкі катацца)

Пад акно камэры прыходзіць вялікі рыжы кот, і гучна крычыць. Прыходзіць як па гадзінах — два разы на дзень. Мы яго падкормліваем. Думаю, што ня толькі мы. Калі вельмі пастарацца — ката можна разгледзець праз жалезныя „вейкі“ на вокнах.

Адзін дзень я хварэла, але зь лекамі, якія ты мне перадала, вельмі хутка выкараскалася. Толькі кашаль не спыняецца. Але, напэўна, гэта рэакцыя арганізму на курыва.

У камэры ёсьць свой заведзены парадак. Шмат дробных правілаў, якія палягчаюць мусовае сумеснае жыцьцё. Напрыклад той, хто ідзе ў туалет, уключае ваду. І калі ня курыць — паліць кнот. Кожны раз выціраем сурвэткамі пасьля сябе ўнітаз, выціраем падлогу. Калі ў камэру хтосьці ўваходзіць — усе павінны ўстаць, і закласьці рукі за сьпіну.

У нас у камэры цяпер 8 чалавек. 3 па наркатычным артыкуле, астатнія — палітычныя. Адна дзяўчынка ўжо атрымала 12 гадоў, цяпер ідуць апэляцыі. У турму яна трапіла першы раз, дома яе чакаюць двое маленькіх дзяцей. Жах! Яшчэ большы жах, што ўсе, уключаючы палітычных, маральна рыхтуюцца ісьці адседжваць тэрміны ў гомельскую калёнію.

Распавяду пра дзяўчынак у камэры. Тоня. Была валянтэрам „Страны для жизни“. Муж цяпер у гэтай жа турме. Двух маленькіх дзяцей глядзяць бацькі. Ёй за 30. Вельмі спакойная, упэўненая, пісьменная. Маша — актыўны ўдзельнік студэнцкага руху. Вучылася ў Акадэміі мастацтваў. Зусім юная, тоненькая. Ідэалістка. Саша — ёй ледзь за 20, яна сірата. Падобная да маленькага флямінга (у галаве ружовыя пасмы). Вельмі разумненькая, добра малюе. Яна валянтэрыла, выкідала мяшок са сьмецьцем, якое зьбірала за пратэстоўцамі. Ёй закідаюць будаўніцтва барыкад. Хутка суд. Аліна. Яна ў РУУС укусіла за нагу міліцыянта, які заламаў ёй рукі.

Шэсьць чалавек у нас пастаянных, а два ўвесь час зьмяняюцца. Іх ці пераводзяць зь іншых камэр, бо яны там не ўжыліся, або перавозяць перад судом з Жодзіна, ці з волі.

Першае слова, якое я пачула, калі мяне прывялі ў камэру з матрацам у адной руцэ і конаўкай у другой — было „Б **“. Тут трэба ўдакладніць, што было паўдванаццатай, і ўсе спалі. Усе дружна ўсталі, накурана, сказалі, што пазнаёмімся заўтра, і зноў улегліся спаць. Мне заставалася распасьцерці матрац на адных з двух свабодных нараў, і таксама ўлегчыся.

Навенькаму заўсёды дастаюцца нары наверсе. Гэта дрэнна, бо сядзець днём на іх нельга. А яшчэ мне было вельмі цяжка залазіць і злазіць зь іх. Мне ўсё ж такі ўжо 56! Але ўжо на наступны дзень палітычная дзяўчынка Тоня саступіла мне сваю шконку. Для турэмных нораваў гэта зусім не тыпова.

У нас быў адзін выпадак, калі чалавека праз тры тыдні выселілі з камэры за крадзеж. Некалькі разоў былі канфлікты, калі навенькія спрабавалі навязаць свае ўмовы або качаць правы. У большасьці выпадкаў пазьней усё наладжвалася. Вельмі важна прымаць усё, як ёсьць.

Напрыклад, у маім выпадку дзікі ор матам адзін на аднаго аказаўся элемэнтам рытуальнай гульні, спосабам разрадкі. Увогуле — цярпеньне, добразычлівасьць і адкрытасьць нам у дапамогу. Далей — лягчэй.

Тоня ўстае раней за ўсіх, і грэе на ўсіх 8 кубкаў вады. Садавіна і гародніна — агульныя. Усе ўсіх частуюць. Калі ў камэру трапляе чалавек, якому не прыносяць перадачы — яму іх зьбіраюць — кожны дзеліцца чым можа. Калі хтосьці рыдае — яго не чапаюць, толькі калі сытуацыя не выходзіць з-пад кантролю.

Усе дзяўчынкі добрыя, але атмасфэра ў камэры цяпер вельмі гарачая. Ва ўсіх эмацыйныя арэлі: сьмех-сьлёзы-крыкі-танцы-дэпрэсія.

Напішу пра тое, чаго мне вельмі не хапае. І гэта не пра відавочныя рэчы.

Напрыклад, няма магчымасьці паглядзець удалячынь і ўбачыць гарызонт. Перада мной увесь час сьцены-твары-нары. Трохі ратуюць фатаграфіі — я ўвесь час іх разглядаю. І паштоўкі з татавымі карцінамі — я іх павесіла проста над сабой. Яны мне замяняюць выгляд з акна. Так што з аднаго вакна я бачу моцнае дрэва, а зь іншага — бірузова-бронзавыя праталіны.

Яшчэ вельмі не хапае гукаў. Такіх, як шум дажджу, скрып сьнегу. Не хапае сьпеваў птушак. Вакол толькі галасы. Іх занадта шмат, і яны занадта гучныя. І занадта блізка.

Не хапае пахаў. Сьвежых і яркіх, якія выклікаюць успаміны. Памятаеш, ты перадала понча? Яно яшчэ доўга пахла тваімі духамі і табой. Якая гэта была раскоша! А ў апошняй перадачы ты перадала мне крэм для рук. Ён пахне духамі, і я карыстаюся ім як духамі — мажу за вушамі і запясьці. Гукі, пахі, дотыкі, гарызонт — гэта ўсё неад'емныя часткі свабоды.

**Турэмныя лайфхакі**

1. Асадка бяз стрыжня — добрая трубачка. Празь яе можна піць, каб не абпальваць вусны аб конаўку. А яшчэ ў дзяўчынак пачалася алергія на вуснах, ад судотыку з алюмініем. Галоўнае потым гэтую асадку скруціць, інакш забяруць падчас шмону.

2. Мэдычная маска — выдатны чахол для гэтай конаўкі. Завязаў гумкі — і конаўку можна трымаць у руках. Зноў жа галоўнае — не забыцца зьняць.

3. Пачак ад запалак — лыжка для таго, каб насыпаць кавы і цукру (нармальныя лыжкі прыносяць толькі на час сьняданку, абеду ці вячэры).

4. Распушчальную кашу можна заварыць у мыльніцы, а есьці яе — футаралам ад зубной шчоткі (з аднаго футарала атрымліваецца цэлых дзьве лыжкі!).

Турэмны пэрсанал у цэлым не зьвяры, а людзі, у якіх такая праца. І сярод іх ёсьць нават сымпатычныя і добразычлівыя.

Дзяжурныя ў асноўным жанчыны. Зь імі мы сутыкаемся часьцей за ўсё. Наогул, сярод жанчын злосных значна больш, чым сярод мужчын. Дзяжурныя сочаць за парадкам. Менавіта яны даюць рапарты, і вырашаюць дробныя бытавыя пытаньні, тыпу прынесьці іголку зь ніткай. У адной дзяжурнай мянушка Бабка — без камэнтароў.

Карпусныя — гэта начальства. Ім здаюць рапарты, яны дапамагаюць вырашыць важныя :) пытаньні, якія ўзьнікаюць у камэры. Напрыклад, выдаць ці не дадатковыя коўдры ў холад. Аднаго карпуснога называюць „Уважаемый“. Ён так да ўсіх зьвяртаецца, ну і да яго, адпаведна. Большасьць карпусных — людзі адэкватныя.

Рэжымшчыкі — часьцей за ўсё маладыя хлопцы. Яны водзяць у кабінэты, на прагулкі, у душ. Некаторыя дзяўчынкі прымудраюцца зь імі какетнічаць і балбатаць.

Баландзёры — ад слова баланда. Гэта асуджаныя, якія адбываюць свой тэрмін на гаспадарчых

работах на „Валадарцы“. Спакойна і па-чалавечы можна вырашыць шмат пытаньняў.

Сярод пэрсаналу ёсьць добрыя і адказныя. Такіх адсоткаў 10. Ёсьць „сабакі“ — іх таксама 10 адсоткаў. Астатнія 80 адсоткаў — проста людзі.

Дзесьці ў мужчынскім корпусе СІЗА нумар 1 на Валадарскага, у хлопца па імені Вадзім памёр бацька. Памёр ад сардэчнага прыступу, даведаўшыся, што сын патрапіў у турму. Вадзіма не адпусьцілі нават на пахаваньне, спасылаючыся на Ковід. У хлопца здарылася самая моцная дэпрэсія. Ён зьбіраўся скончыць жыцьцё самагубствам.

Вераніка, мая сукамэрніца, працавала „мінёрам“ у інтэрнэт-краме — рабіла закладкі з наркотыкамі. Вераніцы каля 30. У яе доўгія, гладкія, вельмі цёмныя валасы, яна стройная і вельмі энэргічная. Яна разумніца. Выдатна сьпявае, танцуе. Гаспадарлівая, умее браць на сябе адказнасьць. Вераніка атрымала 12 гадоў (пракурор прасіў дзесяць!). У чаканьні суду, а потым адказу на апэляцыю, яна правяла спачатку ў жодзінскай турме, а потым на „Валадарцы“ 14 месяцаў. На правах старажыла Вераніка адчувала сябе старэйшай у камэры, і рэальна была ёй: сачыла за тым, каб выконваўся парадак, вырашала агульныя для камэры пытаньні — тыпу выдаць другія коўдры ў маразы, або ўкруціць новую лямпачку. Ад наркотыкаў, турмы і вялізнага тэрміну наперадзе ў Веранікі даволі расхістаная псыхіка, і вельмі гучны голас. Штарміла яе — штарміла ўсю камэру.

Перапіска паміж зьняволенымі забароненая, але нейкім чынам гэтыя двое — Вераніка і Вадзім — пачалі перапісвацца. Лісты станавіліся ўсё больш прасторнымі, а размовы (яны нейкім чы-

нам перакрыкваліся і перастукваліся) усё больш гарачымі.

Да таго моманту, калі я апынулася ў камэры, Вераніка штотыдзень сьпісвала па 50 лістоў А4. Пісала пра ўсё, што зь ёй адбываецца ў камэры, пра свае мары і фантазіі, пра свой мінулы досьвед. Часам з фантазіямі дапамагалі дзяўчынкі. Фрагмэнты лістоў Вадзіма штодня зачытваліся ўголас. Яго фота ўвесь час вісела перад вачыма Веранікі. „Люблю! До миллиона планет!“ — гучала кожны дзень у турэмным двары. Часам закаханыя сварыліся. Ініцыятарам была Вераніка). Вадзім нешта ня так пачуў ці не адказаў. І тады ў камэры павісалі хмары. Дзяўчынкі дружна суцяшалі Вераніку, угаворвалі яе зьлітавацца.

Вадзім і Вераніка ніколі ня бачыліся, але, тым ня менш, ён зрабіў прапанову. І Вераніка пагадзілася, вядома. У лістах абмяркоўваліся падрабязныя пляны. Некалькі тыдняў таму Вераніка зьехала ў гомельскую калёнію. Вадзім застаўся на „Валадарцы“. Вераніка вельмі спадзявалася, што ўсімі праўдамі і няпраўдамі ёй удасца пабачыць свайго жаніха да адʼезду, але ня здарылася. Перад адʼездам, рыдаючы, Вераніка сказала: „Камэра 83 у СІЗА нумар 1 — самае лепшае, што было ў мяне ў жыцьці. Вы — мае першыя сяброўкі, у мяне ў жыцьці ніколі не было сябровак. Толькі тут я зразумела, што сяброўкі бываюць!“

Я ўжо распавядала пра зьмену ў складзе камэры і пра тое, што ў мяне, здаецца, зьявілася сяброўка. Дык вось — гэта доўжылася нядоўга. Ужо на чацьвёрты дзень пачалося кіляшаваньне. І Вольгу перавялі ў іншую камэру. Увогуле, тут сапраўды нельга ні да каго прывязвацца.

Да нас ненадоўга перавялі Насьцю. Яна з намі на час апэляцыі, і хутка зьедзе ў Жодзіна. Ёй за 40, яна з нашых. Ужо асуджаная за „хуліганства“, атрымала год і месяц. У Насьці пяць дзяцей. Трое сваіх, і двое пад апекай. Яна працавала ў дзіцячым доме. Дзяцей, якія былі пад апекай, натуральна, адабралі. І вярнулі ў дзіцячы дом. Вось такія людзі тут сядзяць. Людзі, на якіх іншая нармальная дзяржава малілася б.

Насьцю перавялі да нас зь „сялёдкі“ — мэдычнага аддзяленьня. Яна распавяла жудасную гісторыю. Зь імі ў камэры была жанчына, якую, падобна, ужо ў турме разьбіў інсульт. Ёй за 50, клічуць яе Ала Іванаўна. Мы думаем, што гэта здарылася менавіта ў турме таму, што Насьця чула, як пэрсанал казаў пра тое, што ў турму яна прыйшла на сваіх нагах. Цяпер яна ня ходзіць, не гаворыць, і ў яе ледзь-ледзь працуе адна рука. Увесь час ляжыць. Даглядаюць за ёй самі дзяўчынкі-сукамэрніцы. На руках цягаюць у туалет, спрабуюць накарміць. Яе нечым колюць, але догляду ніякага няма. Можа, хтосьці пазнае сваю сваячку? Уся гэтая непатрэбнасьць і ненармальнасьць пакрысе становіцца нармальнай. Усё цяжэй захоўваць веру.

# ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ

## *Што з намі можа здарыцца? Мы ж у турме!*

*Я буду шчасьлівая, калі людзі на волі дзеля мяне будуць шукаць магчымасьць рабіць дабро. Зьняволеньне мяне засмучае тым, што ў мяне абмежаваныя магчымасьці рабіць добрыя справы, радаваць людзей. У маім сэрцы гарыць любоў.* Вольга Залатар

*Мы спрабавалі выстаяць падчас цунамі, але ў нас не атрымалася. На жаль, прастора для дзейнасьці незалежных СМІ скарацілася да памеру камэры на Акрэсьціна ці ў „Валадарцы“. Ні я, ні, думаю, мае арыштаваныя калегі не шкадуем, што засталіся ў Беларусі і працавалі зь Беларусі да апошняга. Праца нацыянальнага брэнду павінна працягвацца хоць з намі, хоць бяз нас, таму што „Наша ніва“ — гэта не Марціновіч, Скурко, Дынько і Раковіч, а высокапрафэсійная журналісцкая каманда і сотні тысяч чытачоў. Чытайце па-беларуску, рэпосьціце па-беларуску, размаўляйце па-беларуску! І калі такіх людзей будуць ня сотні тысяч, а мільёны, то ўсе мы вызвалімся нашмат раней. Люблю Беларусь!* Ягор Марціновіч

*Беражыце сябе! Не хварэйце! Не перажывайце лішні раз! Што з намі можа здарыцца? Мы ж у турме! У турме зь бібліятэкай, якой зайздросьцяць многія бібліятэкі Сінявокай! З усьмешкай, Сяргей Сяргеевіч.* Сяргей Альшэўскі

*Магчыма, вы ведаеце, што ў мяне таксама ёсьць кот, яго завуць Лео. Праўда, я зь ім яшчэ не знаёмы, а ён ужо амаль дарослы. Яму будзе 7 месяцаў, а важыць ён ужо 4 кг. Дарэчы, перадавайце сваім коткам і сабачкам прывітаньні.* Ціхан Восіпаў

*Не засмучайцеся праз рашэньне суду, яно было прадказальным. Мы пацярпім, бо ведаем, што нашым прысудам самі ведаеце хто робіць горш ня нам, а сабе. Вось калі б нас вызвалілі ў залі суду, была б нагода засмуціцца.* Яўген Афнагель

*Я сабе выдумаў так: кожны крок — гэта крок у кірунку Горадні. Гэта вельмі матывуе. У апошняй камэры ў мяне на прагулку было 4 крокі ў адзін бок, але я хадзіў па некалькі гадзін на дзень. Кожны крок — і ты бліжэй да дому. Зразумела, што вывезьлі мяне далёка, а вывезуць яшчэ далей, але калі не здавацца і крочыць, то раней ці пазьней дойдзеш да хаты, да нашага каралеўскага гораду.* Анджэй Пачобут

## Не прымаць турэмную мову як частку новага жыцьця

*Вольга Калацкая, 50 гадоў, перакладчыца:*

Мяне затрымалі дома 15 студзеня, выпусьцілі 24 сакавіка. Цяпер я на „хатняй хіміі“. За кратамі прабыла больш за два месяцы. Некалькі дзён на Акрэсьціна ў ізалятары, затым два месяцы ў сьледчай турме Жодзіна, яшчэ некалькі дзён у Пішчалаўскім замку на вуліцы Валадарскага ў Менску.

Я шчасьлівая, што нарэшце трапіла дадому, нарэшце пабачыла маці, нарэшце магу нармальна яе глядзець (ёй 90).

Найлепшыя ўмовы мела на „Валадарцы“, найгоршыя — у ізалятары на Акрэсьціна. Але ўмовы ўтрыманьня могуць моцна адрозьнівацца і ўнутры самога СІЗА. Напрыклад, на Валадарскага ёсьць як вельмі добрыя камэры, так і „дзікія“ памяшканьні ў сутарэньнях, разьлічаныя на ўтрыманьне дзясяткаў чалавек.

У Пішчалаўскім замку я была ў вельмі прыстойнай камэры, у параўнаньні з Жодзінам. Яна па памеры была значна меншая за жодзінскую, але значна больш цывілізаваная. Я там упершыню, прабачце, пабачыла нармальную прыбіральню і нармальны рукамыйнік.

Сукамэрніцаў за гэты час таксама было шмат. Асабліва хутка яны зьмяняліся на Акрэсьціна. У сьледчай турме Жодзіна я сядзела ў адной камэры з журналісткай Белсату Кацярынай Андрэевай.

Яна мне адразу экскурсію па камэры правяла, растлумачыла нейкія завядзёнкі, якія дазваляюць

жыцьцё ў турме зрабіць лягчэйшым. Мы вельмі шмат размаўлялі з Кацяй. Я проста дзівілася, наколькі гэта пры ўсёй вонкавай крохкасьці, кранальнасьці моцны чалавек. Нязломны, са стрыжнем. Яна па-добраму вельмі амбітная. Я перакананая, што яе чакае бліскучая, зорная журналісцкая кар'ера.

З маіхназіраньняў, у адной камэры звычайна ня можа знаходзіцца больш за 2–3 палітычных. Мне давялося адбываць пакараньне з самымі рознымі вязьнямі, абвінавачанымі ў тым ліку ў крадзяжах, парушэньні рэжыму „хатняй хіміі“ і іншых правапарушэньнях. На „Валадарцы“ я была ў адной камэры з палітзьняволенымі Вікторыяй Міронцавай і Ксеніяй Сырамалот.

Я трапіла за краты ўпершыню. Раней са мной здараўся толькі штраф за безьбілетны праезд, які я сплаціла на месцы. Асноўныя мае заняткі цяпер — пераклады і навучаньне ангельскай мове. Я восем гадоў адпрацавала ў Лінгвістычным унівэрсытэце, дзе выкладала граматыку і практыку маўленьня. Цяпер у „вольным плаваньні“. Турэмная мова для мяне стала абсалютна новым досьведам.

Я раней ніякім чынам не сутыкалася з крымінальным сьветам, нават шансону ня слухала. Аднак, безумоўна, цікавыя словы і выразы там ёсьць. Мне падалося, што там шмат эўфэмізмаў.

Я імкнулася не размаўляць на турэмнай мове. Не прымаць яе як частку новага жыцьця. За ўвесь час знаходжаньня ў сьледчай турме толькі некалькі разоў вымавіла словы „шконка“ і „баландзёр“. За што, здаецца, дакараю сябе дагэтуль.

**Слоўнік**

***Хата*** — гэта камэра. Калі заходзіш у камэру, то, значыць, ***заяжджаеш у хату***. Адпаведна, калі ты выходзіш з камэры альбо на волю, альбо ў іншае месца, то ты ***вымятаесься***. Чаму менавіта ***вымятаесься***? Магчыма, таму, што табе зычаць раз і назаўсёды адтуль выйсьці.

***Тармазы*** — дзьверы ў камэры, якія аддзяляюць яе ад калідора. Менавіта праз ***тармазы*** вязьні ***заяжджаюць*** альбо ***вымятаюцца*** з ***хаты***.

***Кармушка*** — вечка ў ***тармазах***, празь якое ў ***хату*** падаюць ежу, перадачы, дакумэнты вязьням на подпіс. А таксама лісты і карэспандэнцыю.

***Бар*** — палічкі ў куце ***хаты***, прызначаныя для асабістых рэчаў вязьняў і прадуктаў. У кожнага зь вязьняў свая палічка. ***Пайсьці ў бар*** — узяць нешта са сваёй палічкі.

***Шконка, шканар*** — турэмны ложак, часта адкідны.

***Вейкі*** — шырокія мэталічныя пласьціны на турэмных вокнах, падобныя да жалюзі. Прызначаныя, каб перашкодзіць сувязі паміж рознымі ***хатамі***.

***Рабочая хата*** — камэра, адкуль можна перагаворвацца зь іншымі камэрамі альбо перадаваць туды запіскі.

***Конь, Якар*** — адмысловыя прыстасаваньні, каб перадаваць паміж ***рабочымі хатамі*** так званыя ***малявы*** — запіскі. Мне ў Жодзіне давялося сядзець у ***нерабочай хаце***, таму пра выкарыстаньне такіх рэчаў я чула толькі са словаў іншых зьняволеных.

***Падняць маляву*** — атрымаць нелегальнае паведамленьне зь іншай камэры.

***Павесьці на кабінэт*** — выклікаць на допыт да сьледчага альбо на сустрэчу з адвакатам. Часта-та візытаў адваката залежыць ад дамоўленасьці зь ім. Да мяне ў Жодзіна за два месяцы сьледчы прыехаў адзін раз.

***Прадол*** — калідор, у які выходзяць дзьверы камэр. Вартаўнік, які пільнуе гэты калідор, — ***прадольны***. У абавязкі ***прадольнага*** ўваходзіць сачыць за парадкам на паверсе, ён таксама забараняе вязьням удзень раскладаць нары і ляжаць на іх.

***Карпусны*** — вартаўнік, адказны за корпус турмы. Непасрэдны кіраўнік ***прадольнага***.

***Баландзёр*** — зьняволены, які развозіць ежу па ***прадоле***. Пры гэтым слова ***баланда*** ў нашай камэры не ўжывалася зусім.

***Крыса*** (пацук) — зьняволены, які нешта скраў у сваіх сукамэрнікаў альбо данёс на іх адміністрацыі турмы.

***Сьмецьце*** — адзінае беларускае слова з турэмнага жаргону, якое я сустрэла, пакуль была за кратамі. Існуе нават паўлегенда, якую любяць апавядаць вязьні. Маўляў, калі перадаваць пакунак са сьмецьцем вартаўніку і выкарыстаць пры гэтым расейскае слова ***мусор***, то ён адкажа, што ***мусор*** — гэта ён. А сьмецьце трэба называць ***сьмецьцем***.

***Падагнаць*** — падараваць, пакінуць. ***Падгон*** — падарунак. Звычайна вязьні ***падганяюць*** адзін аднаму рэчы падчас пераездаў. Мне Каця Андрэева ***падагнала*** некалькі торбаў. Сама я ***падганяла*** сукамэрніцам алоўкі і флямастары.

Але гэта тая мова, якую я б не хацела выкладаць. Для мяне было важна захаваць дыстанцыю

ад таго асяродзьдзя. Не пусьціць гэтую мову ў сябе.

Як і ў звычайным жыцьці, за кратамі я размаўляла з усімі і паўсюль па-беларуску. Праз гэта часам узьнікалі праблемы. Нідзе яшчэ не даводзілася так часта тлумачыць, чаму гаворыш на роднай мове.

Здаралася, што я нешта пыталася ў „карпуснога“, а ён мог адказаць мне на чыстай беларускай мове: „Не разумею я вашай беларускай мовы“. А сукамэрніцы спрабавалі па-беларуску са мной. Калі ня стала, то хаця б пэўныя фразы, словы. Але ўвесь час, стала па-беларуску гаварыць „непалітычным“ сукамэрніцам было складана.

Бадай, самай вялікай праблемай у турме была лаянка, якую даводзілася чуць вельмі часта. Сярод канвіраў, сярод аховы, у камэрах для некаторых вязьняў родная мова — мацерная. Я зусім не ўжываю такіх словаў, магу іх толькі перакладаць з ангельскай. Але чамусьці ангельская лаянка ўспрымаецца ня так груба, як расейская. Я адчувала фізычны боль ад гэтых выразаў, проста балела ўсё.

Падчас пераезду я запытала ў сваёй канваіркі, як яна вытрымлівае гэтую пастаянную лаянку. І тая адказала, што да ўсяго можна прызвычаіцца.

Свой турэмны досьвед я ацэньваю як вельмі цікавы час і вельмі карысны для мяне. Я шмат што зразумела і пра сябе. Напрыклад, тое, што ўнутрана я ўсё ж свабодны чалавек. І калі я хачу штосьці рабіць, то я буду гэта рабіць. Свабоду мысьленьня, нават свабоду трымацца так, як ты хочаш, у цябе ніхто не адбярэ. Ты застанесься сабой у любых акалічнасьцях.

## Мы ня раз шкадавалі, што спынілі галадоўку

*Іван Манько, 28 гадоў, Бабруйск:*

Я тройчы быў пад адміністрацыйным арыштам. За пратэст у Менску напярэдадні інаўгурацыі Лукашэнкі трапіў у жодзінскі ізалятар, дзе прабыў два дні. Другі раз апынуўся ў бабруйскім ізалятары — 22 студзеня, пасьляператрусу. У ізалятары мяне пакінулі на 10 дзён за фота зь бел-чырвона-белым сьцягам.

На Дзень Волі міліцыянты схапілі мяне за рукі і ногі ды закінулі ў мікрааўтобус. У няволю разам са мной трапілі яшчэ пяцёра палітычных. Судзілі нас у ізалятары 26 сакавіка. Мне прызначылі пакараньне — 30 дзён, я абвясьціў галадоўку. Яе падтрымалі Ўладзімер Міхалап і Павал Кабанчук, а пазьней далучыліся іншыя асуджаныя за Дзень Волі: Сяргей Бяляеў, Аляксандар Парахневіч ды Сяргей Мардушкоў.

Галадоўка не была праяваю моцы, а хутчэй слабасьці. Я стаміўся быць бясправўным, мне абрыдла, што нас хапаюць і судзяць ні за што. Мне падавалася, што галадоўка — адзіны спосаб хоць неяк супраціўляцца ўсяму гэтаму.

Бязь ежы я правёў больш за дзесяць дзён і дужа аслабеў. Зь цяжкасьцю трымаўся на нагах, у вачах цямнела, было адчуваньне, што паміраю. На ранішняй праверцы ледзь ня траціў прытомнасьць і прасіў ахоўнікаў вярнуць мяне ў камэру.

Галадоўку спынілі, бо сталі турбавацца пра здароўе адзін аднаго. У кожнага быў бледны твар, сінякі пад вачыма ды запаволеныя рухі. Да таго ж

супрацоўнікі ізалятара стварылі для нас „асаблівы рэжым“ з жорсткімі ўмовамі ўтрыманьня. Начальнік ізалятара шчыра прызнаўся, што палепшыць абыходжаньне з намі ня можа, і даў асуджаным магчымасьць спакойна абмеркаваць сытуацыю з галадоўкай.

Мы прыйшлі да думкі, што галадоўку трэба спыняць.

Пасьля галадоўкі я еў толькі хлеб і раніцай посныя кашы. Раз на тыдзень, як для вэгетарыянца, для мяне ў перадачах прапускалі арэхі і сухафрукты. Іх на тыдзень не хапала. 24 красавіка мяне вызвалілі. На самаадчуваньне не наракаю, але мышцы за 30 дзён аслаблі.

Ахоўнікі зьвязвалі пагаршэньне ўмоваў для палітарыштантаў з наведваньнем ізалятара міністрам унутраных спраў Іванам Кубраковым. Таму нібыта падалося, што асуджаныя „жывуць, як у санаторыі“.

Ахоўнікі кожны дзень прыдумлялі новыя правілы. Напрыклад, палітарыштантам забаранялі днём ляжаць на ложках, а ўначы праводзілі пераклічку. У далейшым нас ужо ўвесь час трымалі ў перапоўненых камэрах, дзе не выключалася ні сьвятло, ні радыё. Нам забаранілі мець асабістыя рэчы, у тым ліку сродкі гігіены. Родным дазвалялі класьці ў перадачы толькі сухары, печыва ды хлеб. За некалькі дзён да вызваленьня палітарыштантаў замыкалі ў карцары. У душ за месяц звадзілі толькі раз.

Мы з Уладзімерам Міхалапам, асуджаным таксама на 30 дзён, ня раз шкадавалі, што спынілі галадоўку.

## Гэта была ў чыстым выглядзе сытуацыя самоты

*Аляксей Крукоўскі, 49 гадоў, музыка і філёзаф:*

Мяне затрымалі 26 красавіка каля майго дому за бел-чырвона-белы сьцяг у вакне кватэры і асудзілі на 11 сутак. Сьведкам выступаў „Іваноў Іван Іванавіч“. Сваёй віны я не прызнаў. Першыя 4 дні сядзеў на Акрэсьціна, потым у Жодзіне. Выйшаў на волю 7 траўня.

Я не адчуваю сораму за тое, што адбылося, але і ніякай касьмічнай крыўды. Усё гэта цалкам заканамерна.

Чалавек у глыбіні душы застаецца сам з сабою. Турма дае шмат для пацьвярджэньня гэтага. Што б ні адбывалася на волі, якая б падтрымка ні была, да нас яна не даходзіла. Не перадавалі ні лістоў, ні літаратуры, ні гульняў, ні крыжаванак. Лісты не аддалі нават на выхадзе.

У гэты момант ты сам мусіш вырашаць свае праблемы. Ёсьць Сіла, да якой ты можаш зьвяртацца. Але гэта была ў чыстым выглядзе сытуацыя самоты. Гэта ня карцар, не „адзіночка“, там шмат людзей. І гэтыя featureрознакаляровыя „вожыкі“, з рознымі іголкамі, з рознай ступеньню вашывасьці разам мусяць ратавацца, замяняць адзіноту на эрзац супольнасьці.

У Жодзіне была вельмі добрая камэра. На 10 месцаў сядзелі 15 чалавек. Быў пабудаваны асьцярожны, вельмі крохкі, але акуратны балянс адносінаў — на захаваньні асабістай прасторы. Не было панібрацтва.

Паколькі рэжым быў вельмі жорсткі, не было сумеснага сьпяваньня песьняў. Песьні пялі дзяўчаты ў суседняй камэры. Іх было чалавек сем. Яны паводзілі сябе гераічна, ішлі на канфлікт з адміністрацыяй, сварыліся зь імі, патрабавалі доктара. Лаяліся на начныя праверкі, патрабавалі, каб ахоўнікі выйшлі, пакуль яны не апрануцца.

Мы ўсе былі „дрэсіраваныя“, некаторым пару разоў далі па рэбрах. Мы стараліся не пераносіць гэтую агрэсію адзін на аднаго. Адчуваньня катастрофы ні ў кога не было. „Давайце датрымаемся разам, як пасажыры ў доўгай дарозе, а потым разыдземся“. Тэлефонамі мы не абменьваліся.

Са мной сядзеў сымпатычны 70-гадовы дзядок з Лошыцы Ўладзімер, інжынэр-канструктар „Гарызонту“ на пэнсіі. Ён не адчыніў дзьверы міліцыі падчас „акцыі па ачыстцы бальконаў“, тады іх сталі ламаць. Яго білі. Б’юць там падчас праверак нагой па назе, каб шырэй станавіўся на расьцяжку. Часта гэта робяць некалькі дзён запар, калі чалавек ужо „памечаны“, пачынае кульгаць — як падбітую дзічыну. У дзядка на назе была гіганцкая гематома. Ён пра гэта нікому не казаў. Я выпадкова гэта заўважыў. Мы сталі рабіць яму прымочкі.

Ён быў абсалютна „ў тэме“, нікога не абвінавачваў, ні на кога не крыўдаваў. Трымаўся нароўні з усімі, падтрымліваў зносіны. Для мяне гэта аб’ект гонару і павагі.

У суседняй камэры сядзеў хлопец-скрыпач. Яму гадоў 20. Яго забралі ў той жа дзень, што і мяне, зь пераходу мэтро. Я яго бачыў на волі, кідаў яму грошы. Ён граў „Муры“. Скрыпку забралі разам зь ім. Я перакідваў гэтую скрыпку з адной кучы ў другую, калі ехалі з Акрэсьціна ў Жодзіна, бо

апошнім заходзіў у аўтазак, і амонаўцы прымушалі грузіць рэчы. Я стараўся класьці скрыпку паверх усіх пакетаў. На футарале былі адбіткі ботаў.

Каго мне вельмі шкада, дык гэта хлопца Івана. Апошні раз я яго бачыў у малюсенькім аднамесным ізалятары, дзе зьмясьцілася сем чалавек. Ён рабочы з Ангарскай. Атрымаў 30 сутак. Яму было вельмі цяжка. Ён добра падрыхтаваны для камэры, спрытны, гаспадарлівы. Калі я прыйшоў, у яго ўжо быў пакет з пакетамі — каля 50 поліэтыленавых пакетаў, акуратна ўкладзеных адзін у адзін, якія служылі падушкай. Для яго была абсалютна невыноснай думка, што ўсе выйдуць, а ён застанецца. Ён казаў, што нешта з сабой зробіць. Гэта для яго было як катаваньне.

На Акрэсьціна да нас укінулі мужчыну Сяргея, якога затрымалі за карцінку 2019 году. Мяне ўразіла, наколькі ён быў засмучаны. Яго з РАУС везьлі разам з двума алкашамі. На Акрэсьціна алкашам выдалі матрацы і бялізну, яму таксама, але перад самай камэрай забралі. Яго надзвычай, па-дзіцячы ўразіла гэтая несправядлівасьць.

У мяне слабое месца, як выявілася, — тое, што мне не аддалі першую перадачу. Усім перадалі, а мне не. І мне, 50-гадоваму мужыку, было страшна крыўдна. Потым перадача чакала мяне на выхадзе з маім заплечнікам. Ніякіх тлумачэньняў не было.

Другая перадача да мяне дайшла за два дні да выхаду. Яна мяне ўжо асабліва ня грэла: кранула, але не была практычна карыснай. Важнейшае тое, што перадаюць у першы тыдзень: пераапрануцца, цяплей адзецца, бо ў камэрах страшна холадна. Многія захварэлі.

Перадачамі ў палітычных камэрах дзеляцца. Хлопцы з крымінальным мінулым не дзяліліся перадачамі, хоць самі бралі з „абшчаку“. Раней доўгі час была карцінка, што сядзяць усе інтэлігенты, айцішнікі, лекары. Па маіх адчуваньнях, цяпер за палітыку сядзяць 30% людзей з крымінальным досьведам.

У палітычных камэрах няма правілаў, якія маюцца ў клясычных крымінальнікаў, кшталту не сядзець каля парашы, ня браць удзел у „брудных“ справах, як прыбіраньне.

Людзі садзіліся і насупраць туалету, ніхто нікога не папракаў. Я першыя дні гідзіўся, мне было няёмка перад людзьмі, якія спраўлялі свае патрэбы, а потым я зразумеў, што проста ня выжыву, калі ня буду нейкі час сядзець, выпрастаўшы ногі. Усе праз гэта прайшлі. Хлопчыкі „па паняцьцях“ туды не хадзілі. Яны ўпарта сядзелі за сталом.

На Акрэсьціна ўсім выдалі гумавыя пранумараваныя тапкі. Мы выдзелілі адну пару, якой усе карысталіся на парашы. Усе абавязкова мылі рукі. Гэта была павага да ўсіх.

Стараліся ўсё выкладаць наверх, бо падчас шмону тое, што знаходзілі ў торбах, маглі расьцерушыць па падлозе. Пасьля шмону частка рэчаў прападала. Прыкладам, адбіраюць вільготныя сурвэткі. Нібыта хтосьці заткнуў „талчок“ такой сурвэткай, таму ва ўсіх іх сталі забіраць.

У Жодзіне матрацаў, бялізны ні ў кога не было. Выкарыстоўваць ложак дазволена толькі з 22:00 да 6:00. Калі сядзеш або ляжаш на ложак удзень, б’юць. На Акрэсьціна можна было сядзець удзень.

Быў стол на 8 месцаў і 2 лавы. Можна сядзець за сталом. У каго апухалі ногі, здаравей было

стаяць. Можна ляжаць на падлозе, але падлога кафляная (у ізалятары на Акрэсьціна была драўляная).

Адначасна хадзіць па камэры маглі два чалавекі. Астатнім пры гэтым некамфортна, трэба падцягваць ногі. У нас сядзеў айцішнік, які актыўна займаўся спортам, але гэта перашкаджала астатнім.

У Жодзіне спалі на вузкіх лаўках, нехта — на стале, некаторыя па двое на жалезных ложках. Я спаў на другім паверсе адзін.

У ЦІП на Акрэсьціна, дзе я правёў дзень, не было ніякай вады. Гэта катаваньне. Калі ты маеш магчымасьць памыць рукі пасьля прыбіральні, гэта робіць цябе чалавекам. У ЦІП я, як і ўсе, спаў на кафлянай падлозе.

Асаблівая форма катаваньня — радыё, якое працуе цэлы дзень і часам ноччу. Гэта мне не давала спаць. Думаю, ахоўнікі разглядалі гэта як форму пакараньня і перавыхаваньня. Часам яны ўрубалі флэшку з гітамі афіцыйнай эстрады: „Слухай бацьку“, „Белая Русь, я тобой горжусь“, „Мама-Беларусь“. Уключалі Данчыка „Аксамітны летні вечар“.

Першы радыёканал — беларускамоўны. Беларуская мова не выклікала раздражненьня, ніхто на яе не наракаў. Людзі адрозьнівалі прапагандысцкі дыскурс і беларускую мову. Яны ня зводзілі гэта ў адно.

На прагулку выводзілі адразу 4 камэры, усяго два разы за час арышту. Ахоўнікі спачатку прасоўвалі праз сетку цыгарэты, а потым пачалі раўці. Мне ўдарылі ў грудзі са словамі „Гніда яб***я“.

Мяне гэта ашаламіла. Я быў не падрыхтаваны. Сонейка прыгрэла, людзі курацьb, дымок, міла. Бац — жорсткае вяртаньне ў рэальнасьць.

Я ня веру ў добрых і злых дзяжурных. Гэта фантазіі вязьняў, якія спрабуюць аддзяліць поры дня і ночы. Ёсьць вонкавыя абставіны. На выходныя начальства адсутнічае — дзяжурныя пачынаюць дурэць. Нейкі старшы іх прыструньвае, і гэта выглядае, як добрая зьмена. Падчас „добрай“ зьмены могуць прынесьці перадачу.

Ня ўсе яны прыродныя садысты, але ўсе — сыстэмныя садысты. Калі трэба, яны ўсе могуць бесчалавечна абыходзіцца зь вязьнямі. Людзі на працы.

Маці мне перадала лямінаваны абразок трох Віленскіх пакутнікаў. Я думаў, куды яго падзець. Пастаўлю на палічку — будзе вельмі крыўдна, калі яго скінуць адтуль падчас шмону. Пакладу сабе ў штаны — але яны ўсё правяраюць і могуць выкінуць на калідор. Урэшце паклаў яго ў торбу. Дарэчы, усё робіцца функцыянальнай рэччу ў турме. Абразком я спрабаваў парэзаць грушу.

Абразок страшна ўсіх інтрыгаваў, бо людзі тэкстаў даўно ня бачылі, бо ўжо перачыталі ўсе надпісы на туалетнай паперы, на дакумэнтах, што выдалі ў турме (пра аплату харчаваньня і арыштаваныя тэлефоны). Хтосьці адразу выхапіў абразок і пачаў чытаць малітву.

Пасьля чарговага шмону абразок ляжаў пасярод пакоя на падлозе. Адзін малады чалавек спытаўся: „Пэўна, яны ня веруючыя?“. Я яму сказаў: „Абсалютна ня важна, вернікі яны ці не. Яны проста прафэсійна выконваюць сваю працу, а потым спакойна могуць хадзіць у царкву“.

Псыхалягічна самым цяжкім днём была нядзеля, бо Вялікадня не было. Чэрці шалелі, шмон быў даволі жорсткі. Падчас „гадзіны выхаваньня“ яны імітавалі дзіцячымі галасамі зьбіваньне на калідоры, лупілі па сьценках: „Ратуйце, памажыце! Жыве Беларусь!“ — „На табе! На! Су*а, яб*ла закрый!“

На першым радыёканале Вялікадня не было, толькі зранку віншаваньне Веньяміна. Я не чакаў, што ў камэры будуць сьпяваць рэлігійныя песьні або імітаваць біцьцё яек, але было відаць, што людзям усё роўна.

У нядзелю Ён не ўваскрос, гэта адбылося пазьней, калі мне выдалі перадачу і калі я ўжо выйшаў на волю. Тады мы ў сям’і пахрыстосаваліся.

# ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ

## Не бывае ніякіх „лепшых часоў“

Андрэй Аляксандраў, журналіст і мэдыямэнэджэр:

*Жыцьцё паводле распарадку, прагулкі, кнігі, лісты. Стараюся рухацца, наколькі гэта магчыма. І лавіць веснавое сонца — яно прабіваецца нават сюды. А які тут цудоўны від на самы сапраўдны замак!*

*Агулам у мяне ўсё больш-менш: здаровы, бадзёры, настрой у парадку. Тэрмін майго ўтрыманьня пад вартай працягнулі да красавіка, так што проста чакаю — проста неяк усё „адпусьціў“, намагаюся напоўніць магчымымі асэнсаванымі дзеяньнямі свае дні.*

*Часам гатуем тут „прысмакі“ са зьмесьціва перадач і набытых на мясцовай „атаварцы“ прадуктаў — мясцовыя кулінары прымудраюцца рабіць нават шаўрму і торты. Агулам заняткі тут сабе знаходзім, ня журымся і падаць духам не зьбіраемся.*

*І за парфуму асобная рэакцыя: дадала ўжо яна пэрцэпцыйнай інфармацыі будзь здароў! Водар вельмі прыемны, а пасьля двух месяцаў пад замком у мужчынскай кампаніі — нават небясьпечны :-)*

*Дасылаю табе ў падтрымку ліст на аркушыку з катом. Лісты з катом вельмі дапамагаюць. Яны заражаныя дабром, пазытывам і нежурботай (бывае ж такое слова, праўда?)*

*Ведаеш, я так разумею цябе з чаканьнем „нармальнага жыцьця“. А ты ня думаеш, што вось гэта вось усё і ёсьць нашае „нармальнае жыцьцё“? Ня*

*будзе другой вэрсіі — быць моцнымі, сумленнымі і любіць на ўсю катушку людзей, якія даюць сэнс, і справу, у якую верыш, трэба ў гэтым вось адзіным нашым жыцьці. Яно ж цудоўнае.*

*Яркае сьвятло сонца прабіваецца нават праз турэмныя краты. І мы праб'ёмся. А пакуль — трымаемся.*

*Неяк знайшліся нагоды бубнець сабе пад нос клюбны гімн „Лівэрпуля“ — „Ты ніколі ня будзеш адзін“. Словы падтрымкі зь лістоў прымушалі сьпяваць — круціць яго на сваім „унутраным радыё“, заглушаючы зьнешняе „Русское радио“. Дакруціўся да таго, што злавіў сябе на тым, што бубню па-беларуску. Выйшла крыху патасна — але ж гэта гімн, у мяне ўсяго толькі пераклад (не страляйце ў піяніста).*

*Калі пойдзеш праз шторм,*
*не схіляй галавы*
*і ня бойся ты цемры, сябрук!*
*Ведай: скончыцца шторм,*
*сьвежы неба блакіт*
*ахіне сваёй песьняй жаўрук!*

*Ідзі празь вятры*
*да сьвятла цераз ноч,*
*не спыняй сваё сэрца, ідзі!*
*З надзеяй у душы годна з мараю кроч —*
*ты ніколі ня будзеш адзін!*
*Ніколі ня будзеш адзін.*

*Стараюся заставацца сабой і не сумаваць. Навіны, вядома, бадзёраць, мякка кажучы. Уяўляю сабе, колькі ў вас там працы і колькі выклікаў „вылазіць“ штодня. І так рады бачыць у лістах добрую энэргію,*

*гатоўнасьць працаваць і ні за што не спыняцца. Ні сэкунды не сумняваўся, што адказ на выклікі будзе менавіта такім.*

*У мяне ўсё стабільна. Радуюся, калі прыходзяць лісты — яны і кнігі цяпер складаюць зьместоўную частку майго баўленьня часу. Вельмі не хапае добрай журналістыкі і спакойнай аналітыкі. А ў астатнім больш-менш усяго хапае.*

*Сонца сьвеціць, вясна на двары, сумленьне чыстае — жывём далей. Тым больш што ў сьвеце дакладна ёсьць „і сонца, і спагада, і надзея“ (радок зь верша Алеся Ліпая). І жывуць яны ў людзях — добрых, моцных, разумных і прыгожых людзях, якіх так шмат. А значыць, усё будзе добра.*

*Я ўсё роўна жыву зь вясновым настроем. А як сонца бліжэй да вечара, калі пачынае хіліцца да захаду, залівае яркім сьвятлом вежы нашага замка! Хацеў напісаць „бачыла б ты“ — але ж не, лепш проста павер на слова.*

*Лісты прыходзяць з розных краёў. Пісаць адказы — гэта цяпер галоўная і любімая праца. Так што я, як і вы, „працую дыстанцыйна“. І рады, што ў многіх лістах — добры, пазытыўны настрой. І шмат жыцьця ў многіх ягоных праявах, сапраўднага, нястрымнага, якое працягваецца.*

*І яшчэ ў лістах — вельмі-вельмі шмат добрага. Атрымліваю яго проста ў нейкім канцэнтраваным выглядзе, як вітаміны.*

*Я цяпер дакладна ведаю, што ня варта чакаць, пакуль адрасат добрых, важных спраў сыдзе ці хаця б сядзе ў турму. Дабро, як і само жыцьцё, ня варта адкладаць на потым. Не бывае ніякіх „лепшых часоў“, чым тыя, якія ёсьць у нас. А значыць, мы ўсе — шчасьлівыя людзі.*

*За паўгоду, што я правёў па гэты бок плоту, даведаўся зь лістоў, што памёр калега, а ў другога нарадзілася дачка, у офісе агенцтва БелаПАН зрабілі рамонт, у бацькоў на лецішчы ўсё ўзышло і расьце, адна знаёмая разьвялася, а другая выходзіць з дэкрэту, людзі езьдзяць у Полацак і Салігорск, адкрываюць для сябе нашую цудоўную краіну. Самую лепшую, у якой жыве так шмат добрых, мужных, выдатных людзей.*

*І мне радасна ад таго, што я жыву разам зь імі, я ганаруся тым, што магу называць сябе беларускім журналістам, і мне спакойна на душы, бо я ведаю, што ўсё не дарма.*

*З навінаў: сёньня адціснуўся 50 разоў за адзін падыход. Перачытаў каторы ўжо раз „Майстра і Маргарыту“ (чартоўска-боская кніга, абажаю яе), цяпер буду чытаць „Ківач Фуко“ Умбэрта Эка і біяграфію Джэфа Бэзаса (цікава, як становяцца самымі багатымі людзьмі ў сьвеце). Гэта ашаламляльна, хачу так умець, калі вырасту.*

*Дыстанцыйную працу зь відам на замак, вядома, я раней уяўляў крыху інакш. Але трэба быць адкрытым новаму. Успамінаю выраз з „Форэста Гампа“: „Жыцьцё — як скрыня з цукеркамі, ніколі ня ведаеш, якая табе трапіцца“. Напэўна, галоўнае пры гэтым — успрымаць усё, што б табе ні трапілася, як цукерку.*

*Я вельмі люблю чытаць лісты, такія рэпартажы з нармальнага жыцьця — я іх яшчэ называю „альтэрнатыўным тэлебачаньнем“ альбо „маім пэрсанальным Радыё Свабода“, бо калі чытаю іх, то ўяўляю інтанацыі сяброў і калегаў ці візуалізую сабе ў галаве карцінкі з гэтых лістоў... Нармальнае такое „кіно“ атрымліваецца :-) Нібыта сам зьездзіў.*

*Шмат маіх знаёмых, паколькі межы закрытыя, сёлета актыўна вандруюць па Беларусі. Атрымліваю багата лістоў са словамі шчырага захапленьня і рознымі „ваў!“ — людзі адкрываюць для сябе родную краіну і праз гэта любяць яе ўсё мацней. Мяне гэта радуе.*

*І мне вельмі блізкія вашыя развагі пра індывідуальную адказнасьць за агульныя наступствы. Заўсёды пра гэта разважаў, нават выклікаў абурэньне часткі суайчыньнікаў сваім тэзісам „Рэжым — гэта мы ўсе“, а цяпер, калі зьявілася столькі „вольнага“ часу, думаю пра гэта яшчэ больш; пра тое, што я мог бы быць больш цярплівым і пераканаўчым, калі меў рацыю; пра тое, як зрабіць так, каб людзі чулі і верылі тым, хто разумны, а ня тым, хто гучны і папулярны; пра тое, каб рабіць эфэктыўнае, а ня „хоць нешта“.*

*І шляхам адвечным пацягнемся ў рай*

*Тут лета і пекла. Жыцьцё ў адпачынку.*
*Навіны прыходзяць хутчэй за лісты.*
*Любоў у лістах, у навінах — Навінкі.*
*Зрываюцца пляны. Зрывае балты.*

*Кіно пра вайну. Батальёны на маршы.*
*Ляціць самалёт. Камісар кліча ў бой.*
*Тут пекла і так — але вораг наш страшны.*
*Палонных ня браць! Мы ваюем з сабой.*

*Сядай, калі ласка. Сядзі. Будзь як дома.*
*Такая сьпякота! Сядзі, пачакай.*
*Адпусьціць вайна і пякельная стома —*
*І шляхам адвечным пацягнемся ў рай.*

## Пазначылі, што сам ня можа напісаць прашэньне

*Дзьмітры Гопта, распавядае маці Вольга:*

Зь лютага Дзіма ў зьняволеньні. Нягледзячы на разумовую адсталасьць і псыхіятрычныя дыягназы, яго прызналі вінаватым у масавых беспарадках і гвалце над міліцыяй, хоць ніхто не пацярпеў. Пакаралі калёніяй на два гады. Цяпер ён адбывае пакараньне ў віцебскай калёніі. Хоча дахаты, сумуе па блізкіх. Ён напісаў бы прашэньне аб памілаваньні, ды проста ня можа гэта зрабіць самастойна.

Апошні раз я бачыла сына 26 траўня — нам далі кароткатэрміновае спатканьне ў віцебскай калёніі. Дзімка пісаў просьбу на доўгатэрміновае, але яму адмовілі. Лістоў вельмі мала. Раней ён тэлефанаваў кожны тыдзень, цяпер чамусьці ўжо два тыдні цішыня... Да яго лісты даходзяць, але ня ўсе. Неяк ён тэлефанаваў і казаў, што паслаў ліст мне і бабулі. Мне дайшоў, а бабуля не атрымала. Калі ён тэлефануе, то кажа, што ўсё добра, але наўрад ці Дзімка можа сказаць нешта іншае, калі пры размове прысутнічае супрацоўнік калёніі.

Ён працуе ў калёніі на швейнай фабрыцы. Там шыюць робы, а Дзіма абразае ніткі.

Я жыву аднымі чаканьнямі — лістоў, тэлефанаваньня, спатканьня. Цяпер чакаю адказ ад „Круглага стала дэмакратычных сілаў“ — прасіла іх паспрыяць, каб Дзіму памілавалі. Мне адказалі, што яго ўключылі ў другі сьпіс для памілаваньня з пазнакай, што сам ён ня можа напісаць прашэньне.

Нядаўна я выпадкова заўважыла „УКантакце" пост спартоўца Аляксея Талая, які наведваў зь лекцыяй віцебскую калёнію. Асуджаныя былі на здымку сьпінамі. Але я пазнала сярод іх свайго сына. Вось ён, бачыце, самы маленькі, лапавухі мой.

Дзімку прызналі палітвязьнем. Ён напісаў мне:

„Прывітаньне, дарагая мама! З днём нараджэньня. Зычу шчасьця, здароўя, любові і дабрабыту ў сям'і. Ты ў мяне самая любімая мама на сьвеце. Я вельмі моцна па вас сумую. Хочацца хутчэй дадому. Перадай усім, што я іх моцна люблю. І людзям перадай, якія мне пісалі лісты. І перадай усім, што я хутка вярнуся дадому. Мне б хацелася ўбачыць тых, хто мне дапамаглі, пісалі лісты".

## Даганялкі для 15 мужыкоў у турэмным дворыку

*Паўліна, жонка журналіста Андрэя Скурко:*

Андрэй прыдумаў сабе гульню, нібыта ён паплыў кудысьці ў амэрыканскія калёніі з Англіі XVII стагодзьдзя. А я цяпер уяўляю сябе жонкай, якая штодня выходзіць на бераг выглядаць гэты карабель. Дзякуй усім, хто нас падтрымлівае ў гэтым падарожжы.

Апрача вывучэньня ангельскай мовы, Андрэй з сукамэрнікамі гуляюць у „Мафію", у словы, а на прагулках — у даганялкі. Мне трохі страшна ўяўляць, што такое даганялкі для 15 мужыкоў у малым турэмным прагулачным дворыку.

Да таго ж Андрэй многа чытае, замовіў збор твораў расейскага гісторыка позьняга імпэрскага пэрыяду Васілія Ключэўскага. Піша, што засумаваў па навуковых кнігах, няхай і XIX стагодзьдзя. Расказвае мне адтуль цікавосткі пра Маскву і сярэднявечныя рэспублікі.

Малому сыну Тамашыку на чарговую дату народзінаў (1 год і 7 месяцаў) Андрэй прыслаў новы верш на паштоўцы з бабром:

Мы спыталіся ў бабра:
— Дзе, бабёр, твая нара?
— У рацэ, за балацінай,
Мая хатка і плаціна.
І падземныя хады
Аж да самае вады.
— А нашто хады капаць?
— Каб у хованкі гуляць!

Складана тлумачыць маленькаму сыну, дзе тата.

„Тата ў замку, на „Валадарцы“. Думае пра нас, прыдумляе Тамашыку новы вершык. І неўзабаве да нас прыедзе! Чым мы тату будзем карміць?“ — „Кахка (кашкай)! Пуп (суп)! Сісісісь (сасіскамі)!“ — „А куды мы зь ім пойдзем гуляць, калі ён прыедзе?“ — „Туту! Туту! Булю“. — „Так, пойдзем разам да цягнікоў і купім на ўсіх булку!“

Зь лістоў палітвязьняў, з допісаў сваякоў, у тым ліку з маіх уласных, складваецца ўражаньне, што настрой іх выдатны, што яны бадзёрыя і трымаюцца як скалы. І гэта праўда. Але важна не падманваць сябе. Не рацыяналізаваць зло. Не шукаць сэнсу ў гэтым мораку. Ня цешыцца:

муж на „Валадарцы“, там хаця б ёсьць дактары. Цяпер жахлівая сытуацыя і такога зла і рэпрэсій не было ніколі за часы незалежнасьці, у тым ліку ў суседніх краінах.

Нашы блізкія і далёкія пакутуюць ні за што. Практычна бяз руху: спорту нуль, бо папросту няма дзе. Дужыя, разумныя, прафэсійныя людзі вымушаны гуляць у словы і ў даганялкі, каб хоць неяк сябе заняць! Андрэй і я пішам, што ўсё нармальна. Але напраўду ўсё максымальна ненармальна.

## Страшна сьмярдзіць шкарпэткамі і бядой

*Ірына Новік, журналістка парталу Hrodna.life:*

Я два з паловай дні правяла ў турме за фота. Апублікавала фота самалёта Ryanair зь лягатыпам забароненага ўладамі тэлеграм-каналу. Фота правісела каля 5 гадзін на сайце Hrodna.life. Памылку заўважылі, фота прыбралі. За гэта затрымалі галоўнага рэдактара Аляксея Шоту і мяне. Мне далі штраф 725 рублёў. Аляксею — 14 500 рублёў.

Пасьля вызваленьня шмат гуляю па горадзе, хаджу па кавярнях, нюхаю кветкі, сустракаюся зь сябрамі, забаўляюся мыльнымі бурбалкамі, сплаўляюся на байдарках. Вяртаюся да жыцьця.

У турме я была ў „адзіночцы“. Не дазвалялі сядзець з 6:00 да 22:00, чытаць, пісаць, маляваць. Увесь час я нічога ня ела.

Першы дзень было вельмі страшна ад саміх умоваў, бо яны скіраваныя на тое, каб ты думала, як тут выжыць. Проста перастаеш быць чалавекам і першы дзень ідзе на ўсьведамленьне новай ролі — спэцкантынгенту, некага, хто ўжо не чалавек. Ад таго, што там адбываецца, расчалавечваесься ўмомант.

Я перастала адчуваць сябе асобай. Калі мне ўчастковы пачаў казаць: „Вы разумееце, вас затрымліваць не мая справа. Мы звычайна з дэбашырамі і п’яніцамі працуем. Але, разумееце, гэта загад. Мне ўсё роўна, які вы чалавек: добры ці нядобры“.

З гэтага моманту я зразумела, што ўсім усё роўна, што гэта было, колькі мне гадоў, якое ў мяне здароўе, чым я захапляюся, якая ў мяне адукацыя. Гэта ўсё адразу перастала мець нейкую каштоўнасьць.

Яны ставіліся да мяне не як да чалавека, а як да сярэднестатыстычнага злачынца, які сядзіць у турме. Двойчы адчынялася „кармушка“ з бразгатам, прасоўваюць паперы: „Новік, расьпішыся!“. Так да мяне ніколі не зьвярталіся ў жыцьці. Ладна ўжо „Ірына Генадзеўна“, але хаця б „расьпішыцеся“.

Калі сядзіш у „малпоўні“ РАУС, дзе страшна сьмярдзіць шкарпэткамі і бядой, па гэтым паху разумееш, што ўсё: шчасьце ў жыцьці скончылася. Мне здавалася, што горш не бывае. А потым у камэры табе кажуць, што нельга сядзець, і ты разумееш, што ў „малпоўні“ была яшчэ „лафа“.

Калі бачыш таўшчыню гэтых векавых сьценаў, разумееш, што супраць сыстэмы ты ніхто. Я такая маленькая, крохкая, хворая, сталая. А тут гэтыя

сьцены і гэтыя людзі, як зубчыкі, як шасьцярэнькі, проста робяць сваю працу.

Я нагадваю сабе ўвесь час, што гэта ня „людзі робяць сваю працу“, гэта людзі ўдзельнічаюць у катаваньнях. Я ня бачу ў іх людзей. Калі я думаю, як мы будзем зь імі жыць пасьля ўмоўнай перамогі, я ня ведаю, як.

Гэтыя начныя пад'ёмы, калі сьпіш са сьвятлом у нейкім дзікім стрэсе... Ледзь удалося заснуць — і тут крычаць: „Пад'ём! Тварам да сьцяны!“. Мне здаецца, гэта нялюдзкая рэч.

Я ўспомніла ўсе разьмінкі, якім вучылі ў піянэрскіх летніках; усе практыкаваньні зь ёгі, якія можна рабіць стоячы; усе прыклады самамасажу; усе дыхальныя практыкі. Я сьпявала песьні, успамінала вершы, лічыла клеткі кратаў.

Калі мне хацелася плакаць, я сабе дазваляла. У мяне не было забабонаў, што я мушу быць „жалезнай лэдзі“. Я дазваляла сабе быць чалавекам, адгараваць сваё гора. У мяне аднялі кавалак майго жыцьця.

Я прыгадала ўсе кіно пра канцлягер, пра палон. У цябе ёсьць поле для кантролю заўсёды. Мне дазволілі ўзяць у камэру мыла. Яно пахла цудоўна. Я мыла рукі. У мяне быў крэм для твару і для рук. Маленькія аблокі прыемных пахаў — гэта супэр.

Адзін раз вельмі малады хлопчык, які прыносіў ежу, а я чарговы раз адмовілася, завагаўся: „Можа, хоць гарбаты?“. Нібыта праява чалавечнасьці. Зь цябе зьдзекуюцца — і „Можа, хоць гарбаты?“. Ды ня трэба мне вашай гарбаты! Для мяне ўвесь гэты нібы клопат гучаў вельмі цынічна.

Тое, што зьявіўся гэты здымак, гэта мая тэхнічная памылка. Чалавечыя памылкі бываюць ва ўсіх.

Мне ў турме прынесьлі пратакол з закрэсьленым радком, бо гэтыя словы трапілі памылкова. Гэта таксама тэхнічная памылка спадара Вайцешкі.

Мая адвакатка напісала заяву, што будзе мяне прадстаўляць у судзе, але яе не паклікалі — як пазьней патлумачылі, выйшла тэхнічная памылка. Судзьдзя Пятрова таксама спачатку выпісала мне цыдулачку зь няправільнай сумай штрафу.

Але людзям за гэтыя памылкі нічога ня будзе, бо мы людзі, мы ня робаты. А журналісты чамусьці цяпер за ненаўмысныя памылкі адказваюць вельмі жорстка.

Калі я выйшла з РАУС, у мяне было адчуваньне, што я бяздомная, у мяне няма нічога ў гэтым горадзе, мяне ніхто не чакае. У мяне няма тэлефона, няма ключоў ад хаты, толькі зялёная торба зь мінімальным наборам рэчаў для выжываньня. Я адчувала, нібыта мяне зь іншай плянэты выкінулі ў чужы горад.

Жыцьцё не спыняецца. Журналістыка — гэта люстэрка жыцьця. Мы маем адлюстроўваць плынь жыцьця, фіксаваць, дакумэнтаваць. Каб потым хтосьці не сказаў, што гэтага не было. Зьбіраць факты, правяраць, аддзяляць іх ад меркаваньняў. Інакш застанецца адна прапаганда. Крый Божа ад такога сьвету, дзе няма журналістыкі.

## Мы схіляемся да таго, што яго забілі

*Андрэй Ашурак, брат Вітольда Ашурка:*

Я забраў асабістыя рэчы свайго брата Вітольда з горадзенскай турмы і сьледчага камітэту ў Магілёве. Адзеньне, гадзіньнік, кнігі і стос лістоў,

якія Вітольд, імаверна, не пасьпеў прачытаць у шклоўскай калёніі, куды яго этапавалі на пачатку траўня.

Мы спадзяваліся атрымаць і дзёньнік, пра які Вітольд не аднойчы пісаў і які цытаваў у лістах на волю. Аднак дзёньніка ў рэчах не знайшлося. Тады я напісаў заяву на яго вяртаньне, якую параіў скласьці сьледчы.

*Сяргей Пантус, сябра Вітольда Ашурка:*

Уначы перад пахаваньнем у дом маці Вітольда запрасілі незалежнага экспэрта, каб той агледзеў цела. Удалося зрабіць фота. Гэтая экспэртыза таксама ў працэсе. Мэдык сказаў, што нос дакладна зламаны не ад падзеньня на падлогу, як пра гэта сказалі сваякам у моргу. Нос Вітольда хістаўся туды-сюды. Мы прыпадымалі павязку, але мэдык вырашыў не здымаць яе. Сказаў, баіцца, што можа не заматаць, бо ўжо былі прыкметы распаду тканак. Гэта ўскосна гаворыць пра тое, што ён мог памерці не 21 траўня, а раней.

Незалежны адмысловец можа выказаць толькі здагадкі і асабістае меркаваньне пра прычыны сьмерці Вітольда. Каб даказаць, што актывіста забілі, патрэбныя вынікі афіцыйных экспэртызаў. Напрыклад, гісталягічнай. Ці пакажуць сваякам гэтыя дакумэнты, невядома.

Мы схіляемся да таго, што яго забілі, як бы балюча гэта ні гучала. Забойства можа быць не наўпроставае. Катаваньні голадам, бракам сну, — гэта забойства, крымінальнае злачынства. Вітольд быў спартовага целаскладу, жылісты, падцягнуты, на сэрца ня скардзіўся. 25 апошніх гадоў не зьвяр-

таўся да дактароў. Нават на відэа з суду бачна, што ён крэпкі. Як і хто давёў яго да такога стану?

У мантаваных фрагмэнтах відэа сьледчага камітэту, у якім чалавек хістаецца і падае некалькі разоў, я пазнаў Вітольда на ўсіх запісах, хоць шмат хто з блізкіх спачатку палічыў відэа пастановачным.

Проста не хацелася верыць у тое, што зь ім зрабілі. Але я пазнаю яго па форме галавы і сутуласьці. Ён вельмі схуднелы, зьнясілены, скура ды косьці. Уявіце, як выгружалі труну ў Доме разьвітаньня ў Бярозаўцы, усяго два чалавекі паднялі і паставілі яе на пастамэнт.

Вітольд быў бесканфліктны. У лістах ён пісаў, што да ўсіх ахоўнікаў зьвяртаецца на „вы“, каб не губляць людзкасьці.

## Я вярнуўся з таго сьвету

*Андрэй Дынько, галоўны рэдактар часопіса „Наша гісторыя“:*

Гэта я, я вярнуўся з таго сьвету.

Што магу сказаць?

Па-першае, так, на Акрэсьціна сапраўдная катавальня. Усё прадумана для абесчалавечваньня чалавека. Але ўсё гэта можна вытрымаць: і фізычна, і маральна чалавек мабілізуецца ў такіх умовах. Так што — спакойна. Я пэўны, што маіх калег таксама не зламаюць і не надломяць.

Па-другое, мае калегі — сапраўдныя героі. „Наша ніва“ не пакінула пазыцыяў і выконвала свой прафэсійны абавязак да канца.

Па-трэцяе, найбольшай нечаканасьцю было, колькі людзей па той бок стараліся — яны то разумеюць, што там усё татальна праслухоўваецца і праглядаецца — стараліся жэстам, намёкам, паўзай прадэманстраваць часам салідарнасьць, а часам — чалавечнасьць. Гэта неацэнна.

Па-чацьвёртае, я пад падпіскай аб неразгалошваньні, але вы ведаеце самі артыкулы, паводле якіх нас падазраюць. Першы быў сьмеху варты, другі — яшчэ сьмяшнейшы.

Па-пятае, трапіўшы на той сьвет, я ўразіўся, наколькі слаба мы, у СМІ, яшчэ працавалі. На Акрэсьціна я зразумеў, што там, у кожнай камэры па адным, сядзяць дзясяткі арыштаваных у справе аб „падрыве“ антэны Вілейскай РЛС Расеі. Між тым, на момант майго затрыманьня СМІ зусім нічога ня ведалі пра гэтыя затрыманьні. Выснова тут такая: цяпер, калі легальная праца прафэсійных журналістаў у Беларусі стала немагчымая, журналістам павінен стаць кожны беларус. Трэба, каб усё трапляла ў СМІ, сацсеткі, каналы тыя або іншыя. Інфармацыя, фоты, відэа — журналістам павінен стаць кожны.

Па-шостае, дзякуй усім знаёмым і незнаёмым за салідарнасьць. Толькі давайце памятаць: салідарнасьць найбольш патрэбная найменш вядомым, і яна павінна быць ня разавай, а пасьлядоўнай. Менш сымбалічных жэстаў, больш — практычных. Кожная капейка хай пападае тым, каму яна найбольш патрэбная.

Па-сёмае, я ня ведаю, чаму, па якой лёгіцы, у сілу чаго ці па якім разьліку мяне і нашу бугальтарку вызвалілі, а маіх калег пакінулі. Я маральна

гатовы ў любы момант ізноў апынуцца на тым сьвеце. Я і сябе, і калег разглядаў як закладнікаў.

Па-восьмае, чым я займаў сябе ў камэрах там, многія пытаюцца. На тым сьвеце галоўнае, чым заняты кожны чалавек, — гэта выжываньне, арганізацыя побыту так, каб максымальна захаваць свае сілы. Але я таксама чытаў сукамернікам — ну і іншым слухачам „падкастаў“ — лекцыі па гісторыі. Нават задумаў кнігу на аснове іх.

І дзявятае. У мяне зьявілася новая, самая дарагая мне рэліквія — бутэлька, зь якой я піў, зь якой мыўся і на якой я спаў, замест падушкі, гэтыя 13 ночаў.

## На іхны розум, хто крануў сьцяг, той крануў прэзыдэнта

*Уладзіслаў Пшанко, 21 год, Магілёў:*

9 кастрычніка мінулага году мяне затрымалі першы раз за ўдзел у акцыі з кветкамі. Тады аштрафавалі.

З прычыны штрафу і таго, што я жыву з бабуляй, я перастаў хадзіць на акцыі, таму што гэта закранала маю сям’ю як матэрыяльна, так і псыхалягічна. Зь дзяцінства мне даводзілася часта сутыкацца зь несправядлівасьцю і абыякавасьцю дзяржавы, бо я прадстаўнік ЛГБТ+ супольнасьці.

Акрамя гэтага, мае бацькі выпівалі. Бацьку ня раз штрафавалі за п’янства і гвалт у сям’і. Але ні школа, ні міліцыя нічога не рабілі, каб засьцерагчы мяне з братам. Пасьля разводу бацькоў нас адправілі да бабулі. Дзіцём я, вядома, не разумеў,

што адбываецца. Толькі калі я вырас да сьвядомага ўзросту, то стаў разумець, што ні дзяржава, ні мае бацькі мне не дапамаглі, што я ім нічога ня вінен.

Наступіла 18-годзьдзе, і мяне прызвалі на службу. Я быў вызвалены па артыкуле 19б, што далося мне няпроста. У 20 гадоў я сустрэў свайго хлопца, але яго забралі ў войска з хваробамі і са страхам за сваё жыцьцё, калі ён раскрые сваю арыентацыю, як і я.

Усё, што рабілася ў краіне і ў асабістым жыцьці, мяне „падкасіла“.

Я стаў запіваць гора. 5 лютага, калі я ішоў зь сяброўкай з караоке, то ўбачыў сьцяг (чырвона-зялёны) на будынку гарадзкога музэю Магілёва. Я хацеў толькі забраць яго сабе дадому, як дзяржава забрала ў мяне каханага чалавека. У мяне і думак наконт зьдзеку не было. Калі я паспрабаваў зьняць яго, то сьцяг зламаўся, і я ўцёк, бо спалохаўся. Я не „зьнішчальнік“ сьцягоў.

Другі раз мяне затрымалі 15 лютага. Знайшлі па запісах з камэр відэаназіраньня. У сьледчым камітэце паведамілі, што я стаў падазраваным паводле арт. 370 Крымінальнага кодэксу (зьдзек зь дзяржаўных сымбаляў). Пасьля допыту і добраахвотнай здачы сарванага сьцяга мяне затрымалі ў рамках крымінальнай справы на трое сутак і зьмясьцілі ў магілёўскі ізалятар.

Тут і пачаўся мой жах. Зь вечара 15 па 18 лютага я быў як у пекле. На мяне начапілі кайданкі. Канвой сказаў, што калі я адыду ад іх на тры мэтры, то будуць страляць на паражэньне. Адчуваньне было, што я кагосьці забіў, барані бог.

Калі мяне прывезьлі ў магілёўскі ІЧУ, дзяжурны стаў глядзець дакумэнты. Паглядзеў на артыкул 370 КК — успрыняў спакойна. Але калі, пагартаўшы далей, убачыў, што я прыцягваўся за ўдзел у масавым мерапрыемстве, у яго вочы проста загарэліся. Зь іншым міліцыянтам яны адвялі мяне на асабісты агляд.

Пакінуўшы мяне ў адных майтках, паставілі каля сьценкі ледзь не на шпагат. Мне выкруцілі рукі тыльным бокам да сьцяны, прымусілі стаяць. Я плакаў, маліў спыніцца. А яны сьмяяліся і казалі, што толькі нядаўна кроў з падлогі выцерлі. Стаяў так каля пяці хвілін. Пасьля гэтага мне дазволілі апрануцца і завялі ў камэру.

Раніцай 16 лютага на праверцы мяне зноў распранулі і прымусілі стаяць у яшчэ больш шырокай расьцяжцы.

Калі я гэтак жа прасіў літасьці, мяне не адпускалі, пакуль я ня падаў ад бясьсільля. Яны яшчэ на гэта казалі, які я слабак.

Калі зноў мяне загналі ў камэру, то ў мяне невыносна балелі ногі. У галаве кожную хвіліну былі думкі, што яны хутка прыйдуць, каб зноў мяне мучыць. Калі мяне адвялі да нейкага мужчыны ўзяць аналіз сьліны, той ударыў мяне па карку, паставіўшы перад гэтым ракам, і ўдарам пад зад выштурхнуў з кабінэта. Я пачаў плакаць ад звону ў галаве, ад сваёй слабасьці і страху. Мяне хутка павялі ў камэру, чагосьці баючыся.

На наступную раніцу мяне зноў паставілі на шпагат, толькі гэтым разам стаялі ўпрытык да мяне і перад тварам размахвалі палкай. Я ня вытрымаў і ўпаў. Я думаў, што мне канец, але

мяне не кранулі. Увесь час мне казалі, ці ведаю, за што гэта.

Тое самае паўтарылася і на трэція суткі затрыманьня. Каля 10-й раніцы мяне забрала сьледчая, паспачувала і прапанавала грошай на праезд. Мяне адпусьцілі на свабоду.

Кожную гадзіну я думаў аб сьмерці, я не хацеў пакутаваць так больш, а мне сукамэрнік казаў, што ў турме яшчэ горш. Я сядзеў з мужчынам, які кагосьці зьбіў да паўсьмерці. А яго не чапалі, ён проста стаяў і глядзеў. Было так крыўдна... Ня тое, што яго не чапалі, а што мяне так разьдзіраюць, хоць я пальцам нікога жывога не чапаў.

У ІЧУ я думаў пра тое, як прыйду дадому і ўскрыю сабе вены ў ваннай, таму што не хачу ўсяго гэтага больш. Але потым дома супакоіўся. Усе два месяцы сьледзтва я дапамагаў ім, і мяне не чапалі.

6 красавіка супраць мяне завялі яшчэ адну крымінальную справу паводле ч. 1 арт. 339 (злоснае хуліганства). Мяне вырашылі заключыць пад варту.

Я азнаёмліваўся са справай, і там не было доказаў, што я зьдзекаваўся са сьцяга. Было толькі тое, што прыцягваўся за ўдзел у мітынгах. Як яны сказалі на судзе: „зь незадаволенасьці пасьля выбараў прэзыдэнта“. Я да гэтага часу не магу зразумець, як яны зьвязалі прэзыдэнта са сьцягам... на іхны розум, хто крануў сьцяг, той крануў прэзыдэнта, і наадварот.

У турме мяне фізычна ніхто не чапаў, але ставіліся як да жывёлы ў пляне зносінаў. У турме мяне паставілі на прафіляктычны ўлік як асобу, „схільную да экстрэмісцкай і дэструктыўнай дзейнасьці“.

Амаль тры месяцы — 86 дзён — мяне ўтрымлівалі ў камэры-адзіночцы.

Але я чалавек, а ня робат, на мяне пачалі ціснуць сьцены... Як назло, у мяне было пяць судовых слуханьняў. Увесь час, ня ведаючы, што са мной будзе, я ўжо ня бачыў сэнсу ў жыцьці, сэнсу існаваць. Мае лісты не пасылалі. Мне прыйшло з усіх лістоў 20%, яны іх давалі на ўласны одум. І гэтак жа адпраўлялі. Я быў адзін... Я быў як зомбі, я адчуваў сябе іх рэччу, і калі яны нешта пыталіся, я проста адказваў.

Справу разглядала судзьдзя Аксана Ратнікава. Яна зьняла зь мяне абвінавачаньні паводле арт. 339 КК, а паводле арт. 370 КК асудзіла на тры месяцы арышту.

У мяне пачаўся нэрвовы зрыў, пачаліся галаўныя болі. Кожны дзень быў маніякальны стан. Я нават спрабаваў пазногцем ускрыць вены. Але цудам суд мне прызначыў тры месяцы арышту. Адвакатка на судзе казала, што крадзеж сьцяга — гэта адміністрацыйнае парушэньне, як крадзеж у дробным памеры. А хуліганства і быць не магло. Я вельмі ўдзячны тым, хто мяне выратаваў, кім бы яны ні былі.

Паколькі два месяцы я знаходзіўся пад вартай у магілёўскай турме, мне заставалася адбыць адзін месяц арышту.

Псыхалягічна я несьвядома здаўся за тыдзень да вызваленьня. Я страціў сувязь з рэальнасьцю. Толькі цяпер стаў паціху адыходзіць, хоць у мяне пачаліся праблемы са здароўем.

Пасьля вызваленьня я вярнуўся на сваю ранейшую працу, працягваю працаваць касірам. У

мясцовым РАУС мяне паставілі на ўлік, я павінен на працягу году кожную нядзелю адзначацца там.

## Я ня спаў 11 сутак, і маё сэрца перастала біцца

*Сяргей Верашчагін, 31 год, Гомель:*

Я жыву ў цэнтры Гомля і 12 жніўня 2020 году назіраў са свайго вакна, як міліцыя разганяла і біла ўдзельнікаў акцыі пратэсту, у тым ліку дзяўчат. Я закрычаў на міліцыянтаў і кінуў у іх бок пластыкавую бутэльку. Да мяне ў кватэру ўварваліся міліцыянты і моцна мяне пабілі — дома, а затым у РАУС. На судзе я расказваў, што міліцыянты скакалі па маёй галаве, абражалі і сьмяяліся зь мяне.

Суд прызнаў мяне вінаватым у „гвалце над міліцыяй“ і пакараў пазбаўленьнем волі на пяць гадоў. Адбываць пакараньне накіравалі ў калёнію — №13 у Глыбокім.

Людзі зьбіралі подпісы за маю шпіталізацыю. У траўні мяне зьмясьцілі ў Глыбоцкі раённы шпіталь на шэсьць дзён, а потым зноў перавялі ў калёнію.

Я не магу зразумець, за што я пакутую, за што ў мяне адабралі здароўе. Цяпер атрымліваецца тое, што дзейнічае толькі бясчынная міліцыя, якой мы самі разьвязалі рукі і дапусьцілі яшчэ больш самаволі ў гэтай краіне — дык калі ж мы пачнём „здымаць акуляры“ і нешта будзем рабіць для таго, каб мы — беларусы — жылі квітнеючы, радаваліся і ўсьміхаліся. І каб нашы мамы плакалі толькі ад радасьці, а не ад таго, што іх сыноў забіваюць і незаконна садзяць у турму — задумайцеся, грама-

дзяне беларусы, за што мы тут пакутуем, і за што ў нас адымаюць здароўе — вось калі вы ў сваёй душы на гэтыя пытаньні адкажаце, вось тады мы прыйдзем да адзінага, радаснага і сьветлага, а пакуль будзем жыць аднымі словамі і абяцаньнямі, ад якіх проста часам становіцца сьмешна, балюча і сумна.

Я распавяду пра тое, як гэта быць прыніжаным, адрынутым, як гэта — адчуваць сапраўдную крыўду за ўсю несправядлівасьць, што са мной адбываецца. З моманту знаходжаньня ў калёніі я падвяргаюся бесьперапыннай зьнявазе з боку адміністрацыі. Я зразумеў, што ў гэтае месца мяне адправілі на гібель. Мне ствараюцца такія ўмовы, у якіх жывы пазайздросьціць мёртвым.

Калі я прыбыў у калёнію, два тыдні знаходзіўся ў карантыне. За гэты час мяне зрабілі злосным парушальнікам рэжыму, у той час, калі я нічога не парушаў. Першыя два парушэньні былі за тое, што я прылёг, калі ў мяне кружылася галава і я губляў прытомнасьць, ня гледзячы на тое, што ў маёй картцы было адзначана „пасьцельны рэжым“. Трэцяе пакараньне было выдуманым. Але мяне паставілі перад фактам, што за парушэньні я пазбаўлены перадач і спатканьняў.

На мяне павесілі ўсе магчымыя прафілактычныя ўлікі. Гэта — экстрэмізм, здольнасьць да суіцыду, нападу на адміністрацыю, захоп закладнікаў.

У мяне пастаянна кружыцца галава, я дрэнна стаў бачыць, у мяне здранцьвеньне левага боку ўсяго цела, пастаянныя моцныя галаўныя болі, я губляю прытомнасьць, у мяне разьбітыя ўсе суставы на руках і нагах, ад чаго я адчуваю пастаянны

моцны боль. Дык вось, я паспрабаваў патрапіць у мэдчастку, трапіць да загадчыцы і іншых лекараў. Доўгі час я проста ня мог дайсьці туды, мяне не пускалі, па шляху ў мэдчастку мяне заўсёды спынялі работнікі калёніі, адпраўлялі назад з розных прычынаў або без прычынаў. Прычыны такія: „Ты не паголены“, ці „Цябе туды не выклікалі — пайшоў адсюль!“.

Начальніку рэжымнай часткі Стожыку не спадабалася, што я хаджу ў мэдчастку. А калі я ўсё-ткі туды трапіў, то дапамогі не атрымаў.

Усё ж я злавіў начальніцу мэдчасткі — Надзею Паткевіч, і ўсё патлумачыў. Яна памерала ціск, паглядзела картку, выслухала мяне, потым сказала: „Давайце памераю ціск“, і я зразумеў, што тут нешта ня так. Потым яна сказала, што ня ведае, што са мной трэба рабіць, што ёй трэба параіцца з адміністрацыяй калёніі. І сказала, каб я ішоў на працу. Я пайшоў, ледзь перасоўваючы ногі, у стане, блізкім да страты прытомнасьці. Пасьля гэтага трапіць да яе, дзясяткі маіх спробаў, прайшлі беспасьпяхова. Калі я заходзіў у мэдчастку, яна, бачачы мяне, і бачачы тое, што я бачу яе, казала кантралёру: „Скажыце яму, што я сёньня не прымаю“.

Я трапіў да іншых лекараў за гэты час, да прыкладу, да тэрапэўта Алега Дубаса. Патлумачыў яму, што турбуе мяне, што я ня сплю ад моцнага галаўнога болю, што ў мяне кружыцца галава і што я губляю прытомнасьць, што складана было дайсьці да яго... Ён сказаў: „Ты мне надакучыў са сваімі хваробамі“, даў мне таблетку парацэтамолу і аправіў на працу.

Таксама я атрымаў таблетку амэпразолу (лекі для страўніка) пры скаргах на аняменьне левага боку цела.

Калі наступным разам я ішоў з накіраваньнем да нэўроляга, начальнік рэжымнай часткі Стожык прыйшоў у лютасьць. Схапіўшы маё накіраваньне, ён пабег наперадзе мяне ў мэдчастку, лаючыся матам, насварыўся на мэдыкаў і зьдзекліва сказаў: „Няма ў цябе больш бальнічнага, і паспрабуй толькі прылегчы ці прысесьці“.

Апроч працы ў будзённыя дні, я мушу працаваць і ў суботу, бо я — палітычны.

Мой начальнік першага атрада Мікалай Рачыла напісаў на мяне чарговае парушэньне, якое я не зьдзяйсьняў. Ён напісаў, што я гаварыў з чалавекам, зь якім у той момант я не размаўляў. За гэта парушэньне мяне пасадзілі ў штрафны ізалятар. 9 сутак я там сядзеў адзін. Потым яны „дапісалі“ мне яшчэ 7 сутак.

Ад таго холаду і вільготнасьці там я ня спаў увесь гэты час, ня спаў цалкам, так як немагчыма заснуць на такім холадзе. Лежачы на халоднай падлозе, я марыў аб коўдры або кофце, трываючы такі холад, якога ніколі не ведаў у такой ступені. Вось такія ў мяне мары. А думкі пра тое, што раніцай можа адбыцца нешта яшчэ горшае, чым ёсьць цяпер, і гэта адчуваньне поўнай адзіноты і разуменьне, што мне ніхто не дапаможа, спараджае пачуцьцё трывогі, пачуцьцё глыбокага смутку і моцнай крыўды за ўсё, што са мной адбываецца, ад якой у мяне міжволі цякуць сьлёзы. Калі прыходзіць раніца, я бачу міліцыю, якая прыходзіць на праверкі, яны правяраюць, ці не зьявілася пад тонкай майкай у мяне іншая майка...

Правяраючы рукой, весела кажуць: „Адна майка“, і на выхадзе сьмяюцца: „Паглядзіце, як яго перакасіла ад холаду“.

На 12-я суткі штрафнога ізалятару мяне адвялі ў мэдчастку. Бо на той момант пра стан майго здароўя турбаваліся многія людзі, якія тэлефанавалі ў калёнію, пісалі звароты, падпісвалі пэтыцыі. Мне зрабілі кардыяграму, потым паўторную — і выклікалі „хуткую“. Мяне адразу пераапранулі, каб лекары ня ўбачылі надпіс „ШИЗО“ на адзеньні. Прыехала „хуткая“ — паглядзелі кардыяграму, зрабілі ўкол, потым яшчэ зрабілі кардыяграму — у мяне сэрца білася 37 удараў у хвіліну, быў зьбіты рытм, бо я ня спаў ад холаду 11 дзён, і сэрца пераставала біцца.

У Глыбоцкім шпіталі я быў шэсьць дзён пад кропельніцамі, калолі атрапін. Больш асабліва ніякіх дасьледаваньняў не было. Я казаў, што ў мяне ўвесь час кружыцца і баліць галава, што я губляю прытомнасьць, што ў мяне нямее левы бок цела — ніхто гэтыя праблемы не глядзеў. Глядзелі толькі сэрца. Тое, што ў шпіталі мне калолі атрапін, гэтым зрабілі толькі горш майму здароўю, у мяне пачало балець сэрца і цяпер працягвае балець пастаянна. Мне трэба было даць паспаць і адпачыць у цяпле, а не калоць мяне прэпаратамі, каб падняць пульс.

Па вяртаньні са шпіталю ў калёнію няпрыязь да мяне з боку адміністрацыі вырасла, працягнуліся абразы і зьдзекі.

Некаторыя супрацоўнікі калёніі нават карыстаюцца тым, што я стаю на ўліку як экстрэміст, для задавальненьня сваіх псыхічных адхіленьняў, ім

усё дазволена ў адносінах да мяне, нават заахвочваецца тое, што зьяўляецца злачынствамі.

На сёньняшні дзень парушаныя амаль усе мае канстытуцыйныя правы, парушаныя ўсе законы ў дачыненьні да мяне, якія існуюць. Адміністрацыя калёніі хоча ператварыць мяне ў жывёлу, якая ня ўмее думаць, ня здольная гаварыць і сказаць штонебудзь некаму. Мне ствараюцца такія ўмовы, што я сплю на падлозе, ня маю магчымасьці мець коўдру і я ня бачу неба, паветра, ня маю права харчавацца нармальнай ежай, мяне кормяць, як сабаку на ланцугу. Усяляк імкнуцца адгарадзіць ад зносін зь людзьмі, абмежаваць у тэлефонных званках, тэлефанаваць мне даюць вельмі рэдка і толькі ў прысутнасьці двух міліцыянтаў, яны стаяць нада мной і слухаюць, каб нічога ня змог расказаць маме. Нядаўна я даведаўся ад мамы, што ня ўсе мае лісты ёй даходзяць.

Застаецца толькі адно: сьціснуць зубы і трываць зьнявагі з боку супрацоўнікаў калёніі.

## Маўчаньне распускае злу рукі

*Кацярына Карпіцкая, журналістка:*

Мяне затрымалі зранку 14 жніўня. Гэтым разам можна сказаць, што я падставілася сама. Хоць гэта, вядома, груба. Увесь тыдзень напярэдадні я рабіла гутаркі, матэрыялы да гадавіны падзеяў пасьлявыбарчага жніўня-2020. Асабліва моцнае ўражаньне на мяне зрабіла гісторыя параненага 10 жніўня кіроўцы Паўла Сібілёва, які працаваў у той вечар, а ў сьпіну яму прыляцелі гранаты і кулі.

Я наведвала Паўла ў вайсковым шпіталі яшчэ ў жніўні 20-га. Тады яму было цяжка, у сьпіне — дзірка, на якую перасаджвалі скуру з нагі, ён ня мог рухацца. Але ён выглядаў досыць бадзёра, і верылася, што ён хутка адновіцца. Аднак праз год сустрэчы зь ім я ўбачыла сівога мужчыну з кійком у руцэ, рука паралізаваная, ногі і сьпіна баляць. Да наступстваў раны дадалася анкалягічная хвароба. А ў яго малодшы сын ідзе ў першую клясу...

Я неяк прызвычаілася да такіх гісторый па-журналісцку ставіцца цьвяроза, як да працы, бо інакш немагчыма пісаць пра гэты чалавечы боль штодзённа. Але тут на мяне накаціла, мяне ванітавала ўсе дні. Было цяжка. Я пачала дапамагаць усім гэтым сем'ям, чым магла. І зранку 14 жніўня, праяжджаючы міма Пушкінскай, згадала, што ўдава Тарайкоўскага аднойчы казала, што ёй прыемна бачыць на Пушкінскай кветкі: такім чынам яна ведае, што людзі памятаюць.

Я купіла белую хрызантэму ў пераходзе, але нават не пасьпела зь ёй выйсьці, як мяне затрымалі. Амон дзяжурыў там суткамі, як я пасьля даведалася (мяне дагэтуль бамбіць ад таго, на што ідуць нашы падаткі — на адлоў людзей з кветкамі ў руках на Пушкінскай, і гэта толькі адзін ганебны факт). Ня выключана, што працягвае дзяжурыць і цяпер. У судзе ілжэсьведка сказаў, што я правяла пікет супраць дзейнай улады.

Мне далі 30 сутак, таму што раней на працягу году мяне ўжо затрымлівалі, і я адбывала суткі за працу журналісткай на жаночым дэмаршы: у мяне была трэцяя частка артыкула 24.23 КаАП.

Толькі за пару сутак у ізалятары я пасьпела „зарабіць" сабе цыстыт: было вельмі халадна. Але

там хаця б драўляныя лыжкі. У ЦІП умовы былі яшчэ горшыя: спачатку халодная перанаселеная камэра, дзе вы вымушаныя спаць на падлозе ў тонкім адзеньні. Каб сагрэцца, мы абдымаліся, прачыналіся ноччу і рабілі фізычныя практыкаваньні. Набіралі ў плястыкавыя бутэлькі гарачую ваду і клалі яе паміж ног, каб неяк грэцца.

А 2 і 4 гадзіне ночы нас пастаянна падымалі на пераклічку. Трэба было падняцца і назваць сваё прозьвішча, імя, імя па бацьку. Пераклічкі былі таксама два разы на дзень — падчас іх нас выводзілі на калідор, абмацвалі, усе рэчы ў камэры „ператрахвалі“ — раскідвалі па падлозе рэшткі хлеба, напрыклад (ноччу ён, сплесьнелы, служыў некаторым дзяўчатам падушкай). У адзін з такіх шмонаў у нас забралі частку плястыкавых бутэлек, таму што яны стаялі на падлозе, а ня ў тумбачцы (хоць у тумбачку яны банальна ня лезьлі, бо камэра разьлічаная на 2 чалавек, а там было ад 8 да 20 у пікавы момант). Бутэлькі ж там на вагу золата: зь іх і п’еш гэтую ваду з-пад крана, і мыесься пасьля над дзіркай у падлозе — прыбіральняй. Ну, і ноччу абдымаеш яе, каб грэцца.

У камэры суткамі гарэла яркае штучнае асьвятленьне, якое моцна рэжа вочы.

Калі нас перавялі ў камэру №15 на трэцім паверсе з забітым наглуха акном, там ужо была страшэнная задуха ўдзень. Пры гэтым нам імкнуліся зачыніць „кармушку“, праз якую ў камэру мог паступаць хоць нейкі кісларод. У такіх умовах, у перанаселенай камэры, усе хутка пачыналі хварэць. Я нажыла фарынгатрахеіт, які лячу і сёньня. Усе выйшлі адтуль з каранавірусам. Многія пераносілі яго складана ў засьценках — але дак-

тары лечаць гэта там у асноўным парацэтамолам. Пра нейкую ізаляцыю хворых і гаворкі ня можа быць. Наадварот, да нас спэцыяльна падсаджвалі людзей бязь месца жыхарства, у якіх былі выразныя іншыя хваробы — пэдыкулёз, грыбок, нейкія язвы на скуры.

Ні разу за месяц нас не звадзілі ў душ ці на шпацыр. Не перадалі ніводнай перадачы, хоць усё гэта павінна быць паводле правілаў утрыманьня адміністрацыйна асуджаных. Калі я прасіла дзяжурных прынесьці дзяўчатам хаця б цёплыя рэчы (некаторых затрымлівалі ў тонкіх майках пасьля басэйну, нехта быў зь лецішча, нехта — з працы, у адной спадніцы і блузцы) — чула, што гэта „не положено“. Кім? На гэта я таксама не пачула адказу. Што і казаць, калі мы суткамі выбівалі з асабістых рэчаў хаця б батарэйку для дзяўчыны са слыхавым апаратам. Толькі адзін дзяжурны зьлітаваўся над ёю на чацьвёртыя суткі нашых просьбаў.

Варта адзначыць і якасьць харчаваньня. Вядома, я старалася есьці ўсё, каб выжыць і зусім ня зьлегчы. Нават хлеб, які ўжо прыносілі зь цьвільлю. Але калі ўлічваць, што суткі харчаваньня каштуюць 14.50 (за месяц — гэта больш як 400 рублёў на чалавека), а табе на сьняданак і абед прыносяць палову кубка гарбаты, а суп часам — гэта проста вадзічка і некалькі макаронін-бульбін, то ўзьнікае шмат пытаньняў. Чаму за такія грошы нельга забясьпечыць людзей хаця б дастатковай колькасьцю гарачых напояў? На жаль, вада з-пад крана на Акрэсьціна настолькі хлараваная, што ў многіх адразу пачыналася пякотка. Я ўжо маўчу, што з харчаваньнем на сьлізкіх кашах і

дрэнным хлебе і без магчымасьці рухацца хаця б па камэры людзі тыднямі не маглі схадзіць у прыбіральню па-вялікаму, ва ўсіх у прамым сэнсе пухлі страўнікі.

Калі нас перакідалі з камэры ў камэру, мы бачылі, што ў ЦІП хапае свабодных камэр, але нас наўмысна вялікай групай трымалі ў двухмеснай. Яна была 3 на 4 мэтры прыблізна, і там нельга было ня тое што хадзіць, расьсесьціся было складана. А каб легчы спаць на падлогу, мы ўвогуле праяўлялі звышздольнасьці: гэта нагадвала нейкі чалавечы тэтрыс — тут падабраць ногі, там скурчыцца, там залезьці пад шконку так, каб ногі сукамэрніцы леглі каля тваёй галавы.

Аднойчы адзін з супрацоўнікаў прагаварыўся: вам нічога „не паложана“, таму што вы „бчб“. То бок яны наўмысна вылучаюць тых, хто з артыкуламі 24.24, 24.3, 19.11, у асобную катэгорыю. Гэта відавочна. Гэта падкрэсьлівалася, і калі да нас падсялялі тых жа жанчын з вуліцы — дзяжурны мог сказаць гучна: „Вам можна ўсё, Ала Ільінічна, і ляжаць днём нават, а гэтым — не“.

У камэры насупраць сядзелі мужчыны за бойкі і дробныя крадзяжы, але іх вадзілі і ў душ, і на шпацыры (нават пакурыць). У іх былі ў камэрах шашкі, кніжкі, перадачы. То бок зразумела, што вось людзей з так званай палітычнай групы наўмысна душаць, ствараюць складаныя ўмовы выжываньня, пазбаўляюць іх здароўя. І гэта злачынства. Прычым у мяне ня ўкладваецца тое ў галаве: асуджаныя настаўнікі, аўтары кніжак, музыкі, дактары, праграмісты. Віна іх толькі ў тым, што нехта даслаў рэпост з навінавага сайта (які цяпер прызналі экстрэмісцкім) мужу, нехта быў

на вуліцы ў чырвонай сукенцы зь белай накідкай. Што, праўда людзі за такое заслугоўваюць, каб іх пазбаўлялі здароўя?

Мне расказвалі гісторыю пра тое, як у ЦІП утрымлівалася выкладчыца Акадэміі кіраваньня пры прэзыдэнце. І вось яна выходзіць на шмон у калідор і сустракаецца вачыма са сваім былым студэнтам. Ён апускае вочы. Мяне моцна ўразіла гэтая гісторыя, нікому не пажадаеш. Выкладчыца, дарэчы, сядзела за нейкі стары рэпост у фэйсбуку з так званага экстрэмісцкага канала. І, вядома, за такое яе хацелі прыбраць з акадэміі — няважна, што яна супэрспэцыяліст і прафэсіянал.

Варта, вядома, адзначыць, што ў некаторыя зьмены траляліся адэкватныя супрацоўнікі, якія будзілі ня так агрэсіўна ноччу. Маглі пакінуць на дзень кармушку адкрытай. На дзень гораду затрыманым пэнсіянэркам увогуле прынесьлі пару зубных шчотак з асабістых рэчаў. То бок і ў той сыстэме ёсьць больш чалавечныя элемэнты. Часам гэта маладыя хлопцы, учорашнія выпускнікі. І мне вельмі страшна, што і яны хутка перастрояцца і стануць такім ж жорсткімі, гатовымі зьдзекавацца, як іх старэйшыя калегі. Што яны навучацца злу.

Дарэчы, супрацоўнікаў РУУС і ЦІП праца „кібэрпартызанаў“ і факт існаваньня „Чорнай кнігі“ вельмі злуе. Пра гэта яны пастаянна згадвалі.

Мне здаецца, маральны нейкі ўплыў я яшчэ адчую. Пакуль я разьбіраю працоўныя і побытавыя пытаньні, якія навaліліся за месяц, і аднаўляю фізычнае здароўе, таму банальна не было часу спыніцца і падумаць: а што ж са мной унутры? Я вымушаная цяпер далечвацца па гінэкалягічнай лініі, у мяне адсутнасьць нармальнага сну. Пасьля

кароны — проста моцная слабасьць і моцны боль у суставах. Пасыпаліся валасы. Спачатку я разрулю дэфіцыты ў арганізьме, а пасьля падумаю, ці патрэбная мне ўжо будзе псыхалягічная дапамога. Усё ж ранейшыя затрыманьні, праца журналістам, дый сытуацыя ў Беларусі цягам апошняга году моцна загартавалі — я гэта выразна адчуваю. Тое, што раней падавалася праблемай, цяпер — нішто і лёгка вырашальнае.

Мяне дакладна не адпускае ўжо гадавая сытуацыя таго, як да маіх затрыманьняў ставяцца бацька і малодшы брат. Першы — былы начальнік крымінальнага вышуку, падтрымлівае Лукашэнку па сёньня, другі служыў ва ўнутраных войсках. Для іх я жыву няправільна, ганебна і сама вінаватая ў тым, што апынулася за кратамі. І працую ня там, дзе варта было б. Мы не камунікуем амаль год, зусім, і гэта, вядома, балюча. Я ведаю шмат такіх сямейных трагедый — вельмі горка, што палітычныя погляды могуць уплываць на сямейныя стасункі.

Варта адрозьніваць умовы палітвязьняў і адміністрацыйна асуджаных — гэта крыху розныя рэчы. Першыя сядзяць даўжэй, але маюць хоць нейкую сувязь са сьветам, адваката, перадачы. У другіх тэрмін можа працягвацца некалькі месяцаў, у залежнасьці ад колькасьці пратаколаў, якія захочуць накінуць. Але ў нас там была поўная інфармацыйная ізаляцыя і ніякіх сыгналаў з „таго“ сьвету, нават у выглядзе цукеркі.

Вядома, мы таксама стараліся захоўваць бадзёры настрой, толькі так можна выжыць. Гулялі ў гульні, у якія можна гуляць бяз рухаў і рэчаў — тыпу „Мафіі“ ці „Адгадай мэлёдыю“, „Ёсьць кан-

такт“, „Гарады“, расказвалі вершы на памяць. І калі нехта выходзіў на волю, мы прасілі таго чалавека завучыць на памяць тэлефон сваяка і перадаць, што ўсё гуд. Каб тыя, хто на волі, не перажывалі. Мэсыдж таксама быў пазытыўны, бо родным на волі яшчэ цяжэй, чым затрыманым, менавіта маральна. І ў лістах, калі б у нас быў да іх доступ, мы б таксама наўрад ці моцна пужалі.

Для мяне было пытаньнем, ці варта расказваць усё. Але, па-першае, пра гэта мяне прасілі жанчыны, дзяўчаты, якія засталіся там. Гэта іх просьба: быць іх голасам, не маўчаць, бо самі яны могуць не наважыцца напісаць нават скаргу. Многія сапраўды баяцца волі і невядомасьці, таго, што да іх прыйдуць наноў. Па-другое, як журналіст я заўсёды за праўду (калі хочаце, лічыце маю адседку складаным журналісцкім жанрам — выпрабавана на сабе, рэпартажам зь першых вуснаў), і як чалавек — за тое, каб ніколі не замоўчваць праблемы, бо інакш яны будуць толькі пладзіцца. Маўчаньне распускае злу рукі. Гэта маё асабістае перакананьне і досьвед, атрыманы за гады працы.

Я цяпер бачу, што нават мой кароткі пост напалохаў кагосьці зь сяброў, знаёмых. Мне хацелася гэтага менш за ўсё. На жаль, людзі з сыстэмы менавіта гэтага і хочуць — каб мы баяліся, каб маўчалі. Але мы ня можам даць ім такі падарунак, трэба фіксаваць усе факты злачынстваў і парушэньняў хаця б для будучыні. Хай сёньня на маю скаргу ў органы, тую ж пракуратуру не адрэагуюць — дадуць адпіску, але скарга будзе задакумэнтаваная, мне будзе чым апэраваць у будучыні, калі законы будуць працаваць. І чыноўнікі

адкажуць у тым ліку за службовую халатнасьць, бязьдзейнасьць.

Буду верыць, што я ў бясьпецы. Галоўная дапамога, пра якую я магу прасіць усіх сёньня, — гэта не баяцца, не паддавацца параноі і працягваць рабіць добрыя малыя рэчы штодзень. Паведамляць, хай і ананімна, журналістам факты злачынстваў з боку сілавікоў і чыноўнікаў. Пісаць лісты палітвязьням, дасылаць ім невялікія грашовыя пераводы і пасылкі да суду. Дапамагаць суседзям у бядзе. Не пераходзіць на бок зла.

Вядома, што лягер, СІЗА і нават ізалятар нікому не прыносяць карысьці. Тым больш калі з законапаслухмяным чалавекам абыходзяцца, як са скацінай, — гэта, як ні круці, падрывае веру ў справядлівасьць, у людзей. Падрывае тое ж здароўе.

Але я ўсё ўспрымаю як досьвед. І гэты месяц у зьняволеньні як мінімум пераканаў мяне ў тым, што я на правільным баку, што мы за дабро. Што пакутуюць невінаватыя, найлепшыя людзі, і так не павінна быць. Гэта толькі дае сілы не апускаць рукі і рабіць хоць нешта, каб катаваньні беларусаў у турмах і на Акрэсьціна скончыліся і больш ніколі не паўтарыліся.

А яшчэ зноў пацьвердзіўся факт неймавернасьці нашых жанчын. Калі мяне затрымлівалі, адбіць мяне ад амонаўца спрабавалі менавіта жанчыны — маладыя і старыя. Яны атачылі чалавека бяз формы, і мы дамагліся, каб ён прадставіўся і паказаў дакумэнты.

# ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ

## Каб ніхто ня крыўдзіў вожыкаў

*Мару! Мару пра лепшае жыцьцё для ўсіх нас. Уяўляю, як вярнуся да сям'і і сяброў. Як зважу сваю дзяўчыну на мора. Здам на правы кіроўцы. Працягну займацца музыкай зь сябрамі.* Павал Ларчык

*Мы разам будзем усьміхацца гэтаму дню. І на кожнай плошчы нашых гарадоў і нават самых маленькіх вёсак і вулачак шампанскае будзе ліцца ракой. І ўсе людзі будуць абдымацца, радавацца і цалавацца, быццам бы заўсёды былі роднымі.* Ганна Мароз

*Адчуваю сябе плыўцом, якога кінулі ў раку, і пакуль што плынь мяне кудысьці нясе, а мая галоўная задача — не патануць. Але, калі вада выкіне мяне на бераг, мяркую, я буду найлепшым плыўцом у сьвеце. На беразе будуць стаяць мае родныя, і ўсе мы будзем шалёна шчасьлівыя.* Пётар Слуцкі

*Асобны дзякуй за апісаньне вясковай прыроды, мне вельмі гэтага не хапае тут. Вельмі часта пачынаю думаць пра тое, як і што буду рабіць у вясковым дамку, калі апынуся на волі.* Кім Самусенка

*Люблю Гомель, сквэр Грамыкі, набярэжную, парк, Савецкую да „Турыста“, праспэкты Перамогі і Леніна. Ёсьць шмат цудоўных гамельчукоў. Вось няма толькі нейкай гомельскай стравы. Магчыма, калі-*

*небудзь гэта будуць „катлеты па-ціханоўску“. Свае фірмовыя катлеты я ўжо шмат гадоў гатую для сваіх блізкіх і сяброў. Зь цяляціны, як варыянт — зь ялавічыны і сьвініны. Гатуюцца на грылі, падаюцца зь зяленівам, соўсам наршараб, і на гарнір — сьвежая гароднiна. Для аматараў — маладая вараная бульба. Пры асабістай сустрэчы выдам сакрэтны рэцэпт і пачастую. Калі буду на волі, упэўнены, што ўсе мы зможам правесьці дэгустацыю ў розных гарадах. Магчыма, ня толькі ў Гомлі іх возьмуць на ўзбраеньне. Трэба ўвогуле трохі беларускую кухню асьвяжыць, а то іншаземцы ведаюць толькі дранікі. Паколькі Ціханоўскіх ужо няблага ведаюць у сьвеце, то катлеты майго рэцэпту могуць мець посьпех.*
Сяргей Ціханоўскі

*Ня мае значэньня, калі я вярнуся, мае значэньне, куды. Вельмі глупая і дзіцячая, але такая моцная мара. Каб дзеці сьмяяліся, і суседзі танчылі. І вожыкі. Каб ніхто ня крыўдзіў вожыкаў. Бо калі іх ня буду абараняць я, то хто? Мне часам думаецца, што краіна, у якой маленькім дзецям ніхто-ніхто ня зробіць лятучага зьмея нават ня можа прэтэндаваць на званьне цывілізаванай. Для чаго патрэбныя ўсе танкі, самалёты, гарматы, ракеты, важныя дзядзькі і цёткі ў дарагіх скураных крэслах, калі маленькія дзеці не запусьцяць летнім днём паветранага зьмея ў выглядзе вожыка?.. Гэты тып зьмея называецца «манах» і запускаецца ў слабы вецер“.*
Сьцяпан Латыпаў

## Турма — агіднае месца, але тут я пачуваюся свабоднай

*Марыя Калесьнікава, палітзьняволеная:*

Прачынаюся заўсёды а 6-й раніцы вельмі лёгка і бадзёра. У маім мінулым жыцьці гэтага немагчыма было ўявіць.

У 6:30 пачынаецца турэмны сьняданак у выглядзе кашы, соку, хлеба і чаю. Але я ніколі ня ем так рана і нічога з прапанаванага не бяру. „Прымаю душ“, награваючы ваду ў місе.

Цяжка паверыць, але ў цэнтры Менску людзі ўтрымліваюцца ў камэрах з халоднай вадой, а душ прымаюць у агульным душавым пакоі (на чатыры чалавекі безь перагародак) адзін раз на тыдзень па 20 хвілін.

Бялізну мыем у місах, награваючы ваду кіпяцільнікам. Сохне яна ўначы на батарэі або нарах.

А 8-й раніцы — праверка, пасьля чаго 2-3 гадзіны я вучу мовы ці чытаю на нямецкай ці ангельскай мове. Гэта самы плённы час.

Каля 9-й выходжу на прагулку. Турэмны дворык — 3 мэтры на 3 мэтры. (У Жодзіне быў большы.) Але нават там я схітраюся бегаць 40-50 хвілін і яшчэ 30 хвілін раблю практыкаваньні.

Сьнедаю пасьля прагулкі: бутэрброды або, рэдка, каша з сухафруктамі і абавязкова — моцная кава. Прыбіраюся ў камэры, і ў гэтым ёсьць пэўнае задавальненьне: рабіць чысьцей, утульней, лепей тое месца, дзе ты ёсьць.

Калі ў мяне няма сустрэчы з адвакатамі ці допытаў, то я чытаю і пішу наступныя 2-3 гадзіны. Кнігі прыносяць па заяве, дзе трэба пазначыць

аўтара і назву. Празь некалькі дзён бібліятэкар прыносіць усё, што знайшлі.

У Жодзіне кніг для мяне хутчэй не было, чым былі. Адміністрацыя тлумачыла гэта тым, што праблемы з кнігамі для мяне зьвязаныя са страхам, што ў іх ёсьць нейкая інфармацыя, як у Леніна, „напісаная малаком“ (нябачным чарнілам).

Гэта і ёсьць сапраўдная прычына таго, чаму ў мяне забралі і тры тыдні правяралі кнігі Харары, Гокінга. „Малака не знайшлі“ — вярнулі.

У СІЗА з кнігамі іншая сытуацыя. Ёсьць шмат з таго, што я прашу, нават падручнікі і кнігі на нямецкай і ангельскай мовах. У Жодзіне гэтага не было.

За ўвесь час я пабывала ў пяці камэрах з розным „складам“ сяброўак-аднакамэрніц. Цяпер камэра вельмі маленькая, 2,5 на 3,5 мэтра, дзе двое нараў на чатырох чалавек, прыбіральня, умывальнік, тэлевізар, кіпяцільнік, кубак, місы, стол, лаўка. Праз шыбу і краты відаць неба.

У Беларусі забаронена курэньне ў грамадзкіх месцах і нават на прыпынках, але турма ня месца для законаў. Тут кураць амаль усе і ўсюды: у камэрах, калідорах, кабінэтах. У маім выпадку гэта ня толькі шкода здароўю і пагроза жыцьцю, але і шкода, якая не дазволіць мне застацца ў прафэсіі музы́кі-флейтысткі.

У 13:00–14:00 абед. У мяне ён таксама свой: суп ці гародніна зь мясам. Пазьней кава і прысмакі, якімі мяне цешаць у перадачах.

Наступныя тры гадзіны чытаю, працую са справай [крымінальнай], пішу тэксты і лісты.

Вячэра ў турме а 18-й, але я вячэраю а 17-й. Гародніна, чай і халва.

З 18:00 пішу лісты кожны дзень. За месяц атрымліваецца каля 200. Гляджу навіны, якія і не навіны ўвогуле, а „пяціхвілінкі нянавісьці“ даўжынёй у гадзіны, як у Джорджа Оруэла. Вельмі „карысна“, але шкада людзей, якія гэта ствараюць і ў гэта вераць. А 20-й — праверка, потым забіраюць лісты і заявы.

А 21-й вечаровы „душ“ з кіпяцільнікам, кніга. З 22:00 да 6:00 здаровы моцны сон. Так многа я ня спала шмат гадоў, асабліва апошнія месяцы перад 7 верасьня 2020 году.

Рэжым перакладае на нас тое, у чым вінаваты сам. Бо сапраўдную змову з мэтай захопу ўлады ўчыніў акурат рэжым Лукашэнкі.

Калі вы спытаеце, ці ў захапленьні я ад таго, што мне далі 11 гадоў, то не, цяжка знайсьці чалавека, якому спадабалася б такая пэрспэктыва. Але калі я ўспамінаю, за што насамрэч улады і іхныя кішэнныя суды далі нам з Максімам такія тэрміны, то дыхаць становіцца лёгка, а жыць весялей.

Гэтае абсурднае абвінавачаньне нам выставілі таму, што мы былі дастаткова сьмелымі і сумленнымі з сабой і беларусамі, за тое, што хацелі пазытыўных перамен у краіне і рабілі гэтыя перамены. Ня зьдзіўленая што для рэжыму гэта лічыцца злачынствам.

Нельга сказаць, што калі я рвала свой пашпарт, я не разумела маштабу наступстваў для сябе. 7 верасьня 2020 году я ведала, што калі мяне не заб’юць, то дакладна пасадзяць. Бо людзі, якія падпарадкаваліся сыстэме, не пакінулі ў гэтым сумневаў.

Увесь год яны намагаліся зрабіць усё, каб я пашкадавала. Год у гарачых і халодных камэрах,

без паветра, безь сьвятла, безь людзей... Год без анічога, але я не шкадую і цяпер зрабіла б гэтаксама. Я тут і цяпер праходжу складаны шлях разам з сваім народам.

Мы разам зь беларусамі хадзілі па вуліцах летам, абдымаліся, хваляваліся, спадзяваліся. Мы разам пачыналі гэты шлях, і цяпер мы разам. Вось жа я не шкадую.

Турма — гэта агіднае месца, але тут я асабліва пачуваюся свабоднай і шчасьлівым чалавекам.

Ці была я гатовая да прысуду? Шчыра кажучы, крыху не чакала. Думала, дадуць 12 гадоў... Ну а калі сур'ёзна, то апошні год не пакінуў беларусам ніякіх ілюзій. Давер да ўсіх дзяржаўных інстытутаў разбураны. Усе цудоўна разумеюць, што няма незалежных судоў і незалежных судзьдзяў. Што гэта больш не пасады, гэта абслуга рэжыму. Што кадры падабраныя гэтак, што рука не здрыганецца. А як толькі паўстае сумнеў, то кадры адразу мяняюцца іператасоўваюцца.

Уяўляеце, калі б раптам, нягледзячы на тое, што ёй загадалі зрабіць, судзьдзя б устала і вынесла апраўдальны прысуд. Чалавек увайшоў бы ў гісторыю як герой! Пра яе гаварылі б і пісалі ня менш, чым пра нас. Так, хутчэй за ўсё, яе арыштавалі б адразу пасьля, але ў гэтым і сутнасьць цяперашняга беларускага часу — ці ты чалавек, ці адпраўляй невінаватага (і ты ведаеш, што ён невінаваты) на 10 гадоў у калёнію, а потым неяк жыві з гэтым, супакойваючыся на лецішчы, на якое абмяняў сваё сумленьне.

Да новага жыцьця я адаптавалася імгненна і безбалесна. Новы досьвед, новыя людзі, новыя адкрыцьці. Да таго ж, я музы́ка, а ў клясычных

музыкаў за гады рэпэтыцый выпрацоўваецца практычна вайсковая стойкасьць і дысцыпліна :)

Я танчыла ў судзе, бо танчыць лепей, чым пакутаваць. Гэта маё прывітаньне родным, блізкім і ўсяму сьвету. Можна замураваць у турму, схаваць ад людзей, даць 11 гадоў. Але ўсё гэта, як і страх, нянавісьць і кандалы, разаб'ецца аб нашыя песьні, сьмех, танцы і любоў.

## Лекар прыходзіць і кажа: „Вам тут не санаторый“

*Ларыса Танкашкур, былая паштарка:*

Тры месяцы я правяла ў баранавіцкім арыштным доме пасьля пратэставага ўчынку — выклала ў інтэрнэт адрасы міліцыянтаў, якія жылі на маім паштовым участку ў мікрараёне Баравая. На судзе віну я прызнала, але працягваю лічыць, што гэта міліцыя праз гвалт і незаконныя захады спарадзіла да сябе нэгатыўнае стаўленьне такіх простых людзей, як я.

А хіба біць і катаваць людзей можна? — так я спрабавала пярэчыць супрацоўніку арыштнага дому, які ўпікаў за мой учынак. Пераканалася яшчэ раз, што зь некаторымі спрачацца дарэмна. Адмысловая камісія, якая вырашала пытаньне пра пастаноўку мяне на прафіляктычны ўлік як схільнай да экстрэмізму, толькі імітавала разбор, а вынік быў прадвызначаны.

За пяць хвілін паставілі на той улік. А толку? Ані холадна ад яго, ані горача. Робяць выгляд, што неяк узьдзейнічае.

На ноч я мусіла класьціся толькі на верхнім ярусе нараў, што вельмі нязручна для людзей ва ўзросьце і зь вялікай камплекцыяй. А падчас штодзённых праверак трэба было займаць месца бліжэй да стала і паведамляць пра сябе дадатковую інфармацыю, у тым ліку — што „схільны да дэструктыўных дзеяньняў“. Гэта мяне абурала, але я навучылася не выдаваць сябе.

Жыла як у кокане — інакш там нэрвы ня вытрымаюць.

„Схільным да экстрэмізму“ не дазвалялі працаваць, у адрозьненьне ад іншых вязьняў, асуджаных за нявыплату алімэнтаў, дробны крадзеж ці хуліганства. Аднойчы я сама прапанавала памыць падлогу ў турэмным калідоры — проста каб парухацца, дзеля разнастайнасьці. Але сустрэла жорсткую адмову — „Вам нельга“.

Пра большасьць супрацоўнікаў арыштнага дому ў Баранавічах успаміны нават добрыя. Толькі адзін ахоўнік ставіўся сапраўды нэгатыўна і шчыра казаў, што мне „яшчэ мала далі“, а іншыя былі карэктныя, у тым ліку начальнікі.

Уся камэра перахварэла на ковід. І ня дзіва, бо прафіляктыкі ніякай. Калі няма ўласнай лыжкі, дык пра што казаць? Як дзяўчаты захварэлі, то лячыліся хто чым. Праўда, атрымлівалі і антыбіётыкі, але даводзілася чакаць лекара гадзінамі ці нават днямі. Мяне ковід абмінуў, але ў мяне іншая праблема. Зь дзяцінства пакутую на мігрэнь, прыступы моцнага галаўнога болю рэгулярныя. У такія дні трэба проста паляжаць пэўны час спакойна. Але ахоўнікі класьціся не дазваляюць, толькі з дазволу лекара. Клічу лекара, яго доўга няма, нарэшце прыходзіць і кажа: „Вам тут не

санаторый, ведалі, што рабілі“. А мне б 10 хвілін паляжаць, і ўсё б прайшло. І пры чым тут тое, што я зрабіла?

У арыштантаў няма магчымасьці вырашыць свае грамадзянскія справы, якія ўзьнікаюць на волі. Прыкладам, за краты я трапіла 30 чэрвеня, а ў ліпені ўступіла ў пэнсійны ўзрост. Паводле закону ў пэўны дзень ліпеня я павінна была здаць дакумэнты на афармленьне пэнсіі. Гэта ўзялася зрабіць за мяне дачка, якой я падпісала генэральную даверанасьць. Але ў райсабесе дачцэ сказалі, што нічога бяз маці рабіць ня будуць.

І мне ў арыштным доме заявілі, што нічым не дапамогуць. То бок два месяцы пэнсіі — кату пад хвост. Ім што? Як хочаш. Відаць, і гэты закон у нас дрэнь, калі такую простую сытуацыю ня могуць прадбачыць і вырашыць.

Зь ліставаньнем падчас адседкі вялікіх праблемаў не было, навіны з дому атрымлівала рэгулярна. Вельмі парадавала навіна пра тое, што невядомы мужчына, які набыў у краме канфіскату мой мабільны тэлефон, ацэнены ў 400 рублёў, вярнуў яго і нават ня ўзяў грошай. Увогуле прыкладаў чалавечай падтрымкі, салідарнасьці я за гэтыя тры месяцы зазнала шмат. Гэта дапамагала сядзець і заставацца чалавекам.

Там прынята дзяліцца ежай, якую атрымліваеш у пасылках. Плюс патрэбныя рэчы людзі пакідаюць, калі сыходзяць, тым, хто застаецца. А ў СІЗА прынята даваць тым, каго пераводзяць у калёнію, у дарогу цёплае адзеньне, розныя бытавыя рэчы, у якіх будзе патрэба. Можа, яны і табе яшчэ спатрэбяцца, але ты ж хутка выйдзеш, а яны едуць

надоўга. Ну, і словы добрыя, спачуваньне. Бязь іх таксама ня выжыць.

А безь лістоў там увогуле можна памерці. Я паштарка, тысячы лістоў у жыцьці людзям разьнесла, але іх сапраўдную каштоўнасьць толькі цяпер разумею. Бывала, зьдзіўлялася, як людзі могуць штодня пісаць адзін аднаму? Пра што можна штодня паведамляць? А вось і сама гэтыя тры месяцы штодня пісала дачцэ, бо не магла ўтрымацца. Чакаеш таго ліста, радуесься кожнаму слову з волі. Не, безь лістоў з волі ў турме проста памерці можна.

Да „пасадкі“ я ліставалася з палітвязьнямі, у тым ліку з журналісткай Вольгай Класкоўскай і грамадзянкай Швайцарыі Натальляй Хершэ, іншымі жанчынамі. Цяпер ліставаньне аднаўлю, набралася шмат чаго, чым можна падзяліцца, бо тры месяцы давялося маўчаць: лісты з турмы ў турму чамусьці ў нас забароненыя. Затое да сьпісу сяброўак у мяне дадаліся дзяўчаты з „Валадаркі“ і Баранавіч, у тым ліку Вольга Залатар, маці пяцярых дзяцей, якую больш за паўгоду трымаюць за кратамі. Такім людзям трэба помнікі пры жыцьці ставіць, а іх катуюць.

На волі стала больш страху. Сяджу вось у кавярні, любуюся на восень, на тое, што бачу вакол. Прыгожа! Прадчувала, што страху стала болей, праблем — болей, і не памылілася. Вось і дзеці мае хочуць зьяжджаць з такой краіны — гэта самае жахлівае.

Цягам году давядзецца раз на тры месяцы адзначацца ў міліцыі, інакш будзе лічыцца, што я парушыла правілы, і скасаваньне маёй судзімасьці зацягнецца.

А на пошту ўжо не пайду, вельмі цяжкая праца, а ногі і нэрвы ўжо ня тыя. Знайду чым зарабіць, мае офісы мяне чакаюць. Бяз справы не застануся.

## Уяўляе, быццам Тоні бегае побач зь ёй

*Аляксандра Багуслаўская, журналістка:*

Я чатыры месяцы жыву з Тоні. Алену Талкачову затрымалі 18 траўня разам зь іншымі супрацоўнікамі Tut.by. Сабаку Алены — „дзяўчынку“ зь імем супэргероя Тоні Старк — я забрала да сябе, бо была зь сяброўкай падчас ператрусу ў кватэры.

Я спачатку думала, што буду панятой, але потым мяне выгналі, і я сядзела ўнізе. Калі Лену забіралі ў сьледчы камітэт, сабака быў са мной, і мы спачатку думалі, што Лену выпусьцяць да вечара, потым праз 3 дні, праз 10 сутак, але яе не выпускалі, і сабака застаўся са мной. Гэта быў аптымальны варыянт. Як той казаў, лёс склаўся так.

У мяне ёсьць досьвед догляду за жывёламі, бо падлеткам я мела пэкінэса Касю, якая цяпер жыве з маімі бацькамі. Пераезд Тоні ў маю кватэру ня стаў вялікім стрэсам, бо сабака добра мяне ведае.

Мы зь Ленай называлі мяне хроснай Тоні. Цяпер Лена піша ў лістах „фэя-хросная“.

Першапачаткова Instagram-акаўнт Тоні стварыла Алена напрыканцы лістапада.

Немагчыма не рабіць фатаздымкі, не замілоўвацца, як яна расьце, яе звычкамі. Гэта проста фотаальбом, каб можна было ў кожны момант зайсьці і паглядзець, якой Тоні была ў столькі месяцаў і ў столькі, нейкія прышпільныя моманты

зь яе сабачага жыцьця. Калі Лену арыштавалі, яна мне напісала: „Калі ласка, вядзі Instagram Тоні, таму што я вельмі хачу ведаць, як яна праводзіць час, у якіх парках гуляе, з кім яна бачыцца, зь якімі сабачкамі сябруе“.

Спачатку я дасылала друкаваныя фота сабакі Алене ў турму.

У нейкі момант яна папрасіла так не рабіць, бо яе вельмі хвалюе бачыць, як Тоні расьце. Калі яе арыштавалі, Тоні было 7 месяцаў, яна была шчанём, а цяпер ужо год, гэта фактычна дарослы сабака. Лене, вядома, балюча ўсьведамляць, што яна прапусьціла гэта. Яна вельмі хацела сабаку... Яна ўсё гэта адкладала на час пасьля выбараў, але пасьля станавілася горш. У нейкі момант яна ўсё ж такі вырашыла, што хочацца жыць цяпер, і ўзяла Тоні.

У сваіх лістах Алена кожны раз піша, што моцна сумуе па сваёй Тоні і хоча пагуляць зь ёю.

Лена піша, што на шпацырах у СІЗА заплюшчвае вочы і ўяўляе, быццам Тоні бегае побач зь ёй. Аднойчы яна мне напісала, што суседкі ёй кажуць, што гэта ўсяго толькі сабака, вось іх дома дзеці чакаюць. А Лена піша: „Як так? Гэта не ўсяго толькі сабака! Гэта член сям’і!“. Вельмі дарагая істота, і нельга так казаць. Лена згадвае Тоні ў кожным лісьце. Я ёй расказваю нейкія бытавыя сцэны з нашага жыцьця: як Тоні па раніцах пасьля шпацыру мокрымі лапамі руйнуе засланы ложак і закопваецца пад коўдру, як гаўкае на прасавальную дошку, як разгрызла цацку ўшчэнт і як мы купілі новую.

Тоні і праўда вельмі прыгожы сабака, і я разумею, што так кажуць усе ўладальнікі сабак, але

яна вельмі прышпільная, гульлівая і актыўная, ёй трэба шмат руху. Але ў той жа час такая кабетка з характарам, можа спрачацца неяк. Яна вясёлая, накормленая, дагледжаная. Тоні не сядзіць сумная, не скуголіць на дзьверы, такога не было і спачатку. Яна заўсёды сярод людзей, якія яе любяць, ведаюць яе, ёй добра.

Празь інстаграм Тоні я прыцягваю ўвагу да Алены і іншых палітвязьняў.

Як я пішу, што страціла вельмі блізкага сябра, гэтак жа Тоні Старк страціла сваю гаспадыню. І, вядома, хочацца, каб людзі пра гэта ведалі. Праз сваю гісторыю траўмы я прыцягваю ўвагу да Лены, што чалавек проста ні за што 4 месяцы сядзіць у турме, што яна круты журналіст, і гэта помста ўладаў усяму Tut.by. Мне хочацца, каб людзі памяталі, кожны палітвязень — гэта гісторыя, гэта чыёсьці жыцьцё, блізкія, дзеці, родныя, бацькі, сабакі ў тым ліку. Таму я думаю, што ў цэлым трэба гаварыць пра палітвязьняў усімі спосабамі, якія ў нас ёсьць.

## Мяне практычна немагчыма пакараць

*Натальля Хершэ, грамадзянка Беларусі і Швайцарыі:*

У магілёўскую турму №4 мяне перавялі па рашэньні суду з гомельскай жаночай калёніі, дзе я адмовілася шыць форму для сілавікоў. У апошнія дні ў гомельскай калёніі мяне зноў зьмясьцілі ў штрафны ізалятар, і ў магілёўскую турму пераводзілі ўжо адтуль.

Ехалі ў цягніку каля 8 гадзін, даволі камфортна. Я была ў форменным адзеньні калёніі і ў ватоўцы (дарэчы, супэррэч у гэтым выпадку). І хаця прыём, на мой погляд, крыху зацягнуўся, новае месца мне спадабалася.

Пасялілі адну, у прасторнай камэры на шэсьць месцаў. Далі добрую бялізну, добрую коўдру, але ў камэры прахалодна, пакуль ня грэюць. Харчаваньне тут падобнае да харчаваньня ў калёніі, і, што вельмі важна, — ёсьць выдатныя прагулачныя дворыкі.

Мяне хвалявала праблема з валасамі, патрэбнае гарманальнае лекаваньне, і мне даволі хутка прапанавалі кансультацыю ў спэцыяліста.

Калі я расклала ў камэры свае рэчы, то заўважыла, што некаторыя зь іх зьніклі: дзёньнік, які я вяла ў СІЗА на Валадарскага і ў Жодзіне, таксама ў папраўчай калёніі №4, партрэты, якія я малявала ў калёніі, сшыткі з маімі пазнакамі падчас чытаньня „Архіпелага ГУЛАГ“ і іншых кніг, падпісаныя на нямецкай мове паштоўкі, часопісы „Наша гісторыя“, а таксама чыстыя аркушы А4.

Рэжым майго ўтрыманьня строгі, і мне ён вельмі падабаецца. Мне дазволена: 1 гадзіна прагулкі, атаварка на 1 базавую, 1 раз на месяц тэлефонная размова, якая адбудзецца ў другой палове кастрычніка, адно на год кароткатэрміновае спатканьне, маю права на тэлеграмы і на бандэроль 1 раз на год. Можна атрымліваць бандэроль з кнігамі, дазволена пасылка з садавінай 1 раз на месяц.

Стаіць такое выдатнае надвор’е, прагулкі ўчора і сёньня (дый увесь тыдзень) проста цудоўныя. Вельмі хочацца даведацца вольныя навіны, таму

і чакаю амбасадара. Чула па радыё пра сытуацыю з уцекачамі...

Мае першыя лісты да брата і дачкі з магілёўскай турмы не дайшлі. Першы ліст да дачкі вярнуўся, бо не прайшоў турэмнай цэнзуры, хоць яна не пісала на палітычныя тэмы.

Мне патлумачылі, што тое, што я апісвала ў сваім лісьце, ганіць існуючую ўладу. Вось толькі калі я кажу праўду, то хто вінаваты, што бачаць яны ў гэтым нейкую загану? Але добра, што бачаць!

Прашэньня я не пісала. Напісаўшы на памілаваньне, я растаптала б сябе духоўна. Ці было б вам усім лягчэй ад гэтага? Сумняваюся. Я разумею, што тэрмін вельмі нават рэальны, у сувязі зь пераразьлікам СІЗА дзень майго вызваленьня — 27 студзеня 2023 году, але і ён скончыцца. Мне вельмі хочацца, каб ты бачыла больш пазытыву ў жыцьці. Калі разгледзець мой выпадак, то турма — гэта ня самае горшае, што магло б здарыцца, і наогул, магчыма, дзякуючы менавіта гэтаму „горшаму“ здарыцца нешта „лепшае“, што бязь першага ніяк не магло б адбыцца.

Я даўно ўсё адпусьціла і атрымліваю асалоду ад жыцьця, наколькі гэта тут магчыма. Мяне практычна немагчыма пакараць, бо, разумеючы непазьбежнасьць гэтага (процістаяць я не магу), мая сьвядомасьць не працівіцца яму, а наадварот, знаходзіць у ім нешта добрае. Нікольkі не хачу запісваць сябе ў пакутніцы, я не такая ўсё ж, весела ўспамінаю некаторыя выпадкі, якія адбыліся са мной у месцах майго папярэдняга знаходжаньня. Думаю, кніга магла б атрымацца нядрэнная.

Часта ўзгадваю сюжэты зь мінулага жыцьця, як мы на кухні п’ем каву са „сьмятаньнікамі“ зь Мігро. А яшчэ часам я ў думках гуляю па Санкт-Галену, дый наогул у маім уяўленьні я ўжо шмат дзе пабывала, многіх пабачыла.

## Прасіла, каб ён усьміхнуўся

*Вольга, маці Арцёма Баярскага:*

Упершыню за 7 месяцаў мы наведалі сына на „Валадарцы“.

Сустрэча ў СІЗА доўжылася адну гадзіну па тэлефоне праз шкло.

У сына стаў бледны і ацёклы твар, магчыма, праз тое, што хлопец мае праблемы з сэрцам. Ён стаў больш стрыманым, бо разумее, што за ім увесь час сочаць, каб ён не сказаў або не зрабіў лішняга.

Я ж ведаю ягоны выраз твару, усьмешку, міміку. Усё зьнікла.

Я нават прасіла, каб ён усьміхнуўся. Ён там увесь час у прыгнечаным стане.

У мяне была задача ні ў якім разе не заплакаць, бо калі я заплачу, то што гэта будзе? У Арцёма вочы былі поўныя сьлёз, тата сядзеў з мокрымі вачыма, гэта было жудасна.

Арцём прачытаў амаль усю Біблію, сказаў, што плянуе перачытаць наноў Эвангельле ад Мацьвея. Чытае навуковыя часопісы: „Химия и жизнь“, „Наука и жизнь“, „Знание — сила“, Discovery. Падручнікаў па хіміі ў яго там няма. Чытаў кнігі Дэна Браўна і Дэйла Карнэгі.

Сябры дасылаюць Арцёму алімпіядныя задачы па хіміі, Арцём іх рашае. Аднак не за ўсе бярэцца, бо не хапае даведнікаў пад рукой.

Арцёму 20 гадоў. Вучыўся на другім курсе хімфаку БДУ. У жніўні 2020 году ён адмовіўся ад прэзыдэнцкай стыпэндыі разам з сотняй іншых студэнтаў. Першы раз Арцёма затрымалі 16 лістапада 2020 году пасьля маршу сталых людзей у Менску. Тады арыштавалі на 15 сутак. Другі раз яго жорстка затрымалі сёлета 24 сакавіка за бел-чырвона-белы сьцяг, які нібыта вісеў на 11-м паверсе ягонага інтэрнату. Спачатку ён адбыў адміністрацыйны арышт. Потым на яго завялі крымінальную справу за „стварэньне экстрэмісцкага фармаваньня“. Зьявілася відэа, дзе ён прызнаецца, што адміністраваў „экстрэмісцкі“ рэсурс „Мая краіна Беларусь“. Ён расказаў, што перад тым, як запісвалася гэтае відэа, яго білі.

Нядаўна Арцёму прад’явілі новае абвінавачаньне — у „арганізацыі дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак“. Ягоную справу перадалі ў пракуратуру, гэта значыць, што неўзабаве можа пачацца суд.

## Я верыў у яго, верыў у Лукашэнку

*Барыс Баярскі, дзед Арцёма Баярскага:*

Я верыў у яго, верыў у Лукашэнку. А цяпер стаў сумнявацца. Мой унук нікога не абрабаваў, нікога не забіў, не зарэзаў, але ён чамусьці сядзіць у турме. І ён не экстрэміст. Прыйшлі, значыць, іншых хлопцаў не чапалі, не дапытвалі, а забралі толькі

майго Арцёмку. Памясьцілі ў Акрэсьціна, а потым перавезьлі ў Жодзіна. І ён у Жодзіне адседзеў 25 сутак. Мы лічылі, што 25 сутак прайшло і яго адпусьцяць. Але яго не адпусьцілі. Прывезьлі зноў у Акрэсьціна, праводзілі нейкія там зь ім допыты. Яго зьбілі. І ён у часе гэтых пабояў сябе агаварыў. А цяпер ён на „Валадарцы". Недзе ён там глядзеў, як навіны, гэтыя тэлеграм-каналы, а яго абвінавацілі ў экстрэмізме. І я лічу, што ну не вінаваты ён. Таксама, як, можа быць, і нейкія іншыя студэнты, якія папросту недзе гулялі, а іх палічылі групамі нейкімі экстрэмісцкімі і таксама арыштоўваюць, невядома чаго трымаюць.

Я спадзяюся, што ўсё ж такі разьбяруцца і яго адпусьцяць. Бо ён ні ў чым не вінаваты.

Ён у нас будучы, я думаю, вучоны, мікрабіёляг. Бо ён усё жыцьцё пра гэта марыў. Ён закончыў школу з залатым мэдалём. Удзельнік усіх магчымых і немагчымых алімпіяд. У часе вучобы ў інстытуце ён атрымліваў прэзыдэнцкую стыпэндыю.

Сёньня мы прыехалі з Горадні, прывезьлі ўнуку перадачу, вопратку, бо ён паізнасіўся, усё бруднае. Прывезьлі чыстае новае адзеньне і ежу, каўбаску, сыр, памідоры, вітамінкі, цыбулю, часнык. У яго сэрца хворае, ён павінен прымаць нейкія там лекі. Гэтая хвароба, яна ва ўсіх у нашай сям'і, блякада правай ножкі Гіса.

На выбарах я галасаваў за Аляксандра Рыгоравіча. Бо я лічыў, што гэта чалавек, які можа... Як ён выцягнуў нашу рэспубліку зь 90-х гадоў... Мы ж жылі вельмі дрэнна. І я думаў, што ён, як гарант стабільнасьці... Таму за яго і галасаваў. Ну і лічыў, што ў нас усё будзе, як і раней. Але чамусьці зьявіліся настроі, што ў нас вакол экстрэмісты,

моладзь няправільная… І цяпер лічу, што акрамя яго ніхто ня зможа ўзначаліць Беларусь. Толькі нельга з моладзьдзю так абыходзіцца, як на сёньняшні дзень. Ясна, што дзесьці ёсьць у нас нейкія арганізацыі, ня ўгодныя для Беларусі. А моладзь трэба не караць, а выхоўваць.

Ці датычны Лукашэнка да арыштаў, я ня ведаю. Я ня ведаю. Я верыў у яго, верыў у Лукашэнку. А цяпер стаў сумнявацца.

## Калі выйшаў з калёніі, сказалі, што ўсё толькі пачынаецца

*Зьміцер Фурманаў, каардынатар ініцыятыўнай групы Сьвятланы Ціханоўскай:*

Мяне вызвалілі зь віцебскай калёніі 21 кастрычніка. Адбыў увесь тэрмін зьняволеньня, які прысудзілі. Разам з бацькамі даехаў да Менску, дзе сеў на аўтобус да Кіева.

Калі я выйшаў з калёніі, я думаў, што зараз паеду дадому і на гэтым мая гісторыя будзе скончаная. Я буду жыць, як і раней, як да тых падзей травеньскіх, калі мяне выкралі. Але не. Мне сказалі, што ўсё толькі пачынаецца. Што калі я зараз не пакіну краіну, то, магчыма, больш не змагу гэтага зрабіць. Мяне пачнуць зноў перасьледаваць, я зноў магу трапіць за краты. У дадатак у мяне быў абавязак адзначыцца ў міліцыі цягам трох дзён пасьля вызваленьня. Мне нічога не заставалася, як ехаць.

На адʼезьдзе настойвалі ў тым ліку і бацькі. Адразу пасьля вызваленьня яны хутка адвезьлі мяне ад будынкаў калёніі. Патлумачылі, што сы-

туацыя безвыходная і я павінен ехаць. Праз чатыры гадзіны пасьля вызваленьня я разьвітваўся з бацькамі на вакзале ў Менску.

Яны селі на маршрутку, якая адвезла іх у Горадню. А я на аўтобус, які мяне вывез за мяжу. Я нават не даехаў да Горадні, не пабыў дома. З бацькамі я бачыўся толькі ў аўтамабілі, пакуль ехаў да Менску. Цяпер мы размаўляем зь імі па тэлефоне, празь відэасувязь. Гэта лепш, чым знаходзіцца ў страху і чакаць кожны момант, што нехта па мяне прыйдзе. Магчыма, гэтага і ня здарылася б. Але рызыка неапраўданая ў маім выпадку. Мне трэба было выбраць, жыць на свабодзе ўмоўнай, але не адчуваць сябе вольным, альбо жыць у свабоднай краіне.

З моманту вызваленьня прайшло больш за тры дні, але пакуль мяне ў Беларусі ніхто не шукаў. Пра гэта я ведаю ад бацькоў.

За некалькі дзён да гарадзенскіх падзей я быў зь Сяргеем Ціханоўскім у Слуцку. Ужо пасьля вызваленьня даведаўся, што там для групы Ціханоўскага рыхтавалі групу захопу, аднак затрыманьне зь нейкай прычыны адбылося толькі праз тры дні на пікеце ў Горадні.

Нядаўна я даведаўся, што існуюць нейкія запісы перамоваў сілавікоў пра гэта. Сам яшчэ ня слухаў іх. Але мы і тады ведалі, што на нас ужо пачалі паляваць, былі такія чуткі. Як толькі мы зь Менску паехалі па іншых гарадах, то пачалося паляваньне. Але тады я проста зьбіраў подпісы, быў сябрам ініцыятыўнай групы. Мне нават у галаву не магло прыйсьці, што гэта можа быць нечым незаконным. Я і цяпер гэтага не разумею.

У матэрыялах маёй справы не было ніякіх доказаў віны, толькі асобныя, не зьвязаныя паміж сабой паперы і дакумэнты. Характарыстыкі, лісты на мой адрас, мае адказы людзям, якія пісалі мне. Прысуд на рукі атрымаў, калі быў у карцары гарадзенскай турмы. Зь яго і даведаўся, у чым сьледзтва ўгледзела найбольшае злачынства.

Гэта быў тапак, які я падарыў Ціханоўскаму як сымбаль пратэсту. Я нарэшце тады зразумеў, за што сяджу ў турме ўжо год. Гэта была асноўная мая віна. Пры гэтым з самім Ціханоўскім падчас сьледзтва я нават ня бачыўся. Сьледчыя органы ўвогуле не асабліва цырымоніліся з допытамі. У іх была хутчэй задача прызнаньня мной віны. Падрабязныя пытаньні сьледчы пачаў задаваць, ужо калі я быў на „Валадарцы“, праз два месяцы пасьля затрыманьня. Яны таксама хацелі, каб я нагаварыў на іншых хлопцаў таго, што б ім было зручна. Але я ня меў чаго сказаць. Яны хацелі, каб я агаварыў Ціханоўскага. Пыталіся, што ён гаварыў, якія лёзунгі выказваў. Але я нічога ня чуў. Гэта моцна не падабалася сьледчым.

Ціск на мяне аказваўся ў асноўным псыхалягічны, фізычна мяне пабілі толькі ў момант затрыманьня. Тады мяне ўдарылі ў твар, у выніку чаго я на нейкі час страціў прытомнасьць. Падчас сьледзтва і зьняволеньня ў калёніі на мяне ціснулі зьмяшчэньнем у карцар і штрафны ізалятар, а таксама пазбаўленьнем перапіскі з блізкімі.

Мне цяжка сказаць, пра што думаюць супрацоўнікі сьледчых органаў, якія вядуць палітычныя справы. Я магу меркаваць, што яны разумеюць, што сапраўды адбываецца. Наіўна думаць, што яны ня ў курсе таго, што робіцца вакол іх. Думаю,

яны абсалютна ўсё разумеюць. Я ведаю шмат выпадкаў, калі людзі са сьледчых органаў сыходзілі. Яны не маглі вытрываць хлусьню. А тыя, хто застаўся і працягнуў займацца сваволяй, для мяне загадка. Не разумею, як можна гэта рабіць узамен на сваё сумленьне.

За паўгоду сьледзтва сьледчыя ў мяне мяняліся пастаянна, пачалося гэта пасьля падзей 9 жніўня. Да таго маю справу вёў адзін чалавек.

Я 9 жніўня быў ужо ў жодзінскай турме. У той дзень ад самай раніцы ў нас пачалі правяраць камэры. Калі звычайна больш ляяльна гэта рабілася, то тады праверылі дасканала ўсё. Нават газэту нельга было пакінуць на непатрэбным месцы. Падчас праверак у дзьвярах камэры стаялі супрацоўнікі ў чорнай вопратцы, у балаклавах. Амбалы такія. Пэўна, гэта рабілася на выпадак пачаткаў бунтаў у турмах, нечага такога. Пра гэтых амбалаў я чуў пазьней і ў калёніі. Расказвалі, што там нават былі салдаты з вайсковай тэхнікай.

Пра падзеі 9 жніўня і наступных дзён у Менску я даведаўся толькі праз некалькі тыдняў. Пасьля 9 жніўня да мяне ў камэру нейкі час не прыводзілі новых вязьняў, іх колькасьць толькі скарачалася. Усе навіны я даведаўся на пачатку верасьня ад адваката.

Тады таксама пачалі прыходзіць лісты. Натуральна, наўпрост ніхто не пісаў мне аб пратэстах, але па нейкіх прыкметах можна было здагадацца. Таксама газэты. Асабліва выданьне „Новы час“ мне дапамагло, асноўная інфармацыя даходзіла да нас. Гэта было цудоўна. Азначала, што мы не дарэмна ўсё пачалі. Вядома, было страшна чытаць пра пакалечаных і забітых. Але трэба ўсё

адно дамагацца свабоды. Прыходзіцца нечым ахвяраваць.

У ліпені 2020 году мае маці і дзяўчына зладзілі галадоўку пратэсту супраць майго ўтрыманьня пад вартай. На працягу некалькіх дзён яны знаходзіліся ля сьценаў СІЗА №1 на вуліцы Валадарскага. У выніку мяне перавялі ў сьледчую турму Жодзіна.

Пра галадаваньне родных я даведаўся ад майго адваката. Бацькі таксама пісалі мне пра гэта ў лісьце, але я яго атрымаў толькі праз 40 дзён, калі быў ужо ў Жодзіне. Адваката да мяне таксама пусьцілі са складанасьцямі ў тыя дні. Сьледчы хацеў мне задаць пытаньні, і таму адвакат змог прайсьці.

Адразу я не падтрымаў учынку маці і сяброўкі. Галадоўка — гэта ўжо значыць, што няма выйсьця. Калі застаецца мучыць свой арганізм, псаваць здароўе. Я ня бачыў лёгікі, не разумеў таго, як галадоўка родных можа дапамагчы мне вызваліцца з турмы. Аднак пазьней я зьмяніў сваё стаўленьне.

Аказалася, што калі б не галадоўка, то мае блізкія не пазнаёміліся б зь людзьмі, якія ў выніку іх падтрымалі. Галадоўка маіх родных зблізіла людзей, якія мне цяпер дапамагаюць. У іх утварылася вялікая кампанія сяброў. Яны ўсе кантактуюць паміж сабой. Ведаю, што так нават утварылася адна пара, хлопец і дзяўчына закахаліся адно ў аднаго. Яны цяпер жывуць разам. Мне ўсё гэта было прыемна пачуць.

За час знаходжаньня за кратамі я пабываў у СІЗА №1 на вуліцы Валадарскага ў Менску, сьледчай турме №8 Жодзіна, перасыльным пункце ў Баранавічах, горадзенскай турме і віцебскай

каленіі. Паўсюль адміністрацыя старалася абмежаваць мае кантакты зь іншымі палітычнымі. Таму асабліва запомніўся толькі адзін такі выпадковы знаёмы.

Аляксей Галаўкін, я быў зь ім у горадзенскай турме. Яго пасадзілі за абразу Шуневіча і Караева ў інтэрнэце. Мы разам літаральна суткі пабылі, ён таксама з Горадні, з Фолюша. Я таксама там у Горадні жыў, ягоны бацька таксама вайсковец. Мы пагаварылі, я зразумеў, што гэта вельмі разумны чалавек. Інвалід зь дзяцінства, але працуе айцішнікам, дыстанцыйна. Было вельмі дзіўна бачыць, што такі разумны чалавек цяпер за кратамі за нейкія камэнтары ў інтэрнэце. Ён мог бы шмат добрага зрабіць для краіны. Цяпер ён у каленіі, яму далі тры гады.

У асноўным я сядзеў з крымінальнікамі. Пра сукамэрнікаў нічога дрэннага сказаць не магу, сярод іх былі пераважна адэкватныя людзі.

Магчыма, мне адміністрацыя такіх падбірала. Не садзілі невядома з кім. Здараліся невялікія сваркі, але я заўсёды стараўся ісьці на дыялёг, каб вырашаць сытуацыю. Галоўнае — падтрымліваць адзін аднаго, не рабіць нічога дрэннага. Не прыдумваць тэорый змовы, схемаў. Трэба быць самім сабой, гэта асноўнае ў зносінах з людзьмі. Зразумела, я ня думаў, што калісьці траплю ў турму. Заўсёды стараўся трымацца законаў. Ня лез у нейкія схемы. Але я дагэтуль лічу, што мяне асудзілі несправядліва. Я працягваю абскарджваць свой вырак. Трэба змагацца.

Да канца вясны 2020 году я ніколі не ангажаваўся ў палітыку і выбарчыя кампаніі. Сачыў за імі і ў 2010 годзе, і ў 2015-м, аднак думкі паў-

дзельнічаць самому не было. Яна магла б і не зьявіцца ў 2020-м, але ўмяшалася пандэмія. Я быў бяз працы, скончыў курсы праграмаваньня, пачаў вучыць ангельскую мову. Вольнага часу хапіла і на збор подпісаў.

Я не шкадую ні аб чым нават цяпер, пасьля турмы. Усё было б дарэмна, калі б не было тых падзей, якія адбыліся ў жніўні. Але яны адбыліся, таму я ні аб чым не шкадую. Зноў жа, гэта ня справа аднаго чалавека. Вельмі шмат зрабілі іншыя людзі. Сьвятлана Ціханоўская ня кінула ўсё, што было зроблена. Цяпер гэта сапраўды прэзыдэнтка краіны. Гэта крута. Нашая праца была недарэмнай.

Свой параўнальна невялікі тэрмін зьняволеньня я ацэньваю неадназначна. Нават гэтага зашмат для чалавека, які ня лічыць сябе вінаватым. З другога боку, паўтара года зьняволеньня на фоне вынікаў у 5-7 і больш гадоў выглядаюць ня так і значна.

Са сваёй дзяўчынай Вольгай я яшчэ ня бачыўся, сустрэча адбудзецца толькі праз некалькі дзён. Пакуль размаўляем зь ёй праз відэасувязь. Калі першы раз так пабачыліся, то я спытаў, ці яна мяне пазнала. Я яшчэ без барады, лысы амаль. Моцна схуднеў за той час, што быў у штрафным ізалятары. Яна плакала ад радасьці. Сказала, што пазнае. Гэта былі радасныя хвіліны.

Я вельмі моцна зьмяніўся, так. Думаю, гэтыя зьмены могуць пайсьці мне на карысьць. Але і дрэнныя звычкі турэмныя таксама зьявіліся. Працягваю пастаянна сачыць за тым, што гавару, за кожным словам. Лічу, гэта дрэнная звычка, ад яе неабходна пазбавіцца. Дагэтуль баюся званкоў у дзьверы альбо на тэлефон. Нечаканых гукаў. Мне

здаецца, што зараз па мяне прыйдуць і я зноў буду ў турме. З другога боку, ёсьць і добрыя звычкі. Я цяпер магу сам паклапаціцца пра сябе ў бытавым пляне. І ня толькі пра сябе, але і пра тых, хто навокал. У мяне зьявілася звычка дапамагаць усім. Гэта вельмі добра.

## Капітан сыходзіць апошнім

*Ягор Марціновіч, галоўны рэдактар „Нашай нівы“:*

Са мной не размаўлялі, мяне білі, ім было няважна, што я скажу. Пыталіся: „За каго галасаваў на выбарах?“ І адразу ўдар. „Хто зараз прэзыдэнт?“ Нават калі адказваеш, што Лукашэнка, атрымліваеш па галаве кулаком. Апэратыўнікі, якія везьлі мяне, самі крычалі „Перамен“, „Верым, можам, пераможам“ — і працягвалі біць мяне. Яны лічылі гэта вельмі сьмешным.

Пасьля таго, як улады разграмілі Tut.by — найбуйнейшае анлайн-мэдыя ў краіне — стала зразумела, што прыйдуць па ўсіх. Ці былі нейкія сыгналы, што будуць біць канкрэтна па нас? Ды не, проста ўсё вакол выбухала. Але мы працягвалі працаваць падкрэсьлена легальна.

Зь мяне сьмяюцца ня толькі зьняволеныя, але нават ахоўнікі, мне сорамна сукамэрнікам казаць, у чым мяне абвінавачваюць. Нібыта „Наша ніва“ плаціла за электраэнэргію не па тым тарыфе, па якім была павінна [для фізычных асобаў, а не для юрыдычных], і электрасеткам нанесена шкода на суму 3500 рублёў. Пры гэтым само прадпрыемства ніколі не зьвярталася да нас з прэтэнзіямі.

І нават цяпер, наколькі я ведаю, сьцьвярджае, што няма ніякай запазычанасьці.

Зь ліпеня са мной не праводзілася ўвогуле ніякіх сьледчых дзеяньняў. Мяне проста замкнулі з помсты за маю прафэсійную дзейнасьць. Самае складанае — разумець, што марнуеш час, які можна было б правесьці з карысьцю. Прычым гэта ведаюць усе ўдзельнікі — і сьледчыя, і пракуроры. Але яны жывуць па прынцыпе „вы самі ўсё разумееце“. І яшчэ цяжка ўсьведамляць, што гэтая сытуацыя вымотвае родных.

18-гадовы наркадылер, у якога за сьпінай ужо некалькі судзімасьцяў, разьвітваўся са мной словамі „Жыве Беларусь“. 22-гадовы турак, якому далі больш за 10 гадоў, адказваў мне „Дзякуй“ і „Смачна есьці“. У адну камэру трапілі фізрук і яго былы вучань.

Я сяджу зь вялікай колькасьцю самых розных людзей, якія шкадуюць пра тыя выпадкі ў жыцьці, што прывялі іх за краты. Але ў мяне не было таго моманту, калі або „так“ або „інакш“. Галоўны рэдактар ня можа ноччу зьехаць з краіны, а потым напісаць у рэдакцыйным чаце: „Я ў бясьпецы, а вы трымайцеся“. Капітан сыходзіць апошні, а ня першы. І я ніякім чынам ня мог адправіць зь Беларусі ўсю нашу каманду за мяжу, пакуль у нас заставаліся хоць бы нейкія ўмовы для працы ўнутры краіны.

Мяне і яшчэ 19 чалавек цяпер трымаюць у падвальным памяшканьні, дзе няма вокнаў і толькі невялікі праём пад столькю для вэнтыляцыі. Я задыхаюся і пакуль не магу падрабязна адказваць на лісты.

## Адчуваў нутром, што пайду сёньня дахаты

*Віктар Царыкевіч, 39 гадоў, былы палітвязень:*

Я адчуваў нутром, што пайду сёньня дахаты.

Зьбіраць жа няма чаго. Але трэба было рэчы разьмеркаваць: каму кіпяцільнік аддаць, некаму — кубак, камусьці печыва, шакалядку, вафлю, усім па крышку, не аднаму ж зваліць усё. Камусьці пінжак, швэдар, шапку, шкарпэткі новыя, зубную пасту, крэм для галеньня. Гадзіньнік зьняў з рукі, аддаў.

Праводзіць мяне выстраілася цэлая чарга ахвотнікаў. Падыходзілі цэлымі кампаніямі абдымацца, перадаць просьбы на волю, папрасіць нешта з рэчаў.

Звычайна людзі вызваляюцца ціха, амаль незаўважна. А мяне не хацелі адпускаць. Чаму так, ня маю адказу. Магчыма, сакрэт у маёй харызматычнай усьмешцы, якая падымала на зоне дух, а магчыма — у тым, што я не дзяліў сядзельцаў паводле пасадаў, не баяўся размаўляць з былым кадэбэшнікам і сябраваў з судзьдзём-хабарнікам. На „Віцьбе" адбываюць пакараньне многія былыя дзяржаўныя службоўцы.

Да вакзалу я дабраўся таксоўкай. Адтуль маршруткай на Менск і зь перасадкай на Шчучын, куды даехаў каля 17-й гадзіны. У кіроўцы папрасіў пазваніць жонцы, што неўзабаве буду. Высадзіўся на трасе.

І тут гляджу, да мяне з усіх бакоў па газонах бягуць людзі. Аблілі з галавы да ног шампанскім. Пачалі абдымаць. Плакалі, шмат плакалі, проста бяз словаў.

У першы тыдзень пасьля калёніі я зноў прывыкаю да волі, раблю хатнія справы, баўлю час зь сям'ёй. Хаджу штодня ў тым самым адзеньні, бо яшчэ не разабраў свае хатнія рэчы.

Як я сябе адчуваю, ня ведаю. То раптам галава забаліць, хоць я не хварэю, то есьці захочацца, паем, а празь пяць хвілін — зноў. Пакуль цяжка вяртацца ў звычайнае жыцьцё.

Палітычных паўсюль не бракавала. У кожнай камэры СІЗА са мной сядзелі па 2-3 чалавекі з палітычнымі справамі, на „Віцьбе“ цяпер каля 70 палітвязьняў. У калёніі тыя, хто стаіць на ўліку як „экстрэміст“, павінны насіць жоўтыя біркі.

Там 80% сядзіць ад тых 3%. Асноўная іхная мэта — абдурыць бліжняга, зьесьці спачатку чужое, а свайго не кранаць.

Чалавечнага на зоне нічога няма. Раней асуджаныя выконвалі абяцаньні, цяпер іх не прытрымліваюцца. Калі нехта нешта пазычыў іншаму, то наўрад ці яму гэта аддадуць. Чалавечнасьці з боку супрацоўнікаў таксама не сустракаў. Калі нехта і выглядаў добрым чалавекам, то баяўся гэта праявіць, каб яго не „здалі“ начальству калегі.

Палітычныя сталі адыходзіць ад „зэч'я“. Яны там кураць, „чаі ганяюць“, а мы зарадку робім, чытаем, іншую працу робім.

У калёніі я працаваў падсобным рабочым на дрэваапрацоўцы. За 4 месяцы зарабіў 4 рублі.

На прамзоне вітаецца ўсё тупое, дурное. Калі добрую падказку дасі, гэта не вітаецца. А калі прыдумаеш, як ускладніць жыцьцё ўсім, гэта ўхваляюць, каб дошку, прыкладам, прынесьці не напрасткі, а наўкола.

Было цяжка. Кожны дзень — як выпрабаваньне. Ня ведаеш, дзе будзеш праз хвіліну. У калёніі цяжэй, чым у СІЗА, бо зусім няма асабістага часу і прасторы.

Горадзенская турма вяртае ў сярэднявечча. На сьценах цьвіль.

Самыя цяжкія моманты — час карантыну і час у „стакане“, калі памяшканьне перанаселенае ў некалькі разоў, як шпроты ў бляшанцы. Цяжкім быў доўгі этап у калёнію. Рукі скутыя кайданкамі наперадзе, сабакі ногі ледзь не грызуць, а трэба несьці свае дзьве вялізныя торбы з рэчамі, закідваць іх у вагон. Гаворкі пра тое, што дапамогуць канваіры, няма.

Калі сьледзтва ў маёй справе завяршалася, мяне пасадзілі на 21 дзень у адзіночную камэру. Адтуль рэгулярна выклікалі на гутаркі. Ад мяне чакалі прызнальных паказаньняў або сьведчаньняў супраць іншых. Я нічога не сказаў.

Калі я праседзеў тыдзень у адзіночцы, у мяне ў камэры зьявілася адна мошка, маленькая мошка. Я так радаваўся, што я там не адзін.

Дробнай радасьцю было ўбачыць горад па дарозе на суд. Праз шчылінку ў замурзаным акне пабачыць вуліцу — гэта шчасьце. Я ня бачыў сьнегу гэтай зімой.

Каб выпрабаваць сябе на трываласьць пасярод штодзённых стрэсаў, у турме кінуў курыць. Аднак пры гэтым стараўся заставацца бадзёрым.

Можа, толькі адзін дзень сумаваў, калі ў дзіцяці быў дзень нараджэньня. Але не магу я доўга грузіцца... На Новы год было сумна, а потым усё роўна весела. Нехта запусьціў салют за брамай горадзенскай турмы.

Усьміхацца ў зьняволеньні не прынята. Калі супрацоўнік убачыць усьмешку, можа прыйсьці са „шмонам“, бо ўсьмешка сьведчыць, што чалавек не зламаўся, таму яму чыняць дадатковыя цяжкасьці. Але ўнутраны настрой — менавіта тое, чаго ня могуць забраць.

Я не баяўся ўсьміхацца. Ня трэба нос апускаць. Я першы, хто стаў там падымаць дух. Былі тыя, хто насы добра павесілі. Навучыў я іх вітацца, цяпер усе так вітаюцца (паказвае знак „вікторыі“ і сьціснуты кулак).

„Віцьба“ лічыцца паказальнай калёніяй, бо там сядзяць былыя пракуроры, сьледчыя, судзьдзі, бізнэсоўцы. Сярод вязьняў адчуваецца падзел паводле былых пасадаў. „Простыя людзі“ баяцца падыходзіць да „дзяржслужбоўцаў“, хоць і хацелі б запытацца парады ў сваіх справах. Я сам так не дзяліў людзей, а стасаваўся зь імі паводле чалавечых якасьцяў.

Я любому мог сказаць, што ён забойца, калі ён сядзеў за забойства. Не баяўся гэта гаварыць. Там так не прынята.

Зьняволенаму быламу кадэбэшніку, якому далі 15 гадоў за здраду дзяржаве праз перадачу сакрэтных дадзеных, казаў у твар, што той вінаваты.

Кажу: „Колькі б ты сам сабе даў, калі б сябе судзіў?“ — „Гадоў 7–8“. — „Вось і сядзі. Хто вінаваты, што сыстэма такая жорсткая? Ты сам сябе асудзіў. Ты злачынец. Ты хацеў 7–8, а сыстэма захацела 15“.

Праз тое, што я не баяўся, мяне пабойваліся супрацоўнікі. Калёну, у якой я ішоў на працу, маглі не пералічваць, не правяраць, апускалі вочы пры сустрэчы, пасьля таго, як я напісаў скаргу на іх у

Генпракуратуру. Яны адчуваюць, што ім за гэта некалі нешта будзе.

Чакаць нечага добрага ад супрацоўнікаў турмы ня варта, як і верыць ім. Калі іх будуць судзіць, пэўна, я буду адным зь нямногіх, хто скажа, каб іх не судзілі строга. Каб яны ўбачылі, што ня толькі зло бывае, каб яны адчулі, што можа быць нешта добрае.

30 траўня ў калёнію прыяжджалі прадстаўнікі Генпракуратуры, выклікалі па адным усіх, хто стаіць на ўліку па „экстрэмізьме“ і ўгаворвалі пісаць просьбу на памілаваньне. Пагадзіліся 6–7 чалавек. Аднак пазьней іхным сваякам у Генпракуратуры сказалі, што ніякіх папераў у іх няма. Пазьней іх выявілі ў Васкрасенскага. Цяпер вязьні ўжо не даяраюць такім прапановам.

Унутры калёніі нікога ня будуць асуджаць, калі яны напішуць прашэньні аб памілаваньні, бо гэта прыватная справа кожнага.

Што да агульнага настрою вязьняў, то я перакананы, што большасьць працягвае спадзявацца на хуткія перамены.

Да гэтага часу людзі там сядзяць з такімі думкамі, што вось-вось нешта пераменіцца. Нетрывалае ўсё, што будуецца на гвалце... Надзея там ніколі не памрэ. Кожны вечар па СТВ навіны. Гэта як закон — прыйсьці і паслухаць хаця б анонс — можа нешта памянялася.

Усё добра будзе. Ходу гісторыі не зьмяніць. Сядзець, павесіўшы насы, — навошта? Хай год, хай два, усё роўна нешта ж зьменіцца. Хай нават пяць. Трэба заставацца і будаваць краіну сваімі рукамі... Навошта тады было ўвогуле падымаць голаў?

## Пэрсанал турмы пераходзіў са мной на беларускую мову

*Глеб Койпіш, дырэктар студыі вэб-дызайну:*

Мне 36 гадоў. У нас з жонкай двое малых дзяцей. Я маю невялікую студыю вэб-дызайну ў Горадні.

Сёлета 25 жніўня на маёй старонцы ў фэйсбуку зьявіўся допіс „Прыйшлі“. Прыйшлі ў студыю шэсьць экіпаваных чалавек са словамі: „Рукі на стол“. З сабой прынесьлі інструмэнты ламаць дзьверы.

У губазіку са мной спрабавалі запісаць „пакаяльнае відэа“, аднак я не адказваў на пытаньні. Адмовіўся разблякаваць тэлефон. Паўгадзіны тлумачыў, што не хачу даваць доступ да асабістых фота сям’і і дзяцей. Побач стаяў чалавек, які ўвесь час разьмінаў суставы пальцаў на руках, але мяне ня білі.

Пасьля гэтага 3,5 месяца інфармацыі пра мяне ў публічнай прасторы амаль не зьяўлялася. Сваякі былі супраць публікацый і прасілі знаёмых не прыходзіць на суд.

Мяне трымалі ў горадзенскай турме. 9 сьнежня асудзілі на 2 гады „хіміі“ і выпусьцілі з-пад варты.

Мяне прызналі вінаватым ва ўдзеле ў пратэстах 10 жніўня 2020 году ў Горадні. Мой твар трапіў на здымкі сілавікоў. Я сваю віну прызнаў часткова — у тым, што знаходзіўся на месцы падзей. У той вечар сілавікі расьсеклі мне дручком галаву да крыві, зламалі палец на руцэ. На іх крымінальную справу не завялі.

За час турмы я набраў 2 кіляграмы вагі. Напісаў і атрымаў па сотні лістоў. Прачытаў больш

за 10 кніг. Навучыўся вязаць вяроўку з пакета ад хлеба і стаяць на руках. З маёй фірмы сышлі два супрацоўнікі, а адзін працаўладкаваўся. Пасьля гэтага этапу жыцьця я па-ранейшаму перакананы: „Кожны чалавек носіць сваё неба з сабой“.

Гэта толькі здаецца, што маўчаньне стварае бясьпеку людзям у турме. Я думаю, галоснасьць працуе на карысьць зьняволеных, бо яе баяцца. Трэба інфармацыю агалошваць. Але я вельмі ўдзячны сваёй сям'і, бо яны змагаліся за мяне.

Калі ты сябе файна паставіў у турме, то будзеш знаходзіцца там у нармальных умовах. Ня будзе пагрозы жыцьцю і здароўю. У мяне атрымалася шмат чытаць, працаваць, займацца спортам, гутарыць зь іншымі. Гэты досьвед асабіста для мяне быў вельмі карысны. З турмы я выйшаў мацнейшым.

Для сям'і гэта вельмі складана. Яны не разумеюць, што адбываецца з арыштантам, думаюць, што яго б'юць, не даюць есьці. На блізкіх звальваецца вялікая колькасьць побытавых пытаньняў. Нашай сям'і пашанцавала, бо ёй дапамагалі: вазілі сына на гурткі, рамантавалі аўтамабіль, трэнэр даў некалькі бясплатных заняткаў — гэта вельмі падтрымлівае эмацыйна.

Усё, што патрэбна чалавеку ў турме, — гэта ўвага да яго і веданьне, што ў сям'і ўсё ў парадку. Арыштанту хопіць проста лістоў: апошнія навіны, жартачкі, аповед пра сёньняшні дзень, якое прыгожае сонейка цяпер на небе. Дакладна ня трэба шкадаваць чалавека.

Я б, наадварот, даў параду арыштантам. Людзям на волі цяжэй. Таму вязьням трэба як мага больш падтрымаць сям'ю. Маёй галоўнай задачай

з жонкай на сьвіданцы ў турме было яе расьсьмяшыць.

У нас у студыі шматлікія працэсы былі завязаныя на мяне. Не было чалавека, які мог бы адначасна падхапіць усё. Але дзякуючы чалавечым і прафэсійным якасьцям каманда пераадолела гэты пэрыяд. Фірма працавала ўвесь гэты час.

95% кліентаў сказалі: „Мы ўсё разумеем, не хвалюйцеся“. Некаторыя прапаноўвалі дапамогу. Наш партнэр прапанаваў мне зь сям’ёй пераезд у Францыю.

Адразу ў мэдыя зьявілася няправільная інфармацыя праператрус у офісе, якога не было. Гэта адштурхнула патэнцыйных кліентаў. Многія думалі, што мы не працуем або працуем у абмежаваным рэжыме.

На волі я гаварыў па-беларуску зь беларускамоўнымі людзьмі і сынам. За кратамі трыгерам стала тое, што мы сустрэліся зь Дзянісам Івашыным, пачалі размаўляць па-беларуску, да нас далучыліся яшчэ некалькі чалавек.

Пэрсанал турмы, калі мне прыносілі перадачы, зьвярталіся на беларускай мове: Добры дзень! Вось вам гародніна, садавіна. Вось тут напішыце: „Атрымаў цалкам“. Гэта было вельмі прыемна. Зь бібліятэкарамі, лекарамі можна было паразмаўляць па-беларуску. Калі вярталіся з „гулкі“, я дзякаваў за яе, адказвалі: „Калі ласка“.

Кожны чалавек носіць сваё неба з сабой. У турме ёсьць свае правілы. Трэба азірнуцца і іх вывучыць. Але не абавязкова ўсіх іх прытрымлівацца. Ёсьць правіла дзяліцца інфармацыяй, хто куды заехаў, па якіх артыкулах; дапамагаць лю-

дзям у патрэбе, асабліва тым, хто заехаў на „кічу“ [у карцар]. Гэта ў турме называецца „людзкім“.

Сярод „вертухаяў“ таксама ёсьць добрыя людзі. „Шмон“ можна правесьці па-рознаму. Адзін чалавек перад тым, як мяне абшукаць, запытаўся: „Даруйце, я вас зараз абшукаю. Я нічога не зламаю ў вашых кішэнях?“.

У турме я пазнаёміўся зь цікавымі людзьмі. Сярод іх Артур Жвірыдоўскі з Астраўца. Ён прафэсійны трэйсэр, вучыў мяне паркуру. Гэта было весела. Я цяпер магу ўскочыць на другі паверх „шконкі“ адразу нагамі, а не азадкам.

Турма — гэта выдатнае месца, каб паразважаць. Час, каб зразумець, што ты робіш штодня, навошта ты гэта робіш, што галоўнае, што другаснае.

У турме можна шмат працаваць. У першыя тыдні ў мяне быў вялікі эмацыйны і мэнтальны ўздым. Я сьпісаў цэлы сшытак стратэгіямі па HR, продажах, вырабе прадукцыі.

Зараз раскажу, як выйсьці з турмы ў добрым эмацыйным і фізычным стане. Я прачытаў артыкул па эмацыйным інтэлекце. Там былі тры парады:

рэалістычна ўспрымаць рэчаіснасьць (горш за ўсё ў турме тым, хто спадзяецца „на наступным тыдні выйсьці“);

цаніць сваё жыцьцё ў канкрэтны пэрыяд;

умець рабіць нешта з абмежаваных рэсурсаў і хутка прымаць рашэньні ў нестандартных сытуацыях.

У турме варта жыць паўнавартасным жыцьцём з улікам абмежаваньняў. У турме нельга мець вяроўку, але яны неяк вяжуцца, нельга мець нож, але нечым там рэжуць каўбасу.

У турме я зразумеў, што варта атрымліваць асалоду ад кожнага моманту. Кожнаму варта час ад часу запавольвацца і разважаць, куды ён бяжыць. Варта больш часу праводзіць зь сям'ёй і сябрамі.

Я вырашыў яшчэ год таму: пакуль ня будзе фізычнай пагрозы маёй сям'і, мы застаёмся тут. Калі мы цяпер зьедзем у іншую краіну, дзеці пойдуць у школу зь іншай мовай адукацыі, завядуць свае сяброўствы. Я пачну новы бізнэс за мяжой. Тады мы наўрад ці некалі вернемся ў Беларусь. Жонка цалкам падтрымлівае мой выбар.

Яшчэ раз скажу: вязьням варта заставацца бадзёрымі і перадаваць гэтую бадзёрасьць родным. Блізкім на волі варта аб'яднацца і таксама перадаваць сваю бадзёрасьць арыштанту. Тады гэты час стане прыгодамі, а сям'я — мацнейшай.

## Лепш адбыць прыдуманы тэрмін, чым разьвітацца з радзімай

*Андрэй Кузьнечык, журналіст Свабоды*
*(у лісьце перад арыштам):*

5 прычынаў заставацца ў Беларусі.

Я з 13 гадоў жыву беларушчынай, паступіў на філфак дзеля яе, жыў і працаваў з арыентацыяй на яе, цяпер мне за 40, але рэч ня ў тым, што позна пачынаць з нуля, рэч у тым, што я не хачу збочваць зь сьцежкі працы на карысьць беларушчыны.

У цяперашніх умовах мне здаецца меншай пакутай адбыць у вязьніцы прыдуманы тэрмін, чым разьвітацца з радзімай на няпэўны (аж да скону)

час (хоць тут я магу фатальна памыляцца ў тым, наколькі далёка могуць зайсьці рэпрэсіі).

Я лічу, што дзеці, узгадаваўшыся ў небеларускім асяродзьдзі, стануць носьбітамі каштоўнасьцяў гэтага асяродзьдзя, а Беларусь — адзінае месца на Зямлі, дзе гэтае асяродзьдзе мы маем, можам ствараць і разьлічваць на яго.

Я бачу, што суседнія краіны ствараюць свой гістарычны міт на падмурку, часам адрозным і нават супярэчным беларускаму.

Я бачу, што перад суседнімі зь Беларусьсю краінамі стаяць выклікі, якія могуць запатрабаваць ня меншай ахвярнасьці, чым цяперашняя сытуацыя патрабуе ад беларусаў сёньня.

## Пушкін — як Ніна Багінская, толькі мужчына

*Арцём Сасьнін, палітвязень:*

Мне далі 3 гады „хатняй хіміі“ за фатаздымак, зроблены 18 кастрычніка 2020 году. Мяне сфатаграфавалі на маршы ў Менску. Фота апублікаванае ў сацыяльных сетках Радыё Свабода.

Я ішоў, фатограф прапанаваў мяне зьняць, я быў ня супраць, зьняў маску, ён мяне сфатаграфаваў, і мы разышліся. Здымак я ўбачыў у той жа дзень 18 кастрычніка, пад ім было яшчэ шмат камэнтаў кшталту „Замажце твар чалавеку, а то мала што яшчэ зь ім будзе“. Я яшчэ з гэтага пасьмяяўся, думаю, ну і добра. І вось 8 верасьня 2021 году да мяне прыйшлі праз гэтае фота. Я меркаваў,

што рана ці позна па мяне прыйдуць, я да гэтага трошкі рыхтаваўся.

Я прачнуўся а 6-й раніцы, пайшоў на прабежку. Калі вярнуўся, мне патэлефанаваў сябар, маўляў трэба выйсьці пагутарыць, я ўключыў гучную сувязь, каб мама мая таксама пачула, і сказаў ёй: „Ну ўсё, мама, напэўна, гэта па мяне, бо нумар тэлефона не паказваецца“. Гэта я жартаваў. Калі ж я выйшаў на вуліцу, прайшоў пару мэтраў, мяне з усіх бакоў акружыў губазік. Мама потым сказала, што з пад’езду за мной выйшаў іншы хлопец, высокі, у кепцы, які мяне потым затрымліваў. Выявілася, што яны за мной сачылі ўжо тады, калі я быў на прабежцы. Таму потым задавалі мне пытаньні, чым я займаўся, куды хадзіў.

Мяне затрымалі, забралі тэлефон, закінулі ў бус і зрабілі пару кругоў вакол дому.

Мы пасядзелі ў бусе, яны задалі некалькі пытаньняў, навошта я езьдзіў ва Ўкраіну (хаця я ня быў там), дзе я яшчэ жыву (хаця ў мяне толькі адна прапіска). Маўляў, пойдзем да цябе дадомуператрус рабіць. Я сказаў маме, што ў нас госьці. Яны забралі ў мяне касьцюм, у якім я быў на фатаграфіі, дзьве майкі з „Пагоняй“ і паперы экспэртызы фіксацыі пабіцьця.

Раней, у самыя жорсткія дні жніўня 2020-га, я адседзеў арышт на Акрэсьцна. У мяне засталіся аўдыёзапісы момантаў, калі мяне і іншых людзей закідвалі ў бус, дакумэнты з пацьверджаньнямі пабіцьця. Я падаваў гэта ўсё ў сьледчы камітэт, але справу закрылі, нібыта праз недастатковую колькасьць доказаў.

Усе паперы сканфіскавалі, адвезьлі мяне ў губазік, там я даў паказаньні, мяне запісалі на відэа

для „Жоўтых зьліваў“, але я там сябе не знайшоў, напэўна, занадта ўсьміхаўся. Мне сілавік нават сказаў: „Будзь больш сумным“. Потым мне іхны галоўны казаў: „Ты мо падкажы нам сваіх знаёмых і сяброў, зь якімі ты меў зносіны, мы можам ім дапамагчы. Лепш мы іх выцягнем з гэтай усёй сытуацыі, і табе таксама будзе ад гэтага добра“. Далей мяне на 10 дзён адправілі на Акрэсьціна, бо ў іх яшчэ не было абвінавачаньня.

Толькі на 9-ы дзень мяне наведалі сьледчы і адвакат.

Адваката я браў дзяржаўнага, свайго наймаць няма сэнсу, бо ўсёй міліцыі „зялёнае сьвятло“, быў бы чалавек, а артыкул заўсёды знойдзецца. На 9-ы дзень мне выставілі абвінавачаньне, паказалі фатаздымак гэты на Свабодзе. Адразу прыпісалі тры артыкулы, але потым пакінулі толькі 342 ч.1 („Арганізацыя дзеяньняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак“).

На Акрэсьціна ўсе „палітычныя“ ў маёй камэры спалі без матрацаў на голых шконках. Кожныя тры гадзіны была праверка асабістых рэчаў, падымалі па некалькі разоў уначы, сьвятло не выключалі. Перадачу аддалі толькі праз 10 дзён, калі перавялі на „Валадарку“, дзе я пабываў у камэрах з 8, 12 і 24 чалавекамі.

У апошняй „хаце“, дзе былі 24 чалавекі, трохпавярховыя шконкі, а само памяшканьне ўсяго 8 на 5 мэтраў. Дыхаць няма чым, усе кураць, крычаць. Кармілі там добра, але рацыён абмежаваны і хутка надакучвае. Калі я захварэў і выклікаў фэльчара, ён толькі памераў тэмпэратуру (яна была высокая) і проста даў мне таблеткі, хоць мне было вельмі кепска, ламала косткі, балела

галава. Вірус хадзіў па СІЗА доўга. Чалавек мог пару разоў захварэць і пару разоў ачуняць за час знаходжаньня там. Праз тое, што наша камэра была ў падвальным памяшканьні, „Шанхай“ называецца, нам дазволілі карыстацца вэнтылятарам, бо дрэнна цыркулявала паветра. Таксама ў нас былі прусакі і мышка, якую мы неспэцыяльна падкормлівалі.

Усе лісты там праходзяць праз цэнзуру. І калі хоць трохі пачынаеш апавядаць, як у камэры жыць, або пра справу, то ліст адпраўлялі назад. Нашы ішлі ад 15 дзён, ад усіх палітычных лісты спэцыяльна затрымлівалі, бо ў звычайных людзей яны ішлі да 10 дзён. Хаця ўсе лісты ў Менск.

Я пасьпеў пазнаёміцца і паразмаўляць з мастаком Алесем Пушкіным, якога акурат перавялі з Жодзіна. Яго ўсе ведаюць, ён як Ніна Багінская, толькі мужчына. Яго тады прывезьлі да нас, бо хацелі адправіць у псыхдыспансэр на праверку на 21 дзень. Мы не пасьпелі нармальна пагаварыць зь ім. Але ён быў максымальна пазытыўным. Мы разам пабылі дзень-паўтара, і ён увесь час расказваў нам пра гісторыю Беларусі з 1994 году — як усё было. Ён быў зараджаны такі мужчынка.

За ўвесь час на „Валадарцы“ я пазнаёміўся з 15 палітычнымі.

У многіх камэрах ёсьць шахматы або нарды, шмат людзей гуляюць, пішуць лісты, малююць, размаўляюць. Калі ёсьць прастора, спортам займаюцца. Там вельмі шмат разумных, цікавых людзей. У СІЗА вельмі добрая ўнутраная бібліятэка. Ты проста пішаш, што табе трэба, і калі гэта ёсьць, то прыносяць.

У агульных камэрах не было моцнага прэсінгу, але да некаторых палітычных ставіліся асабліва жорстка.

Быў хлопец, у якога экстрэмізм, тэрарызм і яшчэ нешта, яго заўсёды выводзілі ў кайданках, галаву ўніз і ўсё такое. А так у агульнай камэры не было моцнага прыгнёту. Калі браць іншыя камэры, дзе 8 палітычных, напрыклад, то да іх больш жорстка ставяцца, у іх забіраюць тэлевізар, нельга днём ляжаць на шконках. Але вось дзе асабіста я быў, было даволі ляяльна.

10 сьнежня адбыўся адкрыты суд нада мной. Судзьдзя і сьледчы спрабавалі справакаваць мяне на паказаньні, якія маглі пагоршыць сытуацыю. Яны задавалі пытаньні, на якія цяжка адказаць, бо прайшло шмат часу, больш за год. Толькі ім гэта было нецікава, і яны маглі адно пытаньне задаць тройчы, пакуль не пачуюць адказ. Калі зачытвалі маю справу, я ўсьміхаўся, бо гэта быў такі сюррэалізм. І сябры, якія былі на маім судзе, казалі, што гэта было нейкае трызьненьне.

Суд цягнуўся два дні.

У іх на мяне, акрамя фатаграфіі, нічога не было. Толькі яны ўсё роўна мусілі мяне пакараць. Я прыняў тое, што яны мне ставяць у віну, і мо праз гэта так лёгка яшчэ ўсё прайшло. Але насамрэч доказаў не было ніякіх, акрамя здымка на Свабодзе. Такая фатаграфія маёй віны аказалася. І ў іх была задача дапытаць мяне, ці ведаю я яшчэ якіх-небудзь людзей, ці быў я на дарозе. Калі б я быў не на дарозе, то гэта было б проста 15 сутак. Але як толькі бачаць, што вы на дарозе, то прыпісваюць 342 артыкул, частку 1 („Блякаваньне грамадзкага транспарту“).

Цяпер мне ад Менсктрансу выстаўлены пазоў на 24 тысячы рублёў за перакрытую дарогу.

Пазоў можа быць ад 24 да 60 тысяч. Са мной сядзеў мужчына, якому быў пазоў на 60 тысяч. Яны прыпісваюць такую суму за цэлы дзень. Калі ж зловяць за марш у гэты дзень больш людзей, то яе падзеляць. Таксама яшчэ пад арыштам застаюцца мае тэлефоны, якія правяраюць. Іх могуць адправіць у якасьці кампэнсацыі Менсктрансу.

Зараз ідзе выпадковае вылоўліваньне людзей. З дапамогай розных фатаздымкаў яны бяруцца за любога чалавека і „раскручваюць" яго. Цяпер яны бяруцца за фота, зробленыя на дарозе. І нават калі ты быў не на дарозе, у цябе могуць спытаць: „Ці заходзіў ты на яе?". Калі так, то пачынаюць разьвіваць гісторыю паводле 342 артыкула. Для іх галоўнае — забраць тэлефон або кампутар і там выявіць нешта, што можа дапамагчы. Правяраюць усе нумары праз базу.

Нягледзячы на ўсё, што са мной адбылося, я настроены аптымістычна. Для мяне гэта новае выпрабаваньне, якое трэба проста выкарыстоўваць. Гэтыя 3 гады „хіміі" цяпер мне для таго, каб я пачаў займацца сваім. Атрымаў дык атрымаў, значыць так было наканавана. Калі б не за гэтае фота забралі, то маглі забраць за нешта іншае. Як я ведаю, яны рабілі „маніторынг" усёй зоны, адпаведна яму проста выбіраюць людзей. Рана ці позна знойдуць усіх.

Таксама праз усю гэтую сытуацыю зьмяніліся стасункі ў сям'і. Мама раней ставілася сярэдне да ўсяго — ні туды, ні сюды. Як толькі гэта ўсё адбылося са мной, яна стала бліжэй да мяне. Калі мяне забралі, маці засталася адна. Яна ня траціла

надзеі, што мяне хутка адпусьцяць, але так не адбылося. Падтрымлівала мяне, прывозіла штотыдзень перадачы (так званы „кабанчык“). Пакуль я там быў, я атрымаў ад яе 13 лістоў, у кожным яна падтрымлівала мяне духоўна і маральна. Я ёй вельмі ўдзячны, надалей нашыя адносіны будуць мацнець з кожным днём.

А бабуля заўсёды была за Лукашэнку. Нават пасьля маёй сытуацыі яна кажа: „Нельга ж так!“. Але ўсё роўна яна пачала лепш ставіцца. Гэтая справа нават умацоўвае стасункі дома. Знаёмыя кажуць мне: малайчына, герой. Я таксама неяк раней думаў зьехаць з краіны, але ў мяне мама і бабуля застануцца, а я не магу іх кінуць адных.

## Калі мы ажэнімся, я хачу ўзяць яе прозьвішча

*Валера Тамілін, сябра былой студэнткі Яні Арабейкі:*

Мы пазнаёміліся ў ліпені, яўна адно аднаму спадабаліся, бачыліся некалькі разоў, калі яна была тут, у Менску. Пасьля мы сумаўляліся меней, бо я ляжаў у лякарні, потым хварэў, ну і плюс у цэлым быў заняты нейкімі living рознымі справамі і на працы, і так. Ну і я на той момант сустракаўся зь дзяўчынай, але мы больш сябравалі, чым сустракаліся. І ўсё ішло да таго, што ўсё скончыцца. А потым Яню калі зьвінцілі, у сэнсе, ня толькі Яню, калі ўсіх арыштавалі, ну ўсё, я напісаў ёй вялікі ліст пра тое, што тыпу такія дзялы, што я адчуваю, што я думаў там сабе. Ну і як бы з кантэксту стала

зразумела, што я таксама ёй падабаюся. Мы вырашылі, што вось як бы яна выйдзе і мы прадметна абмяркуем, ці будуць у нас адносіны і калі будуць, дык у якім фармаце і гэтак далей.

Памідор, гурок, перац, зьвярніце ўвагу, сыр, штосьці ўсякія цукеркі. Ну і чыпсы. Арэхаў яна прасіла не перадаваць, у яе іх занадта шмат. Парадак… Напэўна, сумарна на ўсё, на лекі, на гэта ўсё… Ну я ня ведаю. Вось цяпер напэўна з выданьнямі, якія ёй выпісваюць, рублёў 800 дакладна выходзіць, можа крыху больш.

„Яшчэ сьніўся сон з табой. Увогуле я сядзела на судзе, і ты там таксама быў. І я ня памятаю чаму і як, але ў мяне з галавы цекла кроў. І ў цябе таксама. І яшчэ больш. І да канца суду ты сядзеў і прамакаў гэтае месца сурвэткай. Але тыпу нічога не спынялася. Гэта можа гучыць крыпова, але мне ў сьне было ok. Сказалі, што сон добры і ён значыць, што мы зблізімся ці тыпу таго. Я была радая“.

Ну плянаў канкрэтных як бы няма, але ў цэлым у нас была ідэя зь Яняй ажаніцца, калі яна паедзе ў калёнію, каб я мог насіць перадачы і ў цэлым як бы болей у мяне было магчымасьцяў для камунікацыі зь ёй. Ну таму што ў калёніі толькі як бы сваякі могуць большую частку рэчаў рабіць, у адрозьненьне ад СІЗА.

Калі мы ажэнімся, я хачу ўзяць яе прозьвішча. Бо, па-першае, яно мне больш падабаецца, чым маё. Па-другое, таму што гэта спосаб хутка і легальна зьмяніць ідэнтычнасьць публічную ў прынцыпе, у мяне была такая ідэя даўно — што я зьмяню прозьвішча на прозьвішча жонкі. Усе мяняюць тыпу на прозьвішча мужа, але я ня бачу ў гэтым прыкола.

Яня студэнтка БДПУ, я думаю, ужо былая. Вучылася яна на трэцім курсе на настаўніка выяўленчага мастацтва. Яня любіла маляваць. Яня любіла падарожнічаць, усякія прыкольныя штукі любіла.

„Сёньня перабірала пакеты і выявіла, што ў мяне вельмі шмат арэхаў, асабліва грэцкіх. Так што калі што, не перадавай. Ок? — наступны аркушык. — Атрымала ад цябе перадачку. Дзякуй! Там былі арэхі».

Блін!

Першы дзень суду мяне не пусьцілі спачатку. Потым мы дамовіліся зь яе бацькамі, што яны сыдуць, а я прыйду. Ну ўсё, я прыйшоў, усе былі вельмі задаволеныя мяне бачыць. Калі зразумелі, што гэта я. Ну і Яня, і Алана і ўсе. Невялікая заля, напэўна, чалавек на 25 гледачоў. Зьлева дзьве клеткі, у іх як бы хлопцы і дзяўчаты і Філатчанкава Воля. Ну судзьдзя нешта там судзіць, нешта чытае. Пытаецца, сьведкі нешта там кажуць. Сакратар нешта там піша.

Першы раз усе плачуць на судзе, я вось заўважыў. І мама мая, калі прабілася, і сяброўкі Яніны. І яе сваякі. Першы раз ну гэта такое тыпу пачуцьцё эўфарыі. У сэнсе, нешта адбываецца нерэальнае. Ну а потым ужо прызвычайваесься, ходзіш як на працу.

Чаканьняў ад суду ў мяне няма ніякіх, бо, шчыра кажучы, у Беларусі цяпер увогуле не зразумела, што адбываецца. І таму я нічога не чакаю асабліва. Проста я гатовы дапамагаць Яні і ўсім астатнім колькі спатрэбіцца, ну а там будзь што будзе. Ад мяне напрасткі гэта не залежыць. І таму я прыму як бы любое рашэньне суду. Відавочна, хацелася б каб у іх была „хімія“ ці „хатняя хімія“. Пажада-

на „хатняя хімія“, відавочна, каб яны маглі жыць нармальнае жыцьцё. І на „хіміі“ можна хаця б вучыцца, напрыклад. Ну завочна, ну ўсё адно. Але як бы мяркуючы з апошніх тэндэнцыяў і мяркуючы з абвінавачаньня, абсалютна вар'яцкага, ёсьць адчуваньне, што будзе калёнія.

Нічога ня зьменіцца для мяне. Буду далей насіць перадачы. Потым буду чакаць яе этапу ў калёнію. Потым будзем думаць, жэнімся мы ці не. Ну і потым як бы ў залежнасьці ад гэтага нешта таксама... То бок калі мы жэнімся, то я сам буду насіць адпаведна пасылкі, перадачы. Калі ня жэнімся, буду адпаведна як бы праз сваякоў гэта рабіць.

## Прывыкаеш-прывыкаеш, а тут шчоўк, і трэба зноў адвыкаць

*Лявон Халатран, валянтэр штабу Віктара Бабарыкі:*

Мяне выклікаюць у пятніцу і даюць тры дні, каб зьявіцца. Дэдлайн 20.00 у нядзелю, вось так. Калі нават хвіліннае спазьненьне, можна паехаць у СІЗА зноў.

Я, шчыра кажучы, нават яшчэ і не пачаў зьбірацца. Я яшчэ на этапе — думаю, што ж мне з сабой узяць. Ну я так прыкінуў, што трэба ўзяць якісьці мінімум адзеньня. Усё адно там ніякіх прамэнадаў ня будзе. Проста ты дома ці на працы ці едзеш на працу і ўсё. Я ўласна і тут у Менску хаджу практычна ў адным і тым самым, таму з гэтым пытаньняў няма. Спартовы строй, джынсы там,

пару красовак, байка, куртка. Вось ня ведаю, ці браць зімовыя рэчы. Ну я думаю, што прывязуць.

Спачатку было вельмі журботна. Ну, я думаю, яшчэ будзе журботна. Але канкрэтна цяпер я пачаў неяк нейкія дзеяньні ажыцьцяўляць, ня ведаю там, думаць, як паехаць, хто павязе, як тут правесьці апошнія дні. І неяк насамрэч лягчэй маральна стала, бо адчуваньне падвешанага стану — гэта стамляе вельмі моцна. Бо ты ня ведаеш, калі, як будаваць пляны, а тут ужо хоць бы нейкія тэрміны ёсьць.

Посуд, талерка, ежа, пасьцельнае, напэўна, трэба таксама ўзяць. У турме было класна, там усё табе даюць, увогуле ня трэба парыцца. І посуд і ўсё-ўсё-ўсё. А тут… Зараз хлопец паехаў у Гомель, там няма нават пральных машын. Дзе-нідзе яны ёсьць на „хіміях“, а дзе-нідзе няма.

Я законапаслухмяны чалавек, я законы выконваю. Нават у такой сытуацыі, калі гэты прысуд незаконны, але ок, ладна, я ж не магу не падпарадкавацца. Я проста веру ў тое, што рана ці позна ўсе гэтыя прысуды, справы будуць перагледжаныя і тыя, хто выносіў заведама фальшывыя прысуды і хто заводзіў заведама беспадстаўныя, сфабрыкаваныя справы, яны па тых жа законах і адкажуць. У крымінальным кодэксе ўсе гэтыя артыкулы ёсьць.

Кнігі, я іх вазьму, бадай. Вось „Ідэальны кіраўнік“ называецца. Я ўжо не кіраўнік, але магу ўзяць. А вось „Выбары зьвяроў“. Тут расказваецца пра выбары, але для дзяцей. Але я яе браць ня буду. Пакіну сыну. „Зьядаць іншых кандыдатаў забаронена“. Вось. Апошняе правіла ў нас было парушана канкрэтна.

Мой сын ня бачыў і ня чуў мяне паўгоду. Ён бачыў толькі лісты, малюнкі і з мамай размаўляў пра тое, што тата недзе там. І таму калі мы сустрэліся, ён адрэагаваў як нармальны дзяцёнак, ён моцна адвык і яму спатрэбілася літаральна пару дзён, каб прывыкнуць назад. Дзеці плястычныя, і з нас траіх найбольш лёгка перанёс складанасьці ён. А мне і ў турме гэта было найбольш складана, і цяпер мне сумна праз гэта, што я ня буду бачыцца ці мала бачыцца зь ім, ня жыць разам, не праводзіць час разам. Гэта мая асноўная трывога.

Былі і цяжкія моманты насамрэч. Сямейны момант. Мы паўгоду жылі ня разам, адвыклі, прывыклі да нейкага іншага ладу жыцьця і тут шчоўк, і трэба зноў прывыкаць адзін да аднаго. Прывыкаеш-прывыкаеш, а тут шчоўк, і трэба зноў адвыкаць. Потым — зноў, вярнуся… То бок вось гэта вось… У дамашнім сэнсе складана даволі. Ну гэта канкрэтна ў нашай пары так.

Ну ў мяне ўжо даўно не было такой працы, што я проста павінен ісьці кудысьці там працаваць. Зараз пайду на нейкую работу, дзе трэба ўставаць, кудысьці ехаць, нешта там рабіць, камусьці падпарадкоўвацца.

Думаю ўзяць навушнікі, шчотку зубную, думаю, узяць звычайную ці электрычную. Ноўтбук нельга, прынамсі адразу. Там павінны дазволіць. Пляншэт тое самае.

Я як бы не баюся фізычнай працы. Адзінае, што я не аграмадны, не асабліва дужы. І асабліва нічога там ня ўмею. На будоўлі… Але ў прынцыпе мне гэта не асабліва страшна. Але хацелася б, каб там было нешта цікавае. Асабліва калі там нейкі новы навык зьявіцца, дык гэта ўвогуле здорава.

# *ЦЫТАТЫ ПРАЗ КРАТЫ*

## *Твае духі зацанілі ўсе*

*Увогуле зазначу, што ў наш час эпісталярны жанр (і ўвогуле, шырэй — эпісталярная культура) напаткалі прыемныя зьмены. Ён узбагаціўся прыемнымі дробязямі — адмысловай паперай, малюнкамі, налепкамі, маркамі, цікавымі тэматычнымі канвэртамі і інш. 30 гадоў таму, калі я служыў у войску і актыўна карыстаўся ліставаньнем, нічога гэтага не было. Нават смайлікаў :))) Лісты выкарыстоўваліся як сродак перадачы інфармацыі. Цяпер ня тое!)) Зараз разам з інфармацыяй мы шырока выкарыстоўваем новыя сродкі (і „фішачкі“!), каб перадаць ня толькі інфармацыю, але і наш настрой, і нашыя пачуцьці. Гэта выдатна!* Вітольд Ашурак

*Я ня ведаю, як гэта працуе, але, відаць, дзякуючы намаляванаму коціку ліст я атрымаў. Прычым вельмі хутка. Можа быць, ва ўсіх лістах трэба маляваць коцікаў? А раптам? Я, вядома, не мастак ні разу. Але спроба не хвароба.* Дзьмітры Папоў

*Я чуў, што ўсе СМІ пазакрывалі. Ня думаў, што дажыву да такіх часоў. Нібыта Оруэла з кнігі ў жыцьцё ўвасобілі. У нас тут толькі БТ, і я карыстаюся парадай прафэсара Праабражэнскага наконт савецкіх газэт і тэлевізіі.* Павал Сьпірын

*Я вось пішу вам цяпер адказ, а ўжо два маіх лісты знаходзяцца ў дарозе да вас (а магчыма, ужо і*

*болей). То бок атрымліваецца, што мы пішам адказы на пазамінулыя лісты. Такая вось машына часу. :) Але самае галоўнае, што сувязь ёсьць.* Андрэй Аляксандраў

*Паштоўка выклікала ўсьмешку. Каб ты разумела, тут такія эмацыйныя моманты, як сэнтымэнтальнасьць, душэўнасьць, пачуцьцё гумару ўзмацняюцца і атрымліваюць гіпэрбалічны характар. Таму ўсьмешку ў мяне выклікаюць нават самыя простыя паштоўкі, ня кажучы ўжо пра такія мілыя.* Цімур Піпія

*Ваш ліст я адкрыў у цёмнай камэры, куды не трапляе нават промень сонца, бо на вокнах, акрамя кратаў, яшчэ і мэталічныя пласьціны. Ваш ліст быў сонцам, надзеяй, якая нясе водар свабоды, шчасьця, будучага жыцьця. Гэты водар зьвязаны ў мяне з пахам сьвежазваранай кавы, якую я як бармэн умею прыгатаваць і ў кампаніі аматараў футболу выпіць яе.* Аляксандар Сузько

*Не паверыце, ваш ліст прыйшоў у тую хвіліну, калі на душы зьявіўся сум і туга. Вельмі вы мяне выратавалі ў гэтую хвіліну, дзякуй вам за гэта. Працягвайце пісаць людзям, гэта цяпер вельмі неабходна ўсім нам.* Аляксандар Драздоў

*Дзякуй за паштоўкі і інфармацыю пра цэны на Камароўцы. Лісты ідуць доўга, і я так разумею, што асартымэнт за гэты час ужо памяняўся. Можа быць, ужо ёсьць сьвежыя яблыкі? :-))* Марына Золатава

*Ад мяне і ад усіх маіх суседзяў і, нават думаю, ад супрацоўнікаў нашага гатэлю, якія адказваюць за праверку лістоў, вялізны дзякуй за букет нюхальных адчуваньняў! Мы, вядома, адвыклі ад разнастайнасьці пахаў, але твае духі зацанілі ўсе.*
Яўген Афнагель

## Я атрымліваю лісты безь лістоў

*Натальля Хершэ, 51 год,*
*грамадзянка Беларусі і Швайцарыі:*

Тое бязладзьдзе, якое творыцца з маёй карэспандэнцыяй, я цярплю толькі адзін месяц. Перадай адвакату, што яна павінна падрыхтаваць зварот да адміністрацыі калёніі. Я атрымліваю лісты безь лістоў. У канвэртах знаходзяцца чыстыя аркушы для адказу, чыстыя паштоўкі, чысты канвэрт, і гэта ўсё. Карэспандэнцыю адсейваюць на наяўнасьць палітычных навінаў. Сёньня была ў начальніка папраўчай калёніі №4 адносна зьнішчаных лістоў. Начальнік сказаў, што там былі цынічныя выразы. Я вельмі сумняюся, што ўсе 28 лістоў утрымлівалі нешта падобнае.

## Могуць дадаць тэрмін, калі атрымліваеш лісты ад незнаёмых

*Міхаіл Беркас, 21 год, Ворша:*

Мяне затрымалі як падазраванага ў тым, што нарабіў па Воршы надпісаў „Жыве Беларусь“ і „3%“. 24 лютага судзьдзя Аршанскага суду Мікалай Драгуноў пакараў мяне месяцам арышту. Сваю віну я прызнаў. Сукамэрнікі ставіліся да мяне нармальна і нават падтрымлівалі. Часам „жартавалі“,

што мне могуць дадаць тэрмін „за палітыку“. Пагатоў калі пачаў атрымліваць лісты ад незнаёмых людзей. Асуджаныя выпытвалі, чаму я рабіў надпісы. Я казаў, што гэтак пратэставаў і паказваў, што ня ўсе абыякавыя да таго, што творыцца ў краіне.

## Пісаць палітычным небясьпечна

*Сяргей Ціханоўскі, палітвязень:*

Твой ліст атрымаў. Ён першы і пакуль адзіны ў гомельскім СІЗА. Хто хоча — няхай пішуць. Але не забываюць, што пісаць палітычным у Беларусі небясьпечна. Мне многія пісалі, што пасьля да іх прыходзіў участковы і пытаўся: „Навошта вы пішаце?“.

## Чаму я пішу на абрыўках паперы

*Дар’я, жонка зьняволенага журналіста Ігара Лосіка:*

У мінулую суботу 23 верасьня атрымала ліст ад Ігара, у якім ён пытаўся, чаму я яму пішу на абрыўках паперы і ўсяго толькі некалькі радкоў. Я спачатку зусім не зразумела, пра што ён. Бо звычайна пішу на цэлых лістках. Няважна, з нататніку яны альбо са сшыткаў. Гэта заўсёды цэлыя старонкі, сьпісаныя з двух бакоў. Часам нават некалькі лістоў. І ніколі так не бывае, што там толькі некалькі радкоў. Яны сьпісаныя цалкам. Я стараюся пісаць шмат. Таму я думаю, што такім чынам у СІЗА на Ігара ціснуць. Маўляў, вось, паглядзі, як табе піша твая жонка. Але гэта не спрацуе, бо

ягоная жонка ў Гомлі ўжо чацьвёрты месяц сядзіць пад сьценамі СІЗА кожны дзень. Наша перапіска зь Ігарам неаднойчы перарывалася і мела перашкоды, таму не скажу, што мяне можна нечым зьдзівіць, але гэта нешта новенькае. Незвычайна было даведацца, што мае лісты там неяк ірвуць, адрываюць ад іх кавалкі.

## Яны сядзяць за нас з вамі

*Канстанцін Зімуле:*

Я вырашыў пісаць палітвязьням зь некалькіх прычын. Першая, думаю, як і ва ўсіх, — проста хачу іх падтрымаць, бо людзі знаходзяцца ў няволі за нас з вамі. Другая прычына — асабістая. Кожны дзень я адчуваю страх, апатыю, расчараваньне і згасаньне. Лісты дапамагаюць мне з гэтым справіцца. Адна думка пра тое, што чалавек атрымае гэты ліст, акунецца ў яго — дае мне сіл жыць і спадзявацца на нешта радаснае. Не заўсёды складана пісаць незнаёмым людзям. Часам можна схітраваць: пашукаць старонку чалавека ў сацыяльных сетках, паглядзець яго захапленьні, і, будзе значна лягчэй знайсьці патрэбныя словы. Мой сябар, якому прысудзілі 9 гадоў зьняволеньня, пачаў верыць у Бога, таму раблю яму паштоўкі на тэму веры, пішу малітвы. Самае неверагоднае пачуцьцё — калі заходзіш у пад'езд, і праз дзірачкі паштовай скрыні бачыш, што там нешта ляжыць. Хутка шукаеш ключ, і разумееш, што прыйшоў адказ. У той момант радасьці, як кажуць, поўныя штаны.

## Атрыманьне першага адказу — гэта эўфарыя

*Георгі Пугачоў, былы палітвязень:*

Самы першы ліст даслаў палітвязьню Зьмітру Фурманаву. Потым плятформа „Сход“ запусьціла акцыю ў падтрымку студэнтаў. Так я пачаў пісаць Ксеніі Сырамалот. Спадзяюся, што ў яе проста няма настрою адпісваць, бо адказаў пакуль не было. Але я разумею, што ўсе лісты маглі і „згубіцца“. Дарэчы, бандэроль з кнігай, якую я даслаў Ксеніі, вярнулася. Калі я быў на сутках другі раз, то атрымаў даволі шмат лістоў, што было вельмі прыемна і моцна мяне падтрымлівала. Менавіта з гэтай прычыны я і сам потым пачаў пісаць. Атрыманьне першага адказу ад палітвязьня — гэта эўфарыя. Нарэшце! З усіх, каму я напісаў, Вольга Маёрава вельмі актыўна адказвае. Галоўны „матыватар“ для мяне. Дзіўна, што некаторыя людзі з-за кратаў здольныя маральна падтрымліваць тых, хто на свабодзе.

## Нічога ня страшна, пакуль мы разам

*Аляксандар Ждановіч, актор, Маляваныч з „Калыханкі“:*

Да Новага году мы разам з сынам напісалі лісты палітычным зьняволеным — Марыі Калесьнікавай, Кацярыне Андрэевай, Сьцяпану Латыпаву, Максіму Знаку і іншым. Зь імі асабіста я не знаёмы. Перш чым пісаць, прачытаў пра іх на праваабарончым сайце „Вясна“.

Кожны робіць тое, што яму падабаецца. Аднаму прыемна біць, ганяць іншых і за гэта атрымліваць заробак. Некаму падабаецца павучаць, кіраваць, падпарадкоўваць. Мне падабаецца прыносіць радасьць, зьмякчаць сытуацыю, у якой людзі апынуліся неправамерна, нявінна пацярпелым, пазбаўленым свабоды і зносін. Сам крыху пабыў там, хаця і бяз гэтага зразумела, што трэба пісаць.

У фэйсбуку я далучыўся да групы „Лісты салідарнасьці“.

Аказваецца, вялікая колькасьць людзей пішуць лісты, абменьваюцца радасьцю, калі прыходзяць адказы, бо яны прыходзяць ня часта. На дзесяць лістоў адзін даходзіць. Людзі, якія за кратамі, падбадзёрваюць нас, лісты поўныя надзеі, у іх ёсьць сьвятло і радасьць.

Не спадзяваўся, што мае лісты дойдуць да адрасатаў. Пакуль адказ атрымаў толькі ад Кацярыны Андрэевай.

У ім Каця піша: „Ці ведала, ці магла ўявіць сабе, што праз 20 гадоў мой любімы вядучы «Калыханкі» будзе дасылаць мне паштоўкі ў СІЗА? ;) Прыміце ўзаемныя пажаданьні сьвітаньня пасьля цёмнай ночы. Але нічога ня страшна, пакуль мы разам, падтрымліваем адзін аднаго і не пакідаем у бядзе. Калі ласка, раскажыце мне пра свой шлях у прафэсіі, пра нейкія цікавыя моманты маладосьці і чым жывяце цяпер? Такія лісты неверагодна падымаюць настрой! Буду трымацца з усіх сіл“.

На вугалках ліста выразаныя ўзорчыкі і прылепленая сьняжынка.

Асобная тэма, што мы не прызвычаіліся пісаць і атрымліваць лісты, бо цяпер пішам хутка, СМС, якія не перадаюць сапраўднай цеплыні. Нават з

почырку можна многае даведацца пра чалавека. Калі я ўбачыў ліст у маёй паштовай скрыні, бела-чырвоны канвэрт, гэта мяне кранула да сьлёз. Ліст напоўнены далікатнасьцю і інтэлігентнасьцю. Самае галоўнае, што мяне кранула, — Кацярына папрасіла патэлефанаваць яе бабулі Ганьне і напісала нумар тэлефону. Я патэлефанаваў і мы размаўлялі каля паўгадзіны.

Яна выкладчыца гісторыі, перажывае за Кацярыну. Мы разгаварыліся, аказалася такая родная душа. Яна шмат пра Кацярыну расказвала.

Пісаць палітвязьням вельмі важна. Ня так шмат мы цяпер можам, але хаця б застацца чалавекам у гэтай бесчалавечнай сытуацыі, якая ўжо сасьпела і высьпявае далей.

У лістападзе мінулага году я адбываў 9 сутак арышту па артыкуле 32.24. У гэты час мае сябры шмат пісалі пра мяне ў сацсетках, маўляў, забралі „галоўнага лялькавода“. У маім пад’езьдзе вывешвалі плякаты „Маляваныч, мы з табой, трымайся!“, знаёмыя і незнаёмыя людзі прыносілі піражкі і пасылкі.

Пасьля падзеяў мінулага году ў маім жыцьці шмат што памянялася, як і ва ўсіх. У тэатар імя Горкага, дзе я працую, прыйшоў ліст з МУС, адміністрацыя правяла са мной гутарку.

Мае погляды на многія рэчы кардынальна памяняліся. Цяпер у тэатры „прастой“. Спэктакляў з прычыны Ковіду, а да таго ж рамонту, ідзе мала. Няма ў мяне і новых рэпэтыцый. Шмат вольнага часу. У мяне ёсьць дзіцячая студыя пры манастыры, але нашы інтэрнаты на карантыне, і спэктаклі, у якіх гралі дзеці з асаблівасьцямі, спыніліся.

У сьнежні браў удзел у праекце Беларускага фонду культурнай салідарнасьці „Каляды з Маляванычам“, чытаю казкі-падабайкі на „Добрым дзіцячым канале“. Пляную ўзяць удзел у праекце „Белы Трусік Чырвоны Трусік“.

На жаль, стала вядома, што гастрольнае пасьведчаньне на гэтыя спэктаклі ануляванае „з фармальных прычынаў“. Арганізатары спадзяюцца, што пытаньне ўдасца вырашыць і спэктаклі, заяўленыя на другую палову месяца, гледачы ўбачаць.

## Зараз прыйдзе сюрпрыз

*Паўліна Сурко пра спатканьне з мужам у турме:*

Доўгі калідор, падзелены ўздоўж шклом і кратамі. Дзесяць месцаў. Дзесяць тэлефонных слухавак. На шкле перад кожным — сьпіс забароненых тэм і дзеяньняў.

Мы, сваякі, сьпярша тоўпімся перад уваходам. Дзядзя — работнік СІЗА называе прозьвішчы, чалавек падыходзіць, паказвае пашпарт, кладзе на стол тэлефон (іх праносіць на спатканьне нельга). Дзядзечка кажа нумар месца, дзе ты мусіш чакаць сваё золата. У мяне было месца №5.

Так усе мы расьселіся. Але чакалі яшчэ доўга.

Паветра дрыжэла. Побач са мной сядзелі мама з дзяўчынкай гадоў пяці. „Зараз прыйдзе сюрпрыз. Хтосьці, каго ты вельмі хочаш бачыць“, — кажа мама.

Сюрпрызы ніяк не ідуць. Дзяўчынка пачынае абгаворваць вячэру: „Давай сёньня зробім піцу.

Але трэба цеста. Зойдзем у краму?.. Ну дзе ўжо гэты сюрпрыз. А я яго знаю? А я яго люблю, гэты сюрпрыз?..“

Адчыняюцца дзьверы ў канцы калідора, па той бок шкла, і заходзяць хлопцы. Ідзе Андрэй. Такі прыгожы. Чысты твар, ніякіх новых зморшчак і сьлядоў пакутаў. Чыстыя валасы, прыгожая прычоска (ім выдаюць машынку, і той, хто найлепш умее, стрыжэ сукамэрнікаў). Адзеты што на працу — чыста, акуратна.

У перагаворным пакоі стаіць гул, і прыходзіцца, прыкладаючы слухаўку да аднаго вуха, другое затыкаць пальцам. Рукі зацякаюць, але да апошняга не мяняю позу, каб не змарнаваць час.

Едучы на спатканьне, фантазіравала, як паміж намі зараз усталюецца тое новае, глыбіннае, што нарадзілася ў пакутах і перапісцы. Як ад вачэй да вачэй будуць лётаць маланкі і разрады...

Але замест гэтага мяне з галавой накрывае падзабытае шчасьце сямейнай гамонкі. Адчуваньне, што прайшло ня пяць месяцаў, а пяць дзён. Гаворым пра сям’ю, плёткі, побыт, многа сьмяёмся, амаль увесь час.

Я столькі не ўсьміхалася ні разу за ўсе гэтыя месяцы. Кажу гэта Андрэю. „Дык чаго ты не сьмяялася?“ — сварыцца ён.

Безь цябе ня надта выходзіць.

Андрэй радуецца, што я не такая і худая, як на фота. „І нейкія шчочкі ёсьць, добра!“

Расказваю, як перад выхадам гаварыла з Тамашом, пыталася, што перадаць тату, і хлопчык, задумаўшыся, перадаў, што калі тата прыедзе, мы пойдзем купляць булку з макам. У Андрэя ў вачах сьлёзы.

Пераводжу на вясёлае, сьмешнае. Абмяркоўваем гаршчок, здароўе, сяброў — усякую звычайную драбязу з кухонных размоў.

Час здаецца бясконцым цёплым морам, і мы ў ім.

Тут сыгнал — 5 хвілін. Пра што мы гаворым? Ня памятаю. Толькі раптам яго спакойны аксамітны голас на паўслове абрываецца.

Глядзім адно на аднаго праз шкло. Хлопцы імкліва ўстаюць, але ідуць да дзьвярэй спакойна. Мой Андрэй такі прыгожы, выпрастаны. Рукі складае за сьпінай. Новая звычка. Дзьверы за ўсімі зачыняюцца.

Здаю Андрэю перадачу, тэлефаную бацькам, расказваю, які ён прыгожы і магутны. Іду зь сястрой у краму. Еду дамоў па засьнежаным горадзе. І тут мяне накрывае.

Калі я зноў пачую яго? Пасьля таго, як яму (нам) прысудзяць гады калёніі?

Асабліва горка і ня хочацца ўспамінаць, як раптоўна выключыўся ў слухаўцы гук. Я ўспамінаю 8 ліпеня, калі яго пасадзілі ў попельна-шэры мікрааўтобус і зачынілі дзьверы. Сёньня тое ж брыдкае пачуцьце: нібы мне вярнулі мужа, а потым зноў забралі.

Злую і на сябе. Думаю: трэба было менш гаварыць і больш слухаць. Не паддавацца на ілюзію, што наш час бясконцы. Трэба было гэта сказаць, а тое не, не казаць. Меней прызнавацца ў каханьні, а больш па сутнасьці! Трэба было лавіць кожнае слова. Запісваць! Можа, тады б насыцілася гэтай сустрэчай...

Але, вядома, не.

Гуляю з малым, а сама лятаю думкамі далёка. Малы раптам гладзіць мне валасы, прыабдымае за шыю: „Таты няма!“.

І я імгненна цьверазею. Так, дружок, давай успомнім, хто тут дарослы. „Таты няма, але ён дакладна скора прыедзе. І тады пойдзем зь ім разам купляць булку!“ „З макам!“ — радуецца Тамаш.

# ПАСЬЛЯСЛОЎЕ

Мы больш ніколі ня будзем думаць, што нашы, сёньняшнія пакаленьні — першыя ў гісторыі Беларусі, якія ня ведалі вайны. Мы трапілі ў тое жыцьцё, пра якое раней ведалі толькі з кніг. Здалося нават, што ўсё ўвогуле, што мы ведалі пра вайну — яно толькі з кніг. „Знак бяды“ „Вайна пад стрэхамі“, „У вайны не жаночы твар“...

Мы ўбачылі голае зло ў рэальнасьці.

„Хачу напісаць пра чалавека ў масцы і спакусу цемры, пра тое, чаму мы дагэтуль жывем па кнігах Салжаніцына. Чаму па ўсёй нашай гісторыі вандруе цэляфанавы пакет на галаве арыштаванага? Чаму адны людзі хавалі пратэстоўцаў, а іншыя вялі туды амонаўцаў?“ *Сьвятлана Алексіевіч*

Такога маштабу гвалту і бесчалавечнасьці на гэтай зямлі не было з часоў Сталіна і Гітлера. І калі ў 2020-м у Беларусі прагучаў голас праўды і надзеі, дык у 2021-м усё заглушыў голас зла.

Героі-аўтары гэтай кнігі — людзі, якіх выштурхнулі з нармальнасьці і якія шчыра зьдзіўляюцца, як, чаму і навошта тое было зроблена?

Так, мы злавілі адчуваньне паўнаты жыцьця, — казалі адны. — Можа быць, сапраўды поўнае жыцьцё і пражываецца ў часы катаклізмаў і катастроф? Другія ішлі яшчэ далей, беручы віну на сябе, маўляў, мы самі і ёсьць гэты страшны рэжым. Трэція казалі пра безнадзейнасьць сытуацыі, бо карані яе насамрэч знаходзяцца ў Расеі.

У гэтага часу вельмі моцныя аналёгіі. З кіно, калі дзеці бачаць, як карнікі вядуць па вуліцы іх

старога настаўніка. І ўсе разумеюць, што адтуль, куды яго вядуць, ён больш ня выйдзе. Аналёгіі з 1937-м, калі беларускія паэты і краем думкі не дапускалі, што заўтра іх расстраляюць проста за тое, што яны беларускія паэты. І тут жа думаеш, што сёньняшнія паэты, прынамсі, многія зь іх, уцяклі за мяжу, а не былі расстраляныя, як іх папярэднікі. Аналёгіі з успамінамі сваіх родных з часоў вайны, калі бабуля дзіцём вярталася праз лес са школы і па дарозе бачыла, як два нямецкія аўтаматчыкі вялі трыста габрэяў. Але вось што зьдзіўляе — аналёгіі не працуюць, не матывуюць да дзеяньня, сьвядомасьць адмаўляецца пагадзіцца, што гэта ўжо на парозе, што той самы час ужо прыйшоў, што гэты вопыт давядзецца паўтарыць і пэрсанальна кожнаму табе. Зрэшты, чаму гэта зьдзіўляе, хіба ня так было заўсёды? І хіба гэта ня тое самае пытаньне: навошта нас вырвалі з нармальнасьці? — на якое няма адказу ні ў тых, каго вырвалі, ні ў тых, хто вырваў. Бо апошнія не кіруюцца пытаньнямі да сябе.

Ці можа літаратура ўзьдзейнічаць на жыцьцё? Каб пераканаць сябе ў тым, што можа, Алесь Адамовіч прыдумаў жанр „звышлітаратура“. Нобэлеўскі камітэт назваў кнігі Сьвятланы Алексіевіч тэрмінам „шматгалосьсе“. Першай кнігай у гэтым жанры стала шматгалосьсе „Я з вогненнай вёскі…“ (1975), пра якую ў прадмове Алесь Адамовіч з калегамі пісалі, што гэта — „дакумэнтальная трагедыя, кніга-памяць, жывы голас людзей, што былі спаленыя, забітыя разам зь сям’ёй, разам са сваёй вёскай, і якія — жывуць“. Але тое самае мы кажам і пра нашу дакумэнтальную трагедыю,

кнігу-памяць, жывы голас людзей пра „спаленыя вёскі“ 2021-га.

У рыторыцы людзі, якія не кіруюцца пытаньнямі да сябе, ніколі ня кажуць пра дабро і зло. Няма і ня можа быць у іх словаў пра цывілізацыю і барбарства або пра „стаўся да іншых так, як ты хочаш, каб ставіліся да цябе“. Там няма ўзвышэньня над жывёльнай прыродай чалавека. Яны гавораць толькі пра сілу, рашучасьць, бадзёрасьць…

Яны не чытаюць кніг. І ўсё, чаго яны могуць дасягнуць, — гэта пазбавіць нас думкі, што сёньняшнія пакаленьні — першыя ў гісторыі Беларусі, якія ня ведалі вайны.

# ПАКАЗЬНІК АСОБАЎ

# VOICES OF BELARUS - 2021

2021 saw the transformation of Belarus into a Gulag state. Belarusian authorities, furious over losing the 2020 election and mass protests, crushed civil society, liquidated independent media, and abolished any extant remnants of the rule of law. Persecution and harassment of all suspected of disloyalty intensified, and the population of political prisoners swelled to record numbers. Thousands lost their jobs or businesses, others emigrated in droves.

This book contains prisoner testimonies previously published by Radio Liberty, and other independent and social media.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.




*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Астраўцоў.*
**Спадар Свабода.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 328 с.: іл.




**Каліноўскі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 830 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі
і палітычнае
нараджэньне
Беларусі.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
140 с.: іл.




**Гаворыць Радыё
ВЫЗВАЛЕНЬНЕ...**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
172 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
4-е выд., дап.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
826 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск.
Гісторыя
зьнікненьня.**
Кніга першая.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2021. —
476 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2021. —
540 с.: іл.




**Галасы Беларусі –
2020.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2021. —
434 с.




**Неверагодны 2020-ы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 170 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга другая.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 374 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста шосты.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2021. — 540 с.: іл.